Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНАЯ СТУДЭНЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯМІ:
Крыніцкага, Кацэнбогена, Кахановіча, Ляўкова і Шапавалава.

Красавік—Май 1925 г.

№ 3—4

Орган Белбюро Пролетарскага студэнцтва і Цэнтральнага Кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы
МЕНСК—1925

Гэсен.

# Між дзьвюма хвалямі рэволюцыі.

Бальшавіцкая партыя заўсёды кіравалася заветам старога правадыра нямецкіх працоўных—Ласаля: казаць тое, што ёсьць. Вуменьне глядзець праўдзе ў вочы, нават тады, калі гэта праўда горкая, і вуменьне адчынена й прама сказаць гэту горкую праўду народным масам—заўсёды належалі да ліку мацнейшых бакоў нашае партыі, выхаваных у ёй т. Леніным. І цяпер наша партыя, кіраўніца Комуністычнага Інтэрнацыяналу, зноў павінна прама й ясна сказаць працоўным усіх краёў: мы ўступілі ў паласу часовае й частковае, але ўсе-ж стабілізацыі (г. зн. устанаўленьня, умацаваньня) капіталізму. Гэта становішча са ўсёй яснасьцю і рашучасьцю выказана і пашыраным пленумам Выканкому Комінтэрну і XIV конфэрэнцыяй РКП, і гэта становішча зьяўляецца пунктам адпраўкі пры азначаньні нашых міжнародных задач.

Першыя атакі пролетарыяту на цьвярдыні буржуазнага панаваньня, зьявіўшыяся непасрэдным водгукам сусьветнае імпэрыялістычнае вайны, ва ўсіх краёх, апрача нашага Саюзу, скончыліся пабедай над працоўнымі. Чаму? Цяпер мы можам ужо даць зусім ясны адказ на гэтае пытаньне: таму, што ў краёх Захаду ня было бальшавіцкіх партый, якая была ў нас. Комуністычныя партыі Заходніх краёў нараджаліся з адломкаў Другога Інтэрнацыяналу і не маглі зразу, па мігу рукі, зрабіцца запраўдна бальшавіцкімі, запраўдна-ленінскімі партыямі, якія вядуць шырокія масы працоўных і ўсіх прыгнечаных за сабою. Капітал устаяў перад першым націскам пролетарскіх паўстаньняў, вытрымаў першы напор, аправіўся і пачаў зноў узмацняцца. Кіруючыя клясы цяпер мацней сядзяць у сядле, чым у першыя гады пасьля вайны. Ім удалося абманіць працоўных зданьню грашовага палепшаньня іх становішча, каб абясьсіліць іх у доўгай і цяжкай барацьбе. Аправіўшыся ад націску працоўных, буржуазія кладзе латкі, латае прарэхі і забівае дзіркі ў сваёй разьбітай вайною і рэволюцыйным узрушэньнем гаспадарцы. Ёй удалося дасягнуць некаторых посьпехаў у гэтым напрамку: стабілізаваць валюту ў шэрагу краёў, усталяваць больш нормальныя гаспадарчыя адносіны ў міжнародным маштабе і інш., і разам з гэтым яна абрушваецца на працоўную клясу градам прасьледваньняў, крываным белым тэрорам, жорсткім націскам на 8-ёхгадзінны рабочы дзень і іншыя дасягненьні, вырваныя ў яе працоўнымі па сканчэньні вайны. Пабеда пролетарскае рэволюцыі аддаляецца на некаторы тэрмін. Яна прыдзе нязьбежна. Але яна прыдзе ня так хутка, як марыў аб гэтым т. Ленін, як імкнецца да гэтага ўся наша партыя, як хацелі-б гэтага задаўленыя й замучаныя капіталістычным уціскам працоўныя ўсіх краёў.

Чаму-ж мы кажам аб часовай і частковай стабілізацыі капіталізму? Што дае нам права падкрэсьліваць, што пабеда капіталу толькі частковая і скорапераходзячая пабеда?

Ёсьць шэраг важнейшых фактаў у сучаснай міжнароднай абстаноўцы, якія напаўняюць трывогай пацяшаючуюся буржуазію і адбіраюць радасьць у катаў.

З іх першы і важнейшы ёсьць той факт, што працоўная кляса не разьбіта ў рашучым баі. Пролетары Захаду атрымалі толькі частковае паражэньне. Баязьлівым і малаверам адпавядае нудзіць і засмучацца пры

кожным паражэньні. Здраднікам адпавядае радавацца перамозе, бо ў перамогах яны шукаюць апраўданьня дзеля свайго здрадніцтва. Але нам, рэвалюцыянэрам, ня прыстала забываць, што міжнародны працоўны рух бачыў і больш чорныя дні, больш цяжкія паражэньні. Ці можам мы параўнаць цяперашнюю пабеду капіталу з тэй пабедай, якую міжнародная буржуазія атрымала над Парыскай Комунай? Не, тады ўдар быў значна мацней, паражэньне значна глыбей. Цяпер-жа працоўная класа панесла вялікія згубы, адышла пад націскам ворагу, але адышла ў баявым парадку. Хто ня верыць гэтаму, няхай гляне хаця б на вынікі выбараў нямецкага прэзыдэнту. Пасьля ўсіх паражэньняў і расчараваньняў, паражытых гэройскім авангардам нямецкіх працоўных, пры роспачна цяжкіх умовах, пад дажджом хлусьні і лаянкі з боку ўсёй буржуазіі і меншавікоў, нямецкая комуністычная партыя сабрала пад сваім сьцягам два міліёны сталых пролетараў. Гэта значыць, што ёсьць яшчэ порах у парахаўніцах нямецкае працоўнае клясы! Мы адышлі, але толькі дзеля таго, каб зноў сабрацца з сіламі і зноў пайсьці ў бойку.

Другі факт. Міжнародная армія пролетарыяту ня зразу „раскачваецца“ для рашучае бойкі. Першыя кінуліся на барацьбу расійскія рабочыя і сяляне—і пад кіраўніцтвам Леніна й яго партыі прышлі да пабеды. За імі рушыліся цяжкія батальёны нямецкіх працоўных. У працягу ўсіх апошніх гадоў застрэльшчыкам у барацьбе супроць міжнароднага капіталу выступаў нямецкі пролетарыят. У шэрагу боек ён быў адкінуты назад, значна абяскрываўлен, але ня згубіў свае рэволюцыйнае бадзёрасьці, рашучасьці і гатоўнасьці змагацца. Цяпер мы нагледжваем факт волатавага гістарычнага значэньня: „бальшавіцкая бацыла“ пачала дзейнічаць сярод англійскае працоўнае клясы. Англійскі пролетарыят, у лічбе найбольш магутны і вельмі добра організаваны, быў у сілу шэрагу прычын найбольш адсталым, укосным, нярухомым, найменш клясава-сьвядомым з усіх атрадаў міжнароднае рабочае клясы. Да вайны нават „соцыялістыя“ Другога Інтэрнацыяналу мелі малы посьпех сярод англійскіх працоўных. Абсолютная большасьць працоўных на ўсіх выбарах аддавала свае галасы буржуазным партыям. І вось цяпер гэты сьпячы асілак пачынае прасыпацца. У значнай меры растуць спагады англійскіх працоўных да нашага рабоча-сялянскага краю. Англійскі пролетарыят прымушае нават сваіх меншавіцкіх правадыроў змагацца за адзінасьць профэсыянальнага руху. Рэволюцыйная меншасьць англійскіх профсаюзаў у кароткі тэрмін павялічыла свой уплыў у тры разы. Уплыў комуністычнай партыі—праўда, пакуль што ўсё яшчэ вельмі маленькі й слабы—усё ўзрастае. У шэрагу забастовак і непаразуменьняў з прадпрыёмцамі англійскія працоўныя заяўляюць аб сваёй прабудзіўшайся волі да барацьбы. Ці многа варта пабеда, калі на пляц барацьбы выходзіць на дапамогу ўтомленым гэткая страшэнная новая сіла, калі сусьветны комунізм пачынае залучаць новыя міліёны раней спаўшых нявольнікаў дзеля свае вялікае справы.

Трэці факт. Капіталістычны сьвет разьдзіраецца ўнутранымі супярэчнасьцямі. Амэрыка здаўна знаходзіцца ў спрэчцы з Англіяй аб тым, каму „правіць над морамі“, каму мець мацнейшы морскі флёт, каму быць першым морскім разбойнікам. Англія выпярэднічваецца з Францыяй з-за пытаньня аб тым, каму быць гаспадаром у Эўропе. Італія ходзіць, як гіэна, наўкол эўропэйскіх сварак і спрэчак і нюхае: адкуль пахне дабычаю з кім можна было-б увайсьці ў згоду, каб уварваць кусок нарабаванага. Дробныя балканскія бандыты гатовы кожны час пачаць панажоўшчыну. Панская Польшча, гэты аб'еўшыся зьвер, гвалтоўна падуладзіўшая сабе іна-нацыянальныя акраіны, абкружана нянавісьцю з усіх бакоў. І, у канцы, няўмольна насоўваецца вайна між Японіяй і Амэрыкай з-за таго, каму рабаваць на Ціхім океане.

У гэты сусьветны гармідар уціраецца яшчэ адзін фактор, здольны ў далейшым вызваць ваенныя спатычкі. Падняволеная Нямеччына ўтамілася несьці сваё ярмо. Сярод тых 14 міліёнаў галасоў, якія сабраў кайзэраўскі гэнэрал Гіндэнбург, ёсьць нямала, вядома, заядлых рэакцыянэраў, жадаючых змагацца за адраджэньне монархіі Але масы дробнага люду—дробных чыноўнікаў, дробных гандляроў, інтэлігэнцыі, самых адсталых працоўных—аддаючы свой голас Гіндэнбургу, паказвалі гэтым свой протэст супроць політыкі поўзаньня на жываце перад дзяржавамі-перамагальніцамі, самымі палкімі казальнікамі якое зьяўляюцца нямецкія меншавікі. Нам няма патрэбы перааацэньваць „патрыотызм“ самога гэнэрала Гіндэнбурга. Гісторія дае нам шмат прыкладаў таго, як гэнэральскі патрыотызм у сур'ёзную гадзіну выяўляў сваю запраўдную цану. Успомнім хаця-б гэнэрала Галіфэ, які пусьціў прусакоў у Парыж, каб раздавіць Комуну, альбо гэнэрала Карнілава, які аддаў немцам Рыгу, каб адчыніць ім дзьверы ў чырвоны Петраград; альбо рускіх гэнэралаў, якія стараліся ў белай польскай арміі супроць „роднага краю“. Няма сумненьняў, што „патрыотызм“ гэнэрала Гіндэнбурга гэткае-ж маркі.

Калі патрабуецца йсьці вайною на Чырвоны Гамбург, альбо душыць рэволюцыйны Бэрлін, патэнтаваны „патрыот“ бяз ваганьняў прадасьць сваю шаблю катам міжнароднага капіталу. Але для шырокіх мас абманутых жыхароў гэты мясьнік на чалавечай бойні зьяўляецца ў вобразе „збаўцы айчыны“. І пабеда Гіндэнбурга значыць, што ў задаўленым нямецкім народе прабуджаецца дух адпору, імкненьне пачаць барацьбу супроць чужаземнага ўціску.

Мы ня ведаем ні дня, ні гадзіны, калі зноў распачнецца вайна. Але воўчая прагавітасьць капіталістых, іх заўсёдышняе імкненьне да драпежніцтва й заваёваў робяць вайну нязьбежнай. Абаронцы капіталізму крычаць аб такой дасягнутай „міжнароднай роўнавазе“. Калі гэта і „роўнавага“, то „роўнавага“ на бочцы з порахам. А калі зноў прыдзе вайна, якія новыя волатавыя рэволюцыйныя сілы яна ўзьніме! Першая сусьветная бойня парадзіла Саюз Социялістычных Рэспублік, паставіла шостую частку зямлі пад чырвоны сьцяг, што прынясе сусьветная вайна № 2?

Далей. Яшчэ ніколі рэволюцыйны рух ня быў у такой меры сусьветным, як цяпер. Усё мацней і ўсё страшэнней робяцца рухі ўсходніх народаў, усе больш іржавее ланцуг уціску, які скоўвае сотні міліёнаў людзей, усё новыя чалавечыя масы прабуджаюцца для барацьбы. А Ленін вучыў нас, што толькі саюз пролетараў Захаду з угнечанымі масамі Усходу дасьць пабеду над імпэрыялізмам.

І ў канцы, расьце й мацнее вялікі Савецкі Саюз. Наш край робіцца ўсё мацней, багацей і поўнакроўней. А прыклад заваяваўшых і ўзмацніўшых пабеду рабочых і сялян, якія будуюць соцыялізм, прыдае новыя сілы працоўным усіх краёў у іх цяжкай барацьбе. Няма лепшае агітацыі за справу комунізму, няма больш руйнуючага дынаміту дзеля ўлады капіталу, чым жывы прыклад соцыялістычнага краю, які йдзе ўперад у сваім будаўніцтве.

Вось чаму мы кажам: пабеда капіталізму—частковая і часовая, стабілізацыя яго нясталая, перавага нашых ворагаў кароткатэрміновая. Мы знаходзімся, як асабліва любяць казаць нашы нямецкія таварышы, „між дзьвюма хвалямі рэволюцыі“. Адна хваля сышла, другая яшчэ не накацілася. Пабеда далася нам ня так хутка, як мы чакалі. Але 5—10—15 гадоў вялікія тэрміны толькі ў жыцьці аддзельнага чалавека. Для сусьветнае гісторыі—гэта тое самае, што гадзіны і хвіліны ў нашым жыцьці. І мы можам бадзёра й сьмела глядзець уперад і ў чаканьні прыходу новых рэволюцыйных хваляў, пабедных і рашучых, працаваць, як вучыў нас Ленін і падрыхтоўваць сваю будучую сусьветную пабеду.

## א.

# די גילגולים פון פאָלקיזם ביז אימפעריאַליזם פון ציאניזם.

אין דער ביאָלאָגישער ליטעראַטור האָב איך ערגעץ אַמאָל געלייענט: פאַראַן נידעריקע ברואים, וואָס דער טאָג פון כאַסענע איז בא זיי דער טאָג פון טויט. ווי דער פראָצעס פון פאַרמערונג קומט נאָר פאָר, ווערט שוין די לעבנס-געשיכטע פון באַשעפעניש פארענדיקט.

ווי געזאָגט. טרעפט דאָס בא מינים ניט קאָמפליצירטע, וועלכע שטייען אַף גאָר די ערשטע שטאַפלען פון דער ביאָלאָגישער אַנטוויקלונג.

אַפּאָנים, אַז צו דער קאַטעגאָריע כוילע נויפלדיקע אָרגאַניזמעלאַך געהערט אויך דער ציאָניזם, ווייל געשטאָרבן איז ער אין דעם טאָג, ווען ער האט זיין „האָכצייט” געפראַוועט און איבער דער אידישער וועלטל האָט זיך דער ציאָניסטישער האָפּאַק צוטראָגן, דאָס איז געוועזן די באַוואוסטע באַלפור דעקלאַראַציע.

דער וועלט-קריג האָט אויך אין ציאָניזם אַ טיפן איבערברוך אריינגעטראָגן. דער מישטיינס געזאָגט „פּאָליטישער” ציאניזם איז ווידער אופגעשטאַנען טכיאַס האַמייסים. אַפן ערשטן פלאַן זיינען ווידער געשטעלט געוואָרן די בעעמעסע מנאכעם מענדלשע פלענער פון דאָקטאר הערצל. אין די ציאניסטישע קעפּ האָט זיך צושפּילט די פאַנטאַזיע וועגן אוידויענצן בא קייסאָרים, סולטאַנען וועגן אַן עפנטלעך רעכטליכע דעקלאַראַציע פון אַ„היימאַט” פאַרן אידישן „פאָלק”. דער קאָלאָניזאַטאָרישער ציאָניזם, דער שטיל ראָמאַנטישער „חיבת ציון” און צופּיל גייסטיקער אַחד העמיזם.—די אַלע מאָמענטן, וועלכע האָבן פריער דאָמינירט און דעם ציאניזם, זיינען פאַרגעסן געוואָרן. דער ציאניזם האָט זיך אַריינגעלאָזן אין „פּאָליטיק”. דער העלד פון טאג איז געוואָרן ניט אחד העם מיטן „עם הספר” נאָר זשאַבאָטינסקי מיט אַפאָר צענדליק ביקסן אַפן פראַנצויזישן פראָנט.

און דעם ציאָניזם האָט אָפּגעגליקט.

די „וועלט” האָט אים דערזען און זיך וועגן אים פאַרטראַכט. אין דעם פּאָליטישן אָרקעסטר פון דער אַנטאַנט מיט זיינע שווערע קליפער-געצייג האט זיך אויך אַ ציאניסטישע דודעלע געלאזט הערן.

אָפּגעגליקט... ווייל... דייטשלאַנד און טערקיי האבן אַ בונד געשלאָסן. ווען דייטשלאַנד געווינט, איז סועץ אין געפאַר. שוין אין מעשאך פון יארן ווי דייטשלאַנד האט געפרואווט דעם סועץ-קאַנאַל פאַראַליזירן און דורך אַ אַייזן-באַן ליניע בערלין-באַגדאַר דעם קירצסטן וועג צו אינדיען געפינען. טערקיי האָט באַדאַרפט אַ טויט-קלאַפּ קריגן. ווען ניט, איז איינגלאַנד ניט זיכער מיטן לעבן. די גאַנצע ליניע סועץ-פערסישער ים האָט באַדאַרפט פעסט דורך איינגלאַנד באַזעצט ווערן.

דאָס איז די אַלגעמיינע לאַגע און די מאָראַל, וואס דרינגט דערפון אַרויס איז אַ גאַנץ פּאָשעטע: ווען אַ פאזשאר, קען אויך פּאָמוניצע וואַסער צונויץ קומען, אַזוי האט געזאגט זאַוול דער שוסטער (אַפן שאָכטים-פּראָצס) אזוי האט אויך איינגלאַנד פאַרשטאנען. מיט אַ פייגער קענען אויך פליגן מאכן אַ סאָף.

הערצלס דעוויז „אויב איר ווילט איז דאָס ניט קיין לעגענדע”, איז מעקויעם געוואָרן. דער ציאניזם איז עפנטלעך רעכטלעך אַנערקענט געווארן פאר די פּאָמוניצע-וואסער אין דעם איינגלישן פאזשאר. באַלפורס דעקלאַראַציע האט די וועלט דערזען.

די באַלפור-דעקלאַראַציע איז געוועזן דער מאַקסימום „עפנטלעך רעכטלעך”. מער

קען שוין ניט זיין וואס נאך. אָבער אַז אָך און ווי איז אַזאַ דערגרייכונג געווען, געוואַרט און געוואַרט, גערודלט און גערודלט און צום סאָף—איינגלישער מאַנדאַט.

לפאָנים וועגן האט מען געקנייפט די באַק, אַז פאַרב זאָל שטיין. מען זאָגט האַלעל, געפויקט און געצימבלט, געדאַנקט אַ פריער גאָט דערנאָך זשאַבאָטינסקן פאר זיין גרויס גענאָד און לייזעליקייט.

זיבן טעג און זיבן נעכט נאָכאַנאַנד איז מען געזעסן אין די פויעלי ציאָניסטישע קאָמיטעטן און געטראַכט. וואס זאָל מען טאָן מיט דער דעקלאַראַציע: בענטשן אָדער שילטן? פון איין זייט ציוניסטיש-אידעאַל און פון דער אַנדער זייט „אימפעריאַליזמוס“. דער קלאַסן-קאַמף האָט זיך פאַנאַנדערגעשפילט.

„יאַנקל די מאַסע“ האָט געשטורמט די טויערן פון קאָמיטעט און דער סאָף איז געבליבן—ניט בענטשן און ניט שילטן.

אין די הוראַ-געשרייען פון דער באַלפור-דעקלאַראַציע האָבן זיך טענער פון „אל מלא רחמים“ דערהערט, געשטאָרבן דער ראָמאַנטישער ציאָניזם. דעם אָרט פון ישאַיע האַנאָווי האָט אַן איינגלישער אָפיצער פאַרנומען.

* *

די באַלפור-דעקלאַראַציע איז טאַקע געווען דער אָנהויב פון קריזיס אין ציאָניזם. פאַרן צווייפלהאַפטן מאַנדאַט, דער מאַקסימאַלער ניצאָכן, וואָס דער ציאָניזם האָט דערגרייכט, האָט מען באַדאַרפט באַצאָלן מיט אַלץ, אַף וואָס דער ציאָניזם האט זיך ביז אַהער געהאַלטן.

אַלס קאָרבן איז געפאַלן די טראַדיציאָנעלע ראָמאַנטיק. אויב אַף הערצלס „אַלט ניי לאַנד“ האָט דער טיפישער פאָרשטייער פון קליינבירגערליכן ראָמאַנטישן ציאָניזם לעווינסקי געקריצט מיט די ציין און איז, ניט געקוקט אַף הערצל אַווטאָריטעט, שאַרף ארויסגעטראָטן קעגן דעם, טאָ ווי זשע דאַרף אויסזען דער מאָדערנער ציוניזם?

אויב הערצלס „אַלט ניי לאנד“ איז שוין וואולגאַר און בורזשואַז-מגושעמדיק, וואָס פאר אַ פאָנים קען שוין האָבן פאַלעסטינע אַלס אַן קאָלאָניע פון איינגלישן אימפעריאַליזם און די ציוניסטישע באַוועגונג אַלס אַ אָפטייל פון איינגלישן אויסער מיניסטעריום?

קלאָר, אז דער ציאָניזם האָט באַדאַרפט מאַכן אַ ראַדיקאַלן קער, און אזוי איז עס טאַקע געשעהן.

פון אַ קליינבירגערליכע פאַרטיי ווערט זי אַ פאַרטיי פון דער גרויס בורזשואַזיע פון פינאַנס מאַגנאַטן און באַנקירער. די פאָפולערסטע נעמען אין דער ציאָניסטישער באַוועגונג, ווערן אַ זעלכע, ווי סער סאָסאָן אין איינגלאַנד אַ גרויסער מקורעוו צו דער רעגירונג, וואָס באַ אים אין ווילע איז פאָרגעקומען איינע פון די צווישן-אַנטאַנטישע קאָנפערענצן. אין אַמעריקע טרעטן ארויס אפן ערשטן פלאַן די רייכע יאַהודים מיט לואי מאַרשאַל און בראַנדייס אן דער שפיץ. די ציאָניסטן האָבן זיך אויך געכיינדלט צום סענאַטאָר מאָרגענטוי, געוועזענער אַמעריקאַנער באָטשאַפטער אין טערקיי, וועלכער האָט שוין לאַנג פאַרגעסן אַז ער שטאמט פון אידן, אָט די אַלע מענטשן, וועלכע האָבן די גאַנצע צייט קיין אַנטייל ניט גענומען אין אידישן גזעלשאַפטלעכן לעבן, זיינען מיט אַמאָל געשטעלט געוואָרן אין סאַמע שפיץ פון דעם ציוניזם. די אַלטע נעמען זיינען אַראָפּ פון דער סצענע.

און ס'איז קיין כידעש ניט, די אידן, וועלכע זיינען טאַקע אָרגאַניש געבונדן מיטן אַלוועלטלעכן אימפעריאַליזם, האָבן דערפילט, אַז אין דעם פערזאָן פון זייערע „ברידער מיטגלויבער“ קענען זיי געפינען אַ געצייג פאַר זייערע פלענער. זיי האָבן דעם ציאָניזם איינגעשפאַנט אין זייער רייטוואָגן. זיי זיינען פאָרמעל אין דער אָרגאַניזאַציע ניט אַריינגעטראָטן, צו וואָס דאַרפן זיי דאס זיין פאָשעטע פאַרטיי-לייט און מער אָדער ווייניקער האָבן אַף זיך אַ יאָך, אַז זיי קענען זיין אויסער דער פאַרטיי און אָנפירן מיט איר?. אַף אינעווייניק האָט מען געלאָזן, ווי דער אמעריקאנער שטייגער איז, בענויגייע צו קאָלערליי פרעזידענטן, אַ פאָר מעלאַמדים, וועלכע פאָלגן, וואָס מ'הייסט: ווייצמאַן און סאָקאָלאָוו.

אַפן XIII ציאָניסטישן קאָנגרעס האָט זיך אָנגעהויבן דער קאַמף צווישן ביידע ריכ-

טונגען: דעם אַלט-מאָדישן „פֿאָלקס ציאָניזם" און מאָדערנעם „פֿינאַנס-ציאָניזם" קאָנקרעט האָט זיך די פֿראַגע געשטעלט, וועגן דער אַזוי גערופֿענער „אַגענץ" דער מיין פֿון דער נייער באַשעפֿעניש איז געווען אַזאַ, אַז אַכוץ דער פֿאָרמעלער ציאָניסטישער אָרגאַניזאַציע זאָל זיין אַ 2-טע, אַ שמאָלערע, ספּעציעל פֿון די, וואָס „קענען פֿינאַנסעל העלפֿן" ד.ה. פֿון אַ גרופּע געלט-מאַגנאַטן אונטערן הייליקן נאָמען „אַגענץ". די באַציאונגען צווישן דער פּאַרטיי צ דער „אַגענץ" דאַרף זיין אַ שטייגער אַזאַ, ווי צווישער די אַמעריקאַנער פּאַרטייען צו ד טרעסט פֿאַראייניקונגען. די אָפּאָזיציע האָט געטומלט, עס האָט אָבער געהאָלפֿן ווי אַ טויטן באַנקעס, אויסגעפֿירט האָבן די נייע און זייער אָנגעשטעלטער ווייצמאַן.

דער פּילסודסקי פֿון דער ציאָניסטישער באַוועגונג, זשאַבאָטינסקי, האָט געמאַכט אַ זשעסט: ער האָט אָפּגעשיקט זיין געווער און זיך אָנגעגעבן אין דימיסיע, צוזאַמען דערמיט האָט ער אָנגעגעבן אַ מעלדונג וועגן זיין אַרויסטרעט פֿון דער ציאָניסטישער אָרגאַניזאַציע. ער בלייבט טריי דעם ציוניסטישן „אידעאַל" אָבער קאָל זמאַן, דער לעצטער איז פֿאַרשמוצט, וויל ער בעסער זיין אויסער יעדער פּאַרטיי און אויסער יעדער פֿראַקציע. סאָקאָלאָוו און ווייצמאַן פֿון דער אַנדער זייט האָבן אין דער נאָהרנסטער צייט אונטערגענומען נסיעס קיין אַמעריקע, געקליבן געלט אַפֿן „קרן היסוד" געקליבן האָט מען באַ אַלעמען, פֿון אום-פּאַרטייאישע אויך ניט אָפּגעזאָגט און ווער ס'האָט געגעבן די גרעבערע מאַטבייע, דער האָט געקראָגן די גרעסערע דייע.

* * *

די אַדמיניסטראַטיווע אָנפֿירונג איבער פּאַלעסטינע איז אויך אַוועקגעשטעלט געוואָרן אַזוי, אַז דאַס זאָל זיין אין העסקעם ניט מיט די קליינבירגערלעכע גרופּן, וועלכע האָבן גע-האָפֿט אַפֿן ציאָניזם, נאָר מיט דער גרויס בורזשואַזיע, וועלכע נוצט אויס דעם ציאָניזם. ניט געקוקט דערויף, וואָס אַפֿן פּאָסט פֿון אויבער-קאָמיסאַר איז באַשטימט געוואָרן אַ איד, קעדיי דאָס זאָל מער אימפּאָנירן די אידישע נאַציאָנאַלע געפֿילן, האָט ער אָבער דורכגעפֿירט אַ פּאָ-ליטיק פֿון וועלכער די ציוניסטן זיינען געווען ווייניק צופֿרידן. מ'האָט אים אַפֿילע געקרוינט מיט נאָמען „נציב העליון" אָבער אין דער שטיל האָט מען אַף אים געקריצט מיט די ציין. ער האָט די ציאָניסטן ניט געלאָזן צוגיין צו נאָענט צו זיך און האָט זיי געגעבן צו פֿילן, אַז פֿריער פֿון אַלץ איז ער אַן איינגלישער באַאַמטער. די ערשטע זאַך האָט מען פֿאַרן באַ-לעבאַטישן איד און פֿאַרן האָלעדראַגנעץ-העכאָלוץ פֿאַרמאַכט די טויערן פֿון פּאַלעסטינע. עס איז לעכערליך צו ריידן, אז אין די עמיגראַציע-גזיירעס איז געווען אַ מוירע פֿאַר דער באָלשעוויסטישער מאַגייפֿע. וועלכער באָלשעוויק וואָלט דאָס קיין פּאַלעסטינע געפֿאָרן? די מוירע איז געווען פֿאַרן באַלעבאַטישן דעמאָקראַטיזם און פֿאַר אידעאַליסטיש ראָמאַנטי-קער. דערפֿאַר האָט מען ברייט געעפֿנט די טירן, פֿאַר גרעסערע קאַפּיטאַליסטן, זיי האָט מען געלאָזן און געבעטן קומען. שוין פֿיר יאָר, ווי די ציאָניסטישע פּרעסע האַלט אין איין טרייסטן, אז מאָרגן, מאָרגן וועט מען די עמיגראַציע גזיירעס אַראָפּנעמען. אַז מהאָט שוין אינטערנירט באַ דער איינגלישער רעגירונג און דער קאָנסול וועט אָנהייבן צו געבן ווי-זעס און ביז היינטיקן טאָג האָט זיך די לאַגע ניט גערירט פֿון אָרט און נאָך געוואָרן באַדייטנד ערגער, איצטער איז פֿעסט איינגעשטעלט אַז אָן 500 פֿונט סטערלינג לאָזט מען קיין פּאַלעסטינע ניט אַריין.

* * *

נאָר לאָמיר לאָזן צורו די ציאָניסטישע „האָך-פּאָליטיק" און זעען, וואָס הערט זיך מיטן ציאָניזם אין לאַנד פֿון אידישע מאַסן אין פּוילן. מירן זיך גלייך איבערצייגן, אַז דער זעלביקער איבערברוך, וועלכער איז פֿאָרגעקומען אין די הויכע פֿענסטער, האָט זיך אָפּגע-שפּיגלט אויך דאָ. פֿאַרן לעצטן יאָר איז דער איינציקסטער עלעמענט וועלכער האָט עמיגרירט פֿון פּוילן אין פּאַלעסטינע, איז געווען דער אידיש קרעמערישער. די באַנקראָט מאַגייפֿע האָט זיך אָנגעהויבן פֿאַראַיאָרן זומער און האָט געשאַפֿן א נייען טיפּ עמיגראַנט—אַ סייכער ערעוו באַנקראָט, וועלכער אנטלויפֿט פֿון די באַלע-כויוועס. די לעצטע צייט איז צוגעקומען דער

לאָדזשער און ביאַליסטאָקער פאַבריקאַנט, וועלכער האָט צוליבן פינאַנציעלן קריזיס אָנגעהויבן איבער פירן די מאַשינעס אין פאַלעסטינע, און אַפילו דער קרעמערישער „מאָמענט״ וועלכער כיינדלט זיך צו די ציאָניסטן, האָט אויך אין אַ לויט אַרטיקל אַוועקגעשטעלט די קלאָץ קאַשע:—דער פאַבריקאַנט פירט אַרויס זיינע מאַשינעס און וועט בלייבן אַ פאַבריקאַנט, וואָס זאָל אָבער טאָן דער אַרבעטער און דער קליין מענטשעלע, וועלכער האָט ניט וואו צו פאָרן און קען ניט פאָרן. די קאַשע פון „מאָמענט״ איז געבליבן אָן אַ טערעץ, דערוויל טרומייטערן די ציאָניסטן, אַז די סאָלידסטע מענטשן האָבן זיך איבערצייגט אין דעם פאַלעסטינישן יישעוו.

דאָס האָט געבראַכט דערצו, אַז דער פירער פון די ציאָניסטן אין פוילן גרינבוים איז געווען געצוואונגען צו דערקלערן אַף דער לעצטער ציאָניסטישן לאַנדס-קאָנפערענץ, אַז פאַלעסטינע איז געוואָרן אַ „בערדיטשעוו אין אַ 2-טער אויסגאַבע״ און אַז ער האָט זיך קיינמאָל ניט פאָרגעשטעלט, אים זאָל אויסקומען צו אַרבעטן פאַר אַזאַ אידעאַל. פאַר דער אַפּיקאָרסעס איז גרינבוים אַראָפּגענומען געוואָרן פון זיין פאָסט אַלס פאָרזיצער פון דער אידישער פראַקציע אין סיים (קאָלאָ) און איז ניט אויסגעקליבן געוואָרן אין צ.ק. פון דער צווייטער זייט דערקלערן אָפן און ציניש די אָפיציעלע רעדל-פירער פון ציאָניזם, אַז דער ציאָניזם זיין אַמאָליקער ראָמאַנטישער פאָרם צו שאַפן אַן אידישן פויער אַף אידישע ערד, איז אַ אויסגעלעבטער טרוים.

דער סייכער, האָבן זיי געזאָגט, איז קולטורעלער, ציוויליזירטער פון פויער. מיר דאַרפן ניט קיין דאָרפישע פאַלעסטינע נאָר אַ שטאָטישע, ד.ה. אַז אָנשטאָט די רייד וועגן „געזונט מאַכן די אידישע עקאָנאָמיק״ וועלן מיר באַגליקט ווערן מיט נאָך אַ פאָר מויעס קרעמער, מעקלער און, אין בעסטן פאַל, פאַבריקאַנטן. עמעס, גרינבוים האָט אופגעוואָרפן, אַז אַנטווערפענער בירזשע, דער אידעאַל, צו וועלכן דער ציאָניזם שטרעבט, איז אַגאַנץ קליינער גליק, אָבער, ווי געזאָגט, איז ער קאַמאַט דער איינציקער אין אָפּאָזיציע און האָט שוין זיין שטראָף באַקומען.

אין אָרגאַניזאַציאָנעלן זין איז די אָפּאָזיציע ארויסגעטראָטן קעגן דעם, וואָס דער שווער-פונקט ווערט אַריבערגעטראָגן פון דער אָרגאַניזאַציע אַף די אויסער פאַרטייאישע אַקציעס-געזעלשאַטן „הבונה״, „עת לבנות״, אַף די מנאַדווים פאַרן „קרן היסוד״. דאָס ווייזט ווידער, אַף וויפל דער טאָן ווערט געגעבן דורך איינגע גרופן קאַפּיטאַליסטן.

— — —

די דאָזיקע פאַקטן ריידן פאַר זיך אַליין און, ווילנדיק ניט ווילנדיק, מוז מען קומען צום פאָלגנדיקן אויספיר:

פון דער-באַלפור דעקלאַראַציא אָן האָט דער ציאָניזם אופגעהערט צו זיין אַ קליין בירגערלעכע פאָלקס-באַוועגונג. די אָנפירונג ליגט דורכאויס אין די הענט פון געציילטע מאַגנאַטן. יענע קומען צום ציאָניזם ניט, ווייל דער „טשאָלנט-געפיל״ האָט אופגעוואַכט אין זיי, נאָר צוליב אַ ניכטערן כעשבן, אויסניצן דעם ציאָניזם אין די אימפּעריאַליסטישע צוועקן. דער ציוניזם קען באַטראַכט ווערן ווי אַ פּראָפּאַגאַנדע-קאָמיטעט פון דעם איינגלישן אויסערן מיניסטעריום. די אופבויאונג פון דער נאַציאָנאַלער פאָרם גייט אַזוי ווי עינטלוס פאַר די איינגלענדער.

צום סאָף איין קליינער פאַקט—דער גענעראַל-גובערנאַטאָר פון יעגיפּעט, לאָרד אַלענבי, האָט זיך אָנגעגעבן פאַר אַ ציאָניסטן-פריינט, צו אַזאַ איבערצייגונג איז ער געקומען צוליב די געשעהענישן אין עגיפּעט—אַזוי שרייבן מיט סימכע די ציאָניסטישע צייטונגען. מער מודע זיין זיך אין דעם אימפּעריאַליסטישן כאַראַקטער פון ציאָניזם קען מען שוין ניט.

В. Аўрагаў.

# У процэсе асіміляцыі.

*(Нарыс з жыцьця літоўскае колёніі ў Беларусі).*

Процэс асіміляцыі саправаджае ўсякі процэс у грамадзкім жыцьці, калі ўваходзяць клінам сваімі карэньнямі адна ў другую якія-небудзь дзьве розныя культуры, і ў выніку павольнае барацьбы элемэнтаў, якія складаюць гэтыя культуры, зьяўляецца часта новае, якое ўпітала ў свой склад усё найбольш жывое і моцнае з гэтых дзьвюх першапачатковых культур—прабуджаецца да жыцьця новая культура. Падобныя зьявы і называем процэсам асіміляцыі ў грамадзкім жыцьці. Зусім зразумела, што ў гэтым процэсе асоба больш слабая скарэй губіць свае асабістыя асаблівасьці, чым асоба моцная, якая скарэй дадасьць вакольнаму спэцыфічныя свае рысы. Калі невялічкай групе людзей, якая адарвана ад агульнага цэлага, прыходзіцца папасьці ў чужое ёй па нацыі, звычаям і мове асяродзьдзе, грамаду, яна некаторы час захоўвае сваю самабытнасьць, але ў канцы павінна будзе, пад уплывам бязьлітаснае асіміляцыі, злучыцца з вакольным насельніцтвам, згубіць свае нацыянальныя і бытавыя рысы, пазбавіцца свае самабытнасьці. Процэс асіміляцыі дапускае бязумоўную прысутнасьць двух напрамкаў элемэнтаў: з аднаго боку зусім спагадваючых гэтаму процэсу, а з другога боку замаруджваючых яго. Канцовая асіміляцыя, альбо, правільней, канцовы тэрмін асіміляцыі і залежыць ад прысутнасьці тае ці іншае меры гэтых канцавосна-процілежных элемэнтаў.

Яскравым прыкладам невялічкае грамады людзей, якія знаходзяцца ў сучасны момант у рэльефна-б'ючым у вочы процэсе асіміляцыі, зьяўляюцца жыхары літоўскае колёніі „Сафійск“, якая знаходзіцца ў Магілеўшчыне.

### Утварэньне і разьвіцьцё колёніі.

Літоўская колёнія „Сафійск“ утварылася ў 1886 годзе на месцы фольварку тае-ж назвы, які належаў Тульскаму фабрыканту Баташову. Колёністыя зьяўляюцца выхадцамі з Літвы (Ковенская губ., Вількамірскі і Нова-Аляксандраўскі паветы). З прычын, з-за якіх вынікла перасяленьне Літоўцаў у Беларусь, галоўнаю зьяўляецца тая, што ў апошнюю чвэртку 19 стагодзьдзя ў многіх месцах Літвы ўтварылася вялізнае малазямельле. Патрэбнасьць у зямлі значна адчувалася. З утварыўшагася крызісу іншага выхаду ня было, як толькі перасяленьне альбо ўход у гарады. Большая частка моладзі выехала ў Амэрыку, невялічкая яе частка выехала ў сярэдзіну Расіі, і параўнана малыя групы літоўскіх сем'яў перакідаліся ў Беларусь. Калі дадаць да гэтага тыя чуткі, якія распаўсюджваліся па Літве, і асабліва ў усходніх паветах б. Ковенскае губэрніі аб таннасьці прадаваемае рускімі панамі зямлі і аб параўнана ня цяжкім парадку яе куплі з дапамогай пазямельнага банку, які выдаваў сялянам неабходныя пазычкі, хаця і за драканаўскія проценты пад залог зямлі, зусім зразумелым робіцца імкненьне літоўскіх сем'яў, якія організаваліся ў пакупныя таварыствы, з радзімы на чужыну для адшуканьня новых мясцовасьцяй для пасяленьня. Трэба, аднак, тут заўважыць, што калі адны сем'і выяжджалі выключна з-за малазямельля, альбо зусім безьзямельля, то поруч з імі

перасяляліся і такія, якія лічылі, што, прадаўшы сваю гаспадарку ў Літве, яны ў Расіі змогуць дастаць значна большыя кавалкі зямлі і, такім чынам, змогуць пашырыць свае гаспадаркі. У Літве зямля ў некалькі разоў была даражэй, чым у Расіі. Тыя, што пражывалі раней у Беларусі аддзельныя сем'і літоўцаў і набыўшыя альбо зямлю ва ўласнасьць, альбо, часьцей, трымаўшыя яе ў арэндзе, рэдка давалі сваім родзічам і знаёмым весткі аб тым ці іншым маёнтку, які прадаваўся. Аб продажы іх таксама часам абвяшчалі ў газэтах. Так здарылася і з колёністымі літоўцамі, якія засноваліся ў Сафійску. У 1885 г. чатыры ўпаўнаважаныя розных прыходаў (Віжуны, Лялюны) накіраваліся ў б. Чэрыкаўскі павет аглядаць маёнтак Малькоўку, які адлягаў ад Магілёва на 70 вёрст. Мясцовасьць, як відаць, ім спадабалася. Зьвярнуўшыся ў Літву яны сталі організоўваць таварыства дзеля куплі гэтага маёнтку. Такіх, што хацелі выехаць у Расію, было нямала. Было сабрана да 10 тысяч рублёў у задатковыя сродкі і ўпаўнаважаныя, атрымаўшы на рукі грошы і патрэбныя паперы, зноў накіраваліся к месцу куплі. Але мы лічым лішнім тут казаць аб тых прычынах, дзякуючы якім купля-продаж маёнтку Малькоўкі не адбылася. Пан Тэрман ня споўніў узятых на сябе ўмоў, хаця запродажны запіс быў зроблен і да дзесяцёх тысяч рублёў было дадзена задатку. Пачаўся суд з панам, які працягваўся каля двух гадоў. Выпадкова ў Магілёве, дзе яны вялі суд з панам, вясною 1886 г. ад жыда-маклера яны пачулі аб тым, што ў 25 вёрстах ад Магілёва, на Мсьціслаўскім тракце, прадаецца маёнтак Сафійск. Пацярпеўшы няўдачу з адным панам, яны рашылі папытаць шчасьця з другім. У Сафійску меўся толькі кіраўнічы. Гэты апошні катэгорычна адмовіўся даць упаўнаважаным якія-небудзь канчатковыя зьвесткі. Ён проста й сказаў ім, што хаця маёнтак і назначан у продаж, але толькі за ўзятку ў тысячу рублёў ён згодзен паказаць ім месца жыцьця пана. Кідаць тысячамі рублёў упаўнаважаныя, зразумела, не маглі. Ім удалося выведаць, што прозьвішча пана—Баташоў і што ён жыве ў Туле. Адзін з упаўнаважаных пасьпяшаецца ў Тулу да Баташова, але ў Туле яго не знаходзіць: пан у гэты час лячыўся ў Крыме, у Ялце. Справа ўскладнялася. Упаўнаважаны вярнуўся зноў у Магілёў, дзе радзіцца з сваімі таварышамі. Разам з жыдам-маклерам адзін з упаўнаважаных едзе ў Крым. Прыбылі яны ў Ялту ў красавіку. Расказваюць цяпер у колёніі, што пан быў вельмі зьдзіўлен, калі ўбачыў перад сабою ў якасьці пакупніка свайго маёнтку простага селяніна. Баташоў, пасьля нядоўгіх перамаўленьняў, ахвоча згодзіўся прадаць маёнтак, ніводнага разу ня быўшы ў ім. Бяз ведама кіраўнічага маёнтку быў зроблен запродажны запіс, дадзен задатак і пакупнікамі атрыманы быў офіцыйны дазвол на права ўладаньня маёнткам да заключэньня купчае ўмовы. Зьвярнуўшыся ў Магілёў з Ялты ўпаўнаважаны з двума другімі таварышамі, маючы на руках патрэбныя паперы, зьявіліся да кіраўнічага маёнткам. Уся рухомая й нярухомая маёмасьць маёнтку была па сьпісу прынята пакупнікамі. Зьбіты з панталыку кіраўнічы павінен быў безаткладна выехаць з маёнтку; ён ня ўсьпеў нічога нават прадаць з маёмасьці. Ужо ад сябе пакупнікі дазволілі яму ўзяць толькі каня са збруяй. Двое з упаўнаважаных засталіся ў нова-здабытым месцы, а адзін вярнуўся ў Літву з данясеньнем аб зробленай куплі. Вясною 1886 г. сем'і, якія ўвайшлі ў таварыства па куплі, сталі ліквадаваць свае гаспадаркі ў Літве, распрадаваць рухомасьць і нярухомасьць і групамі выяжджаць у Расію. Ня ўсе колёністыя выяжджалі зразу. Некаторыя прыбылі на новае месца жыцьця праз год і нават болей. У новым месцы колёністыя павінны былі цясьніцца ў панскім доме і нават у няжылых будовах, прыстасоўваючы апошнія на скорую руку для жыцьця. Толькі некаторыя ўсьпелі пабудаваць сабе хаты. Адна дзесяціна зямлі (усяго было куплена рознае зямлі 1801 дзесяціна) абышлася ў 13,9

руб. гатоўкаю. Грошы, сабраныя пры ліквідацыі рухомае маёмасьці маёнтку, пашлі на расходы па куплі. Будынак, мэбля, сельска-гаспадарчая жывёла (8 рабочых коняй і да 50 штук быдла), хатняе птаства, зярнаты для сяўбы—усё было разьмяркована паміж прыбыўшымі колёністымі ў выглядзе распродажу з таргоў. Зямля была разьмяркована між пакупнікамі ня пораўну колькасна, а розна, у залежнасьці ад дадзенага дзеля куплі капіталу. Адзінку ўладаньня зямлі колёністыя назвалі валокай, якая мела каля 20 дзесяцін зямлі. Колёнія разьмеркавалася двума выселкамі: 1) асяродкавы выселак—Сафійск і 2) выселак Супонічы, які адлягаў ад першага на 1½ вярсты.

Першыя гады жыцьця для колёністых былі надзвычайна цяжкімі. На другі, трэці і нават чацьверты гады ня ўсе з іх маглі здабыць неабходны інвэнтар і новыя будынкі. Пахаці многа не хватала. На 1801 дзесяціну ўсяе плошчы пахаці прыходзілася ня больш 120 дзесяцін. Уся астатняя плошча знаходзілася пад лесам. Колёністыя, дзеля гэтага, зразу пачалі клапаціцца павялічэньнем пахаці, што дасягалася расчысткай і выкарчоўваньнем лесу.

Расьсяленьне колёністых прыняло выгляд двух невялічкіх вёсак, якія па надворнаму выгляду ня адрозьніваліся ад беларускіх. Толькі розныя будоўлі ў гэтых літоўскіх выселках ня групаваліся, як у беларусаў, з выхадам у адны вароты, а ставіліся аддзельна. Вялікія дзеравяныя крыжы каля хат, гародчыкі каля кожнае з іх з вялізарнай колькасьцю розных кветак, літоўская мова—вось тыя прыметы, якія захаваліся і дасюль у колёніі і якія напамінаюць сабою літоўскую вёску.

Колёнія асела ня зразу. Праз два-тры гады выселак Супонічы разфармаваўся. Зямля была прадана сумежнай беларускай вёсцы. Колёністыя з гэтага выселку разышліся хто куды. Адны з іх вярнуліся ў Літву, іншыя, як відаць, расьсяліліся па розных месцах Беларусі і скора згубілі зусім сувязь з астаўшыміся ў Сафійску. У пэрыод між 1888 і 1890 г. г. сем гаспадарак і ў гэтым выселку ліквадавалі сваю маёмасьць і выехалі, прадаўшы сваю зямлю. К 1893 году з агульнага ліку зямлі ў 1801 дзесяціну засталося ўсяго толькі 795 дзес. з насельніцтвам трохі больш за 100 душ. Прычына продажу зямлі на першы погляд здаецца дзіўнай. Але разгадка гэтае зьявы вельмі лёгкая. Зямлі было, па думцы колёністых, зусім даволі. Прыходзілася плаціць многа па доўгу пазямельнаму Банку. Скараціць гэты доўг можна было толькі прадаўшы зямлю.

К 1895 году колёнія ўсталявалася канчаткова, як адна вёска. Гаспадаркі ўмацаваліся. З цягам часу насельніцтва колёніі павялічвалася. Яно павялічылася за пэрыод з 1888 па 1923 г. г. на 285%, г. зн. амаль што ў тры разы. У выніку частых сямейных падзелаў гаспадаркі драбнелі. Паступова ўтваралася малазямельле, якое цяпер ужо больш ці менш войстра адчуваецца.

Вось табліца, якая паказвае на ўзрост насельніцтва ў колёніі і на зьмяншэньне колькасьці зямлі:

| Гады | НАЗВА ВЫСЕЛКУ | Колькасьць насельніцтва | Колькасьць гаспадарак | Колькасьць зямлі ў валоках |
|---|---|---|---|---|
| 1886 | Сафійск . . . . . | 146 | 29 | 72,5 |
| 1886 | Супонічы . . . . . | 21 | 7 | 20,5 |
| 1923 | Сафійск . . . . . | 327 | 55 | 47,5 |

На адну гаспадарку цяпер прыходзіцца менш, чым валока, прыблізна па 7—8 дзесяцін пахаці й сенажаці. Па меры свае заможнасьці колёністыя не стаяць вышэй узроўня заможнасьці сялян - беларусаў. Узаемаадносіны паміж імі і апошнімі зусім дабрасуседзкія, ніякае нацыянальнае варожасьці не заўважваецца.

Гэткая ў кароткіх рысах гісторыя ўтварэньня на Беларусі літоўскае колёніі „Сафійск".

## Агульны культурны ўзровень і адукацыя.

Становішча адукацыі і сама пастаноўка гэтае справы ў колёніі як раней, так і цяпер пакідае хацець шмат лепшага. Сярод насельніцтва колёніі, зусім асеўшага к 1889 г., налічвалася ўсяго да 8 проц. пісьменных, г. зн. такіх, якія ўмелі чытаць і пісаць палітоўску і часткова парасійску. Сярод іх было толькі двое скончыўшых аднаклясную школу ў воласьці. Да 1918 г. колёнія ня мела свае школы. Да гэтага часу дзяцей аддавалі ў навучаньне аднаму, альбо двум больш пісьменным колёністым. Навучаньне вялося самым первястковым чынам на літоўскай мове. У якасьці падручнікаў карысталіся маліцьвеньнікамі. Навучаліся толькі мэханічнаму чытаньню, на пісаньне не зварачалася ніякае ўвагі, што, між іншым, зусім зразумела, бо самі „дырэктары", як іх звалі, ледзь-ледзь разьбіралі пісанае. Вынікі такога вучэньня, вядома, былі вельмі мізэрныя. Яны выяўляліся ў тым, што дзіця за два-тры гады магло навучыцца чытаць літоўскі маліцьвеньнікі мела некаторыя веды з катэхізысу, без чаго нельга было адбыць першую споведзь. Гэтым і абмяжоўваліся веды дзяцей. Толькі некаторыя з іх навучаліся ў школах сумежных беларускіх вёсак. Але і ў гэтым вучэньні было мала карысьці: дзеці зусім ня ведалі расійскае мовы. У часе наплыву ў колёнію ў 1915 г. бежанцаў з Літвы, бежанскія організацыі адчынілі тут літоўскую школу. У ёй мелі магчымасьць навучацца таксама й дзеці колёністых. Праіснаваўшы ўсяго некалькі месяцаў, школа зачынілася Але й такі кароткі тэрмін дзейнасьці школы меў у жыцьці колёніі вялікае значэньне: пасьля ліквідацыі яе тут засталося многа ўсякае літаратуры на літоўскай мове. У 1918 г., ужо пры Савецкай уладзе, у колёніі організавана школа першае стопені, якая існуе і дасюль. Сьпярша яна лічылася за пад'аддзелам нацменшасьцяй б. Чаўскага Павятовага Савету і лічылася школаю нацыянальнаю. За адсутнасьцю настаўніка-літоўца ў ёй, аднак, выкладаньне адбывалася на расійскай мове. Толькі ў 1920—21 годзе ў школу была ўведзена літоўская мова, як прадмет. Але на наступны год настаўніка-літоўца зноў ня стала і школа зноў перайшла на расійскую мову. Пастаноўка вучэбнае справы, дзеля гэтага, у школе зусім не нормальная: колёнія амаль што сьвядома падлягае абрусеньню. Апрача таго, навучаць на расійскай, а апошнія часы на беларускай мове дзяцей, якія не ўладаюць ні расійскай, ні беларускай размоўнай мовай і якія ў хатнім абыходзе ўжываюць выключна мову літоўскую—наўрад, ці пэдагогічна, не кажучы ўжо аб тых адмоўнасьцях, якія неабходна перамагчы настаўніку-беларусу.

Колёнія прабавала зьвязацца з Наркамнац'ам у Маскве, маючы на ўвазе ўтварыць у сябе нацыянальную школу. Але гэта ня мела посьпеху. Колёністыя, значыць, пазбаўлены магчымасьці скарыстаць свае правы, якія яны маюць, як група нацыянальная. Але ўсё-ж за апошнія шэсьць—сем гадоў пісьменнасьць у колёніі зрушана з мёртвага пункту. Зусім няпісьменных налічваецца да 51 проц. усяго насельніцтва колёніі. Але з 49 проц. пісьменных толькі 10—15 проц. умеюць пісаць палітоўску. У гэтым відаць уплыў чужое па мове школы, якая зьяўляецца самым глыбокім фактарам па шляху абрусеньня колёністых.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У | 1920—21 | вуч. | годзе | ў | школе | было | 74 | вучні | абод. | радоў. | | |
| „ | 1922—23 | „ | „ | „ | „ | „ | 58 | „ | „ | „ | | |
| „ | 1924—25 | „ | „ | „ | „ | „ | 51 | „ | „ | „ | | |

Гэтыя лічбы красамоўна сьведчаць, што ў 1920—21 вуч г. школа ўцягла амаль што ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. І гэта, на наш погляд, зусім зразумела: зьменшаньне колькасьці вучняў адбылося ня ў сілу зьменшаньня колькасьці дзяцей школьнага ўзросту наогул, але толькі таму, што выкладаньне ў школе ў тым годзе літоўскае мовы як нельга лепей здавальняла і патрабаваньні самых дзяцей, да й бацькі ахвочай пасылалі іх у школу.

Свае інтэлігэнцыі колёнія ня мае.

Усё-ж трэба заўважыць, што колёнія перажывала й такія моманты, якія характарызаваліся прысутнасьцю некаторых умоў, дапамагаўшых пад'ёму культурнага ўзроўня наогул і нацыянальнае самабытнасьці ў частковасьці. Дзейнасьць у 1906—7 г. г. літоўца-ксяндза Кавалеўскага трохі разварушыла падлягаўшую бязьлітаснай асіміляцыі колёнію. Дастаўляючы колёністым літаратуру, ён пастараўся прывіць моладзі любоў да народных песняў і мовы. Бежанская хваля з Літвы ў 1915 г., якая дакацілася да колёніі, дала таксама некаторы таўчок у гэтым напрамку. Двухгадовае прабываньне бежанцаў, якіх налічвалася да 50 чалавек, абнавіла ў значнай меры мову колёністых, якая да таго ўжо мела шмат барбарызмаў. У пэрыод між 1905—1912 г. г. аддзельныя колёністыя выпісвалі шэраг выдаваўшыхся ў Літве журналаў і газэт: „Vilniaus Zynios“ (Віленскія Зьвесткі), першы друкаваны ў Расіі орган на літоўскай мове (кнігадрук літоўцам быў дазволен толькі ў 1905 г.). „Rygos Garsas“ (Рыскі Голас), „Lietubos Ukininkas“ (Літоўскі земляроб), „Saltinis“ (Крыніца), „Ausra“ (Зара) і „Vienybe“ (Ядланьне). Але выпіска газэт і журналаў не насіла масавага характару: у гэтым культурным пачынаньні былі зацікаўлены толькі аддзельныя асобы.

Але ўжо прайшло больш дзесяці гадоў, як колёнія ня бачыць ні аднае літоўскае газэты і амаль што ня мае літаратуры на роднай мове, калі ня лічыць у выстарчаючай меры маліцьвеньнікаў, якія пільна хаваюцца, бо колёністыя занадта рэлігійныя.

Атрымліваемыя ў сучасны момант прадстаўнікамі сельсаветаў беларускія й рускія газэты ніколі ня чытаюцца. Прычыны гэтаму: 1—агульная малакультурнасьць насельніцтва і 2—няпрыступнасьць для колёністых беларускае і рускае літаратурнае мовы.

Усе колёністыя—каталікі. На захаваньне рэлігійных абрадаў адводзіцца даволі значная ўвага і нават сродкі. Рэлігія, зразумела, трымаецца галоўным чынам на надворным абрадаваным баку культу. Ксяндзы, утвараючы ў капліцы колёніі частыя рэлігійныя службы, умеюць падтрымліваць свой згубны ўплыў на колёністых.

## Працэс асіміляцыі.

Паданае вышэй нам ужо дазваляе зрабіць вывады, што літоўская колёнія Сафійск падлягла значнаму ўплыву працэсу асіміляцыі. Мы па дарозе заўважвалі прысутнасьць умоў, якія з аднаго боку паглыбілі гэты працэс, а з другога боку замарудзілі яго. Уплыў бежанцаў-літоўцаў, якія спыніліся ў колёніі, вядома, замарудзіў абрусеньне можа быць на цэлы дзесятак гадоў і больш. Але цяпер умоў, якія змаглі-б працівадзейнічаць пасьпешнаму ходу асіміляцыі, г. зн. паступовай згубе нацыянальнае самабытнасьці колёніі, амаль што ня маецца. Самы факт абкружэньня колёніі беларускім насельніцтвам і поўная адсутнасьць усякіх сувязей з Літвою—вось галоўныя і адзіныя моманты, якія дапамагаюць актыўнаму дзеяньню

асіміляцыі. Беларуская школа зьяўляецца правадыром беларускае культуры ў колёніі. Правы, якія прадастаўлены колёніі савецкім законадаўствам на магчымасьць організацыі нацыянальнае школы, застаюцца не скарыстованымі. Беларуская школа дзейнічае ў бок выцясьненьня з ужываньня літоўскае мовы.

Мова зьяўляецца самай характарнай і асаблівай рысай усякага нацыянальнага аб'яднаньня. Якое-ж яе цяпер становішча ў колёніі? Самае павярхоўнае нагледжваньне і бягучае вывучэньне фактаў даюць магчымасьць выявіць, што ў размоўную літоўскую мову колёністых увайшло цяпер вельмі многа расійскіх і беларускіх слоў. У колёністых больш старэйшага ўзросту мова значна чысьцей, чым у моладзі, дыялект якое мае прымесь вялікага процанту барбарызмаў. Слоўнік літоўскіх слоў у размове колёніі не папаўняецца, а заметна ўбывае. У сярэднім, у дыялекце колёніі ўжываецца ня менш 10—15 проц. беларуска-расійскіх слоў, хаця маецца яшчэ й цяпер ня мала жанчын-колёністых, якія зусім не гавораць ні пабеларуску, ні парасійскі. Наогул у хатнім абыходзе колёністыя ўжываюць літоўскую мову. Дзеці выхоўваюцца на літоўскай мове. 5—7 гадовае дзіця зусім ня ведае беларускае мовы, якая ім прысвойваецца ўжо ў больш позьнія часы (12—15 гадоў). Адсюль зразумела ўся ненормальнасьць навучаньня ў школе, дзе з першых крокаў дзіця сустракаецца з беларусам-настаўнікам і з незразумелай для яго беларускай альбо рускай кнігай. Яго прымушаюць зразу вывучаць незнаёмую яму мову Нам думаецца, што нашаму Наркамасьветы і падуладным яму органам неабходна было-б зрабіць з гэтага адпаведныя вывады.

Старыя, яшчэ вывезеныя з Літвы, народныя літоўскія песьні пачынаюць забывацца і замяняцца песьнямі расійскімі і беларускімі. Ужо ўсё часьцей і часьцей моладзь утварае гульні й забавы на беларускай мове.

У сучасны момант колёністы-літовец у Беларусі пазбаўлен зразумелай для яго кнігі, зразумелай брошуры. Мы зусім ня хочам сказаць, што колёнія зусім адарвана ад сьвету. Не! Але ўзровень адукацыі, політычная сьвядомасьць яе насельніцтва, пад'ём сельска-гаспадарчай тэхнікі—маглі-б разьвівацца шмат пасьпешней, калі-б колёністы меў школу на зразумелай для яго мове, мог-бы чытаць прыступную яму кнігу.

На выцясьненьне літоўскае мовы робіць уплыў таксама і той варунак, што колёнія ў сучасны момант уключае ў сябе некалькі сем'яў, якія ўтварыліся ад шлюбаў з мясцовымі беларусамі. Шлюбы з беларускім насельніцтвам, якія за апошнія гады прадстаўляюць усё больш і больш частую зьяву ў выглядзе выхада замуж ліцвінак-дзяўчат за беларусаў і ўтвараючыхся адсюль сваяцкіх сувезяй, у выніку служаць харошым фактарам да праніканьня ў колёнію беларусізацыі і робяць даволі актыўны ўплыў на процэс асіміляцыі.

У заключэньне можам сказаць, што, у яком-бы напрамку ў далейшым ні разьвівалася жыцьцё гэтае літоўскае колёніі, процэс асіміляцыі, як відаць, будзе ўсё шырэй і шырэй ахопліваць усе бакі яе быту, і толькі, можа, падлягаючы якім небудзь часовым процілежным уплывам, гэты процэс будзе праходзіць то мацней, то павальней.

Пакуль-жа што колёністыя маюць вялікае жаданьне мець сваю нацыянальную школу, чытаць кнігу на сваёй мове, якая, бязумоўна, змагла-б скарэй прывіць яму і нашу савецкую грамадзкасьць і дала-б яму тлумачэньні й адказы на тыя пытаньні, якія яго вельмі цікавяць.

Гэткае становішча і іншых літоўскіх колёній, якія раскіданы па Беларусі. Але аб іх мы дамо нарыс у другі раз.

---

# ЛЕНІНІЗМ.

Мік. Шапавалаў.

## Пляханаў і Ленін.

I.

Гісторычныя эпохі, формаваўшыя двух вялікіх мысьліцелей і барацьбітоў за вызваленьне рабочае клясы—Юрыя Валянцінавіча Пляханава і Уладзіміра Ільліча Леніна—былі неаднолькавы.

Пэрыод першых выступленьняў на політычнай арэне Ю. Пляханава характарызуецца ростам і ўсямерным узмацненьнем капіталістычных адносін у Расіі, пролетарызацыяй сялянства, якая адбывалася пад уплывам укараненьня ў земляробскі, ня зусім выжыўшы фэодальна-нявольнічыя адносіны, край чужаземнага капіталу і сьледам зьніжэньня цэн на хлеб, якія зьнішчалі земляробаў сялян і абумовілі іх імкненьне ў гарады, слаба разьвітая прамысловасьць якіх немагла праглынуць прапануемую ёй рабочую сілу.

Рост беспрацоўных у гарадох і працягваючаяся пролетарызацыя сялянства зьніжалі заробак рабочых і ставілі іх ва ўмовы жабрацкага існаваньня. Цяжкае становішча рабочых пхала на забастоўкі, якія, аднак, сьледам слабае організацыі працоўнае клясы ў той час ня мелі значных посьпехаў, але зьяўляліся сродкам, які організаваў працоўную масу для далейшае барацьбы.

Здавалася-б, што разьвіцьцё ў Расіі капіталізму і ўнясеньне ў край элемэнтаў буржуазнага думаньня памякчыць пануючы ў ім абсолютызм і ажывіць грамадзкую думку таго часу. Але на справе гэта не адбылося.

Рэакцыйны рэжым „асвабадзіцеля“ Александара II-га і яго наступніка—„міратворцы“ Александара III-га падаўляў усякую праяву грамадзкай думкі і сьвята вартаваў асновы існуючае будовы. Ён даваў сябе адчуваць ня толькі рабочым і сялянам, але і інтэлігэнцыі, найбольш перадавая частка якое стала ў галаве нарастаючага рэволюцыйнага руху, вядомага ў гісторыі Расіі пад назвай народніцтва.

Характарнай асаблівасьцью ў народніцкім вучэньні было вельмі распаўсюджанае ў той час перакананьне ў асабістасьці шляху гісторычнага разьвіцьця Расіі, які, мінуючы капіталізм, пяройдзе да соцыялістычнае будовы, аснову якога ідэолёгі народніцтва бачылі ў захаваўшайся ў нас пазямельнай грамадзе.

Гэта рыска народніцкага вучэньня азначыла тыя сілы, якія вядуць самабытную расійскую сапраўднасьць да соцыялізму і орыентавацца на якія ім здавалася абавязковай умовай у барацьбе з капіталізмам. Гэтыя сілы—сялянства, прыгнечанае капіталам. На яго апіраліся ў барацьбе з царскім свавольлем народнікі, на яго ўскладалі цяжкую задачу перабудовы грамады на соцыялістычных пачатках.

Але дыялектыка жыцьця паказвала іншы шлях гісторычнаму разьвіцьцю Расіі. Гэта быў шлях, пройдзены Захадам, які вёў да соцыялізму праз капіталізм. Ён паказваў запраўднай рускай сапраўднасьці віткі яе далей-

шага разьвіцьця на прыкладзе гісторычнага разьвіцьця Заходняе Эўропы. „Край прамыслова больш разьвіты,—кажа К. Маркс,—паказвае менш разьвітому краю толькі малюнак яго ўласнага будучага“[1]).

Праўдзівасьць бясспрэчнага марксыцкага палажэньня і была раней усяго прысвоена й зразумела ў хмарную эпоху канца 70-х і пачатку 80-х гадоў вышаўшым з шэрагаў народніцтва Ю. В. Пляханавым.

Некалькі іншыя абставіны меў перад вачыма У. І. Ленін у гады сваіх першых выступленьняў на палітычнай арэне.

Узмацненьне й разьвіцьцё ў культуры і экономіцы краю капіталістычных элемэнтаў стала адбыўшымся фактам, абысьці які рабілася цяжка. Працоўная кляса пераживала юнацтва і не магла заставацца незаўважанай. Яна здабывала ўсё большае й большае значэньне ў краі і патрабавала правоў, адпавядаючых яе фактычнаму становішчу. Але гэтых правоў патрабавала таксама і буржуазія, якая парадзіла пролетарыят, была сьцесьнена рамкамі фэодальна-панскага рэжыму. Рост прамысловасьці ўзмацняў пролетарызацыю сялянства і зьнішчэньне дробных уласьнікаў і саматужнікаў. Ён-жа дапамагаў абагачэньню найбольш моцна асеўшых у вёсцы сялян-кулакоў і ў гарадох—гандляроў. Дыфэрэнцыяцыя і антагонізм розных соцыяльных груп ускладнялі барацьбу і рабілі яе клясавай. Забастоўкі з кожным годам расьлі, насілі наступацельны характар і часьцей канчаліся пабедай працоўных.

На Захадзе продуктыўней запрацавалі фабрыкі конвэнцый і іншых нявольных умоў для працоўнае клясы і коленіяльных народаў. Там ясна і выразна намецілася новая фаза ў разьвіцьці імпэрыялізму—капіталізм.

Ад далёказрочнага вока Леніна не магла схавацца гэта абстаноўка агульнага становішча ў Расіі і на Захадзе. Ён правільна ацэньваў яе, кажучы, што народніцкі рух павінен згінуць, што шлях яго няправільны і будзе пераможан. „Не, мы пойдзем ня гэткім шляхам, ня гэткім шляхам трэба ісьці“.

17-ёхгадовым юнаком Ленін зразумеў, што вызваленчаму руху ў Расіі трэба паказаць іншы шлях, які асьвятляецца ўзыходзячымі праменьнямі марксызму, шлях адзіны, верны, нямінучы і для гісторычнага разьвіцьця Расіі.

## II

Гэткі агульны фон небасхілу расійскае сапраўднасьці, на якім зьявіліся дзьве шляхаводныя зоркі расійскае соцыял-дэмократыі—Пляханаў і Ленін.

Што было ў іх агульнае і адрозьніваючае адзін ад другога?

Пляханаў—папярэднік і дастойны настаўнік Леніна і Ленін, працягваючы справы Пляханава—вучань, як потым выявілася, які папярэдзіў нават свайго настаўніка. Пляханаў—ідэйны кіраўнік і выхавацель цэлага марксыцкага пакаленьня, асновапаложнік расійскага марксызму і Ленін—кіраўнік, ідэйны натхніцель першае ў сьвеце пролетарскае рэволюцыі, аснавацель вырасшае з нетраў соцыял-дэмократыі Комуністычнае партыі.

Пляханаў—правадыр і адзін з самых лепшых тэорэтыкаў II-га Інтэрнацыяналу і Ленін—правадыр і асновапаложнік III-га Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

Пляханаў—магутны барацьбіт, які каля 40 гадоў прапаведваў і падрыхтоўваў пролетарскую рэволюцыю і адмовіўся ад яе ў першыя дні яе перамогі, і Ленін—ажыцьцяўленьне рэволюцыйных бураў, для якога рэволюцыя ў Расіі была пачаткам пажару ўсясьветнага, полымем, зьніштажаючым гнільлё капіталістычнае грамады, жаданьнем упартым, якое зьдзейсьнілася ў выніку яго няспыннай 30-хгадовае дзейнасьці.

[1]) Капітал, т. І. Прадмова 1923 г. Дзяржвыдавецтва.

Пляханаў—рэволюцыйны марксысты, які скаціўся па нахільнай плошчы ў пэрыод імпэрыялістычнай вайны ў лягэр соцыял-патрыотаў, які ўзводзіў на бальшавікоў і „іжэ з імі“ абвінавачваньня ў здрадзе грамадзе, які лічыў Берасьцейскую згоду ганебнай плямай на здаровым целе Расіі; Пляханаў, які правёў у эміграцыі больш 35-ці гадоў і зьвярнуўся ў Расію дзеля таго, каб адзінотным і забытым памерці ў суровай Фінляндыі, і Ленін—кіраўнік гэроічнае барацьбы Савецкае Расіі з надворнымі і ўнутранымі ворагамі, якія пасягаюць на заваёвы Кастрычнікавае Рэволюцыі, той Ленін, вопытнай рукою якога зрушана авантура Заходня-эўропэйскага капіталу, і пад сьцягам якога Савецкая Расія вышла пераможніцай на ўсіх франтох, чыя сьмерць выклікала жывы водгук з усяго сьвету —радасьць у сотняў тысяч эксплёататараў і гора ў міліёнаў эксплёатуемых.

Вось прыкладнае супроцьстаўленьне двух буйных імён, мужных, актыўных, якія штурмавалі неба асоб рускае гісторыі канца XIX-га і пачатку XX-га стагодзьдзя.

Гэніальныя стратэгі, ваяўнічыя матэрыялістыя, выдатныя дыялектыкі, якія сьмела заглядвалі ў будучыну чалавецтва і правільна намечвалі шляхі яго вызваленьня ад векавога ўціску, вісячага над працоўнымі сьвету—эксплёатуемымі й нявольнікамі—былі лепшымі выказьнікамі імкненьняў паднявольных клясаў перабудаваць грамаду і пазванымі гісторычным ходам здарэньняў гэніяльнымі правідцамі вырашыць яго проблему, пастаўленую капіталізмам і ўладна патрабуючую „адгадай, альбо я пажру цябе“.

Абодва яны лічылі адзіна-вернай Марксаву тэорыю гісторычнага разьвіцьця грамады, за чыстасьць якое ўпарта змагаліся на працягу дзесяцёхгодзьдзяў. Яна была самай сутнасьцью, „душою“ іх практычнай дзейнасьці, а ня нечым асобым, чужым, нязгодным з іх штодзеннай рэволюцыйнай працай.

Пляханаў быў старэй Леніна на 14 гадоў[1]) і сваю рэволюцыйную працу ў Расіі пачаў раней Леніна—са ўступленьня ў рэволюцыйную народніцкую організацыю „Зямля і Воля“, дзе ўжо ў канцы 1876 г. выказаў асноўныя ідэі працоўнага руху і мэтоды рэволюцыйнай працы. Думкі Пляханава па гэтаму пытаньню былі формуляваны ў стацьцях, зьмешчаных ім у друкаваным органе „Зямлі й Волі“, абвешчаных у пачатку 1879 году.

Пляханаў бачыць у рабочай масе сілу, якой на арэне клясавае барацьбы трэба адвесьці самастойнае месца. Ён задарма кліча ідэолёгаў народніцтва зьмяніць сваю тактыку і мэтоды рэволюцыйнай працы. „Організуйце масы для барацьбы шляхам барацьбы і ў часе барацьбы“ на заўсёдышніх інтарэсах *працоўнае* (падчоркнута мною М. Ш.) клясы.

Ня кніжка зрабіла Пляханава марксыстым, а запраўдная расійская сапраўднасьць, утвараючая працоўнае пытаньне.

Аднак, рэволюцыйная праца для Пляханава ў Расіі скора стала немагчымай. Удзел у дэмонстрацыі на Казанскім пляцу ў Санкт-Пецярбургу і шэраг выступленьняў ва ўмовах падпольля не засталіся не заўважанымі ўладай. Пад націскам рэакцыі ён прымушан быў пакінуць Расію і пасяліцца ў Швэйцарыі. Да гэтага таксама пабуджала яго імкненьне папоўніць свае навукова-тэорытычныя веды.

Заграніцай Пляханаў з гэткай-жа энэргіяй аднаўляе рэволюцыйную працу. У 1883 годзе з групай т. т. Вераю Засуліч, Паўлам Аксяльродам, Л. Дэйчам і інш. ён закладае пачатак першай расійскай марксыцкай організацыі, назваўшы сябе групай „Вызваленьне працы.“.

---

[1]) Цікава хронолёгічнае супадзеньне (заўважанае т. Горавым). Гады нараджэньня пяці буйнейшых дзеячоў у гісторыі грамадзкай думкі Расіі—Бакуніна, Чарнышэўскага, Міхайлоўскага, Пляханава і Леніна, аддзелены працягам адзін ад другога роўна ў 14 гадоў: 1814, 1828, 1842, 1856 і 1870.

Ленін прылучыўся да працоўнага руху ўжо знаёмы з вучэньнем К. Маркса і Фрыдрыха Энгельса. „З восені 1888 году,—кажа Ганна Ільлінічна,—ён пачаў чытаць капітал К. Маркса, расказваючы мне з вялікіім захапленьнем аб прачытаным“; так піша і Голубева-Яськнева: „у 1890 годзе ён (У. І. Ленін—М. Ш.) быў яшчэ зусім маладым чалавекам, які вывучаў Маркса і наогул вельмі многа працаваў над сабою“[1]).

Значная тэорытычная падрыхтоўка Леніна і раньняя практычная рэволюцыйная праца, пачатак якой быў паложан удзелам Уладзіміра Ільліча ў студэнцкіх узбурэньнях 1887 г. у Казані—паставілі яго на галаву вышэй яго сяброў па працы і не маглі быць не заўважанымі ўладай, якая пачула ў ім небясьпечнага ворага.

Хутка для Уладзіміра Ільліча ўтварыліся абставіны, якія выключалі карыснасьць яго далейшай працы ў Расіі, і ён эмігрыруе ў Швэйцарыю з мэтай усталяваць рэгулярную сувязь з агульна-прызнаным тады правадыром і настаўнікам марксыстых Ю. В. Пляханавым і яго вучнямі: В. Засуліч, Л. Дэйчам і інш. П. Аксяльрод ужо тады ўгледзеў у Леніне будучага правадыра працоўнага руху, злучаўшага у сабе веды тэорыі Маркса з практычнымі якасьцямі організатара.

У выніку гэтае паездкі Уладзіміра Ільліча заграніцу, яго і да таго значная пашана групе „Вызваленьне працы“ падмацавалася і ўсталявалася. Пашана Уладзіміра Ільліча Пляханаву, як сьведчыць Ганна Ялізарава, была выключна высокая; з іншымі сябрамі групы, асабліва з Аксяльродам, гэтыя адносіны хутка перайшлі ў простыя й прыяцельскія. Па ўспамінам Г. Ялізаравай, Уладзімір Ільліч у адказ на яе запытаньні ў адносінах да группы „Вызваленьне працы“—характарызаваў іх наступнымі словамі: „З Пляханавым адносіны былі зусім добрыя, але даволі далёкія ўсё-ж, з Аксяльродам яны склаліся простыя й прыяцельскія“. „Відно было,—кажа Г. Ялізарава,—што 25-х гадовы Уладзімір Ільліч, паехаўшы заграніцу для больш блізкіх зносін з тымі, каго ён лічыў сваімі настаўнікамі, быў даволны, што хаця з адным з іх ён меў іх у поўнай меры“.

З гэтага часу Пляханаў і Ленін сумесна змагаюцца супроць народніцтва, лягальнага марксызму, экономізму і іншых антымарксыцкіх спроб аў і ўхілаў у соцыял-дэмократыі, захоўваючы рэволюцыйную сутнасьць і чыстату Марксава вучэньня.

Моцным бокам у Плеханава была філёзофія, у якой, па трапнаму выразу Б. Горава, ён адчуваў сябе „не каранованым каралём“; як раз на гэтай арэне ён атрымліваў над сваімі супрацiўнікамі бліскучыя пабеды. У Леніна-ж, які толькі пачынаў сваю працу, у цэнтры ўвагі стаялі соцыяльна-палітычныя і організацыйныя пытаньні працоўнага руху, дзеля гэтага ў сумесных выступленьнях у працягу дзесяцёхгодзьдзяў яны як бы дапаўнялі адзін другога.

III

Пляханаў і Ленін—гэніяльныя творцы ідэі гэгемоніі пролетарыяту, якія запоўнілі старонкі бальшавізму гэроічнай барацьбой за пераварочваньне ў жыцьцё ідэі гэгемоніі пролетарыяту.

Ніхто іншы, як Пляханаў, „знайшоў“ працоўную клясу ў Расіі, падобна да таго, як гэтую „вынаходку“ зрабілі раданачальнікі навуковага соцыялізму К. Маркс і Ф. Энгельс для капіталістычных дзяржаў Заходняе Эўропы. Гэта вялікая для канца 80-х г. г. вынаходка складае слаўную старонку гісторыі ня толькі рускага, але й сусьветнага марксызму. У 1889 годзе на міжнародным конгрэсе II-га Інтэрнацыяналу ў Парыжы, Пляханаў сказаў: „Руская рэволюцыя пабядзіць. як рэволюцыя *працоўнае клясы*, альбо не пабядзіць зусім“. Ён зло зьдекваўся над тымі ідэолё-

[1]) Зборнік „Ленин“, выд. „Молодой рабочий“, Харкаў 1923, стар. 62—63.

гамі „Народнае Волі“, якія вуснамі свайго кіраўніка Льва Ціхамірава моцна заяўлялі, што „працоўная кляса вельмі важна *для* рэволюцыі“. Пляханаў узяўся даказаць адваротнае, паставіць гэтую відавочную для народавольцаў формулу на голаву. „Не працоўная кляса важна для рэволюцыі, а рэволюцыя вельмі важна для працоўнае клясы“, казаў Пляханаў.

На 2-ім партзьезьдзе ў 1903 годзе ён з прысутным яму талентам і бляскам разносіў фэтышыцкія адносіны да прынцыпаў дэмократыі. „Усё залежыць ад варункаў, часу і месца; інтарэсы рэволюцыі—вышэйшы закон“, які павінен падуладзіць нашу тэорытычную і практычную дзейнасьць. І, да канца пасьлядоўны ў сваіх словах і дзеях, Пляханаў прымае гэта палажэньне за адпраўны пункт вырашэньня ўсіх практычных пытаньняў працоўнага руху.

Вядомы погляд Пляханава і на тэрор. Ён ня схіляецца перад хрысьціянскім заветам „не убій“ а, наадварот, лічыць, што ня ўсякае ўмяртвленьне—забойства і ня ўсякае забойства—злачынства. „Вы патрабуеце адмены сьмяротнай кары,—казаў Пляханаў прыхільнікам чыстае дэмократыі,—а для Мікалая крывавага няўжо яна не патрэбна будзе?“

Не ў захаваньні адцягненых прынцыпаў дэмократыі, а ў інтарэсах рэволюцыі пасьлядоўны марксысты-рэволыцыянэр павінен словамі Пушкіна заявіць:

— Самовластительный злодей,  
Тебя, твой род, я ненавижу,  
Твою погибель, смерть детей—  
Я с злобной радостью увижу.

Аднак, не да індывідуальнага тэрору кліча Пляханаў, а да масавага тэрору паўстаньняў.

Але Пляханаў не давёў ідэю гэгемоніі пролетарыяту да канца; заслуга ў гэтым належыць У. І. Леніну, які на працягу 3-х дзесяткаў гадоў захаваў яе для пераварачэньня ў жыцьцё ў нашы дні.

Першы раз гэту ідэю Ленін выказаў у 1894 годзе ў сваёй кніжцы: „Хто такія прыяцелі народу і як яны ваююць з социял-дэмократамі“.

У гэтай выдатнай, дасюль ня страціўшай свае злобадзённасьці, кнізе У. І. Ленін паказвае, што працоўныя таго часу яшчэ ня ведалі тае кіраўнічае ролі, якая ім належыць у рэволюцыйнай барацьбе, але недалёка той час, калі яны зразумеюць свае месцы ў вызваленчаскім руху; з клясы „ў сабе“ яны стануць клясаю „для сябе“, яны здабудуць сабе саюзьніка—сялянства, якое істотна дапаможа ім прывесьці Расію да Комуністычнай рэволюцыі, бо толькі працоўная кляса можа быць „перадавым прадстаўніком усяго эксплёатуемага насельніцтва... Чалавек будучыны ў Расіі—мужык, думалі прадстаўнікі сялянскага соцыялізму—народнікі, у самым шырокім значэньні гэтага слова. Чалавек будучыны ў Расіі—рабочы, думаюць соцыял-дэмократы“. Ілюструючы гэтыя думкі Леніна словамі Г. Зіноўева, можна было-б сказаць, што „чалавек будучыны ў Расіі—рабочы, які вядзе за сабою сялянства“.

Аналёгічная думка ў часьці нязьбежнасьці эуропэізацыі Расіі належыць і Пляханаву, які ў адным з сваіх артыкулаў сказаў, што рускай працоўнай клясе выпадае задача закончыць процэс эўропэізацыі Расіі, пачатай Пятром І. Справа гэтая, пачатая імпэратарам-дэспотам зьверху, працоўная кляса скончыць зьнізу, шляхам вызваленчаскага руху. „У асобе рабочае клясы ў Расіі ўтвараецца народ у эўропэйскім сэнсэ гэтага слова“. Гэты народ давядзе задачу эўропэізацыі Расіі да пабеднага канца.

Пляханаву і Леніну прышлося таксама правесьці сумесныя баі з зьявіўшымся ў Расіі ў сярэдзіне 90-х г. г. цячэньнем—лягальным марксызмам.

Гэта цячэньне ў соцыял-дэмократыі, утварыўшаеся пад уплывам ажыўленьня лібэральна-буржуазнага і працоўнага руху, прадстаўлялі Струвэ, Туган-Бараноўскі і інш

Апошнія, скажаючы рэволюцыйную сутнасьць мырксызму адсоўваньнем ад яго ідэі клясавае барацьбы і гэгемоніі пролетарыяту, дапасоўвалі марксызм да патрабаваньняў лібэральнае буржуазіі, заклікаючы йсьці да капіталізму на вывучку і абыходзілі пытаньні організацыі працоўнае клясы для політычнай барацьбы.

Аднак, хутка гэтыя гэнэралы засталіся бяз арміі. У выніку барацьбы Пляханава і Леніна з гэтым цячэньнем позіцыі лягальнага марксызму былі зьбіты, і зноў перамог запраўдны рэволюцыйны марксызм пад кіраўніцтвам Пляханава і Леніна.

Трэба заўважыць, што хаця Ленін угледзеў у Струвэ ортодоксальнага лібэрала яшчэ ў 1895 годзе, але ўсё-ж, як гэта ня дзіўна, даволі доўгі час супрацоўнічаў ў органах рэволюцыйнай .соцыял-дэмократыі і ў 1898 г. быў аўторам маніфэсту І-га зьезду РС-ДРП. Часткова такога становішча патрабавалі інтарэсы практычнай рэволюцыйнай працы. Супрацоўніцтва Струвэ ў органах рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі можна растлумачыць выключна выходзячы з патрэб працоўнага руху і каштоунасьці яго супрацоўніцтва, зразумела, да пары, да часу.

Разам з гэтым неабходна мець на ўвазе і асабістыя політычныя абставіны сярэдзіны 90-х г. г., якія дыктавалі соцыял-дэмократыі ў інтарэсах посьпеху працоўнага руху не незважаць іншыя опозыцыйныя групы рускае грамады, а падлічваць іх як адну з сіл у барацьбе з самадзяржаўем. Так, напрыклад, стаяла пытаньне аб адносінах да лібэралаў; падлічваць іх, як сілу, значыла тады павярнуцца да іх тварам. На гэтым пункце погляду стаяла група „Вызваленьне працы“ з Ю. В. Пляханавым.

Г. Ялізарава расказвае, што ў часы прабываньня Уладзіміра Ільліча заграніцай, у размове з ім Пляханаў сказаў: „Вы паварачваецеся да лібэралаў сьпіною, а мы—тварам“. „Помню таксама,—кажа Ялізарава,—што Уладзімір Ільліч прызнаў вялікую правільнасьць групы па пытаньню аб адносінах да іншых клясаў грамады і ў частковасьці да лібэралаў“[1]).

Тут трэба заўважыць, што ў умовах таечаснае расійскае сапраўднасьці, поруч з соцыял-дэмократычным рухам, аформлялася гадамі існаваўшая нездаволенасьць сярод так званага „трэцяга элемэнту“—земцаў, асабліва сярод студэнцтва й вучнёўскай моладзі. Незважаць гэтыя сілы было нельга, а таксам і ўцягваць іх у соцыял-дэмократычную партыю таксама. Калі да гэтага яшчэ дадаць, што сам лібэральны рух таго часу ня зусім аформіўся, што „саюз вызваленьня“ аснаваўся ў 1901 г. а кадэцкая партыя пачала сваё існаваньне з 1905 году, то меркаваньні групы „Вызваленьне працы“ датычна іх адносін да лібэралаў стануць нам зразумелымі і грунтоўнымі.

Абставіны 90-х г. г. піхалі соц.-дэмократычныя організацыі падблізіцца да запраўднага жыцьця, якое б'е крыніцаю, яно напамінала ім, што ня трэба захапляцца выключна тэорытычнай абстрактнасьцю, боязьню адыйці ад марксавага вучэньня, а дзеля гэтага, ня гледзячы ні на што, захоўваць літару ў літару, слова ў слова палажэньні марксызму. Кажучы словамі поэты, яна цьвярдзіла ім:

— Суха, мой друг, теория везде.
А древо жизни блещет все цветами.

„І Уладзімір Ільліч—піша Г. Ялізарава,—згодзіўся пасьля размоў з яе сябрамі (групы „Вызваленьне працы“ М. Ш.) з адпаведнай яму строгасьцю да сябе, што некаторыя сьляды такое абстрактнаєьці ёсьць і ў яго ў „Тулине“ і з адпаведнай яму праматою прызнаў гэта, як у размове з імі, так і са мною... Справа не ў орыентацыі (гутарка йдзе аб орыентацыі на лібэралаў. М. Ш.), але справа бяссумненна ў тым, што ў 1895 годзе

[1]) Г. Ялізарава. Стацьця „Як ня трэба пісаць гісторыю“, „Изв“. № 72 от 29 марта 25 г.

Ленін павярнуўся больш „тварам“ до опозыцыйных групаў рускае грамады, у тым ліку і да нараджаўшыхся лібэралаў, павярнуўся ў некаторай меры пад уплывам групы „Вызваленьне працы“, як сам прызнаў“.

Гэткая была абстаноўка і агульнае становішча рэволюцыйнага руху таго часу. Калі яна зьмянілася, праз 8 гадоў, тады лібэралы ўтварылі сваю партыю, ён з Пляханавым павялі з імі барацьбу, тады шляхі лібэралаў і социял-дэмократаў разышліся.

Якраз таксама і ў адносінах да Струвэ, па пытаньню „супрацоўніцтва з ім і ўступленьню ў якія-б то ня было згоды, Пляханаў стаяў у эпоху зараджэньня „Искри“ на больш нязьмірнай позыцыі, чым Ленін“ [1]. Аб гэтым таксама сьведчыць і ўласны запіс Леніна „як чуць не патухла Іскра“. Справа, бязумоўна, прымала такі выгляд, што Пляханаў ставіць ультыматум—альбо ён, альбо запрашаць гэтых „прахвостаў“ (П. Струвэ і Туган-Бараноўскага М. Ш.). Бачучы гэта, мы абодва з Арс. Патрэсавым рашылі ўступіць і з самага пачатку вячэрняга пасяджэньня заявілі, што „па настайваньню Пляханава адмаўляемся“ (справа ў запрашаньні Струвэ і Туган-Бараноўскага супрацоўнічаць у журнале М. Ш.).

Зразумела, з гэтага зусім не выцякае, што Пляханаў быў ортодоксальней Леніна. Леніна прывабліваў політычны матар'ял для газэты, які ім будзе даваць Струвэ. Як практык працоўнага руху, Ленін ясьней бачыў недахваткі рэволюцыйнай працы і бліжэй адчуваў яе запытаньні, чым Пляханаў. А небясьпечнасьць і ненадзейнасьць супрацоўніцтва Струвэ сазнаваліся імі абодвума аднолькава правільна.

У 1902 годзе Струвэ аканчальна перайшоў у лягэр буржуазных лібэралаў, парваўшы з рэволюцыйным марксызмам. Паступовая эволюцыя Струвэ ад марксызму да лібэралізму, а потым да імпэрыялізму зьявілася паказальнікамісьціннасьці тае прыказкі, якая кажа, што „ад вялікага да сьмешнага адзін толькі шаг“. Пачаўшы сваю кар'еру з марксыцкай зоркі першае велічыні, ён бясслаўна закончыў яе ў шэрагах контр-рэволюцыі.

Родным лягальнаму марксызму цячэньнем быў таксама экономізм, які зьявіўся ў Расіі ў другой палове 90-х г. г. і меў больш уплыву, галоўным чынам, на моладзь, якая выхавалася на лягальным марксызме.

Прадстаўнікамі гэтага цячэньня былі Пракаповіч і Кускова (Пракукіш), якія выпусьцілі ў 1899 годзе рукапіс „Credo“ (Верую), у якой рускія рэвізыоністыя разьвівалі думку, што зьмена грамадзкае будовы ў Расіі адбудзецца без рэволюцыйных патрасеньняў і політычнай барацьбы.

„Існаваньне азначае сьвядомасьць“,—бессьвядома адбываючыся гісторычны процэс давядзе гісторычнае разьвіцьцё Расіі да тае стопені, з якое яна зможа бязболесна пераскочыць з царства неабходнасьці ў царства свабоды. Пастаўленая сьвядома мэта—пасуе перад стыхійнасьцю, а дзеля гэтага—„рух—усё, канцовая мэта—нішто“.

Гэтыя ідэі пропагандаваліся й абасноўваліся ў друкаваных органах экономістых „Рабочей Мысли“ і „Рабочем Деле“. Супроць іх і выступіў Пляханаў з сваім „Wademecum“ (путеводитель). Ён вельмі добра даказаў недарэчнасьць самавольнага разьвіцьця сьвядомасьці ў працоўных, на якое спадзяваліся экономістыя, лічачы неабходнай умовай для посьпеху ў барацьбе ўнясеньне элемэнтаў сьвядомасьці у працоўны рух знадворку. Убогі і вельмі скупы той, хто хоча пакінуць працоўным толькі крошкі экономікі, зьвясьці яго барацьбу выключна да барацьбы за экономічныя выгады, прадставіўшы іншым клясам політыку.

— Урачыстасьць экономічнага напрамку прывяла да політычнай эксплёатацыі рускае працоўнае клясы дэмократычнай і лібэральнай буржуазіяй.

[1] Г. Ялізарава. Стацьця: „Як ня трэба пісаць гісторыю“ «Известия» № 72.

— Тактыка, абараняемая мною,—кажа Ю. В., —нязьбежна дала-б рускай соцыял-дэмократыі—гэтаму перадавому атраду рускае працоўнае клясы—палітычную гэгемонію ў вызваленчаскай барацьбе з самадзяржаўем [1].

Наогул выступленьні Пляханава супроць экономістых і яго прыёмы барацьбы з гэтым цячэньнем былі асабліва рэзкімі й жорсткімі. Ён ня спыняўся нават перад абвяшчэньнем прыватных, зьневажаючых і высьведчваючых экономістых лістоў. Яго рэзкая барацьба выклікала нездаволенасьць сярод азначанай часткі соц.-дэмократыі, яшчэ ясна не ўяўляўшай сабе небясьпечнасьці для Р.С.-Д.Р.П. экономічнага цячэньня. Гэта нездаволенасьць асабліва заўладала часткай соцыял-дэмократаў пры зьяўленьні „Wademecum'а", ня кажучы ўжо аб цалком склаўшайся да яго варожасьці з боку іншых палітычных груповак і цячэньняў.

Адносна гэтае нездаволенасьці У. І. Ленін у адным з сваіх лістоў да Н. Крупскай пісаў: „Зусім ня вернае прадстаўленьне аб Wademecum'е пануе ў Расіі пад уплывам гаворак прыхільнікаў „Рабочего Дела". Паслухаць іх—гэта толькі націск на асобы і інш., толькі гэнэральства і раздуваньне глупстваў з-за аплёўваньня асоб, толькі ўжываньне недапусьцімых прыёмаў etc. А на справе ў гэтай рэчы пераважвае прынцыповы бок, і нападкі на асобу толькі дадаткі, якія пастараліся ўтварыць „маладыя". Wademecum—гэта скогат, прама такі скогат супроць мінулага экономізму, супроць „сораму й ганьбы" соцыял-дэмократыі... І супроць усіх абвінавачваньняў, накіраваных на Пляханава, трэба раней ўсяго рашуча выявіць, што ўся сутнасьць яго брошуры—якраз абвяшчэньне вайны ганебным прынцыпам „крэдызму" і „кускоўшчыны" (лісты адносяцца да верасьня 1900 г.).

У. І. Ленін быў у гэты час у ссылцы і адтуль абстрэльваў экономістых. Яго полеміка была асабліва трапнай. Разам з сваімі т. т. па ссылцы ён у 1899 годзе напісаў „Ліст 17-ці", які быў надрукаваны Пляханавым і шырока распаўсюджан па Расіі. Ён зьмяшчаў крытыку экономізму, як цячэньня, якое праводзіла буржуазны ўплыў на працоўныя масы.

У другой полемічнай паперы—брошуры „Задача расійскіх соцыялдэмократаў", якая вышла з прадмовай П. Б. Аксяльрода, ён конкрэтна разабраў ідэю гэгемоніі пролетарыяту, якая зводзілася на няма экономістымі.

Трэба заўважыць, што абедзьве паказаныя працы былі пасланы Уладзімірам Ільлічом з ссылкі дзеля надрукаваньня Пляханаву і Аксяльроду, з якім Уладзімір Ільліч у той час не парваў сувязі. У сваім лісьце Г. Ялізаравай з ссылкі ён казаў: „Водзыў П. Б. і Ю. В. аб маіх працах для мяне—самае каштаўнае, што я магу сабе прадставіць".

У гэтыя гады за магчымасьць самага цеснага супрацоўніцтва Уладзіміра Ільліча з Юрыям Валянтынавічам ня можа спрачацца ніхто. Адносіны да групы „Вызваленьне працы" таксама былі самымі лепшымі й простымі.

Зьвярнуўшыся з ссылкі, Ленін павёў барацьбу з экономізмам у газэце „Іскра", зварочваючы значную ўвагу на пытаньне ўнясеньня элемэнтаў сьвядомасьці ў стыхійны процэс і даказваючы бескарыснасьць барацьбы, не накіроўваемае і не абагачаемае ідэямі навуковага соцыялізму, бо адсутнасьць уносімых з боку элемэнтаў сьвядомасьці ў гісторычны процэс піхне працоўную клясу на шлях найменшага супраціўленьня, па якому можна дайсьці толькі да трэд-юніонізму.

Вынікам сумеснай упартай барацьбы Пляханава й Леніна, экономізм у пачатку 90-х г.г. стаў заметна зьнікаць, а яшчэ праз 2—3 гады ён зусім згубіў значэньне ў працоўным руху.

---

[1]) Пляханаў. „Яшчэ раз соцыялізм і палітычная барацьба". Выд. „Пролетарыят". СПБ. 1906, стар. 111.

Тут-жа заўважым, што Іскра рэдагавалася Пляханавым, Леніным, Патрэсавым, В. Засуліч і Аксяльродам. Яна групавала каля сябе да 150 чалавек, спробаваных, вядомых у той час рэволюцыянэраў, пераварочваўшых у жыцьцё ідэі марксызму, разьвіваемыя, галоўным чынам, Пляханавым і Леніным. Яна мела вялікі посьпех ня толькі сярод працоўных, але й сярод іншых опозыцыйна-настроеных элемэнтаў рускае грамады, якія рабілі ёй як матар'яльную, так і ідэёвую дапамогу. На старонках гэтага, тады адзінага друкаванага органу соцыял-дэмократычнае партыі, рэльефна адбівалася суровая руская сапраўднасьць: уціск школ, друку, самаўладзтва і самадурства, якое адбывалася даволі часта. Зьмяшчаліся таксама артыкулы на агульна-політычныя і экономічныя тэмы.

IV

Можна азначана сказаць, што абстаноўка, у якой руская сапраўднасьць уступала на парог 20-га стагодзьдзя, была вяшчуном блізкасьці таго гісторычнага моманту, у які заўзятая тэорытычная крытыка—„прылады крытыкі“, павінна зьмяніцца барацьбою клясаў—„крытыкаю прыладаў“.

Гэта падцьвярдзіўшаяся на прыкладзе 1905 году палажэньне марксызму, якое было ў той час не для ўсіх відавочным, інстынктыўна зразумелі змагаючыяся клясы.

Барацьба пролетарскай і буржуазнай грамадзкасьці мацнела з цягам пранікаearньня рэволюцыйнага марксызму ў клясавую барацьбу мас.

Такое становішча піхае розныя соцыяльныя групоўкі азначыць свае адносіны да тае ці іншае выступаючае ў барацьбе клясы. Гэта датычыцца найбольш усяго інтэлігэнцыі, найбольш перадавая частка якое, зразумеўшы ідэі марксызму ў канцы90-х іпачатку 900-х г. г.перашла на бок запраўднага рэволюцыйнага марксызму, астатняя-ж яе маса, якая вельмі моцна зьвязана з інтарэсамі буржуазіі, ня можная ў выбары свайго шляху, пытаецца зьмірыць нязьмірнае, абхапіць неабхватнае.Яна хоча ўнесьці ў гэтыя нязрушныя новыя ідэі рэволюцыйнага марксызму розныя папраўкі, дапаўненьні, якія адпавядаюць яе клясавай сутнасьці. Яна пробуе зьніштожыць рэволюцыйнасьць гэтых ідэй, якія ўладаюць масамі, прыстасаваць іх да сваіх патрабаваньняў і соцыяльна-політычных поглядаў, а то й адчынена выступіць супроць іх.

— Стучится идея о чем-то, бишь, новом,
Затворим скорее мы двери засовом.

Але зачыніць дзьверы гісторыі для марксызму, які пранікае ў клясавую барацьбу, было-б роўным гэроічнай, але, увы, бескарыснай спробе Дон-Кіхота біцца з крыламі ветрака.

З другога боку гэты пэрыод можна характарызаваць шырока разгарнуўшымся рухам студэнцтва і вучнёўскай моладзі шэрагам стачак, галоўным чынам у Паўднёвай Расіі, узмацняючымся сярод опозыцыйных элемэнтаў рускае грамады нездаволенасьцю, якая ўтваралася шляхам розных супроць-уладных організацый, прыдаваўшых гэтаму руху організаваны характар.

Працоўны рух таксама рос і пашыраўся. Шэраг аграрных узбурэньняў сьведчыў аб прабуджэньні сьвядомасьці ў сялян, а тэрорысычныя акты Г. Лекерта, Балмашава і інш. дапаўнялі малюнак агульнага нездаваленьня абсолютным рэжымам Мікалая ІІ-га.

Гэткая абстаноўка, якая падрыхтоўвала 2-гі зьезд РС-ДРП. Пачаўшыся ў Брусэлі, ён у выніку забаронаў, якія яму чыніла бэльгійская ўлада, прымушан быў пераехаць у Лёндан, дзе і скончыў сваю працу.

Фактычна гэта быў першы ўстаноўчы зьезд РС-ДРП, бо зьезд, які адбыўся раней, у 1898 годзе ў Менску, амаль што ў поўным складзе быў арыштаваны і пастановы яго да 2-га зьезду 1903 году цалком рэалізаваны ня былі.

У процэсе працы 2 га зьезду сярод прадставленых на зьезьдзе дэлегатаў ад розных організацый выявіліся вялікія расходзіны як па організацыйным пытаньням, так і па пытаньням тактыкі і нават програмы РС-ДРП якія прывялі да ўтварэньня на зьезьдзе 2-х фракцый: соцыял-дэмократычнае „Горы“ і соцыял-дэмократычнае „Жыронды“.

„Гора“ прадстаўляла найбольш сьмелых, пасьлядоўных, нязьмірімых рэволюцыянэраў і „Жыронды“—няўвераных, хістаючыхся—згоднікаў. На баку апошніх былі Іскраўцы меншасьці асяродку й анты-іскраўцы—прадстаўнікі організацый „Рабочего Дела“ і „Бунд“,—па трапнаму азначаньню Леніна: маленькія, сярэднія і вялікія опортуністыя.

У сваёй стацьці: „Шаг вперед, два назад“ У. І. Ленін даў наступную характарыстыку соцыял-дэмократу — рэволюцыянэру, прадстаўніку соц.-дэмократычнае „Горы“ і хістаючамуся згодніку-опортуністаму соц.-дэмократычнай „Жыронды“: „Якобінец неразрыўна зьвязаны з організацыяй пролетарыяту, ведаючага свае клясавыя інтарэсы, гэта і ёсьць рэволюцыйны соцыял-дэмократ. Жырондысты, які размаўляе аб профэсарох, гімназыст, які баіцца дыктатуры пролетарыяту, які ўздыхае па абсолютнай каштоўнасьці дэмократычных патрабаваньняў—гэта і ёсьць опортуністы“.

Пляханаў і Ленін былі гарачымі прыхільнікамі соцыял-дэмократычнае „горы“, гардзіліся назвай „якобінец“.

На зьезьдзе яны прадстаўлялі адны погляды, займаючы крайнюю левую позыцыю.

Трэба заўважыць, што Пляханаў за 3 гады да зьезду ў сваёй стацьці „На парозе 20-га стагодзьдзя“, зьмешчанай у Іскры, гэтую барацьбу, якая прывяла да ўтварэньня 2-х партый „Горы“ і „Жыронды“ цалком прадсказаў; аналёгічна і думка Леніна па гэтаму пытаньню, які лічыў, што організацыйныя і ідэёвыя расходзіны ў шэрагах адзінай соцыял-дэмократычнай партыі ў пэрыод клясавае барацьбы прывядуць да грамадзянскае вайны ўнутры соцыялізму.

У асяродку ўвагі 2-га зьезду стаялі наступныя пытаньні: аб статуце і програме РС-ДРП, аб адносінах да лібэралаў і інш.

Дыскусія аб першым параграфе статуту партыі выявіла прынцыповыя расходзіны па пытаньню аб сяброўстве ў партыі.

Адны — прадстаўнікі соцыял-дэмократычнай „Жыронды лічылі“, што РС-ДРП павінна быць шырокай партыяй, якая ўцягвае ў свае шэрагі ўсе опозыцыйна-настроеныя да самадзяржаўя і спачуваючыя соцыял-дэмократы масы народу.

Другія—прадстаўнікі соцыял-дэмократычнай „Горы“, лічылі, што партыя павінна ўключаць у сябе толькі актыўных, спаяных, добра організаваных, „не балбочучых, а працуючых“ барацьбітоў-рэволюцыянэраў.

Рэдакцыя першага параграфу статуту партыі, прапанованая Леніным, была: „сябрам партыі лічыцца ўсякі, хто прызнае яе програму і падтрымлівае партыю як матар'яльнымі сродкамі, так і ўласным удзелам ў аднэй з партыйных організацый“.

Рэдакцыя Мартава: „сябрам РС-ДРП лічыцца ўсякі, хто прызнае яе програму, падтрымлівае партыю матар'яльнымі сродкамі і аказвае ёй рэгулярную ўласную дапамогу пад кіраўніцтвам аднэй з яе організацый“.

Пляханаў цалком падтрымліваў прапанову Леніна, „Проэкт Леніна можа служыць аплотам супроць іх (опортуністых. М. Ш.) уваходу ў партыю, і ўжо дзеля гэтага за яго павінны галасаваць усе супраціўнікі опортунізму“[1]). Так казаў Пляханаў. Такую-ж згоднасьць з Леніным ён выявіў і пры абмяркаваньні шэрагу іншых пытаньняў: тактыкі, організацыі і інш.

[1]) Пратаколы 2-га зьезду РС-ДРП. стар. 245.

Па пытаньню аб програме РС-ДРП былі падрыхтаваны два проэкты програмы партыі: першы ў рэдакцыі Пляханава і другі ў рэдакцыі Леніна. Розьніца ў гэтых двух проэктах была ў тым, што проэкт Леніна характарызаваў тэндэнцыі капіталізму і клясавую барацьбу пролетарыяту з большай катэгорычнасьцю й выразнасьцю, а таксама ў тым, што Ленін аддаваў больш увагі разьвіцьцю капіталізму і барацьбе пролетарыяту ўва ўмовах рускае сапраўднасьці, прапанаваў пачынаць програму з характарыстыкі капіталістычнае будовы ў Расіі. Пляханаў-жа пачынаў выклад програмы з агульнай характарыстыкі каптіалізму.

Проэкт Пляханава яшчэ таму не здавальняў Леніна, што „гэты проэкт дае не програму пролетарыяту, які змагаецца супроць вельмі рэчавістых патрабаваньняў вельмі азначанага капіталізму, а програму экономічнага падручніка, які прысьвечан капіталізму наогул“[1]).

Але ўсе разнагалосьсі Пляханава з Ленінын у програмным пытаньні датычацца, галоўным чынам, тэорытычнай часьці праграмы. У практычнай-жа яе часьці програмы—мінімум, значных расходзін між Пляханавым і Ленінын ня было і папер, якія сьведчаць аб гэтых расходзінах, у архіве Уладзіміра Ільліча не знайшлі.

Калі, некалькі відазьменены і спраўлены, проэкт програмы Пляханава быў, у канцы, прыняты большасьцю рэдакцыі „Іскры“, і Ленін атрымаў дазвол крытыкаваць гэты проэкт у друку, да 2-га зьезду ён, як відаць у інтарэсах працоўнага руху і супрацоўніцтва з Пляханавым супроць экономістых і рознага выгляду опортуністых, утрымаўся ад выступленьня.

Тут трэба заўважыць, што тэорытычная частка програмы, прынятае 2-ім зьездам РС-ДРП, аўторам якое быў, галоўным чынам, Пляханаў, па настайваньню Леніна камісіяй па выпрацоўцы програмы Расійскай Компартыі (бальшавікоў) была ўключана ў цяперашнюю програму РКП(б).

Прапанованая програмнай камісіяй 2-му зьезду програма партыі ў рэдакцыі Пляханава атрымала значную крытыку ня толькі з боку „маленькіх, сярэдніх і вялікіх опортуністых“, ня толькі ў часе яго абгаворваньня на зьезьдзе, але і ў самай програмнай камісіі, старшынёю якое быў Пляханаў. Апошняму прышлося мобілізаваць усе свае сілы, веды і аўторытэт, каб паралізаваць выступленьні сваіх супраціўнікаў. Т. Л. Д. Троцкі так малюе Пляханава ў момант дыскусіі па програмнаму пытаньню: „толькі адзін раз мне прышлося бачыць і чуць Пляханава ўва ўсёй сіле і ўва ўсёй славе яго: гэта было ў програмнай камісіі 2-га зьезду партыі (у ліпені 1903 г. у Лёндане). У спрэчках у камісіі Пляханаў быў неперамальным і... бязьлітасным. Па кожнаму паднімаўшамуся пытаньню ён бяз усякае патугі мобілізаваў усю сваю выдатную эрудыцыю і прымушаў слухачоў і самых супярэчнікаў пераконвацца ў тым, што пытаньне толькі пачынаецца там, дзе аўторы папраўкі думалі закончыць яго. З яснай, навукова адшліфованай концэпцыяй програмы ў галаве, уверany ў сабе, у сваіх ведах, у сваёй сіле, з вясёлым высьмешлівым аганьком у вачох, з калючымі і таксама вясёлымі вусамі, з крыху тэатральнымі, але жывымі й выразнымі мігамі, Пляханаў, які сядзеў старшынёю, асьвятляў сабою ўсю шматлікавую сэкцыю, як жывы фэйерверк вучонасьці й дасьціпнасьці. Адсьвет яго ўспыхваў абажаньнем на ўсіх тварах, і нават на тварах супярэчнікаў, дзе захапленьне змагалася з замяшаньнем“[2]).

Ня менш востра стаяла на зьезьдзе пытаньне аб адносінах да лібэралаў. Да таго часу лібэральны рух ужо аформіўся і здабыў сілу, якая процістаўляла сябе ня толькі самадзяржаўю, але й соцыял-дэмократычнаму руху.

---

[1]) Ленінскі зборнік. № 2 Увядзеньне, стар. 13.
[2]) „Пад сьцягам марксызму“ 1922 г. № 5—6, стар. 8—9.

Роля і значэньне лібэральнага руху 1895-1900-х г.г. і 1902-1903 г. г. зьмянілася. Трэба было адпаведна зьмяніць і адносіны да іх і партыі працоўнае клясы.

У той час, калі частка дэлегатаў зьезду ў галаве з Мартавым, Патрэсавым, Аксяльродам і Троцкім лічылі, што магчымасьць супрацоўніцтва з лібэраламі ў соцыял дэмократыі ня выключана пры ўмове здаваленьня лібэраламі патрабаваньня весьці барацьбу за агульнае выбарчае права, Пляханаў і Ленін лічылі, што соц.-дэм. працоўная партыя павінна падтрымліваць лібэральны рух пастолькі, паскольні ён, як і ўсякі рэволюцыйны, альбо опозыцыйны рух вядзе барацьбу з царскім дэспотызмам, але разам з гэтым РС-ДРП павінна паказаць працоўным масам вузкасьць і нездавальняючасьць тых межаў вызваленцкага руху лібэральнае буржуазіі, у якія яна ўкладваецца.

Унесеная Пляханавым і падтрыманая Леніным резолюцыя па гэтаму пытаньню таксама асуджала антырэволюцыйны і антыпролетарскі харак- тар цячэньня, якое разьвівалася Струвэ ў яго органе „Вызваленьне“.

Але разнагалосьсі па гэтаму пытаньню былі вялікія і сутнасьць яго самога для большасьці дэлегатаў была ня ясна, то зьезд нашоў магчымым прыняць абедзьве рэзолюцыі, прызнаючы, што яны не супярэчаць, а дапаўняюць адна другую.

Вынікам выбэраў было выбраньне Пляханава ў савет РС-ДРП—старшынёю савету, а таксама сумесна з Леніным рэдактарам цэнтральнага органу партыі—„Іскры“.

Аднак, на гэты раз супрацоўніцтва Пляханава з Леніным было ня доўгім. Скора між імі ўтварыліся рознагалосьсі, якія датыкаліся пытаньня аб запрашэньні для працы ў „Іскру“ баставаўшых гэнэралаў—Мартава, Аксяльрода, Патрэсава, Мартынава й інш.

Каб скончыць з „усеагульнай стачкай гэнэралаў“, Пляханаў прапанаваў Леніну вярнуць іх у рэдакцыю, лічучы, што шляхам уступкі стачцы, і сумесным супрацоўніцтвам з імі, ён, будучы і ў меншасьці, зможа зрабіць на іх уплыў і ў процэсе сумеснай працы пазбавіцца зьявіўшыхся ў іх на зьезьдзе опортуністычных ухілаў. Але Ленін быў нязгодны. Ён лічыў прапанову Пляханава не абаснованай і ня мог згодзіцца з ёю, у выніку чаго яму прышлося пакінуць рэдакцыю. Гэта было 1 лістапада 1903 году і тады-ж Пляханаў „аднагалосна“ кооптыраваў ў яе склад 4-х быўшых рэдактароў.

Скора выявілася, што Пляханаў ня зможа ўтрымаць новых рэдактароў ад ухілаў управа і зрабіць уплыву на іх. Яшчэ праз некаторы час ён зусім зьмірыўся са сваім становішчам, перарабіўшыся з бальшавіка ў меншавіка.

Пляханаў, як відаць, думаў, што патугамі нязначнае меншасьці ўсё-ж можна будзе знайсьці пункты згоды бальшавікоў з меншавікамі і зьмірыць гэтыя цячэньні ў аднэй соцыял-дэмократычнай партыі; але яго імкненьням не спачуваў цьвёрдакаменны нязьмірны ідэолёг бальшавізму—т. Ленін, і ён рашыў зьдзейсьніць іх цаною адстаўленьня Леніна з рэдакцыі „Іскры“, бо думаць, што Пляханаў 3 м-цы да гэтага на 2-м зьезьдзе з нязрушнай упартасьцю абараняўшы позыцыі бальшавізму, а цяпер здрадзіў ім, было-б няверна.

Адказваючы некаторым дэлегатам 2-га зьезду на імкненьні аддзяліць яго позыцыю ад позыцыі Леніна, Пляханаў, між іншым, сказаў наступнае: „У Напаляёна была палкасьць—разводзіць сваіх маршалаў з іх жонкамі; некаторыя ўступалі яму, хаця й любілі сваіх жонак. Але я выяўлю больш характару, чым Напаляёнаўскія жонкі—я ня буду разводзіцца з

Леніным і думаю, што й ён са мною ня будзе". (Справаздача ў гэтым месцы адмячае: „т. Ленін, сьмяючыся, адмоўнаківае галавою"[1]). Аднак, праз тры месяцы пасьля гэтага „развод" адбыўся.

Ці помніў Пляханаў свае словы, як ён рваў з Леніным, ці забыў іх зусім—для нас ня вельмі цікава, але што яны да некаторай меры могуць быць паказальнікам таго, што ў 1903 годзе вельмі самаўпэўнена дзейнічаючы Пляханаў не разьдзяляў позыцыі меншавізму, хацеў узяць у рукі „баставаўшых гэнэралаў" і парымыць бальшавіцкае цячэньне соцыял-дэмократыі з меншавіцкім—таксама не падлягае сумненьню. Калі да гэтага дадаць яшчэ, што ўва ўсіх выступленьнях Пляханава ў пэрыод 1904—1905 г. г., як напрыклад, у стацьцях: „працоўная кляса і соцыял-дэмократычная інтэлігэнцыя"—адказ Леніну на „Што рабіць", „Цэнтралізм і бонапартызм" і інш. адчувалася нейкая няўпэўненасьць, няцьвёрдасьць яго рукі—то вышэйпаданыя меркаваньні стануць тым больш не пазбаўленымі асноваў.

Вядома, повадаў для прамых даказнасьцяй таго, што Пляханаў у гэты пэрыод толькі надворна згаджаўся з меншавікамі і зразумеў сваю абмылку ў запрашаньні меншавіцкіх дзеячоў у цэнтральныя органы партыі ў нас няма; але хістаньні Пляханава ў гэтыя гады ў выбары тактыкі былі відны хаця-б па яго выступленьням, калі параўнаць яго багатыя оргумэнтацыяй, упэўненасьцю і цьвёрдасьцю выступленьні да разрыву і блядыя, унутрана-няўпэўненыя—пасьля разрыву з Леніным[2]).

Такім чынам, акрамя таго, што цэнтральныя органы партыі разам з Пляханавым былі ў руках меншавікоў, увесь аўторытэт партыі ў цэлым быў на баку Пляханава, Мартава й іншых дзеячоў меншавізму, якія карысталіся, параўнана з маладым яшчэ тады Леніным, вялікай папулярнасьцю і давер'ем партыйных мас.

Пры такой абстаноўцы амаль што аднаму Леніну вельмі цяжка было працаваць, тым больш, што Пляханаў сваім аўторытэтам хацеў усіх перацягнуць на свой бок.

Зіноўеў так апісвае сваю, скарэй запугваючую, размову ў той час з Пляханавым: „за кім вы ідзеце,—казаў Пляханаў.—Вы палічэце толькі, хто на нашым баку: Я (Пляханаў), Мартаў, Засуліч, Аксяльрод і інш., а ў вас там толькі адзін Ленін. Справа ў канцы-канцоў будзе так, што праз некалькі месяцаў вераб'і будуць смяяцца з Леніна"[3]).

Але сьмяяцца ня прышлося. Хутка згрупаваўшайся наўкол Леніна „большасьцю", пры дапамозе організацыі спачуваючых бальшавізму, быў палажан пачатак цэнтральнаму бальшавіцкаму аб'яднаньню „Бюро камітэтаў большасьці", якое ў 1905 годзе аснавала свой друкаваны орган „Упярод", які вышаў з пропагандай ідэй бальшавізму ў масах, на барацьбу з меншавізмам.

Між тым падыходзіла прэдрэволюцыйная эпоха з барацьбой партыі за масу, за армію насоўваючаеся грамадзянскае вайны; гэта быў момант, калі абстаноўка не патрабуе многа гаворак, а патрабуе пакрываць вуліцы барыкадамі, пераходзіць на мову гвалту, кулямётаў і вінтовак.

---

[1]) Пратаколы 2-га зьезду. Стар. 133.

[2]) Тут-жа заўважым, што, па словам т. Лепяшынскага (на павароце), т. Ленін у гэты час у гутарцы з адным з сваіх т.т. сказаў: „Пляханаў сапраўды чалавек волатавага росту, перад якім прыходзіцца часам зьёжвацца... Але ўсётакі мне здаецца, што ён ужо мярцьвяк, а я жывы чалавек".

Але гэта паведамленьне не знаходзіць падкрэсьліваньня ў Н. Крупскае. У сваёй стацьці аб Уладзіміры Ільлічу (Правда № 81. 1924) яна зьняпраўджвае словы Лепяшынскага, лічачы іх не праўдападобнымі. „Гэтага ня можа быць. Быў, мусіць, іншы адцень, якога П. Н. (Лепяшынскі) не ўлавіў. Ніколі Ул. Іл. ня процістаўляў сябе Пляханаву".

[3]) Зіноўеў. „Гісторыя РКП", стар. 115. Дзяржвыдавецтва. 1923.

У гэты пэрыод Пляханаў па ўсім пытаньням адстайваў позыцыі меншавізму, якія хутка прывялі яго да поўнага адмаўленьня ад удзелу ў працы як у бальшавікоў, так і ў меншавікоў. Яны прымусілі яго злажыць з сябе абавязкі старшыні, выйці з рэдакцыі „Іскры“ і соц.-дэмократычных організацый партыі.

Гэта адбылося ў маі 1905 году, калі пасьля вострай барацьбы бальшавікоў з меншавікамі, у канцы, была склікана агульна-руская конфэрэнцыя партыйных працаўнікоў (меншавікоў) і 3-ці зьезд РС-ДРП (бал-коў).

Ня глядзячы на катэгорычныя протэсты Пляханава, меншавіцкая конфэрэнцыя зацьвердзіла распад партыі на дзьве часткі, у выніку чаго Пляханаў вышаў з абедзьвюх фракцый і быў так да сярэдзіны 1906 году, аснаваўшы сваю трыбуну—„Дняўнік с.-д. Пляханава“.

3-ці зьезд РС-ДРП, які адбываўся ў пэрыод заціхша перад бурай—першай рускай рэволюцыяй, даў яе програму і тактыку партыі. Як сама програма рэволюцыі, так і тактыка ў ёй партыі атрымалі вялікую крытыку з боку меншавікоў.

Цэнтральнымі пытаньнямі, па якім выявіліся рознагалосьсі, былі: 1) пытаньне аб часовай рэволюцыйнай уладзе; 2) аб усеагульнай забастоўцы; 3) аб узброеным паўстаньні—зброі рабочым; 4) пытаньне аб удзеле ў Думе і шмат іншых.

Выдатны аналіз гэтых пытаньняў 3-м зьездам партыі пад кіраўніцтвам Леніна, які падцьвердзіўся на ходзе далейшых здарэньняў, паслужыў паказальнікам праваты занятае ім позыцыі.

„Расьце чалавек з ростам яго мэты“, адказваючае запытаньням часу. Як нельга лепш гэтыя мэты былі зразумелы не Пляханаву ўжо, а Леніну, політычны рост якога азначыўся даволі выразна й ярка У прэдрэволюцыйную паласу ён быў лепшым выразьнікам гэтых мэтаў, а не Пляханаў і яго, адбіваючага ход клясавае барацьбы ў Расіі, гісторыя надзяліла імем правадыра, а не Пляханава. Ён ішоў на убыль, і калі пасьля рэволюцыі 1905 году ён сказаў: „ня трэба было брацца за аружжа“, то ён больш быў падобны не на правадыра, які будуе на паражэньні пабеду, а больш на політычнага дзеяча, пісьменьніка, вучонага.

Адносна гэтага знамянітага выразу Пляханава, Ленін пісаў: „няма нічога больш блізказрокавага, як падхоплены ўсімі... погляд Пляханава... што „ня трэба было брацца за аружжа“. Наадварот, трэба было больш рашуча, энэргічней і наступальней брацца за аружжа“. І сапраўды, трагізм: калі Парыская Комуна 1871 г. была разьбіта, К. Маркс напісаў увекавечыўшую парыскіх комунараў кніжку: „Грамадзянская вайна ў Францыі“, а калі таксама скончылася руская рэволюцыя, правадыр перадавога авангарду працоўнае клясы—расійскае соц.-дэмократыі—Пляханаў кінуў пужлівы, пугаючы, бяздушны выраз: „ня трэба было брацца за аружжа“.

Ленін зрабіў ня так. У цемную пору рэакцыі прасьледваемы пытаньнямі: ці назаўсёды разьбіта рэволюцыя, чым растлумачыць яе няўдачы, ці добра вырашана сялянскае пытаньне, ён, забраўшыся ў глухую Фінляндзкую вёску, вывучае рух сялян у 1905—1906 годзе і выводзіць, што сялянства, аправіўшыся, з большай энэргіяй і сілай начне змагацца за зямлю і політычныя правы.

Скора зразумелая як меншавіком, так і бальшавіком задача аб'яднаць і ўмацаваць перадавыя шэрагі партыі падрыхтавала грунт для скліканьня 4-га так званага аб'яднаўчага зьезду РС-ДРП, які адбыўся ў красавіку 1906 г. у Стокгольме.

Тут Пляханаў і Ленін на працягу ўсяго зьезду па найбольш важным пытаньням выступалі як супраціўнікі. Найбольш рэзкае выступленьне гэтых двух дзеячоў—прадстаўнікоў меншавізму й бальшавізму, адбылося па аграрнаму пытаньню.

Аграрная програма, прапанованая Леніным, была ім ужо ў асноўных рысах зьмешчана стацьцямі ў „Іскры“ ў пачатку 1902 году.

Гэтыя стацьці і проэкт аграрнай рэформы Леніна ў той час прывялі да ўзьнікшага між ім і Пляханавым конфлікту, які пасьля абмену лістамі і дзякуючы іншым сябром рэдакцыі быў ліквідаваны, месцы-ж спрэчныя програмы былі выкінуты.

Пасьля, параўнаўча, нядоўгага абгаворваньня прапанованай Леніным програмы, якая вандравала па руках сарэдактараў каля 4-х месяцаў, да яе дабавілася каля сотні розных заметак, паправак, дапаўненьяў, адказаў на тыя ці іншыя прапановы сарэдактараў „Іскры“ і самога Леніна. Пры гэтым папраўкі Пляханава былі напісаны нядбайна, тонам безапеляцыйнага нездаваленьня зьместам рукапісу—„моему праву не препятствуй“.

„Аўтор заметак (Пляханаў),—піша Ленін,—напамінае мне таго фурмана, які думае, што каб добра кіраваць канём, трэба часьцей і мацней яго тузаць. Я, зразумела, ня больш „каня“, аднаго з коняй пры фурману Пляханаве, але здараецца, што самы затузаны конь скідае ўзяўшага праз меру фурмана“[1]).

Конфлікт пагражаў сур'ёзнымі вынікамі. 14 мая 1902 году Ленін напісаў Пляханаву ліст, які павінен быў даць повад поўнага разрыву паміж Пляханавым і Леніным. Тон ліста цалком адпавядаў тону заметак на рукапісу і сваёю рэзкасьцю паказваў, што Ленін позыцый не здае.

Вось адрывак з гэтага ліста:

„Добрыя ў Вас разуменьні аб такце ў адносінах да колегаў па рэдакцыі Вы нават не саромеецеся ў выбары самых грэблівых выраз... Хацеў бы ведаць, што Вы скажаце, калі-б я такім-жа чынам адказаў на Вашу стацьцю аб програме? Калі Вы паставілі сабе мэтай зрабіць немагчымай нашу агульную працу, то выбраным шляхам Вы вельмі хутка дойдзеце да мэты. Што-ж датычыцца нашых адносін не па справах, а прыватных, то іх Вы ўжо канчаткова скепсьцілі, правільней—дабіліся іх поўнага спыненьня“[2]).

На гэты ліст Пляханаў даў Леніну адказ, які ўжо зьмягчае сваё нездаваленьне, відавочна, пад уплывам іншых сяброў рэдакцыі і разуменьня згубнасьці для агульнае справы партыі гэтага конфлікту. Ва ўсякім выпадку зьмест і тон ліста Пляханава прызнае ўзаемную абмылку, якую зрабілі ў спрэчках па гэтаму пытаньню і адмаўляе прысутнасьць намернага нездаваленьня і ўмысных крыўдаў з яго боку да Леніна. Пляханаў піша:

„Вы здарма на мяне сердзіцеся. Пакрыўдзіць Вас я не хацеў. Мы абодва крыху зарваліся, спрачаючыся аб програме, вось і ўсё. Калі-небудзь, калі мы ўгледзімся з Вамі, мы пагаворым з вока на вока, „па душы“... і тады... Вы самі ўгледзіце, што ў мяне таксама быў некаторы грунт лічыць сябе пакрыўджаным. Паверце аднаму: я глыбока паважаю Вас і думаю, што на 75% мы з Вамі бліжэй адзін да другога, чым да астатніх сяброў колегіі... яшчэ раз, не сярдзецеся на мяне, а калі хочаце, каб я Вам даў якое-небудзь здаваленьне—напішэце мне, я зраблю ўсё, што магу, каб не раздражняць таварыша... якога я... паважаю ад усяе душы“[3]).

Скарэй можна таксама дапусьціць, што Пляханаў зразумеў некаторыя зробленыя ім абмылкі, у выніку чаго і зьвіўся такі выбачальны тон яго ліста. Ён палажыў канец конфлікту між Пляханавым і Леніным. „Вялікі камень зваліўся ў мяне з плеч, калі я атрымаў Ваш ліст, які палажыў канец думкам аб „дамавой вайне“, пісаў У. І. Пляханаву ў адказ на яго ліст.

---

1) Ленінскі зборнік III., стар. 395.
2) „ „ „ „ 422.
3) „ „ „ „ 430.

Але гэта было толькі пачаткам разгалосьсяў па аграрнаму пытаньню, якія цалком выявіліся на стокгольмскім зьезьдзе партыі.

Ленін стаяў за нацыяналізацыю, Маслаў і Пляханаў—за муніцыпалізацыю, лічачы проэкт Леніна рэакцыйным і згубным для рэволюцыі ўва ўмовах яшчэ не аформіўшагася палітычнага росту і сьвядомасьці сялянства, складаючага часта рэакцыйны элемэнт.

На гэтым-жа зьезьдзе Пляханаў стаяў за скарыстаньне Дзярж. Думы і прыняцьця ў ёй удзелу. Ленін-жа выступаў супроць, лічачы, што Дума, не зьяўляючыся народным прадстаўніцтвам, будзе толькі нараджаць конституцыйныя ілюзіі, і ўдзел у ёй соц.-дэмократаў будзе шкодным для працоўнага руху.

Такую-ж згоднасьць з меншавіцкімі поглядамі Пляханаў выявіў і ў пытаньні аб узброеным паўстаньні, лічачы, што барацьба пролетарыяту за ўладу будзе мець посьпех пры ўмове падтрымліваньня яго барацьбы сялянствам і гарадзкой буржуазіяй.

Пасьля зьезду РС-ДРП увайшла ў паласу ясных умоў рэволюцыйнай працы. Пакрывала рэакцыі дало магчымасьць варожым ёй палітычным групоўкам і ідэолёгічна чужым элемэнтам адчыніць паход супроць укараняючыхся ў масу асноў марксызму. Лібэралы накіроўваюць сваю ўвагу на абарону „вялікіх“ дзеяньняў Сталыпіна і іжэ з ім. У гэтай гнілой атмосфэры чуцен толькі адзін голас нязьмірымага „сэктанта“—Леніна, які выключыў сябе з сяброў „парадачнае“ грамады, заклікам да новае рэволюцыі, незаслужанымі „нападкамі“ на выканаўцаў лёсу міліённага народу—„сьвяціл“ рускае грамадзкасьці.

У гэтай раскладаючай шэрагі соц.-дэмократыі абстаноўцы нарадзілася цячэньне, накіраванае да ліквідацыі нелягальнае партыі—„ліквідатарства“. Яно было ацэнена Пляханавым, як згубны для соцыял-дэмократыі і небясьпечны для працоўнага руху напрамак у партыі. Ён, уступаючы на парог шостага дзесятку гадоў свайго жыцьця, яшчэ раз „тряхнул сединой“—падтрымаў бальшавізм у шэрагу выступленьняў, стаўшы на старасьці гадоў, як тады казалі, „сьпявуном падпольля“.

Ідэю нелягальнага існаваньня партыі ён абараняў яшчэ ў сваім „Днеўніку соц.-дэм.“, дзе выступаў на абарону рэволюцыйнага падпольля. „Прыяцелі пазнаюцца ў горы“; такім-жа прыяцелем бальшавікоў, рэволюцыянэрам-барацьбітом ён стаў у самую цёмную пору рэакцыі, але супрацоўніцтва яго з Леніным было нядоўгім. Хутка надышла імпэрыялістычная вайна, і шляхі Пляханава й Леніна назаўсёды сталі рознымі. Гэта была апошняя сустрэча, заключны акорд усяе іх сумеснае працы. Цяпер ужо яны разыходзіліся дзеля таго, каб ужо ніколі ня сустрэцца больш.

VI

Вайною быў паложан пачатак „трагізму“ Пляханава, прызначанай абмылцы яго геніяльнага розуму, паношанага ў саракагадовай барацьбе, які цяпер заблытаўся ў супярэчнасьцях капіталістычнай сыстэмы, розуму, які адступае перад дыялектыкай жыцьця.

Вайна захапіла Пляханава ў Лёндане, але хутка ён апыніўся ў асяродку соцыял-патрыотыцкага ўгару—Парыжы, у коле Гэда і іншых дзеячоў II-га Інтэрнацыяналу, якія чакалі ў Парыжы Міжнароднага Конгрэсу. Гэты варунак зрабіў значны ўплыў на позыцыю Пляханава. Некаторае прадстаўленьне мы маем аб ёй з яго дакладу, прачытанага ўвосень 1914 году ў Лазане, дзе супярэчнікам выступаў т. Ленін.

З усіх выступленьняў Леніна супроць Пляханава гэта было самае цяжкае; точная позыцыя Пляханава яшчэ не ўстанавілася, для Уладзіміра Ільліча гэта позыцыя была ўжо азначана—ён выступаў рашуча супроць вайны.

Рыхтуючыся да выступленьня супроць Пляханава на мітынгу ў Лазане, Ільліч быў вельмі неспакойны. „Няўжо ён не зразумее?“ казаў Ленін. Але Пляханаў так і не зразумеў. Ён быў зачэплен шовіністычным угарам, абхапіўшым шэрагі соц.-дэм. усіх краёў.

Сьпічак крытыкі Пляханава накіроўваўся, галоўным чынам, у бок нямецкіх сацыял-дэмакратаў, „якія ня споўнілі свайго абавязку, ня гледзячы на прызнаньне Гаазэ, што цяперашняя вайна выклікана Нямеччынай, якая піхала Аўстрыю на конфлікт з Сербіяй“.

Для Пляханава, зразумела, быў цалком відавочан той шовінізм, які абхапіў соц.-дэм. правадыроў, але яго прычыну ён угледжвае ўва ўрачыстасьці опортунізму, у большай меры абумоўленага абыходжаньнем нямецкае соц.-дэмократыі—„усё абыходжаньне нямецкае соц.-дэмократыі—гэта цалком урачыстасьць опортунізму“.

Ён імкнецца апраўдаць абарончаскую політыку Францыі, Расіі й Англіі, і ўсю віну за вынікі вайны ўскласьці на Аўстрыю, Нямеччыну.

Ленін, згаджаючыся з крытыкай позыцыі, занятае нямецкімі соц.-дэмократамі, асуджваў тэндэнцыю Пляханава апраўдаць францускіх с.-дэмократаў. „У абыходжаньні французаў было больш шовінізму, чым соцыялізму“. (Ленін).

Уладзімір Ільліч паказваў, што самы падзел імпэрыялістычных дзяржаў, накіроўваючых сваю політыку да захопнічаскіх войнаў, на дзьве катэгорыі, абараняючыхся і нападаючых—няправільны, што пачатая вайна—не выпадковасьць, якая залежыць ад нападу аднае дзяржавы на другую, а што яе падрыхтаваў папярэдні ход разьвіцьця капіталістычнае грамады, і задача с.-д. ня плыць з агульным цячэньнем соц.-шовінізму, а перавярнуць вайну ў рашучую барацьбу пролетарыяту з пануючымі клясамі.

У адказным слове Пляханаў паказвае, што „ведама, кожны павінен раней усяго змагацца з шовінізмам свайго краю, але ў выпадку абвяшчэньня вайны трэба вырашыць, хто нападае і са ўсёю сілай напасьці на віноўнага“. Відавочна, што аргумэнт Пляханава, яго асноўнай абмылкай у пытаньні аб вайне было хібнае ўяўленьне аб праве абароны таго ці іншага абараняючагася краю ад нападаў. Ён робіць падобнай гэту абарону цалком зразумелай і натуральнай абароне эксплёатуемага ад эксплёататара.

Пляханаў кажа, што „вайна выклікана ўладалюбівымі кіраўнікамі Аўстра-Нямеччыны і карысналюбівымі імкненьнямі аўстра-нямецкіх імпэрыялістых“; але калі гэта правільна па самой прыродзе і сутнасьці капіталістых, то нельга падзяляць іх на нападаючых і абараняючыхся, бо ўсе папярэднія ўмовы і супярэчнасьці павінны былі мець вынік—драпежніцкія імпэрыялістычныя ўзбуджэньні, якія прывялі да вайны.

Так паступова складваўся ў Пляханава пасьлядоўны рускі патрыотызм, і ўжо ў кастрычніку 1914 г. ён пісаў:

> „Ня ў імя свабоды абвясьціла Нямеччына вайну! Не, т.т., яна вядзе яе за экономічнае панаваньне. Яна імкнецца правесьці ў жыцьцё азначаную імпэрыялістычную програму. Што-ж датычыцца мае родзіны, то, пераможаная Нямеччынай, яна стане яе экономічным даньнікам. Нямеччына паставіць Расію ў такія цяжкія ўмовы, што надзвычайна ўтрудніць яе будучае экономічнае разьвіцьцё, а як экономічная эволюцыя зьяўляецца грунтам эволюцыі соцыяльнай і політычнай, то Расія, у выпадку перамогі над ёю, згубіць усякую, альбо амаль што ўсякую магчымасьць палажыць канец царызму“[1]).

Што-ж датычыцца пытаньня аб ходзе барацьбы самога пролетарыяту за сваё вызваленьне, яе формаў і мэтодаў у гэты пэрыод, Пляханаў ня зьнімае гэтага пытаньня з павесткі дню барацьбы працоўнае клясы. Ён

[1]) Ваганян. Пляханаў, стар. 672. („Голос“ № 37. 1924 г.—ліст Пляханава).

толькі лічыць, што сама клясавая барацьба пролетарыяту часова павінна прыняць іншы выгляд—барацьбы супроць заваёўчай політыкі замежных дзяржаў. Гэтай барацьбе пролетарыят павінен ня толькі аддаць свае сілы, ахвяраваць сваё жыцьцё, але весьці яе больш рашучай і энэргічней, каб зрабіць уплыў на яе вынікі на карысьць абараняючагася боку. Па Пляханаву вайна для краёў: Расіі, Англіі, Францыі, Бэльгіі, Сэрбіі зьяўляецца абарончай, для Нямеччыны, Аўстрыі, Баўгарыі, Турцыі—імпэрыялістычнай.

Ленін-жа лічыў, што для мэтаў рэволюцыі перамога над царскай монархіяй і яе арміяй, якая нясе нацыянальны ўціск меншасьцям Польшчы, Украіны і Беларусі, умацненьне рэакцыі і абсолютнага рэжыму—зьявілася-б карысным фактам для рэволюцыі. Словы Уладзіміра Ільліча аб тым, што задача сучаснага моманту—перавярнуць вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую, што далей, то больш прыбліжаліся да мэты.

Надышла мартаўская рэволюцыя. Пляханаў і Ленін прыехалі ў Расію ня разам, ня як аднадумцы, а як політычныя ворагі. Пляханаў і тут абараняў вайну да пабеднага канца, супраціўляючыся лёзунгу згоды „без анэксій і контрыбуцый“, абвяшчаючы красавікоўскія тэзісы Леніна „брэдам“, паказваючы, што Расія знаходзіцца ў такой стадыі свайго гісторычнага разьвіцьця, калі яна пакутуе ня столькі ад разьвіцьця капіталізму, колькі ад яго недахватку.

Пасьлядоўны Пляханаў ня мірыцца з „паў-Ленінствам“—позыцыяй Чарнова—Цэрэтэлі і інш. Ён пасьлядоўна даводзіць свой шовінізм да канца, ён з большым паважаньнем адносіцца да сваіх пасьлядоўных ворагаў, чым да хістаючыхся супярэчнікаў. „Калі трэба выбіраць між Леніным і „згодалюбцамі“ з „Рабочае газэты“, то я аддам перавагу Леніну, як чалавеку больш сьмеламу і пасьлядоўнаму“.

22-га кастрычніка 1917 году, калі пабеда бальшавікоў была відавочнай, ён пісаў: „Дзень“ кажа, што пераможа дурань. Гэта няверна. Пераможа Ленін. А Ленін—зусім ня дурань. Ён сваю справу ведае“.

Пасьля пабеды кастрычнікавае рэволюцыі Пляханаў ня стаў у шэрагі тых, якія заклікалі да новае барацьбы—з Савецкай уладай. Але ён не пашоў і на барыкады дзеля абароны кастрычнікавых заваёваў, хаця цалком разумеў, што бальшавізм зьяўляецца неабходным этапам рускае рэволюцыі, і што мэты, накіраваныя, каб яго скінуць, ня спраўдзяцца. „Я сорок гадоў аддаў пролетарыяту, і я ня буду расстрэльваць яго нават тады, калі ён ідзе па абмылковаму шляху“, заявіў Пляханаў Б. Савінкаву ў адказ на яго прапанову ўзяць на сябе складаньне міністэрства пасьля таго, як арміі Краснова й Керанскага перамогуць бальшавікоў і ўвойдуць у Петраград. Гэта было ў лістападзе 1917 году.

Хвароба Пляханава павялічвалася, а яго волатавы розум ня спыняўся інтэнсыўна працаваць, ён паволі таяў. Ён разумеў, што канец яго жыцьцёвага шляху недалёка. „Пахавайце мяне поруч з Вісарыёнам „Неистовым“. Такая была просьба Пляханава. 30-га мая 1918 году ў трагічным адзіноцтве Юрыя Валянтынавіча Пляханава ня стала.

Працоўныя масы часоў рэволюцыі мала ведалі Пляханава—выхавацеля й настаўніка цэлага марксыцкага пакаленьня, ідэёвага правадыра расійскае соцыял-дэмократыі і барацьбіта за вызваленьне працоўнае клясы.

Сузнаньне таго, што ўсё жыцьцё яго было запоўнена барацьбою і што наўрад цяпер ці прызнае гэтую барацьбу працоўная кляса, шляхі якога пад канец разышліся з яго поглядамі, было пакутным і трагічна-цяжкім для Ю. В. Пляханава.

Выраз яго зхудалага, змардованага твару пасьля паўбрэдавага становішча яго быў на нечым асярэджан і задуменны; таемнасьць сваіх думак у прадсьмяротныя дні ён выдаў моцна сказанымі словамі: „Няхай ня прызнаюць мае дзейнасьці—я ім задам!“

Вялікай уцехай было-б для Пляханава яснае сузнаньне таго, што працоўная кляса прызнала яго працу, ацаніла як трэба яго вялікую спадчыну, пачытае яго памяць, памяць настаўніка рэволюцыянэра, барацьбіта, ваяўнічага матэрыялістага. За труною Пляханава йшлі яго таварышы-саратнікі, прыяцелі, марксыцкая й соцыялістычная інтэлігэнцыя. Яго праважалі 15000 чалавек, але ня йшлі за яго труною організаваныя працоўныя фабрык і заводаў. У дзень пахаваньня Пляханава т. Г. Зіноўеў казаў: „Петраградзкі пролетарыят ня мог ісьці на пахаваньне свайго былога настаўніка... Цяжка было нам зрабіць такую пастанову. Некаторым з нас, у ідэёвым напрамку так многа вінаватым памёршаму, было асабліва цяжка прыняць такую пастанову. Аддзельныя з нас прымусілі сябе паехаць зранку за горад, каб не пайсьці на гэтае пахаваньне".

А. В. Луначарскі казаў, зварочваючыся да працоўных Петраграду: „Забудзем, што было ў Пляханаве слабага, успомнім аб гэтым, як об'ектыўныя гісторыкі і скажам: вечна жыве перад намі той малады Пляханаў, гэроічна-сьветлы правадыр, які ў эпоху барацьбы й пераломy ў настроях рускага народу, у эпоху зьбянтэжанасьці рускае грамады, першы з высокае гары свайго гэнія паказаў на ўсходзячае сонца навуковага соцыялізму і соцыялістычнае рэволюцыі"[1]).

Гэткая дзейнасьць і жыцьцё аднаго з вялікіх настаўнікаў марксызму і асновапаложніка бальшавізму. Яна была пярэрвана ў той момант, калі народжаная ў агні кастрычнікавае рэволюцыі Савецкая Рэспубліка пад кіраўніцтвам Леніна ўступала ў барацьбу працы з капіталам.

Гэні Леніна вывеў яе пераможніцай з усіх боек і настаўшай пасьля іх разрухі. Ён утварыў для барацьбы з сусьветнымі драпежніцкімі імкненьнямі капіталу III Комуністычны Інтэрнацыянал і РКП(б.).

Пад яго кіраўніцтвам край узмацнеў, разьвіў сваю гаспадарку, утрымаў заваёвы—вынік доўгай і ўпартай барацьбы пролетарыяту. І ўжо ўступіўшы ў паласу прызнаньня яе новае сыстэмы капіталістычнымі дзяржавамі, на сёмы год свайго існаваньня яна пазбылася свайго правадыра. Хвароба перарвала дарагое для міліёнаў працоўных і эксплёатуемых народаў жыцьцё... У 1924 годзе Уладзімір Ільліч памёр, але заветы яго нязрушна захоўвае комуністычная партыя і пролетары ўсіх краёў.

Жыцьцё У. І.—гэта барацьба за перамогу рэволюцыі; у ім няма нічога „асабовага". Яно цалком належыць рэволюцыі. У адзнаку ад Пляханава, ён жыў больш зносінамі з масай, больш адчуваў яе запытаньні і імкненьні, лепш яго адгадваў пульс жыцьця, лепш орыентаваўся ва ўмовах працы. А ўмовы працы ў эміграцыі, у пэрыод дзейнасьці Пляханава, былі жахлівыя. „Мы,—кажа Крупская,—такое эміграцыі, як група „Вызьваленьне працы" ня ведалі. Сувязі з Расіяй у пору дзейнасьці Леніна былі значна лепшымі, чым у пору Пляханава. Тады прыезд за-граніцу якога небудзь студэнта быў цэлым здарэньнем, аб якім доўга гаманілі. Ды й даведваньні аб Расіі ў пэрыод працы Леніна былі значна лепшыя, чым у хмарную пору дзейнасьці Пляханава.

Усё гэта, зразумела, не магло не зрабіць уплыву на эволюцыю поглядаў Пляханава, які 40 гадоў правёў у эміграцыі, па-за зносінамі з масай. Дый Пляханаў быў больш тэорэтыкам, політычным дзеячом; Ленін—правадыром.

Сваёю дасьціпнасьцю, вучонасьцю, талентнасьцю Пляханаў зьдзіўляў з ім сустракаючыхся, прыяцеляў, таварышоў і нават ворагаў. Але часта надворны бок у Пляханава: бляск яго прамоваў, тэатральнасьць мігаў, харастве манер, засланяў унутраны бок справы.

[1]) С. Я. Вальфсон. Пляханаў. 1924, стар. 330. 1-ае выд.

Ленін быў прамою процілежнасьцю Пляханаву. Ён заўсёды больш цікавіўся сутнасьцю самое справы, чым яго надворным характарам. Яго выступленьні аднолькавы, у іх няма асобага хараства й прыгожасьці, але яны пераканаўчы, моцны лёгікай, пранізваюць прамову адным пачуцьцём і воляй.

Эстэт і эўропэец, Пляханаў часта глядзеў на Леніна, як на „варвара",—„чорназемную сілу". Ленін-жа прашчаў гэтыя слабасьці Пляханаву, схіляўся перад яго гэніяльнасьцю, розумам, эрудыцыяй.

Пляханаў—вялікі майстар марксыцкай рэволюцыйнай тэорыі. Ленін—выдатны організатар, які злучае ў сабе тэорыю й практыку.

Ня гледзячы на сваю процілежнасьць у характары і нават пераканаьнях, яны цанілі адзін другога і адносіліся адзін да другога з значнай павагай. Уладзімір Ільліч адносіўся да Пляханава з асаблівай любасьцю. Ён палка любіў Пляханава, які сыграў буйную ролю ў яго разьвіцьці. Пляханаў доўгі час, нават у пору тактычных разгалосьсяў з Леніным, быў абкружан для яго орэолам. Ленін болесна перажываў усякія расходзіны з Пляханавым, і пасьля расколу ўважліва прыслухоўваўся к словам Пляханава.

> „Саратнікі Уладзіміра Ільліча ведалі даўно, што нават пасьля аканчальнага разрыву з Пляханавым Уладзімір Ільліч захаваў да яго асаблівае пачуцьцё. „Мы,—кажа Л. Б. Каменеў,—ведалі, што ніколі Уладзімір Ільліч ня ставіў на адну стопень Пляханава з іншымі сваімі супрацьўнікамі, што ён цаніў у ім ня толькі вялікі розум, рэволюцыйны досьлед і вялізныя веды, але й баявы дух, ваяўнічы запал запраўднага марксыстага. Заўсёды і на ўсіх паваротах гісторычнага шляху аж да катастрофічнага жніўня 1914 году,—Уладзімір Ільліч гатоў быў раней усяго палічыцца і пільна паважыць усе аргумэнты Пляханава. „У Пляханаве жыве запраўдны якобінец"—ня раз казаў ён нам, а гэта было ў яго вуснах вышэйшай пахвалой. Ня раз з захапленьнем адзываўся ён аб тых літаратурна-політычных бойках, якія правёў Пляханаў сярод політычных неданоскаў, з якімі па абавязку службы прыходзілася, часам, сустракацца Уладзіміру Ільлічу, ён яўна выдзяляў Пляханава, як байца, які дастойны свайго супрацьўніка"[1]).

Аб гэтым кажа і сам Уладзімір Ільліч у сваім запісу, „Як чуць не патухла „Іскра":

> „Ніколі, ніколі ў маім жыцьці я не адносіўся ні да аднаго чалавека з такою пашанай і павагай, veneration (благагавеньнем), ні перад кім я ня трымаў сябе з такою „пакорай" і ніколі не адчуваў такога грубага „высьпятка"[2]).

Некаторы сьвет пралівае на ўзаемаадносіны гэтых людзей таксама наступны цікавы факт.

Пасьля даволі вострых разгалосьсяў і тэорытычных спрэчак Леніна з Пляханавым у пэрыод 1905-7 г. г. сам Уладзімір Ільліч у 1909 г. высунуў тлумачаньне тактыкі Пляханава ў першай расійскай рэволюцыі, як спробу політычнага манэўру, які лічыў цалкам магчымым зрабіць падлеглым сур'ёзнаму і грунтоўнаму разгляду. І ўжо ў гэту пору (1909-10 г.г) прыяцелі Уладзіміра Ільліча жартліва казалі яму: „А Вы, Уладзімір Ільліч, улюбіліся ў Пляханава", на што Уладзімір Ільліч адказваў жартамі.

Як Пляханаў, так і Ленін былі людзьмі, якімі вымяраюцца эпохі, з якіх пішуць і будуць пісаць томы. Абодва яны былі сапраўднымі выказьні-

[1]) Ленінскі зборнік І. Прадмова Л. Б. Каменеў. Стар. 27.
[2]) Ленінскі зборнік І. Прадмова Л. Б. Каменеў. Стар. 27.

камі вялікіх вынікавых ідэй усяе гісторыі чалавецтва—выказьнікамі імкненьняў пролетарыяту, прызванага да выкананьня свае гісторычнае місіі.

Неяк Ленін сказаў, што нельга стаць цалком сьвядомым комуністым без вывучэньня Пляханава. Можна было-б азначана сказаць, што нельга стаць цалком сьвядомым комуністым, каб ня вывучаць *Пляханава й Леніна*.

У нашы гады працоўныя вывучаюць спадчыну гэтых двух вялікіх мысьліцелей, якія назаўсёды зьвязалі сваі імёны з гісторыяй вызваленцкага руху пролетараў усіх краёў.

Сваімі гэніяльнымі творамі яны ўтварылі сабе помнік нерукатворны.

— К нему не зарастет народная тропа!

---

# НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ.

Г. Дунаеў.

## Дыялектыка ў марксызме.

Дыялектыка—гэта жыцьцё, вечны рух, вечны сусьветны процэс, дзе ўсе формы існаваньня падлягаюць якаснай і колькаснай зьмене.

Як адбываецца гэты рух—мы будзем казаць потым, а цяпер прагледзім; якім чынам з раскіданых дзе-ня-дзе дыялектычных думак філёзофаў 18 і 19 стагодзьдзяў паступова ўтваралася складанае сьветасузіраньне, складаная моністычная філёзофчая сыстэма дыялектычнага матэрыялізму. Францускі матэрыялізм 18 і пачатку 19 стагодзьдзя характарызуецца рацыяналізмам. Вера ў розум, які адчыняў так-як бы вечныя ісьціны, была нязрушна.

Розныя сыстэмы дзяржаўнае будовы гэтыя матэрыялістыя тлумачылі сьвядомай творчасьцю законадаўцаў, розныя рэлігійныя сыстэмы—як вынік хітрасьці жрацоў, на чалавека глядзелі, як на продукт соцыяльнага асяродзьдзя, на грамаду—як на сьвядомы твор чалавечага розуму. У пытыньнях біолёгіі яны не маглі зразумець зьменчывасьці, якая так-як бы не хацела мірыцца з насьледнасьцю.

Праўда, блытанае разуменьне эволюцыі было ў некаторых з іх, але звычайна яны не паглыбляліся ў гэта, а ўсе свае сыстэмы будавалі з пункту погляду розуму, на які і ўскладалі ўсе надзеі.

Вера ў магутнасьць розуму, барацьба з рэлігіяй, на якой грунтаваўся вырадзіўшыся фэодалізм; вера ў натуральныя правы чалавека—усё гэта рабіла матэрыялістых страшнымі ворагамі прывілегаваных клясаў дваранства й духавенства, але, займаючыся сухімі адцягненымі разм аўленьнямі, яны не маглі растлумачыць усю злучнасьць і рознасьць жывога грамадзкага жыцьця. Біолёгія й гісторыя былі слабым бокам філёзофіі матэрыялізму французаў.

Глыбей іншых філёзофаў матэрыялістых 18 стагодзьдзя глядзеў на грамадзкае жыцьцё Гэльвецы. Лічачы асноўнай пружынай руху грамадзкага жыцьця інтарэс, Гэльвецы зьвёў абсолютную мораль на адносную, паглыбіўся ў разуменьне барацьбы клясаў, але таксама, як і іншыя філёзофы, заблытаўся ў процілежнасьцях.

Другая выдатная асоба Францыі таго часу, чалавек больш пачуцьця, чым розуму—Жан-Жак Русо змог праліць многа сьвятла на законы грамадзкага разьвіцьця. У сваім трактаце „Аб зьяўленьні няроўнасьці паміж людзьмі“ Русо рэзка падкрэсьліў супярэчнасьць між разумовым прогрэсам і моральным рэгрэсам, лічачы першае нязьбежнай прычынай другога.

Энгельс паказвае на Русо, як на чалавека, які думае дыялектычна. У яго працах ёсьць сапраўды прасьветы дыялектычнага разважаньня. Надворныя прычыны ў Русо зводзяць розум да падуладнага пачатку; апрача таго ў яго відно адмаўленьне некаторых зьяваў грамадзкага жыцьця і пераварачваньне іх у яго процілежнасьць.

Але філёзофія рацыяналізму перамагла, і Русо пакінуў толькі сьлед у францускай літаратуры, даўшы напрамак чульліваму романтызму (Сталь, Жорж-Занд, Шатобрыян і г. д).

Вера ў розум панавала сярод філёзофаў Заходняе Эўропы і яны марудна працавалі, утвараючы сыстэмы, якія-б маглі ўвесь сьвет перабудаваць на лепшых пачатках. Вянцом гэтае сыстэмы зьявілася філёзофія О. Конта, так безнадзейна спасаваўшая ў пытаньнях грамадзкага жыцьця. Дзеля гэтага ня дзіўна, што погляды ўсіх накіраваліся ў Нямеччыну, дзе філёзофчая думка Гэгеля здавалася вырашыла проблему духу і матэрыі, і дала канчатковую цэльную моністычную філёзофчую сыстэму. Філёзофія Гэгеля мела тую сілу, што ўсе зьявы жыцьця яна разглядала з пункту погляду зьмены, зьніштажэньня, утварэньня. Разглядаючы ўсе зьявы ўсебакова, яна заўважыла вядомае ўзаемадзеяньне, альбо правільней, залежнасьць аднае зьявы ад другое, што дало магчымасьць разглядаць даную зьяву не як аддзельную, а як часьць вядомай сыстэмы, якая так ці іначай зьвязана з ёю і выносіць на сабе ўсе зьмены апошняе.

Усё ў прыродзе няспынна рухаецца, няма нічога нязрушнага, і чалавек, як і ўсё іншае, заўсёды відазьмяняецца. Ён ня бывае ні хвілінкі тым самым з самім сабою; сягоньня ён так-як бы складаецца з тых самых элемэнтаў, што і ўчора, але ён ужо зьмяніўся і зьмяшчае ў сабе, апрача таго, усе элемэнты зьмены ў будучым. Чалавечы агрэгат прадстаўляе толькі пераходзячую форму вечнае матэрыі і гэты агрэгат падлягае кожны дзень, кожную хвілінку самым розным зьменам. Грамадзкая сыстэма, складаючыся з вечна рухомых элемэнтаў, таксама бязупынна зьмяняецца. Яе сучаснае ёсьць злучнасьць усіх складаючых частак прайшоўшага са ўсімі будучымі эволюцыямі ў зародку. І калі ў процэсе гэтага руху ўтвараецца перашкода, то бурлівы націск пераварочвае гэтыя перашкоды, адбываецца „скачок“ і разьвіцьцё йдзе далей; у праціўным выпадку сыстэма руйнуецца, але й на гэтых руінах пачынае будавацца новае жыцьцё, новая сыстэма.

Падобны рух не маглі зразумець мэтафізыкі; над грамадзкім жыцьцём, якое біла крыніцаю, яны ламалі галаву й не маглі разабрацца ў ёй, бо яно не ўкладвалася ў вечныя формулы. Страшэнныя, здавалася, нязьмірымыя супярэчнасьці стаялі перад імі. Магутнае разьвіцьцё капіталізму падзяляла грамаду на клясы. Вялізарная беднасьць, не па сіле праца і пакута ўнізе; магутныя багацтвы, нуда ад беспрацоўя, альбо ад здаваленьня ўсладамі ўверсе—усё гэта наводзіла на некаторыя галовы пахмурны роспач.

„Жыцьцё—зло; сьвет—натуральная гісторыя суму, і ўсё жыцьцё—пакута“—кажа Шопэнгаўэр. Аўтор „філёзофіі несьвядомага“ Гартман з ядавітай усьмешкай кажа: „Жыцьцё ёсьць і ня можа ня быць пакутай“. Такім чынам немагчымасьць зразумець законы разьвіцьця грамадзкага жыцьця пасяліла ў некаторыя філёзофчыя галовы расчараванасьць і пэсімізм. К. Маркс ня ў меншай меры бачыў і апісваў гэтыя розьніцы, гэтую паражаючую беднасьць, бессаромную эксплёатацыю і, тым ня менш, ён ня быў пранікнуты тым пахмурным пэсімізмам, які абхапіў некаторых філёзофаў.

Дыялектычны пункт погляду дазволіў К. Марксу глядзець на соцыяльны сьвет об'ектыўна і памог, разам з гэтым, выявіць тую грамадзкую клясу, клясу працоўных, якая нясе з сабою элемэнты здаровае будучыны, якая павінна будзе перабудаваць буржуазную грамаду. Матэрыялістычны падход да вывучэньня грамадзкіх зьяваў дазволіў Марксу так яскрава даць малюнак капіталістычнае грамады, што школа гісторычнага матэрыялізму, аснованая ім, мае цяпер вялізарнае, пераважнае значэньне перад усімі іншымі напрамкамі. Гэніяльны сінтэз матэрыялістычнага сьветаразуменьня Л. Фэйербаха, потым клясавая барацьба, аб якой ўжо пісалі францускія гісторыкі часоў рэстаўрацыі (Цьеры, Міньё і інш.) і, у канцы, дыялектыка Гэгеля—вось элемэнты, з якіх склалася філёзофчая сыстэма К. Маркса. Да таго-ж часу ў навуцы ўжо горача абгаварвалася тэорыя Мальтуса і эволюцыйная тэорыя Е. Дарвіна.

Для нас, у даным выпадку, цікава праглядзець дыялектыку Гэгеля, якая, як мэтод, перайшла ў працу Маркса.

Па Гэгелю „дух адпускаў“ прыроду і выяўляўся ў ёй, паступова ўдасканаляючыся; імкнучыся да „абсолютнага духу“, роўнаму, па Гэгелю, з богам, сусьветным розумам і іншае. Разьвіцьцё гэта йдзе шляхам дыялектычным, і Гэгель сьмела накідаў малюнак зьмены „станаўленьня і зьніканьня“ ўсяго сьвету.

Раўняючы розум з богам, Гэгель знаходзіў, што „ўсё сапраўднае—разумна і ўсё разумнае—сапраўдна“ і, дзеля гэтага, Гэгель мала датыкаўся сапраўднасьці, а калі і датыкаўся, то выяўляў сваю навуковую нядзольнасьць. Каб казаць аб біолёгічных ведах Гэгеля, даволі паказаць, што, па яго думцы, дух выяўляецца ў матэрыі пасьля таго, як у яе вытне „маланка жыцьця“. Ён-жа казаў, што чалавек не разьвіваўся ад жывёлы, а жывёла ад расьліны, „кожны стаў тым, што ён есьць“, розьніца часу не прадстаўляе ніякага значэньня для думкі. Яго дысэртацыя „De orbitis planetarum“ з трэскам правалілася з вынаходкай першага астэроіда.

Але пярэйдзем да яго дыялектыкі, якая так моцна прагрымела па ўсёй Эўропе і так моцна прывабіла розумы таго часу. „Вельмі важна зразумець сапраўднае значэньне дыялектыкі,—кажа Гэгель,—яна ёсьць жывая душа ў руху навукі. Яна складае пачатак усякага руху, усякае думкі і дзейнасьці ў сьвеце сапраўднасьці. Усё, што нас абкружае, можа служыць прыкладам дыялектыкі. Мы ведаем, што ўсё канцовае зьмяняецца й зьнішчажаецца і гэта ёсьць дыялектыка; яна зьмяшчае ў сабе сваё іншае і дзеля гэтага выходзіць за межы свайго непасрэднага існаваньня і зьмяняецца. Мы кажам, што ўсё падлягае пагібелі—гэта ёсьць дыялектыка. Далей дыялектыка адпаведна ўсім прыватным сфэрам і формам натуральнага й духоўнага сьвету. Так напрыклад, яна наглядаецца ў руху нябесных сьвяціл. Планета займае цяпер вядомае месца і зьдзейсьнічае гэту ўнутраную неабходнасьць пры дапамозе руху. Дыялектыка наглядаецца і ў духоўным сьвеце. Так напрыклад, у сфэры права й грамадзянскасьці вядома, што ўсякае становішча і ўсякая дзея, даведзеная да крайнасьці, пераходзіць у процілежную крайнасьць. Гэта падкрэсьліваецца многімі прыказкамі. Ёсьць прыказка: Summum jus injuria і яна значыць, што адцягненае права, даведзенае да крайнасьці, пераходзіць у крыўду. У сфэры палітычнай дзейнасьці анархія вядзе да дэспотызму і наадварот.

Асабовая моральнасьць таксама падлягае закону дыялектыкі, і гэта выказваюць прыказкі: гордасьць прарочыць падзеньне; што вельмі востра, тое скора прытупляецца і інш.“[1]).

Гэткае значэньне дыялектыкі ў Гэгеля. Разьвіцьцё капіталістычнае грамады наглядна паказвала, што „ничто не вечно под луной“. Капіталізм з рэволюцыйным імпэтам зьнішчажаў астаткі фэодальных адносін і перабудоўваў грамаду на новых пачатках, зьнішчажаючы ўсё, што мяшала нормальнаму яго разьвіцьцю. Жыцьцё казала за дыялектыку, і няма нічога дзіўнага, што К. Маркс і Ф. Энгельс, узяўшы дыялектыку за мэтод, ускрылі сутнасьць капіталістычнае грамады, перавярнуўшы бяскрыўдную Гэгелеўскую дыялектыку духу ў магутную матэрыялістычную дыялектыку жыцьця. Апошняя стала страшнай ідэолёгам буржуазіі і яны адвярнуліся ад яе.

„Усё цячэ, усё зьмяняецца,—кажа Энгельс,—сягонешняя ісьціна заўтра робіцца аблудай, сіла дыялектыкі пануе ў прыродзе і гэта сіла будзе панаваць, пакуль існуе рух і, значыць, зьмена“. Многія не разумеюць дыялектыкі, альбо ня хочуць яе зразумець. Хаця наша думка, працуючы больш адцягнена, прывыкла мець справу з прадстаўленьнямі, якія маюць

---

[1]) Гэгель—Лёгіка.

больш сталы характар. Гэта тлумачыцца тым, што мы менш вывучаем зьявы ў іх руху і ўзаемнай сувязі, а больш аддаёмся вывучэньню зьяваў, прымаючы іх за нешта сталае. Наша галава больш думае па мэтоду фармальнай лёгікі, якая адказвае на данае пытаньне альбо „але“, альбо „не“, а калі сустракаюцца супярэчнасьці, то адно з іх зьніштажаецца, даючы месца другому.

Зусім іншы мэтод мышленьня; гэта мэтод вывучэньня зьявы ў яе ўзаемнай сувязі з іншымі зьявамі, як бесканцовы ланцуг прычын і вынікаў. І калі звычайнае філёзофскае размӑуленьне, вывучаючы зьявы, прыводзіць іх да ўзаемнае сувязі, то разьдзяляючы іх яно глядзіць на гэтыя зьявы, як на нешта пастаяннае, сталае. Дыялектыка-ж глядзіць на ўсе зьявы, як на пастаянна зьмяняючыяся, утвараючыя альбо зьнішчаючыя.

Разьвіцьцё адбываецца шляхам утварэньня супярэчнасьцяй, г. зн. надворных, альбо ўнутраных перашкод, якія ўзьнікаюць у процэсе разьвіцьця данае зьявы. Супярэчнасьці гэтыя вырашаюцца не ў зьніштажэньні аднае з іх, а ў іх злучэньні, прычым у выніку гэтага сынтэзу адбываецца якасная зьмена, новая форма зьявы.

Калі на азначанай стопені разьвіцьця капіталістычнае грамады вытворчыя сілы ўступаюць у супярэчнасьці з вытворчымі адносінамі, то не аб зьніштажэньні, наогул, вытворчых адносін можа быць гутарка, а аб зьмене іх, і ў выніку гэтае зьмены—зьмена ўсяе грамады.

Жыцьцё сустракае на сваім шляху шмат перашкод і ідзе ў напрамку найменшага супраціўленьня, прычым супраціўленьні гэтыя перамагаюцца ў выніку аб'яднаньня ўзьнікаючых супярэчнасьцяй.

Такім чынам прогрэс адбываецца дзякуючы дыялектычнаму разьвіцьцю.

Аднак чалавечы розум, разьвіваючыся на аснове вытворчасьці, сам, у сваю чаргу, пачынае рабіць уплыў на вытворчасьць, на яе тэхніку. У гэтым узаемадзеяньні выяўляецца вядомая залежнасьць, калі асноўнае прычыны з-за яе вынікаў ня відно.

Нам застаецца яшчэ выявіць розніцу між дыялектыкай і эволюцыяй. Апошняя, як яе разумеюць цяпер, прадстаўляе сабою ход разьвіцьця органічных і грамадзкіх форм, выгукваемых і накіроўваемых множасьцю фактораў, якія дзейнічаюць у прыродзе й грамадзкім жыцьці. Пад уплывам гэтых дзеяў, даная форма зьмяняецца ў бок найменшага супраціўленьня. Але зьмены форм могуць адбывацца двума спосабамі: альбо даная форма непасрэдна й паступова зьмяняецца пад дзеяй якое-небудзь прычыны, альбо зьмена формы можа адбыцца так рэзка, што яе можна назваць скачком. Прастацкая форма эволюцыі разгледжвала толькі зьмены першага роду, ня лічачыся з другім. Сучасная тэорыя эволюцыі разгледжвае абодва віды зьменаў, разгледжваючы „скачкі“ не як нешта перарыўчатае, а як сабраную патаемную энэргію ў папярэдні пэрыод, якая праявіла сябе ў іншых умовах. Спробы галяндзкага ботаніка Дэ-Фрыза даказалі магчымасьць скачкоў ня толькі ў грамадзкім, але і ў біолёгічным жыцьці. Апрача таго, старая мэтафізычная тэорыя эволюцыі разгледжвала ўтварэньне й зьнішчэньне якое-небудзь зьявы, альбо грамадзкае установы, шляхам паступовага павялічэньня, альбо змяншэньня данае зьявы, г. зн. лічылася з іх колькаснымі зьменамі і, значыць, яна не магла даць яснага адказу на тлумачэньне „ўтварэньня“ данае зьявы. Сучасная эмбрыолёгія падкрэсьліла погляд Гэгелеўскай філёзофіі колькасных і якасных зьмен, а мутацыйная тэорыя Дэ-Фрыза пашырыла паняцьце эволюцыі да яе сучаснага навуковага разуменьня.

З гэтага моманту эволюцыя стала дыялектыкай біолёгіі.

Я ўжо казаў, як Гэгелеўская дыялектыка прыводзіла да вывадаў, якія ясна супярэчылі сапраўднасьці. Гэрцэн правільна кажа, што філёзофія Гэгеля, якую многія лічылі пераважна консэрватыўнай, ёсьць наста-

яшчая альгебра рэволюцыі. Але ў Гэгеля гэта альгебра заставалася без ужываньня да палючых пытаньняў практычнага жыцьця.

„У сваім містыфіцыраваным выглядзе дыялектыка была нямецкай модай, бо яна апраўдвала існуючы парадак рэчаў. У сваім рацыянальным выглядзе яна няпрыемна буржуазіі і яе тэорэтыкам таму, што яна, тлумачачы існуючае, тлумачыць таксама і яго нязьбежнае зьніштажэньне... яна ня спыняецца ні перад чым, будучы і рэволюцыйнай па сутнасьці“.

Дыялектыка Маркса зводзілася аб агульных законах руху у надворным сьвеце і ў чалавечай галаве, як адбітак гэтага сьвету.

Пераход ад дыялектычнага ідэялізму Гэгеля да дыялектычнага матэрыялізму Маркса выявіўся ў тым, што дыялектыка пакінула разгледжваць процэс мышленьня, як первастковы факт, сьледам якога зьяўляецца рэальнае разьвіцьцё, а пачала дзейнічаць наадварот, разгледжваць „эволюцыю ідэй, як вынік ходу рэчаў. Існаваньне азначае сьвядомасьць“.

„Вечная зьмена форм, вечнае адкіданьне формы, народжанай вядомым зьместам альбо імкненьнем, сьледам узмацненьня таго-ж імкненьня, вышэйшага разьвіцьця таго-ж зьместу...

Хто зразумеў гэты вялікі, вечны, паўсюдны закон, хто навучыўся ўжываць яго да ўсякае зьявы—о, як спакойна заклікае ён шансы, якіх саромеюцца іншыя!“ (Бельтаў).

---

Ю. Майзель.

# Сучасныя соцыолёгі аб клясах.

Магутнае разьвіцьцё капіталізму ў канцы 19-га і пачатку 20-га стагодзьдзяў, адбываўшаеся розным абвастрэньнем клясавых працівалежнасьцяй і стыхійным ростам рэволюцыйнага руху, зрабіла ясным для кожнага факт існаваньня клясавае барацьбы. Перафразуючы словы Пiцiрыма Сарокiна можна сказаць: выразы „кляса", „клясавая барацьба", „клясавыя інтарэсы"—за апошнія дзесяцёхгодзьдзі не казалі хіба толькі адны безгалосыя „младенцы". У такіх умовах маўчаць зусім аб клясавай проблеме, як гэта мела месца ў падаўляючай большасьці выпадкаў у першую пору існаваньня капіталізму, няма магчымасьці. Адно толькі, што магчыма было зрабіць гэта—затуманіць клясавую проблему, альбо комэнтараваць яе ў такім напрамку, які-б зьмягчаў, альбо апраўдваў існуючую соцыяльную няроўнасьць.

Гэтае на першы погляд грубое і прымітыўнае азначаньне буржуазных тэорый аб клясах пры больш-менш уважлівым разглядзе об'ектыўна выходзіць правільным.

Пiцiрым Сарокiн, спыняючыся на тым, што такое соцыяльная кляса, піша: „Ня гледзячы на ўвесь шум, падняты наўкол „клясы", усё-ж канчатковага ўразуменьня аб клясе, як аб соцыяльнай групе, няма. Няма яго і ў марксыстых".

У падцьверджаньне правільнасьці свае думкі ён дае літаратурную спраўку, якая, як ён думае, вельмі добра даказвае, што па пытаньню аб тым, колькі клясаў маецца ў грамадзе, у соцыолёгаў існуюць надзвычайна розныя зданьні Так, напрыклад, Платон, Вольтэр і Рэнальд разьлічаюць клясы заможных і незаможных; Гэльвецы—угнятацелей і ўгнятаемых; Маркс—клясу капіталістых і працоўных; Бланкі—буржуазію і народ; Сэн-Сымон—ідэёвыя кіраўнікі, уласьнікі і няўласьнікі і г. д.

Зробленая сводка пасьвядчае, па яго думцы, аб вялізарным рознагалосьсі, якое пануе ў пытаньні—на якія клясы падзяляецца грамада, а таксама, што колькі-небудзь агульнапрызнанага ўразуменьня аб клясах няма, што тут пануе „хаос мнений".

Асабліва нездавальняючымі здаюцца яму азначаньні марксыстых, сярод якіх гэты хаос асабліва выяўляецца. Пiцiрым Сарокiн часткова сапраўды праў: хаос зданьняў і рознагалосіца сапраўды існуюць, але не сярод марксыстых (паказаньне Пiцiрыма Сарокiна на Бернштэйна, Туган-Бараноўскага і інш. у гэтым напрамку ня зусім падходзіць, бо мы ведаем, што па пытаньням аб „клясе" названыя „марксыстыя" выказваюць ня зусім, альбо лепш зусім не марксыцкія погляды), а сярод буржуазных соцыолёгаў. Каб пераканацца ў гэтым, даволі параўнаць азначаньні, даваемыя буржуазнымі і марксыцкімі соцыолёгамі.

— Соцыяльныя клясы,—кажа Боэр,—гэта розныя групы, складаючыя грамаду, групы, утвораныя з усіх індывідуумаў, якія атрымалі аднолькавую адукацыю, разьвіліся ў аналёгічным асяродзьдзі і, у асаблівасьці, якія заняты ў аднолькавай профэсіі.

Тард азначае клясу, як групу індывідуумаў, якія займаюць аднолькавую стопень на соцыяльных лесках.

Па думцы Лімузэна, соцыяльныя клясы—гэта групы асоб, якія знаходзяцца ў пастаянным злучэньні, блізка зходзяцца і імкнуцца к цесным зносінам. Гэтыя зносіны выпрацоўваюць у іх аднолькавую манеру казаць, думаць і аднолькавае жыцьцё.

Вормс кажа, што соцыяльная кляса—гэта група асоб, якія належаць да аднаго і таго-ж соцыяльнага ўзроўню, адпавядаючага азначанаму соцыяльнаму рангу. У грамадзе Вормс знаходзіць два роды расслаеньняў: адны разьмяркованы адны каля другіх, другія складаюць шэраг слаёў, якія ляжаць адзін над другім. Апошняга роду расслаеньні праходзяць праз шэраг профэсій, падзяляючы іх на шэраг розных рангаў. У кожным такім рангу існуе азначаны соцыяльны ўзровень. У аснове ўзроўня, азначаючага соцыяльную клясу, ляжыць большай часткай заможнасьць, ці ўсё, што вядзе да заможнасьці, альбо ўсё, што ідзе ад заможнасьці (слава, талент, улада і інш.)... Такіх соцыяльных розных узроўняў, розных соцыяльных рангаў і клясаў Вормс налічвае некалькі, але якія гэтыя клясы ці ўзроўні—ён не паказвае.

Дэльбе кажа, што аснову клясавае організацыі складаюць розныя соцыяльныя функцыі, якія спаўняюцца ў грамадзе рознымі соцыяльнымі групамі. Утварэньне гэтых функцый робіцца з старое каставае, тэократычнае будовы грамады, маючай мэту забясьпечыць грамадзе організацыю і захаваньне шляхам насьледнай перадачы, профэсыяльнага вывучэньня, спэцыяльных ведаў і здольнасьцяй.

Леві-Ульман азначае клясы, як расслаеньне грамады на групу кіруемых (кляса бедных) і групу кіруючых (кляса багатых). Гэта расслаеньне вынікае з прыроднага імкненьня адных людзей уладаць над другімі (калі наглядаць за гуляючымі дзяцьмі, то можна заўважыць, што адна частка будзе кіраваць другою), сьледам чаго яно (расслаеньне) наглядалася ўва ўсе часы існаваньня чалавецтва.

Грасэры лічыць, што клясы—гэта соцыяльныя групоўкі, якія розьняцца адна ад другое асабістымі здольнасьцямі і духоўнымі якасьцямі, перадаваемымі насьледна. Адпаведна гэтаму азначаньню ён бачыць у сучаснай грамадзе дзьве клясы: 1) арыстократыю—вышэйшая кляса (групоўка, аб'яднаючая людзей, уладаючых вышэйшымі соцыяльнымі якасьцямі, найбольш карыснымі ў даную эпоху); 2) дэмократыю,—соцыяльную групоўку, аб'яднаючую людзей, не ўладаючых паказанымі якасьцямі, альбо ўладаючымі імі ў значна меншай меры.

Шмолер азначае клясу, як групу схожых асоб, злучаных у адно цэлае не срадзтвом, альбо суседзтвам, а агульнай профэсіяй, працоўнай дзейнасьцю, уладаю, адукацыяй, часта палітычнымі правамі ня ў мэтах вядзеньня агульных гаспадарчых спраў, а ў мэтах умацаваньня сьвядомасьці сваёй агульнасьці, дзеля агульных інтарэсаў.

„Асновай утварэньня клясаў,—кажа ён у другім месцы,—зьяўляюцца: раса, адукацыя, профэсія і разьмеркаваньне прыбыткаў“.

Па Амону, клясы, альбо сасловія—гэта соцыяльныя групоўкі, якія розьняцца адна ад другое па адукацыі і антрополёгічным адзнакам, перадаваемым насьледна.

Дзет і Дэканп азначаюць клясу, як групу асоб, якія маюць аднолькавы ўзровень жыцьця, характарызуемы колькасьцю прыбытку, адукацыяй і профэсіяй.

Лёрыо ўстанаўляе клясавую розьніцу па прынцыпу ўладаньня і не ўладаньня ўласнасьцю. Выходзячы з гэтага прынцыпу, ён, адпаведна колькасьці ўласнасьці і прыбытку, устанаўляе дзьве асноўных клясы: клясу ўласьнікаў і клясу няўласьнікаў. На гэтай-жа аснове Шарль Жыд устанаўляе 5 клясаў грамады.

Чарноў кажа, што кляса ў соцыолёгічным сэнсе—гэта група асоб, злучаных па крыніцам прыбытку (зямельная рэнта, зарплата і інш.), політыка-прававому і псыхолёгічнаму прынцыпам.

Туган-Барануоскі характарызуе клясу, як соцыяльную групу, злучаную аднолькавамі адносінамі прысваеньня, агульным антагонізмам у адносінах да другіх соцыяльных груп і агульна-экономічным інтарэсам.

Па Зомбарту, розныя соцыяльныя клясы прадстаўляюць сабою вывазы розных сыстэм гаспадаркі, паступова ішоўшых у сваім разьвіцьці адна за другою і якія зьмясьціліся ў якой-небудзь частцы насельніцтва, уваходзячай у склад кожнае данае грамады ў азначаны момант.

„Кожны соцыяльны кляс—гэта такая грамадзкая група, якая зьяўляецца прадстаўніком якое-небудзь сыстэмы гаспадаркі, зьмяшчаючы ў сабе апошнюю і працягваючы сваё існаваньне ў новай гаспадарчай сыстэме".

Кауцкі лічыць адзнакамі клясы агульнасьць крыніц прыбыткаў, выходзячую адсюль агульнасьць інтарэсаў і працівалегласьць іх інтарэсаў іншым клясам.

Бернштэйн адзнакамі клясы лічыць якасьць забясьпечаньня маёмасьцю і колькасьць прыбытку розных груп насельніцтва.

Спэнсэр і іншыя разьлічаюць клясы на основе натуральнага органічнага адбору.

Гумпловіч, Рацэнгофэр і іншыя—на аснове розьніцы рас.

Піцірым Сарокін кажа, што злучнасьць асоб, схожых па профэсіі, маёмаснаму становішчу, па правох, а значыць, маючых роўныя профэсыянальна-+-маёмасна-+-соцыяльна-прававыя інтарэсы, састаўляе клясу.

Марксыстыя-ж азначаюць клясу, як злучнасьць асоб, якія іграюць схожую ролю ў вытворчасьці, стаяць у процэсе вытворчасьці ў аднолькавых адносінах да іншых людзей, прычым гэтыя адносіны выяўляюцца таксама ў рэчах. (Бухарын).

„Крытэрыумам, якім марксызм карыстаецца для аснаваньня свайго ўяўленьня аб клясе, зьяўляецца месца, якое займае даная грамадзкая групоўка ў процэсе вытворчасьці, роля, якая падае на яе долю ў сыстэме народнае гаспадаркі.

Паколькі асобы, уваходзячыя ў склад данае групоўкі, займаюць у процэсе вытворчасьці роўназначнае месца, азначаючае іх антагоністычныя адносіны да сяброў усякай іншай групоўкі, яны належаць да аднае і тае-ж клясы". (С. Я. Вальфсон).

---

Ужо гэты прыведзены намі зусім ня поўны сьпіс голых азначаньняў клясы, якія даюць буржуазныя і марксыцкія соцыолёгі, сьведчыць, па нашай думцы, аб тым, што мы цалком правы, адносячы словы Піцірыма Сарокіна аб „хаосе мнений" па адрасу буржуазных соцыолёгаў.

Калі-ж мы захочам разабрацца ў прычынах наглядаемае сярод іх рознагалосіцы, то мы заўважым, што галоўная прычына знаходзіцца ў тым, што ў аснову клясавага падзелу буржуазныя соцыолёгі кладуць не адзнаку, выцякаючую з навуковага вывучэньня конкрэтнай сапраўднасьці, а адзнаку, альбо злучнасьць адзнакаў, самавольна народжваемых тым ці іншым соцыолёгам.

Патрабляючы тэрмінолёгію Піцірыма Сарокіна, можна сказаць, што буржуазныя соцыолёгі ў сваіх тэорыях аб клясах уводзяць „няпраўдныя колектывы", г. зн. колектывы, утвораныя штучна, дзе аб'яднаюцца ў адну катэгорыю людзі, de facto ня зьвязаныя адзін з другім. „Напрыклад, у кожным насельніцтве можна вылучыць групу асоб з прамымі насамі, групу з узьдзёрнутымі насамі і групу з гарбатымі насамі. Вылучыўшы іх,

можна зрабіць статыстычны падлік сяброў кожнае групы, іх процантныя адносіны да ўсяго насельніцтва і г. д. У выніку мы атрымаем тры няпраўдныя групы: а) групу праманосых; б) групу ўзьдзёрнутаносых; в) групу гарбатаносых. Кожная з гэтых груп будзе няпраўднай, бо ўладаньне аднолькавай формай носа нікольні не вядзе за сабою вялікую ўмоўнасьць і вялікую зьвязанасьць такіх асоб аднае з другою. Яны зб'ядналы намі штучна, толькі па надворным адзнакам, якія не вядуць за сабой ніякіх рэальных узаемадзеяньняў асоб з аднолькавымі насамі. Карацей—гэткая група асоб не складнае сапраўднае колектыўнае адзінасьці, альбо рэальнай злучнасьці". Лік няпраўдных колектываў, паказаны ў толькі што дадзенай намі цытаце з Піцірыма Сарокіна, можна павялічыць да бесканцовасьці. Можна, напрыклад, утварыць соцыяльныя групы па цьвету валасоў, па форме галавы, па колькасьці зношаных ботаў, па адукацыі і г. д. і г. д.

Лёгка даказаць, што толькі гэтыя „няпраўдныя колектывы" буржуазныя соцыолёгі ўводзяць у сваіх тэорыях аб клясах.

Нашым чытачом будзе лішнім даказваць, што зямля круціцца наўкол сонца, што вытворчасьць, вытворныя адносіны складаюць сутнасьць клясавага падзелу, сутнасьць усякае клясавае барацьбы, што ўсякія тэорыі аб клясах, якія маўчаць аб гэтым фактору, альбо зьменшваюць яго значэньне, зьяўляюцца па сутнасьці не навуковымі і самавольнымі.

У праўдзівасьці гэтага нашага апрыорнага суджэньня, выцякаючага з нашага моністычнага разуменьня гісторыі, мы лёгка ўверваемся пры самым бягучым абглядзе поглядаў на клясы буржуазных соцыолёгаў. Даволі для гэтага спыніцца, хоць бы коратка, на тых азначаньнях, якія намі былі вышэй пададзены.

Азначаньне Боэра—туманнае і зусім не выясьняе сутнасьці справы. Калі мы возьмем усё яго азначаньне і падзелім на аддзельныя, складаючыя яго адзнакі, то атрымаем: 1) група асоб, маючых аднолькавую адукацыю—кляса; 2) група асоб, якія разьвіваюцца ў аднолькавым асяродзьдзі—кляса; 3) група асоб, якія займаюцца аднолькавай профэсіяй—кляса.

Першая адзнака зусім працівалежыць сапраўднасьці. Напрыклад: адукаваныя і неадукаваныя буржуа, адукаваныя пролетары і неадукаваныя буржуа; інтэлігэнцыя прадстаўляе групу асоб прыблізна з аднолькавай адукацыяй, але яна не складае клясы. Другая адзнака таксама не падходзіць. Тэрмін—аднолькавае асяродзьдзе ня точны: у яго можна ўлажыць які хочаш зьмест. І ў канцы, трэцяя адзнака, якой Боэр прыдае асаблівае значэньне—заняцьце аднолькавай профэсіяй—зусім ня годны. Тут зьмешваюцца зусім розныя разуменьні: кляса і профэсія. У той час, як кляса—катэгорыя экономічная, профэсія— катэгорыя грамадзка-тэхнічная. Прыналежнасьць да аднае профэсіі зусім ня цягне за сабою прыналежнасьць да аднае і тае-ж клясы.

Прыклад: людзі, занятыя ў аднэй і тэй-жа справе вырабу ботаў могуць належаць да розных клясаў: шаўцы—рабочыя і капіталісты—ўладар усяго прадпрыёмства; і наадварот, людзі, занятыя ў розных профэсіях могуць належаць да аднае клясы: рабочыя—шаўцы і рабочыя—мэталістыя.

Гэтае зьмяшэньне разуменьняў „профэсія" і „кляса" асабліва рэльефна выяўляецца ў Боэра ў выпрацаванай ім табліцы грамадзкіх клясаў сучаснае грамады. У гэтай табліцы ён заканадаўцаў адносіць да аднае клясы, судзьдзей да другое, армію да трэцяе, прадстаўнікоў выканаўчае ўлады да чацьвертае, жанчын да пятае і г. д.

Мы думаем, што нашым чытачом ня трэба даказваць, наколькі нявытрыманым зьяўляецца падобны падзел клясаў. Такім чынам, адзнакі, уложваемыя Боэрам у разуменьне „кляса", узятыя паасобку, зьяўляюцца ненавуковымі, неабаснаванымі.

Такога-ж выніку мы дасягнем, калі мы возьмем усе гэтыя адзнакі ў іх агульнай злучнасьці. Мы атрымаем кашу, складзеную з зусім розных элемэнтаў (профэсія, аднолькавае асяродзьдзе, аднолькавая адукацыя). Наколькі няўдобаварымай аказалася гэта каша для самога Боэра, мы бачым з яго табліцы грамадзкіх клясаў.

Ня большую навуковую каштоўнасьць прадстаўляюць таксама азначаньні Тарда, Лімузэна, Вормса. Выразы: „аднолькавая стопень на соцыяльных лесках“ (Тард), „пастаянныя злучэньні, імкненьні к цесным зносінам“ (Лімузен), „азначаны соцыяльны ўзровень, адпавядаючы азначанаму соцыяльнаму рангу“ (Вормс),—у адносінах да разуменьня „кляса“, якія здаюцца з першага разу правільнымі, у сапраўднасьці пазбаўлены ўсякага рэальнага зьместу. Што адзначае аднолькавая стопень на соцыяльных лесках? Як можна падзяляць грамаду на клясы, прымаючы ў аснову пастаянныя злучэньні, цесныя зносіны, альбо які-небудзь іншы псыхолёгічны фактор? Што трэба разумець пад азначаным соцыяльным рангам?

На першыя два пытаньні, як даказвае Сонцаў, мы ў Тарда і Лімузэна адказу зусім не знаходзім; на трэцяе-ж пытаньне хоць і ёсьць адказ, але адказ гэты ў вышэйшай меры туманны.

„Разуменьне соцыяльны ранг,—кажа Сонцаў,—пакутуе ў Вормса неазначанасьцю свайго зьместу. У адным выпадку Вормс азначае соцыяльны ранг аднолькавасьцю ў якасьці заможнасьці і прэсьціжу; рангі,—кажа Вормс,—у нашай грамадзе выходзяць у адзін і той-жа час і к заможнасьці кожнага і к прэсьціжу яго. Клясы, значыць, зьмяшчаюцца на гэтым падвойным разуменьні: яны аб'ядноўваюць тых, хто мае альбо аднолькавую заможнасьць, альбо аднокальвы прэсьціж“

У другім выпадку Вормс карыстаецца разуменьнем „соцыяльны ранг“, якое ён называе таксама соцыяльным узроўнем, у яшчэ больш шырокім сэнсе, з яшчэ больш шырокім зьместам. „Гэты ўзровень,—кажа Вормс, разумеючы соцыяльны ўзровень, ці соціяльны ранг,—азначаецца рознымі прычынамі, залежачымі ад нараджэньня, пачоту, улады, але асабліва ад заможнасьці кожнага; у апошнім ліку гэты ўзровень (ці ранг) азначаецца ўсё-ж экономічным прынцыпам“.

Што-ж трэба разумець пад разуменьнем „соцыяльны ўзровень ці ранг?“

Профэсар Сонцаў шляхам аналізу тэорыі Вормса даказвае, што соцыяльны ранг у Вормса адзначае і багацьце, і ўладу, і прэсьціж, і выхаваньне, і навык і г. д... Інакш, у ўстанаўляемы Вормсам клясавы падзел сучаснае грамады ў адну і тую-ж клясу не маглі-б папасьці і рэдактар радыкальнае газэты, і дырэктар фабрыкі, і значны хлебны гандляр, рэктар унівэрсытэту, дырэктар, модны абаронца й г. д. Захоўваючы ў сабе значны лік зусім розных адзнакаў, разуменьне соцыяльны ранг, а значыць і соцыяльная кляса робяцца ў Вормса зусім не азначанымі.

Вельмі наіўнымі зьяўляюцца разуменьні аб клясах, устанаўляемыя Грасэры (асабістыя здольнасьці і духоўныя якасьці, перадаваемыя насьледна) і Амонам (якасьць адукаванасьці і антраполёгічныя адзнакі, перадаваемыя насьледна).

Як мы бачылі, Грасэры, выходзячы з сваіх адзнакаў клясы, прылічвае буржуазію к соцыяльнай групоўцы, уладаючай вышэйшымі асабістымі здольнасьцямі, а дэмократыю к групоўцы, уладаючай гэтымі якасьцямі ў меншай меры. Ня кажучы ўжо аб тым, што падзел сучаснае грамады на вышэйшую клясу і дэмократыю няправільны, ці можам мы асабістыя здольнасьці лічыць адзнакай прыналежнасьці да тае ці іншае клясы? Ці не зьяўляецца пераржываемая намі сапраўднасьць лепшым доказам супроць гэтага палажэньня?

Мы думаем, што так. Гэта мы выводзім з таго, што ня тыя ці іншыя асабістыя здольнасьці, а тыя ці іншыя адносіны да сродкаў вытворчасьці, тое ці іншае становішча ў вытворчасьці робіць умоўнай прыналежнасьць да тае ці іншае клясы.

Гэты факт, падрабязна даказваемы ў нашай марксыцкай літаратуры, знаходзіць сабе падкрэсьліваньне ў нашым кожнадзённым жыцьці. Колькі талентаў, ня гледзячы на вялікія недахваткі, якія яшчэ прыходзіцца пераносіць СССР, высоўвае цяпер пролетарыят пры Савецкай уладзе, колькі талентаў рабочых і сялян губілася й губіцца пад уціскам капіталізму! І, наадварот, колькі несьвядомцаў, сумасбродаў складаюць вяршыню цывілізаванае капіталістычнае грамады!

Ня менш ложны погляды Амона. Па-першае, для яго кляса і сасловіе—сынонімы, між тым, як гэта—два зусім розных разуменьні: кляса—катэгорыя чыста экономічная, сасловіе—катэгорыя юрыдычна-прававая.

Па-другое, прынятая ім аснова клясавага падзелу зусім ня верная. Мера адукаванасьці ці наогул асабістыя якасьці, як мы ўжо бачылі пры разглядзе азначаньня Грасэры, ня можа быць адзнакай тае ці іншае соцыяльнае групы. Яшчэ менш сур'ёзны ў гэтым напрамку антрополёгічныя адзнакі. Мы ня ведаем наколькі верна падцьверджаньне (мы, між іншым, у гэтым вельмі сумняваемся), Амона, што ў большасьці сучасных сяброў вышэйшае клясы—доўгія галовы, сярэдняе—круглыя галовы, а ў ніжэйшае—вялікая зьмесь розных формаў. Але калі мы хоць на хвілінку станем на гэты Амонаўскі расавы пункт погляду, то ўсё-ж застанецца зусім незразумелым, чаму гэта амаль на ўсім працягу гісторыі чалавецтва кіраўніцтва адных клясаў зьмянялася кіраўніцтвам другіх. Калі ісьці з Амонаўскага прынцыпу, то вышэйшыя клясы таму вышэйшыя, што яны ўладаюць вышэйшымі антрополёгічнымі якасьцямі, то як жа магло зрабіцца, што гэтыя групы маглі пабяждацца іншымі групамі, уладаўшымі менш каштоўнымі антрополёгічнымі якасьцямі? Гэта тым больш цяжка растлумачыць, што згодна эволюцыйнай тэорыі, заядлым прыхільнікам якое зьяўляецца Амон, вышэйшыя антрополёгічныя якасьці ў процэсе натуральнага разьвіцьця павінны ўсё больш удасканальвацца. Хаця сам Амон заўважыў гэтыя супярэчнасьці і з мэтаю пазбавіцца іх ён апіраецца на закон натуральнага адбору. У барацьбе за існаваньне, ці бачыце, у чалавечай грамадзе перамагаюць больш моцныя і энэргічныя, падаюць слабыя і слабавольныя.

Але чым мераецца энэргія і сіла? У канечным выніку—мераю адукаванасьці. Але гісторыя чалавецтва поўна прыкладаў, калі малакультурныя і малаадукаваныя пляменьні і народы заваёўвалі больш культурныя (заваяваньне рымскае імпэрыі варварамі, наход татар на Расію). Значыць, і закон натуральнага адбору не ў магчымасьці пазбавіць ад супярэчнасьцяй тэорыю Амона.

Таксама не здавальняючыя ўяўленьні аб клясах Дзета і Дэканпа. Адносна іх азначаньня (аднолькавы ўзровень жыцьця, характарызуемы колькасьцю прыбытку) мы абмяжуемся словамі тав. Бухарына, які кажа, што „калі стаць на іх пункт погляду, то прышлося-б рабочага-мэталістага выключыць з пролетарыяту, а затое селяніна-бедняка, альбо рамесьніка залічыць у рабочую клясу. З другога боку двох банкіраў, з якіх адзін трохі багацей за другога, прышлося-б садзіць на розныя клясавыя лаўкі. Між тым, кожнадзённы досьлед паказвае нам, што розныя слаі рабочых ідуць разам куды скарэй, чым адбываецца сумесная барацьба рабочых і рамесьнікаў, рабочых і сялян. Селянін не адчувае сябе сябрам тае клясы, што рабочы. І наадварот, два банкіры, хоць адзін з іх у дзесяць раз багацей за другога, адчуваюць сябе сябрамі аднае і тае-ж мілае сямейкі".

З іншых социолёгаў мы яшчэ спынімся на азначаньнях клясы Каўцкага, Туган-Бараноўскага, Зомбарта і Пiцірыма Сарокіна, як на азначаньнях, якія на першы погляд могуць здавацца правільнымі, але якія ўсё-ж такі скажаюць разуменьне „кляса“. Азначаньні Каўцкага і Туган-Бараноўскага цалком сходны: „агульнасьць крыніц прыбытку, агульнасьць інтарэсаў і працівалежнасьць інтарэсам іншых клясаў“ (Каўцкі), „аднолькавыя адносіны к крыніцам прысваеньня, агульны антогонізм у адносінах да іншых, агульны экономічны інтарэс“ (Туган-Бараноўскі).

У адпаведнасьці гэтаму азначаньню, у сувязі з падзелам крыніц даходу на прыбытак, рэнту, зарплату, яны ў сучаснай капіталістычнай грамадзе бачаць тры асноўных клясы: капіталістых, землеўласьнікаў і пролетарыят (наёмных рабочых). Азначаньне Каўцкага і Т.-Бараноўскага з першага погляду здаецца зусім правільным. Аднак у іх тут караніцца вялізная абмылка. У чым-жа абмылка? Абмылка ў тым, што, кажучы матэматычным языком, яны функцыю-разьмеркаваньне, зьяўляючайся праізводнай велічынёю ад вытворчасьці, прымаюць за аргумэнт-велічыню, ад якое, па іхняму, залежыць падзел на клясы. Між тым падзел на клясы, а значыць і разьмеркаваньне залежаць ад вытворчасьці, вытворчых адносін.

І праўда, чаму ў сучаснай грамадзе наглядаем тое, а ня іншае разьмеркаваньне даходу? Таму, што ў сучаснай грамадзе наглядаюцца тыя, а ня іншыя вытворчыя адносіны, тая, а ня іншая організацыя вытворчасьці.

Важнасьць спрэчкі тут захоўваецца ня толькі ў тэорытычным апраўданьні тэй ці іншай пастановы пытаньня—што ад чаго залежыць: клясы ад размеркаваньня, ці клясы ад вытворчых адносін, а важнасьць спрэчкі захоўваецца ў тым, што бяз цьвёрдага прысваеньня гэтага пытаньня цяжка, а часам і немагчыма зразумець прычыны ўтварэньня клясаў, сутнасьць клясавага падзелу, клясавае барацьбы.

Па думцы Зомбарта, асновай клясы зьяўляецца азначаная сыстэма гаспадаркі, але не сама па сабе, а паколькі яе захоўвае ў сабе, альбо прадстаўляе тая ці іншая социяльная група, захаваўшаяся ў сучаснай сыстэме гаспадаркі, прычым гэта прадстаўніцтва можа датычыцца і прашоўшага, і сучаснага, і будучага. „Кляса,—кажа Зомбарт,—гэта такая грамадзкая група, якая па самой сваёй ідэі зьяўляецца прадстаўніком азначанай гаспадарчай сыстэмы“.

Для таго, каб гэта азначаньне было больш зразумелым, пакажам, як адпаведна свайму азначаньню Зомбарт падзяляе сучасную грамаду на клясы.

У сучаснай грамадзе Зомбарт бачыць 4 клясы: 1) дваранства, альбо юнкерства (прадстаўнік аджыўшай фэодальнай землеўласьніцкай сыстэмы); 2) буржуазію (прадстаўніца сучаснай гаспадарчай сыстэмы—капіталістычнай); 3) дробная буржуазія, альбо мяшчанства (прадстаўніца аджываючай рамесьніцкай організацыі); 4) пролетарыят (прадстаўнік будучай социялістычнай гаспадарчай сыстэмы).

Як з азначаньня Зомбарта, так і з яго схэмы клясавага падзелу сучаснай грамады мы не атрымліваем яснага й точнага адказу на наступныя важныя пытаньні; 1) Чаму толькі даная, а не якая-небудзь іншая групоўка зьяўляецца прадстаўніцай азначанай гаспадарчай сыстэмы? Чаму, скажам напрыклад, толькі дваранства, а і не сяляне, зьўляецца прадстаўніком быўшай фэодальна-землеўласьніцкай гаспадарчай сыстэмы? У часы-ж фэодалізму існавалі таксама сялянства й духавенства.

2) Чаму роля прадстаўніка будучай гаспадарчай социялістычнай сыстэмы адведзена аднаму толькі пролетарыяту? Будуць-жа, апроч унукаў альбо праўнукаў пролетарыяту, існаваць у гэтым будучым социялістычным строі ўнукі альбо праўнукі цяперашняга сялянства, а магчыма і ўнукі, альбо праўнукі цяперашняй буржуазіі.

Ці можа Зомбарт думае, што й пры будучым социялістычным строі будзе існаваць пролетарыят, як аддзельная кляса? Тады прыдзецца прызнаць, што ён ня ведае, што такое соцыялістычны строй.

На ўсе гэтыя пытаньні Зомбарт не дае здавальняючага адказу, дзякуючы чаму мы з яго тэорыі атрымліваем самае смутнае, самае блытанае прадстаўленьне аб клясе.

Яшчэ больш блытанае прадстаўленьне аб клясе мы атрымліваем у Піцірыма Сарокіна. Хаця ён у сваёй „соцыяльнай аналітыцы“ з выглядам вельмі вялікага сьвядомцы стараецца даказаць, што да паяўленьня гэтага яго „гэніяльнага“ твору ня было колькі-небудзь навукова-абаснаванай соцыолёгічнай тэорыі, хаця ён у пункце сваёй „соцыяльнай аналітыкі“, азаглаўленым: што такое соцыяльная кляса, высокамерна высьмейвае ўсе існуючыя аб клясах, асабліва марксыцкія тэорыі, усё-ж трэба прызнаць, што ўводзімае ім рузуменьне аб клясе зьяўляецца самым сьмехатворным. Тут „величайшему“ соцыолёгу ўсіх часоў і народаў, профэсару Піцірыму Сарокіну, у адносінах навуковасьці мог-бы даць два ачкі ўпярод любы комсамолец.

Піцірым Сарокін азначае клясу, як злучнасьць асоб, сходных па профэсіі, па маёмаснаму становішчу, па аб'ёму праў, а значыць, маючых тоесамасныя профэсыянальна+маёмасна+соцыяльна-прававыя інтарэсы.

У комэнтарыях, растлумачваючых гэтыя азначаньні, Піцірым Сарокін асабліва настайвае, што ўсе дадзеныя ім тры адзнакі клясы павінны быць разглядваемы ў іх агульнай злучнасьці, „бо даволі адняць, альбо зьмяніць адну адзнаку, каб тыповая соцыяльная група зьнікла і трансформавалася ў соцыяльную групу іншага складу і іншай фізыономіі“.

„Аднімеце, альбо зьмянеце,—кажа ён,—напрыклад, адну адзнаку, характарызуючую пролетарыят (маёмаснае становішча—беднасьць)—і азначаная соцыяльная група, якая носіць назву пролетарыят, зьнікае. Таксама кляса—пролетарыят зусім трансформуецца, калі, пры захаваньні маёмаснае і профэсыянальнае адзнакаў, зьмяніць аб'ёмна-прававую адзнаку“.

Здавальняючы патрабаваньням Піцірыма Сарокіна, г. зн. разглядаючы разуменьне „кляса“ з пункту погляду агульнай злучнасьці ўсіх паказваемых ім адзнакаў (сходнасьць профэсіі, маёмаснае становішча і аб'ём праў), усё-ж ясна, што дадзеная ім формуліроўка разуменьню „кляса“ вельмі абсурдна. З пункту погляду гэтай яго формуліроўкі, клясай, напрыклад, можна прызнаць групу рабочых, працуючых у шавецкай справе. Гэта група будзе здавальняць усім патрабаваньням, прад'яўляемым ім разуменьню „кляса“: агульнасьць профэсіі—аднолькавая праца, аднолькавасьць маёмаснага становішча—аднолькавая беднасьць, аднолькавы аб'ём правоў—аднолькавае прыгнечаньне капіталам пры капіталістычным строі.

Але на гэтым-жа аснаваньні трэба прызнаць клясай і групу рабочых-мэталістых, і групу рабочых-каменшчыкаў, і групу рабочых-дрэваапрацоўнікаў, адным словам, па гэтым адзнакам адну рабочую клясу можна разьбіць на столькі клясаў, колькі ў грамадзе налічваецца профэсій. Сам Піцірым Сарокін, заўважыўшы тут гнуткасьць свайго становішча, пры ілюстрацыі таго, што трэба рузумець пад словам пролетарыят, пасьпяшае дадаць, што пролетарыят таму прадстаўляе групу асоб, сходных па профэсіі, што ён (пролетарыят) складаецца з асоб, занятых, галоўным чынам, фізычнаю працай, з асоб, якія прадаюць сваю мускульную энэргію і жывуць зарплатай.

З гэтага дадатку відаць, што ён абсолютна не рузумее, што такое азначае профэсія. Ён тут, падобна Боэру, прымае профэсію за катэгорыю экономічную ў той час, як яна прадстаўляе сабою агульна-тэхнічную катэгорыю. Аднак, нават пры такім самавольным разуменьні слова „профэсія“ застаецца незразумелым, якім чынам Піцірым Сарокін адносіць, напрыклад,

парабкоў да клясы працоўных сялян, да клясы, якая розьніцца ад пролетарыяту. І група-ж парабкоў прадстаўляе сабою групу асоб, занятых фізычнаю працаю, якія прадаюць сваю мускульную сілу і жывуць зарплатай, адным словам, уладае ўсімі тымі якасьцямі, якімі так шчодра надзяліў пролетарыят Піцірым Сарокін.

Крытыкуючы тэорыю аб клясах Карла Маркса, Піцірым Сарокін паказвае, што ў ёй многа іксоў. „Першы ікс—катэгорыя экономічная. Тэрміны: экономіка і экономічны—тэрміны зусім не азначаныя і разумеемыя на тысячу ладоў. Другі ікс—вытворчыя адносіны—фраза, аднаго добрага сэнсу якое няма ні ў Маркса, ні ў політыка-экономікаў. Трэці ікс—розьніца паміж клясам і сасловіем“. Ня будзем тут разьбірацца наколькі правільны гэтыя абвінавачваньні. Але мы запытаемся: колькі-ж іксоў у Піцірыма Сарокіна?

Першы ікс—сходнасьць па профэсіі, другі ікс—тоесамасьць маёмаснага становішча, трэці ікс—аб‘ём правоў і, у канцы, чацьверты ікс—соцыяльная кляса.

Сваю тэорыю аб клясах, прадстаўляючую бяссэнсавае награмаджэньне многіх зусім розных фактораў, Піцірым Сарокін называе плюфалістычнай. Па нашаму яе правільней назваць блытанай тэорыяй.

На основе ўсяго вышэйпаданага магчыма зрабіць наступныя вывады: 1) у буржуазных соцыолёгаў існуе вялізарная рознасьць зданьняў па пытаньню аб тым, што такое соцыяльная кляса; 2) гэта рознасьць зданьняў вынікае з таго, што ў аснову разуменьня „кляса“ яны кладуць не адзіную адзнаку, альбо адзнакі, выцякаючыя з навуковага аб‘ектыўнага вывучэньня конкрэтнай сапраўднасьці, а адзнаку, альбо злучнасьць адзнакаў, штучна ўтвараемых; 3) большасьць з буржуазных соцыолёгаў зьмешваюць разуменьні: „сасловіе“ і „кляса“, „профэсія“ і „кляса“; 4) сутнасьць разуменьня „кляса“ яны стараюцца абаснаваць не на вытворчасьці, не на вытворчых адносінах, а на нейкіх эфемэрных пабудовах (псыхолёгічны фактор, расавы прынцып і г. д.), сьледам чаго ў іх азначаньні „кляса“ пакутуюць, і ня могуць не пакутваць няточнасьцю і вялікай туманнасьцю.

Тут можна адмеціць адну характарную рэч: буржуазныя пісьменьнікі, якія выказваюць вялізнае літараедзтва пры выпрацоўцы тэрмінолёгіі, якая датычыцца любое галіны веды, устанаўляюць надзвычайна туманныя, расплыўчатыя тэрміны ў пытаньнях, якія датычацца грамадзкіх зьяваў і, асабліва, у пытаньнях аб соцыяльных клясах.

„Недаром она, недаром с отставным гусаром“.

Нездарма буржуазныя вучоныя запутваюць і ня робяць больш точным разуменьне „кляса“. Падобнае запутваньне дае ім магчымасьць тлумачыць пахаджэньне і далейшае разьвіцьцё клясаў і клясавае барацьбы такім чынам, як гэта карысна буржуазіі.

Тут неабходна заўважыць, што гэтым мы зусім ня хочам сказаць, што буржуазныя соцыолёгі няшчыры ў сваіх тэорыях аб клясах. Але гэтым усё-ж падкрэсьліваецца той неадкінуты покі навукай факт, што прыналежнасьць да азначанае соцыяльнае групоўкі, альбо ўплыў апошняе робіць адпаведны адбітак на псыхіку і ідэолёгію людзей.

Што буржуазныя соцыолёгі не складаюць з гэтага правіла выключэньня відаць з таго, як яны адносяцца да пытаньня аб соцыяльнай няроўнасьці, як яны ацэньваюць ролю і значэньне розных клясаў у сучаснай грамадзе, у частковасьці—ролю клясы працоўных.

Але аб гэтым у наступны раз.

---

Шлёзберг.

# Псыхолёгія і марксызм.

## Ідэялістычнае і матэрыялістычнае разуменьне сьвету.

За ўвесь час існаваньня чалавецтва аддзельныя дапытлівыя людзі ставілі сабе пытаньне: Што такое псыхічны сьвет, нашы асабістыя перажываньні? Якія іх адносіны да сьвету матар'яльнага, які нас абкружае? Ці аднолькавы яны з сьветам фізычным, альбо можа псыхічныя зьявы ўтвараюць асобую групу, якая падлягае сваім уласным законам?

Пытаючыся вырашыць гэту загадку жыцьця, людзі падзяліліся на два варожых лагеры, якія зусім розна вырашалі гэту проблему. Раней, чым вырашаць пытаньне аб адносінах мышленьня да існаваньня, неабходна вырашыць, што папярэджвала. „Тыя, якія падцьверджвалі, што „дух“ існаваў раней прыроды,—пісаў Энгельс,—так ці іначай прызнавалі ўтварэньне сьвету, злажылі лагер ідэялістых, тыя-ж, якія асноўным пачаткам лічылі прыроду, прылучыліся да розных школ матэрыялізму“. Выходным пунктам свайго сьветапагляду ў ідэялістых, зьяўляецца „дух“, „суб'ект“. „Бяз суб'екта“ няма „об'екта“—кажуць яны. Для іх чалавек з яго багатым розумам зьяўляецца асяродкам сусьвету і дыктуе прыродзе свае законы. Прыродазнаўства-ж паказала нам, што об'ект існаваў многа раней суб'екта. Дух зьявіўся на вядомай стопені разьвіцьця матэрыі, а чалавек, у якога ён атрымаў поўнае сваё ажыцьцяўленьне, зьявіўся на даволі позьняй стопені разьвіцьця прыроды. Навука даказала правільнасьць матэрыялізму. Яна паказала, што „дух“ існаваў толькі ў об'екце і разам з об'ектам.

Вывучаючы псыхічнае жыцьцё чалавека, мы бачылі, што яно ўва ўсім залежыць ад пабудаваньня і працы яго нэрвовай сыстэмы. Наглядаючы і робячы спробы над ніжэйшымі жывёламі, мы таксама бачылі залежнасьць іх псыхічнай дзейнасьці ад іх нэрвовай сыстэмы. Чым прасьцей збудавана нэрвовая сыстэма сябра царства жывёл, тым прасьцей яго псыхіка. Нават у драбнейшых організмаў, зусім ня маючых ніякае нэрвовае сыстэмы, нават простае рэфлекторнае дугі, мы ўсё-ж наглядаем азначаныя мэтазгодныя адказы на раздражненьне, выходзячае з надворнага асяродзьдзя. Ня толькі мікроорганізмы здольны мэтазгодна адказваць на раздражненьні надворнага асяродзьдзя, нават расьліны здольны на гэту сьвядомую дзейнасьць. Зачыненьне лепесткоў расьлін ад датыкальнасьці, асабісты рост кораня, які, натыкаючыся на вострыя прапоны, расьце ўжо ў іншым напрамку. Усе гэтыя прыклады, якія прыводзяць вучоныя, а іх можна налічваць тысячамі, прыводзяцца імі, як доказнасьць псыхікі і ў расьлін. Усе гэтыя прыклады паказваюць нам, што псыхіка існуе ня толькі ў чалавека, але ўва ўсякай асабістым чынам організаванай матэрыі, утвараецца матар'яльным органам.

Некалі Энгельс пісаў: „мы ня думаем адмаўляць у жывёл здольнасьць да плянавых, праднамераных дзеяў. Напроціў, плянавы чын дзеяньня існуе ў зародку ўсюды, дзе існуе протоплазма, дзе існуе жывы бялок і рэагуе, робячы хаця-б самыя простыя рухі“[1]). Для марксызму псыхіка таксама перваадкова, як і рух—другая істотная ўласьцівасьць матэрыі. Для віталістаў жыцьцё матэрыі зьяўляецца сьледам нейкае жыцьцёвае сілы, якая знахо-

---

[1]) Ф. Энгельс—Антидюринг.

дзіцца ў данай матэрыі. Нават у Гэгеля—творцы дыялектычнай філёзофіі—і ў яго дыялектычнае разьвіцьцё ў прыродзе толькі просты здымак з наступальнага руху, „абсолютнага духу“, руху самавольнага, вечнага, які робіцца невядома дзе, не залежыць ад чалавека.

Маркс—Энгельс цьвёрда і ясна ўстанавілі, што чалавечыя паняцьці ёсьць ня больш, як здымкі з сапраўдных рэчаў. „Калі ў Гэгеля ход рэчаў азначаецца ходам ідэй,—пісаў Пляханаў,—то ў нас ход ідэй азначаецца ходам рэчаў, ход думак—ходам жыцьця“. „Ідэёвае ёсьць переведзенае і пераапрацаванае ў чалавечай галаве матар‘яльнае“. (Маркс).

Цяпер узьнікае пытаньне: што-ж гэта такое тая рэч, якая ляжыць па-за намі, аб якой мы толькі што казалі? „Гэта рэч альбо матэрыя „сама па сабе“ здольная зрабіць уплыў на нашы пачуцьці, выгукваць ў нас вядомыя адчуваньні, якія кладуцца ў аснову нашых уяўленьняў аб надворным сьвеце і ўзаемаадносінах элемэнтаў“[1]) „Гэта рэч існуе сама па сабе, мае аснову ў самой сабе“. (Фэйербах). І толькі дзякуючы гэтаму марксыстыя патрабуюць прызнаньня ня толькі існаваньня сьвету, але й яго матэрыяльнасьці, г. зн. яго здольнасьці зрабіць уплыў на нас.

Чалавек пазнае прыроду, але ён пазнае яе не як суб‘ект, які супроць стаіць об‘екту, а як суб‘ект—об‘ект, бо чалавек сам зьяўляецца сябрам тае-ж прыроды, які вядомым чынам разьвіваецца, і яго сьвядомасьць, яго нэрвовая сыстэма зьяўляюцца толькі вышэйшым нараджэньнем матэрыі.

„Што для мяне суб‘ектыўна,—пісаў Л. Фэйербах,—ёсьць чыста духоўны, нематэрыяльны акт, то само об‘ектыўна ёсьць акт матэрыяльны, пачуцьцёвы“. „Я—суб‘ект і ў той-жа час і об‘ект“. Я сябар тэй-жа прыроды. Ідэялістычная філёзофія не разглядала человека, як сябра тае-ж разьвіўшаеся матэрыі—яна яго стаўляла супроць апошняй і, дзякуючы гэтаму, хочучы зрабіць адзінства існаваньня і мышленьня... яго разарвала. Яна аказалася наскрозь мэтафізычнай, бяручы чалавека па-за разьвіцьцём, гледзячы на яго, як на асяродак сусьвету. У матэрыялістых гэтага стаўленьня супроць ня было, для іх об‘ект пры вядомых умовах рабіўся і суб‘ектам, аказваўся ўздольненым сьвядомасьцю. Псыхічнае жыцьцё чалавека зьявілася як новая якасьць рухомае, жывое матэрыі, якая паявілася ў выніку дыфэрэнцыяцыі фізыолёгічных функцый у жывёл. Калі ў апошніх цяжка адрозьніць, ці зьяўляецца даная рэакцыя фізыолёгічнай ці псыхічнай, то ў чалавека мы бачым цьвёрда азначаную рэакцыю дзейнасьці мазгоў.

Дыялектычны матэрыялізм Маркса—Энгельса даў добрае моністычнае тлумачэньне сьвету, адсоўваючы дуалізм „духу“ і матэрый ідэялістычнай філёзофіі. Гэты матэрыялізм ня трэба ніколі зьмешваць з вядомым у свой час „натуральным матэрыялізмам“ з яго прадстаўнікамі Фохтэ, Бюхнэрам і Молешотам, якія насупроць суб‘ектыўнаму ідэялізму, які стараўся даказаць, што прырода ня больш, як фікцыя, упадалі ў другую працівалеглась[ь]ць, што „ніякае сьвядомасьці ня існуе“. „Сьвядомасьць ёсьць толькі рух матэрыі. Як жоўць льлецца з пячонкі, так сьвядомасьць выцякае з мазгоў“. Дыялектычны матэрыялізм заўсёды бадзёра змагаўся з такімі грубымі скажэньнямі разуменьня псыхікі. Для нас сьвядомасьць, мышленьне ёсьць рух матэрыі, бо апошняя прадстаўляе сабою толькі форму існаваньня матэрыі. Сьвядомасьць-жа ёсьць таксама адно з уласьцівасьцяй высока организаванай матэрыі.

## Мышленьне і існаваньне.

Чалавек ставіць сваёю мэтаю даць ня толькі тлумачэньне зьявам псыхічным; ён ставіць многа больш складаную, больш цяжка вырашымую задачу. Чалавек ставіць пытаньне: ці ў магчымасьці наша мышленьне

[1]) Пляханаў. т. 17. 3-ці ліст да Багданава.

пазнаць сапраўдны сьвет? Ці могуць нашы прадстаўленьні і паняцьці аб сапраўдным сьвеце вернымі яго адбіткамі? Іначай — пытаньні аб тоесамасьці мышленьня і існаваньня. І ў вырашэньні гэтых пытаньняў мы бачым масу процілеглых падцьверджаньняў. Скептык Юм кажа: „частка даступнага нам разуменьня надворнага сьвету абмяжоўваецца даволі вузкімі прадметамі". „Бо чалавек,—падцьверджвалі й падцьверждаюць агностыкі,—мае справу з сваімі адчуваньнямі, а хто паручыцца, ці правільна нашы адчуваньні перадаюць нам прадстаўленьне аб надворным сьвеце". Гэты скептычны пункт погляду успрыняў Кант і давёў яго да лёгічнага канца. Для яго прадстаўленьні аб надворным сьвеце ўтвараюцца падвойным шляхам. Папершае, шляхам уплыву на нас прадметаў надворнага сьвету і па-другое уласьцівасьцямі вечна-нязьменных, вечна існуючых, у нас ляжачых суб'ектыўных катэгорыях, уладаючых здольнасьцю ўтвараць парадак у тым хаосе сьвету ноўмэнаў, якія робяць уплыў на нас.

Сьвет надворны заўсёды быў і будзе незразумелым для нас; ён утварае рэчы „ў сабе", якія маюць недаступны для нас выгляд; ён ёсьць сьвет хаосу, сьвет беспарадкавай злучнасьці матэрыі. Нашы суб'ектыўныя катэгорыі ёсьць формы прастору, часу, прычыны, якімі чалавек думае, накладваючы гэтыя формы мышленьня на сьвет ноўмэнаў і дзякуючы якім гэты сьвет прадстаўляецца ў форме часу, прастору, прычыны. Гэтымі падцьверджваньнямі філёзофія Канта аказалася наскрозь пранікнутай дуалізмам. Калі ён у „Крытыцы чыстага розуму" прызнаваў уплыў на нас „рэчаў у сабе", г. зн. ён прызнаваў катэгорыю прычыны за надворным сьветам, то ў „Крытыцы практычнага розуму" ён адмовіўся ад свайго ранейшага падцьверджваньня.

Утварылася супярэчнасьць; для таго, каб вылезьці з гэтага тупіку заставалася два шляхі. Альбо прызнаць уплыў на нас рэчаў „у сабе", разумеючы пад гэтым рэчы, якія ляжаць па-за намі, альбо, як назваў Пляханаў, рэчы „самі па сабе", прызнаваць за імі катэгорыю прычыны і гэтым самым ісьці да матэрыялізму. Альбо ў другім выпадку адмовіцца ад прызнаньня ўплыву на нас рэчаў „самых па сабе" і ісьці да суб'ектыўнага ідэалізму, які з яго айцом—Бэрклі казаў, што „быць азначае існаваць ува ўспрыманьні", альбо „мы нічога ня можам успрыняць, акрамя нашых уласных уражаньняў і размоваў". Для суб'ектыўнага ідэялістага кожная асоба, кожны сябар царства жывёл успрымае сьвет розна ад другіх у залежнасьці ад яго суб'ектыўных перажываньняў. Але й суб'ектыўны ідэялізм ня мог паслужыць прапонаю для далейшага лёгічнага тлумачэньня незразумеласьці надворнага сьвету. Лёгічным канцом суб'ектыўнага ідэялізму зьявіўся соліпсызм. Калі для суб'ектыўнага ідэялізму асновай для яго вучэньня ўсё-ж зьявілася існаваньне надворнага сьвету, то для соліпсыстага існаваньне апошняга лічыцца не даказаным. „Сьвет ёсьць толькі ўласьцівасьць нашага „я",—кажа Фіхтэ,—як бесьсьвядомы акт творчасьці, які супроць стаўляе ў самом сабе надворны сьвет ня „я"[1]). Соліпсызм—гэта быў даведзены лёгічна да канца ідэялізм, які прыводзіў да абсурду. Соліпсыста павінен быў адмовіцца ад падцьверджаньня, што яго радзіла маці, што існуе яго цела. Існуе толькі „я", „дух" і больш нічога. Далей, у Канта, як мы вышэй паказвалі, прастор і час ёсьць толькі форма нашага сузіраньня, суб'ектыўны бок нашых нязьменных катэгорый розуму. Рэчы „ў сабе", ноўмэны, ня маюць гэтае формы існаваньня. Гэтае на першы погляд наіўнае падцьверджаньне зноў, як мы ўгледзім, прывядзе да соліпсызму, а значыць да абсурду. Калі тое, што, дзякуючы маім мазгом, разумеецца мною як прастор і час, ёсьць ня форма існаваньня прыроды, калі тыя прадстаўленьні, якія існуюць у мяне і кажуць аб тым,

---

[1]) Ф. Энгельс—Л. Фэйербах.

што людзі існуюць па-за мною, жылі да мяне і будуць існаваць і пасьля мае сьмерці, ёсьць толькі форма майго існаваньня, майго сузіраньня, а ня форма сапраўдных рэчаў, сапраўдных людзей, то я адмаўляюся ад падцьверджаньня, што людзі існуюць па-за мною, будуць жыць пасьля мяне, г. зн. я стаў соліпсыстым. Навука, як мы бачылі вышэй, разьбіла ў дрэбезгі гэта падцьверджаньне, гэта вучэньне. Матэрыялізм падцьверджваў і падцьверджвае, што мы жывём у рэчавістым сьвеце не сярод мараў, які існаваў да нас і будзе існаваць пасьля нас. Форма існаваньня сьвету ёсьць час і прастор. Чалавечае-ж мышленьне, законы яго мышленьня ёсьць іерогліфы, якія адбіваюць законы прыроды, формы яе існаваньня. Адсюль зразумела, чаму законы прыроды і законы думкі так згодны паміж сабою". І толькі дзякуючы правільнаму разуменьню намі сіл прыроды мы дасягнулі цяпер магутнага росквіту індустрыі, найбольш мэтазгоднага прымяненьня сіл прыроды для патрэб чалавецтва. Сьвядомасьці-ж самастойнае ад прыроды быць ня можа, сьвядомасьць верна, паколькі яна згаджаецца з прыродай. „Калі-б паміж об'ектыўнымі адносінамі рэчаў,—пісаў Пляханаў,—і суб'ектыўнымі адбіткамі ў нашай галаве ня было правільнае адпаведнасьці, то само наша існаваньне зрабілася-б немагчымым". Кантаўская-ж філёзофія аказалася мэтафізыкай, ня прызнаючы часу, як формы існаваньня матэрыі, яна павінна была адмовіцца ад прызнаньня дыялектычнага разьвіцьця матэрыі, якая можа адбывацца толькі ў часе. Чалавек, у Канта, з яго нязьменнай прыродай, сваімі нязьменнымі суб'ектыўнымі катэгорыямі, таксама супярэчыць асноўнаму дыялектычнаму прынцыпу прыроды, яе гаўсёдышняму разьвіцьцю.

З асаблівай упартасьцю Энгельс напаў на Кантаўскую незразумелую рэч „у сабе", што рэчы маюць нейкі невядомы нам выгляд. Выгляд і ёсьць вынік дзеяньня рэчаў на нас, апрача гэтага дзеяньня яны ніякага „выгляду" ня маюць". „Выгляду" па-за суб'ектам і апрача суб'екта быць ня можа"[1]). „Выгляд" прадмету ёсьць вынік пробнага ўзаемадзеяньня об'екта з суб'ектам „Ведаць прадмет міма спробы,—пісаў Пляханаў,—гэта роўнакаштоўна таму, у якім аднашэньні да суб'екта знаходзіцца об'ект у той час, калі ён ні ў якім аднашэньні не знаходзіцца". Такім, якім мы ўспрымаем прадмет, ён зьяўляецца адзіна рэчавістым, адзіна сапраўдным.

„Можа быць для жабы надворны сьвет мае зусім іншы выгляд, чым для чалавека, у залежнасьці ад будовы і працы яе органаў пачуцьця. Можа быць, уласьцівасьці прастору прадстаўляюцца розна організмам, якія стаяць на розных стопенях разьвіцьця", пісаў Пляханаў. Але збудова мазгоў жабы і майго, ад якога і залежыць маё суб'ектыўнае разуменьне рэчы „самой па сабе", утварылася не выпадкова, а зьяўляецца азначнай якасьцяй заўсёды рухомае матэрыі, а паколькі гэта так, то яно ніколькі не супярэчыць апошняй. Да й нашы прадстаўленьні аб надворным сьвеце ў першую чаргу залежаць ад асноўных форм існаваньня сьвету, якое мае об'ектыўнае значэньне для ўсіх без выключэньня організмаў.

Марксызм адкінуў „у бок схолястычную сварку аб незразумелых „рэчах у сабе" і замест іх даў новую рэч—„рэч для нас". „Чалавек зразумеў сьвет,—пісаў Маркс,—у той меры, у якой ён яго скарыстаў". „Калі даная фарба здаецца мне чырвонай і ўсім людзям таксама, а другая—чорнаю, то я і скарыстаю чырвоную фарбу, як чырвоную, а не наадварот. Раней, чым зразумець сьвет, я павінен быў на яго зрабіць уплыў і заставіць служыць сабе. Спачатку справа была". Разумеючы ўласьцівасьці рэчаў, якія робяць уплыў на нас, на нашы пачуцьці, мы разумеем і самую рэч і ў тэй меры, якой яна на нас робіць уплыў. „Калі мы ведаем уласьцівасьці рэчаў, то нам у некаторай меры вядома і іх прырода, бо прырода рэчаў выяўляецца ў яе уласьцівасьцях" (Пляханаў).

[1]) Пляханаў, т. 17 стар. 32.

Спроба і прамысловасьць служаць даказнасьцю таму, што чалавек зразумеў рэч „у сабе“ і зрабіў з яе рэч „для себе“. Калі чалавек, робячы спробу над якой-небудзь матэрыяй, ведае, які будзе вынік, як будзе рабіць уплыў на яго атрыманая матэрыя, то гэтым самым ён ня толькі зразумеў „рэч“, але й стаў прычынаю ўплыву гэтай „рэчы“ на яго. Гэтай другой даказнасьцю Энгельс палажыў канец кантаўскай рэчы „ў сабе“. Сваімі даказнасьцямі марксызм разьбіваў ня толькі Канта, але й паказваў абмылкі, якія рабілі матэрыялістыя да Фэйербаха ўключна, якія разглядалі надворны сьвет толькі сузіральна, а ня з пункту погляду конкрэтнай чалавечай дзейнасьці, ня ў форме практыкі.

„Ён, Фэйербах,—пісаў Энгельс,—не даходзіць да погляду на чалавечую дзейнасьць, як на прадметную дзейнасьць“ [1]). Чалавек пабяждае прыроду і са сваёй пабедай ён усё больш і больш знаёміцца з уласьцівасьцямі прыроды, а гэтым яго сьвядомасьць усё правільней і правільней адбівае надворны сьвет. Пагэтаму „сьвядомасьць чалавека ня можа быць нічым іншым,—пісаў Маркс,—як толькі апазнаным існаваньнем“.

За апошнія гады, гады ўсясьветнай рэакцыі, 1906-12 гады, зноў пачынаецца адраджэньне вучэньня Канта—нэоканцыянства, зьяўляецца зноў соліпсызм пад вяленам, прыгладжаны—эмпірыо-крытыцызм. Разьбіты ў дрэбезгі марксызмам, ён хоча падняцца на ногі шляхам прывядзеньня рознага роду так як-бы новых доказаў. Але ў сутнасьці, здымаючы пакроў, мы бачым стары соліпсызм. Мах—роданачальнік заходня-эўропэйскага эмпірыокрытыцызму—кажа: „калі мы ведаем аб прадметах праз тыя прадстаўленьні якія выгуквае ў нас прадмет, то няма неабходнасьці ў тым, каб прызнаваць існаваньне прадмету“[2]). Расійскія пасьлядоўцы Маха-Авэнарыуса стараюцца злучыць іх „філёзофскае“ вучэньне з вучэньнем Маркса, але атрымліваецца стары малюнак. Для Багданава—сьвет гэта ёсьць соцыяльна гармонізаваны соцыяльна згоджаны, словам—соцыяльна організаваны досьлед. Але калі зьняць нічога ня вартыя, ня к месцу прыпраўленыя словы „соцыяльны“, „організаваны“, то зноў атрымліваем соліпсызм.

Прыгожы адбітак гэтых найноўшых рэакцыйных цячэньняў, якія прадстаўляюць ня што іншае, як адбітак буржуазнае ідэолёгіі, якая знаходзіцца напярэдадні краху, іх імкненьні схавацца пад крыло мяшчанскага дабрабыту, мы знаходзім у Пляханава і ў Леніна, якія даюць жорсткі адпор усім тым, якія стараюцца злучыць Маркса з Махам, замяніць рэволюцыйны марксызм рэакцыйным махізмам.

## Эмпірычная псыхолёгія, псыхолёгія абыходжаньня і Марксыцкая псыхолёгія.

Пры самым павярхоўным вывучэньні і разгледжваньні бязьлікавых псыхолёгічных школ, вывучаючых псыхічную дзейнасьць аддзельных асоб, мы ўсё-ж заўважым, што гэтыя школы зьяўляюцца ня толькі рознароднымі па мэтоду свайго вывучэньня, але яны таксама зьяўляюцца целам ад цела, крывёю ад крыві тых філёзофчых цячэньняў, аб якіх мы вышэй казалі. Навука ёсьць ня толькі конглёмэрат ведаў па азначанаму пытаньню, але раней усяго яна павіна ўладаць вядомым мэтодам, вядомым падходам да вывучэньня данага пытаньня. Кожнае філёзофскае вучэньне і давала навуцы мэтод гэтага вывучэньня; мэтод аказваўся правільным датуль, пакуль ішоў у нагу з навукай; калі-ж апошняя перарастала тыя рамкі, тыя прапоны, у якія ставіў яе даны мэтод, яна яго адкідала ў бок. Тое самае здарылася і з псыхолёгіяй.

---

[1]) Маркс. 12 тэзісаў аб матэрыялізьме. XVIII ст.
[2]) Пляханаў т. 17-ы.

Калі маткай нашае паміраючае эмпірыкасуб‘ектыўнае псыхолёгіі зьявіўся ідэялізм з яго мэтафізычным прыпахам, калі прабацькам рэфлексолёгіі, аднае з часткі агульнае школы абыходжаньня, можна прызнаць з вядомай нацяжкай „натуральны матэрыялізм“ Фохта, Бюхнера і Молешота, вучнем якіх быў Сечонаў, першы рускі рэфлексолёг, то адсюль зусім зразумела, што наша новая, яшчэ не ўмацаваўшаяся Марксыцкая псыхолёгія верна вучэньню дыялектычнага матэрыялізму, верна прынцыпам Маркса і Энгельса.

Нават сама назва псыхолёгіі эмпірычнай школы, як навукі аб душы і душэўных зьявах альбо замест гэтага выразу Вундт карыстаецца словам „апэрцэпцыя“, якая ў сутнасьці зьяўляецца тым-жа разуменьнем душы толькі трохі пад вяленам, паказвае нам сапраўдную фізыономію гэтае школы. „Чалавек здолен думаць, здолен успрымаць, здолен запамінаць,“— вучэньне эмпірычнай школы; для яе чалавек ёсьць асяродак усяго існуючага. Гэтым яна сказалася інтэлектуалізаванай, забываючы, што чалавек ня толькі асяродак сусьвету, але й сябар яе; чалавек з яго цяперашнім розумам зусім не падобен да чалавека, які жыў 2000 гадоў перад яго. Для суб’ектыўнай псыхолёгіі псыхічныя процэсы не прасторавы, бяспрычынны, гэтым яна падарвала ўсё давер‘е да сябе, якім яна яшчэ карысталася. Калі псыхічныя процэсы не прасторавы, бяспрычынны, то, значыць, іх нельга навукова вывучаць, бо навука ня ведае бяспрычынных і непрасторавых зьяваў. Эмпірычная псыхолёгія ня ведала, альбо не хацела ведаць, што мазгі, зьяўляючыся органам утварэньня псыхічных процэсаў, займаюць азначаны прастор, а гэтым самым псыхічныя процэсы і зьяўляюцца прасторавымі.

Калі па сваім ідэям эмпірычная псыхолёгія была „біолёгічна зусім не абаснаванай, атомістычна расчлененай і наскрозь інтэлектуазаванай„ [1]), г. зн., іначай кажучы, спробнай мэтафізькай, то й па мэтоду яе працы яна была ня лепшай. Яе дэвізам быў суб‘ектыўны мэтод, мэтод саманагледжваньня. Яна забывала, што аднаўляць перажытае пры дапамозе саманагледжваньня азначае аднаўляць ня точна, бо на тры чвэрткі дзейнасьць чалавека аказваецца па-за сьвядомасьцю, якая ніякім чымам ня можа быць вывучана ўласным нагледжваньнем над сваёю сьвядомасьцю. У гэтым была яе вялізарная абмылка.

Калі эмпірычная псыхолегія адбівала ў сабе індывідуалістычныя імкненьні буржуазіі, яе ідэолёгію, то з прыбліжваючымся крахам буржуазіі пачынаўся крах эмпірычнай псыхолёгіі.

На зьмену ідэялістычнаму і напалову ідэялістычнаму разуменьню псыхічных зьяваў ішло новае разуменьне апошніх, разуменьне матэрыялістычнае. Іх сынтэзам зьявілася псыхолёгія абыходжаньня, прыняўшая ў Расіі назву рэфлексолёгіі, бо апошняя мела некаторую розьніцу ад іншых школ псыхолёгіі абыходжаньня Але сутнасьць іх вучэньня ўсюды адна.

Рэфлексолёгія з Паўлавым у галаве прызнае ня толькі прасторавасьць псыхічных процэсаў, але й паўнейшы псыхо-фізыолёгічны монізм. У гэтым яе вялізарная заслуга.

Другая заслуга псыхолёгіі абыходжаньня, а ў частковасьці нашай рэфлексолёгіі, гэта спроба растлумачыць нашы сьвядомыя й бесьсьвядомыя паступкі адным пачаткам—рэфлексам. Нагледжваючы за жывёламі, Паўлаў угледзеў, што яны ўладаюць вядомымі мэтазгоднымі рэакцыямі, якія выходзяць у адказ на раздражненьні надворнага асяродзьдзя. Падносячы сабаку мяса альбо другую ежу, ен заўважваў хуткае выдзяленьне слюны. Тады Паўлаў, прыносячы мяса, адначасова званіў у званок; паўтараючы гэта некалькі разоў на працягу некаторага часу, ён, не падносячы мяса,

[1]) Карнілаў—Псыхолёгія і Марксызм

а толькі звонячы ў званок, дабіваўся выдзяленьня слюны. Гэтых спробаў ён зрабіў вельмі многа галоўным чынам над сабакамі з многімі зьменамі, а вынікі заўсёды аднолькавыя. Тыя рэакцыі, якія ўтвараліся ў жывёлы ад непасрэднага ўплыву асяродзьдзя і зьяўляліся насьледнымі—называліся бязумоўнымі рэфлексамі. Тыя-ж, якія ўтвараліся пад уплывам раздражненьня асяродзьдзя штучнага, часовага, але зьвязанага з бязумоўнымі рэфлексамі праз асоцыяцыю—называліся ўмоўнымі рэфлексамі. Калі мяса, якое выклікала раздражненьне ў сабакі й выдзяленьне сьлюны, параджае бязумоўны рэфлекс, то раздражненьне праз званок, які будучы злучэньнем зьвязан з мясам, выклікае тое самае выдзяленьне, параджае ўмоўныя рэфлексы.

Такім чынам мы бачым, што сьледам узаемадзеяньня між жывым організмам і надворным асяродзьдзем, на аснове вядомай законамернасьці, зьяўляюцца рэакцыі організму. „Але патрабаваньні рэчавістага сьвету прымушаюць організмы ўтвараць ня толькі пастаянныя сувязі, яны прымушаюць жывёлу ўтвараць і часовыя сувязі, якія служаць тым-жа мэтам дапасоўваньня організму да ўмоў вакольнай сапраўднасьці“[1]).

Але тут ужо канчаецца заслуга Паўлава, адчыніўшага новую эру ў сфэры вывучэньня псыхікі, і пачынаецца шэраг яго вялізарных абмылак. Ён пытаецца прымяніць да чалавека тую-ж мерку фізыолёгічнае роўнавагі з прыродай. У яго, як і ў Дарвіна, чалавек зьяўляецца вянцом прыроды, у якой найбольш моцна выражана роўнавага з надворным сьветам шляхам багатага злучэньня рэфлексаў, атрыманых чалавекам у пэрыодзе дапасоўваньня. Тут Паўлаў зрабіў бяссумненна абмылку, бо ён забыў, што чалавек зьяўляецца сябрам ня толькі сьвету жывёл, але й сябрам грамады, „якая мае сваю гісторыю“. Паўлаў стараецца ў фізыолёгіі чалавека, у яго сетцы рэфлексаў „знайсьці вырашэньне тых балючых задач, якія спачатку вякоў займаюць і мучаць чалавека, знайсьці выхад чалавецтва ад цяперашняга пазору ў сфэры адносін паміж людзьмі“ [2]).

Мы бачым, што Паўлаў праз меру спадзяецца на фізыолёгію. У гэтым ён надзвычайна пахож на „натуральных матэрыялістых“, якія шляхам вывучэньня фізыолёгічнай дзейнасьці думаюць вырашыць загадку грамадзкага жыцьця.

Пляханаў на гэта вельмі трапна адказаў, што фізыолёгія кіньдзюка ніколі не растлумачыць нам, чаму ў адным кіньдзюку заўсёды перавараецца смачная яда, а ў другім зусім ня смачная, да яе пры гэтым яшчэ мала. Кіньдзюк і фізыолёгія кіньдзюка могуць даць толькі тлумачэньне законаў пераварваньня, але ні ў якім выпадку ня можа даць тлумачэньня псыхічнай дзейнасьці. Фізыолёгічнае тлумачэньне грамадзкай дзейнасьці ёсьць таксама мэтафізыка, бо адна пастаянная і ніколі не зьмяняючаяся зьява ня можа ўтвараць зьмяняемыя зьявы.

Чалавек ёсьць біосоцыяльная жывёла: ён не прыстасоўваецца да прыроды, а прыстасоўвае яе да сябе. „Усё менш залежыць чалавек ад натуральнай прыроды, усе глыбей пагружаецца ён у складняючаеся штучнае асяродзьдзе, утворанае вытворчасьцю, у асяродзьдзе грамадзкае“ [3]). Замест тых мэханізмаў, якія ўстанаўляюцца ў жывёл, якія вельмі павольна зьмяняюцца, сьледам павольнае зьмены прыроды, чалавек утварыў вытворчыя сілы, якія ставяць яго ў азначаныя грамадзкія адносіны да іншых людзей. Гэтыя грамадзкія адносіны прымушаюць чалавека стаць у новае аднашэньне да прыроды; адбываецца магутнае разьвіцьцё вытворчых сіл і разам з імі, і ў залежнасьці ад іх хуткім тэмпам разьвіваецца сетка часовых мэханізмаў, сетка ўмоўных рэфлексаў. Гэтыя ўмоўныя рэфлексы

[1]) Аркін—Мазгі і душа, стар. 84.
[2]) Карнілаў—Псыхолёгія і марксызм.
[3]) Золкінд—Нарысы культуры.

заўсёды зьмяняюцца, „тармазяцца“, па образнаму выразу Бехцерава, і ўтвараюць нашы суб'ектыўныя перажываньні, нашу сьвядомасьць. Некалі Маркс даў вобразную розьніцу паміж чалавекам і жывёлай, архітэкторам і пчалой. Пчала можа лепш любога архітэктора збудаваць соты, але розьніца паміж пчалою і архітэкторам у тым, што пчала, робячы соту, ніколі ня можа прадставіць сабе яе будову; яна робіць гэта інстынктыўна на аснове вядомых мэханізмаў, здабытых яе прэдкамі і перададзеных ёй насьледна. Архітэктор-жа раней, чым збудаваць дом, мае плян яго ў сваёй галаве. Нават язык, пры дапамозе якога чалавек адрозьніваецца ад іншых жывёл, як даказалі многія вучоныя—утварыўся ў процэсе вытворчасьці.

На вядомай стопені разьвіцьця вытворчых сіл усё чалавецтва рэзка падзялілася на клясы, псыхолёгія якіх таксама адпавядала ўмовам разьвіцьця вытворчых сіл, але прымала свой спэцыфічны характар у залежнасьці ад адносін данае клясы да сродкаў вытворчасьці. Адны і тыя-ж раздражненьні надворнага асяродзьдзя праломваюцца скрозь прызму клясавай псыхолёгіі, і прадстаўнікі аднае клясы іначай прымаюць гэта раздражненьне за прадстаўнікоў другое клясы. У жывёл-жа мы бачым аднолькавыя рэакцыі ў адказ на аднолькавыя раздражненьні. Калі Паўлаўскі пункт погляду і правільны, то яго можна толькі ўжыць да эпохі першабытнага чалавецтва, і то з вядомай нацяжкай, бо хаця там і панаваў соцыяльны аднолькавы інстынкт, але ўсё-ж чалавечыя рэакцыі ў першую чаргу залежалі не ад прыроды, а ад вытворчых сіл. А між чалавекападобнай налпай, якая прыстасоўваецца да асяродзьдзя і налпападобным чалавекам, які прыстасоўвае асяродзьдзе да сябе,—вялізарная розьніца.

Іншыя, менш сур'езныя абмылкі Паўлава, якія галоўным чынам выходзяць з першай лёгічнай абмылкі, ёсьць: інтэлектуалізм і другое—хаценьне вывучыць складаную псыхіку чалавека пры дапамозе простага рэфлекса. Адзін рэфлекс ня можа даць тлумачэньня ўсёй псыхікі чалавека, бо акрамя рэфлекторнай дугі існуюць яшчэ ў чалавека сэкрэцыйныя выдзяленьні, якія маюць даволі значную ролю ў нашай псыхічнай сапраўднасьці.

Псыхолёгію правільней назваць навукай аб абыходжаньні чалавека, якая ўключая ў сябе й чыста бесьсьвядомы акт, г. зн. перадачу на рэфлекторнай дузе, рэфлекс замаруджаны—сьвядомасьць і сэкрэцыйныя выдзяленьні. Наша рэфлексолёгія думае, што шляхам спробнага нагледжваньня надворнай дзейнасьці чалавека можна пазнаць унутраны, суб'ектыўнапсыхічны стан чалавека правільней, чым пры дапамозе суб'ектыўнага мэтоду; але рэфлексолёгія ня хоча ведаць, што наша навука яшчэ не адкрыла такіх прылад, пры дапамозе якіх мы маглі-б вывучаць замаруджаны рэфлекс-сьвядомасьць без дапамогі справаздачы данае асобы словамі. А покуль гэта так, то нам прыходзіцца зварочвацца да суб'ектыўнага мэтоду нагледжваньня, зразумела пад надглежваньнем об'ектыўнага. Мэтод рэфлексолёгіі можа існаваць толькі як адзін з мэтодаў вывучэньня псыхікі наогул.

Некалі яшчэ Форэль пісаў, што „псыхолёгія і фізыолёгія мазгоў ёсьць толькі два бакі разгледжваньня аднае і тае-ж рэчы“.

Такім чынам істотныя недахваткі псыхолёгіі абыходжаньня і нашай рэфлексолёгіі наступныя: вузкі біолёгізм, які ахапляе толькі сфэру асабістай псыхолёгіі; забываньне аб тым, што чалавек і яго абыходжаньне—зьява ня толькі біолёгічнага парадку, але і соцыяльнага. А на долю нашай рэфлексолёгіі прыходзіцца яшчэ абмылка, якая састаіць у непрызнаваньні псыхікі, як асабістае зьявы прыроды.

З гэтых асноўных ацэнак, якія мы далі эмпірычнай псыхолёгіі і псыхолёгіі абыходжаньня, паказаньня іх абмылак, цалком выяўляецца твар нашай марксыцкай псыхолёгіі.

Матэрыялістыя патрабуюць поўнага прызнаньня псыхофізыолёгічнага монізму, а гэтым самым прызнаньня прасторавасьці псыхічных процэсаў. Яны выступаюць супроць інтэлектуалізму і мэтафізыкі ня толькі эмпірычнай псыхолёгіі, але й абыходжаньня. Замест гэтага марксыстыя разгледжваюць псыхіку дыялектычна, якая выяўляецца ня толькі ў прызнаньні строгай законамернасьці і прычыннасьці псыхічных зьяваў, ня толькі прызнаньне іх разьвіцьця, якое выяўляецца ў тым, што жыцьцё ад самых простых да складанейшых організмаў, уключаючы сюды і чалавека, ёсьць доўгі шэраг усё ўскладняючагася да самай высокай меры ўраўнаважваньня з надворным асяродзьдзем. Нават працяканьне процэсаў у нашай галаве робіцца па прынцыпу строгага разьвіцьця; нішто ня губляецца бясьсьледна, усё прайшоўшае праз галаву там захоўваецца і служыць ацэнкай для зноў прыходзячых раздражненьняў. Марксызм прызнае прынцып скачкаабразнасьці псыхічных процэсаў, успрыняты ў біолёгіі і соцыолёгіі; псыхолёгія, як біо-соцыяльная навука, таксама павінна ўспрыняць гэты мэтод. Мы бачым як сьвядомыя і бесьсьвядомыя зьявы зусім не аддзелены адна ад другое непраходнай заставай, а наадварот, часта зыходзяцца адна з другою і даюць у канцовым выніку абыходжаньне чалавека. Нават гісторыя зьяўленьня псыхічных процэсаў паказвае нам сапраўднасьць прынцыпу скачкаабразнасьці, дзе інстынкт зьяўляецца новай якасьцяй у выніку ўскладніўшыхся рэфлексаў, дзе „мышленьне чалавека ёсьць якасна новая сьвядомасьць, зьявіўшаяся ў чалавечай грамадзе на вядомай стопені разьвіцьця зграі, у выніку новага, больш складанага ўзаемадзеяньня з прыродай, якое ўтварылася ў выніку ўплыву на яе пры дапамозе штучных прылад“[1]).

Калі для псыхолёгіі абыходжаньня асновай псыхікі чалавека зьяўлялася яго ўзаемадзеяньне з прыродай, забываньне аб грамадзкім уплыве, то для марксыцкай псыхолёгіі прыорытэт уплыву на псыхіку чалавека атрымала не біолёгія, а соцыолёгія.

Мэтод марксыцкай псыхолёгіі ёсьць об‘ектыўны, спробны, а пры вядомых умовах і суб‘ектыўны, але пад нагледжваньнем об‘ектыўнага. Першы мэтод ужываецца ў тым выпадку, калі неабходна вывучыць уплыў бесьсьвядомых зьяваў на псыхіку. Другі-ж мэтод у тым выпадку, калі неабходна вывучыць суб‘ектыўныя сьвядомыя перажываньні чалавека, якія ня могуць быць вывучаны пры сучасных умовах, пры дапамозе прылад.

Калі суб‘ектыўная псыхолёгія старалася даць тлумачэньне грамадзкаму жыцьцю псыхікай аддзельнага сябра грамады, то марксыцкая псыхолёгія, наадварот, тлумачыць псыхікай клясы псыхіку аддзельнага чалавека—гэта адзін з асноўных момантаў нашай псыхолёгіі. Кожная аддзельная асоба гэта так як згустак зжатых грамадзкіх уплываў, зьвязаных у маленькі вузьлік“[2]), а Маркс казаў яшчэ ясьней: „сутнасьць чалавека ёсьць злучнасьць усіх грамадзкіх адносін“[3]). Урэшце, марксыцкая псыхолёгія заўсёды прызнавала і прызнае рэчавістасьць псыхічных зьяваў і кажа, што вывучэньне псыхікі ў такой-жа меры дастойны вывучэньня прадмет, як і ўсякі іншы.

## Ідэолёгія.

Цяпер мы падходзім да разгледжваньня найбольш цікавага пытаньня, пытаньня аб ідэолёгіі.

Калі для ідэялістага чалавечая псыхолёгія, яго воля тлумачыцца асаблівай прыродай чалавека, і пры адным пытаньні матэрыялістага, якім гэта чынам нязьменная прырода чалевека можа ў розныя эпохі ўтвараць

[1]) Эсэн—зборнік «Увод у вывучэньне Марксызму» стар. 71.
[2]) Бухарын—«Гісторыя матэрыялізму».
[3]) Маркс—«Крытыка політэкономіі».

розныя ідэолёгіі, чалавек можа ставіць сабе розныя мэты—ставіла яго ў тупік, то матэрыялістыя тлумачылі ідэёва зусім іначай. Яны казалі: „нязьменная прырода чалавека ня можа ўтвараць зьмяняючыяся зьявы, а калі так, то і прырода чалавека зьяўляецца пераменнай велічынёю, якая патрабуе яе вывучэньня“. Ужо матэрыялістыя 18 стагодзьдзя казалі, што псыхолёгія чалавека залежыць ад вакольнага асяродзьдзя, але гэта быў яшчэ не здавальняючы адказ, бо асяродзьдзе само зьмяняецца і зьмяняецца людзьмі. Яны пападалі ў зачарованае кола. Маркс і Энгельс толькі й падышлі да вывучэньня гэтага асяродзьдзя для таго, каб даць тлумачэньне псыхікі чалавека. Як мы вышэй бачылі, марксызм дае тлумачэньне псыхікі аддзельнага чалавека ў канцовым выніку разьвіцьцём вытворчых сіл. Раней, чым займацца мастацтвам, поэзіяй і г. д., чалавек на аснове вядомай біолёгічнай неабходнасьці павінен быў змагацца з прыродай. „Але зьмяняючы прыроду ён зьмяняў сваю ўласную прыроду“ (Маркс), сваю сьвядомасьць, сваё мышленьне. Чалавек стаў сябрам грамады, стаў у азначаныя вытворчыя, а гэтым і ў грамадзкія адносіны з іншымі людзьмі, аго абыходжаньне стала азначацца яго месцам у гаспадарчай сыстэме. Грамада-ж усё больш і больш узбуджала чалавека к дзейнасьці, а гэтым ставіла яго ў новыя адносіны да прыроды. „Існаваньне азначае сьвядомасьць чалавека,—кажа Маркс,—і грамадзкае існаваньне азначае грамадзкую сьвядомасьць“. Многія супраціўнікі марксызму паказваюць, што калі вытворчыя сілы зьяўляюцца крыніцаю разьвіцьця грамады, то чалавек, які ўтварае гэтыя сілы, зьяўляецца першастковай велічынёю, якая ўтварае гэтае разьвіцьцё. „Чалавек ёсьць творца ўсяго“—кажуць яны.

Гэтыя людзі забывалі, што чалавек не ўтварае самавольна вытворчых сіл, а ўтварае іх на аснове вядомай неабходнасьці, якая піхае яго на барацьбу з прыродай.

Калі ў першабытную эпоху, як яшчэ не існавала клясаў, вытворчыя сілы непасрэдна рабілі ўплыў на кожную асобу, калі мастацтва першабытнага чалавека, яго поэзія адбівалі вытворчыя сілы, то з моманту зьяўленьня клясаў псыхіка аддзельнага чалавека ўжо не адбівае непасрэдна сучасныя яму вытворчыя сілы; кожнае раздражненьне надворнага асяродзьдзя праломваецца праз прызму клясавае псыхолёгіі.

Псыхіка сучаснага грамадзкага чалавека залежыць ня толькі ад яго адносін у вытворчасьці да другіх людзей, а яго псыхіка складаецца з надзвычайна складанага комплексу грамадзкіх уплываў. Экономічная будова грамады, якая ўтварылася на азначанай стопені разьвіцьця вытворчых сіл, зьяўляецца толькі падставай, на якой стаіць аграмадная, надзвычайна складаная надбудоўля: соцыяльна-палітычная будова, якая ўтвараецца на данай соцыяльна-экономічнай аснове, псыхолёгія грамады, якая адбівае экономічную аснову грамады і соцыяльна юрыдычную надбудоўлю і, у канцы, ідэолёгія, якая адбівае ў сабе ўласьцівасьці псыхікі кожнае эпохі.

Са зьменай падставы—устанаўляе марксызм—больш ці менш зьмяняецца ўся надбудоўля. Але з другога боку аддзельныя часткі надбудоўлі могуць рабіць уплыў у сваю чаргу адна на другую і рабіць уплыў на падставу, г. з. могуць дапамагаць яе разьвіцьцю і наадварот, могуць марудзіць яе разьвіцьцё. Супраціўнікі марксызму знайшлі ў гэтых двух пунктах, устанаўляемых марксызмам, супярэчнасьці і гэтым яны паказалі, што яны не разумеюць марксызму. „Як гэта,—кажуць яны,—са зьменай падставы зьмяняецца й надбудоўля, а з другога боку надбудоўлі могуць рабіць уплыў на падставу“. Маркс ім на гэта адказаў, што раней, чым рабіць уплыў на падставу, надбудоўлі павінны быць утвораны ёю і ніякае супярэчнасьці тут няма. Гэтымі словамі ён разьбіў ворагаў марсызму, якія хацелі замест цьвёрдага навуковага ўстанаўленьня аб узаемаадно-

сінах падставы і надбудоўляў утварыць паняцьце аб іх узаемадзеяньні і ня больш; але гэта ім не ўдалося.

У наступных словах відаць адносіны Энгельса да аднае з надбудоўляў—да ідэолёгіі. Ідэолёгія зьяўляецца для Энгельса тэй пэраапрацоўкай псыхікі, якая зьяўляецца ў даных экономічных умовах, „іначай яна ня была-б ідэолёгіяй,—піша ён,—ня мела-б справы з думкамі як з незалежнымі сутнасьцямі, якія самастойна разьвіваюцца з самых сябе і падуладны сваім уласным законам“[1]).

Асабліва гарачая сварка ўтварылася аб тым, якая роля чалавека ў будаваньні „свае гісторыі“. Супраціўнікі марксызму падцьверджвалі, што па вучэньню Маркса чалавек павінен сьлепа паддавацца неабходнасьці, г. зн. разьвіцьцю вытворчых сіл. Гэтым яны абвінавачвалі марксызм у фаталізме й квіэтызме. Але марксызм заўсёды ўставаў супроць фаталізму, заўсёды казаў, што „тэорыя толькі тады робіцца сілай, як заўладае масамі“. „Чалавек будуе гісторыю, але ён будуе яе не пры свабодна выбраных умовах, не самавольна, а пры найдзеных ім непасрэдна даных насьледных умовах“[2]). Чалавецтва ставіць сабе толькі спаўнімыя задачы.

Чалавек павінен „будаваць“ гісторыю, паколькі ён сам зьяўляецца сябрам грамады, часткай вялікага цэлага, але ён можа будаваць яе сьвядома і бесьсьвядома. Калі ён ведае жалезную лёгіку будучых здарэньняў, ведае ход гісторыі, то гэтым самым ён сьвядома будзе прымаць удзел у гісторычным здарэньні, можа яго ўскорыць. Чалавек які бесьсьвядома прымае ўдзел у гісторычным працэсе, ня ведаючы яго ходу, сьлепа паддаецца неабходнасьці. Першы свабодны, другі падуладны.

„Але ў гэту эпоху,—пісаў Энгельс,—калі грамадзкія адносіны ня будуць абручамі для вытворчых сіл, тады людзі пачнуць сьвядома рабіць сваю гісторыю, гэта будзе скачок чалавецтва з царства неабходнасьці ў царства волі“.

Асаблівую ролю ў сэнсе „рухомае сілы гісторыі,“ прыдаваў Маркс клясавай барацьбе. Яшчэ некалі Фэйербах сказаў, што, „у палацах думаюць іначай, як у халупах“ і гэта розьніца „думкі“ грае вялізарную ролю ў гісторыі. Калі ідэолёгія прыгнечанае клясы адбівае ў сабе сапраўдныя маёмасныя адносіны, то гэтая кляса ня мае яшче свае ўласнае ідэолёгіі. Гэтая кляса яшчэ зьяўляецца класай „у сабе“, яна яшчэ не асазнала сваіх уласных інтарэсаў. Але гэта мае месца толькі тады, калі маёмасныя адносіны данае грамады не зьяўляюцца яшчэ заставай для разьвіцьця вытворчых сіл. Але зьяўляецца момант, калі ўвесь час разьвіваючымся вытворчым сілам робіцца цесна ў рамах не зьмяняючыхся вытворчых адносін. Растуць новыя патрабаваньні грамады і ідэолёгія, раней агульная для двух па сутнасьці варожных клясаў, разрываецца. Адна ідэолёгія адбівае старыя маёмасныя адносіны, адбівае псыхіку пануючае клясы ў сучасны момант—псыхіку буржуазіі, другая, ёй процілеглая, адбівае ў сабе хутка разьвіваючыяся вытворчыя сілы, а разам з імі разьвіваючыяся патрабаваньні грамады, адбівае псыхіку прыгнечанае клясы, патрабаваньні якое ня йдуць у разрэз з разьвіваючыміся вытворчымі сіламі і патрабаваньнямі грамады—у сучасны момант клясы працоўных. Чым хутчэй праходзіць разьвіцьцё вытворчых сіл, тым вастрэй праходзіць клясавая барацьба, тым хутчэй адбываецца разрыў з псыхолёгіяй пануючых клясаў; кляса прыгнечаная з клясы „ў сабе“ пераварочваецца ў клясу „для сябе“. Наадварот, застойнасьць вытворчых сіл вызывае застойнасьць думак, застойнасьць у абвастрэньні клясавае барацьбы. У канцы наступае кульмінацыйны пункт разьвіцьця вытворчых сіл, якія ўступілі ў супярэчнасьць з вытворчымі адносінамі. Наступае момант соцыяльнай рэволюцыі, але

[1]) Энгельс—„Л. Фэйербах“ стар. 34—35.
[2]) К. Маркс—„18 брумэра“.

яшчэ надзвычайна доўга трымаецца ідэолёгія, якая адбівае старыя маёмасныя адносіны, якія доўга яшчэ жывуць поруч з новай ідэолёгіяй, якая ўжо адбівае не індывідуалістычныя пачаткі, а колектыўныя.

*У* гэтым разуменьні марксыстымі ходу гісторычнага процэсу, лепшая даказнасьць глыбокае сапраўднасьці марксыцкага вучэньня.

* * *

Цяпер нам робіцца зусім зразумелай тая бойка, якая адбываецца на навуковай арэне паміж буржуазнай суб'ектыўнай псыхолёгіяй і пролетарскай марксыцкай. Гэта сварка не выпадковая, а глыбока гісторычная; тут адбываецца сварка за ўладаньне апошняй кіраўнічай вышынёю, якая яшчэ засталася ў руках буржуазіі да апошняга часу і служыла сродкам ашукваньня мас, і пагэтаму яна так упарта абараняе сваю апошнюю моц, моц ідэолёгічнай эксплёатацыі. Цяпер проф. Чалпанаў выходзіць і кажа, што навука павінна застацца навукай і ніколі не карыстацца мэтодам азначанага філёзофскага вучэньня, хаця ён сам напалову мэтафізык. Гэта гаворыцца для таго, каб пакінуць за сабою свабоду вывучэньня гэтае навукі, свабоду асабістага яе тлумачэньня. Комуністыя ніколі не павінны дазволіць гэта, бо лепшым закладам правільнасьці гэтага вучэньня зьяўляецца ажывеньне яго марксызмам. Тым больш гэта неабходна для псыхолёгіі, якая яшчэ так нядаўна была надзвычайна мэтафізычна.

Псыхолёгія зьяўляецца ня толькі чыстай навукай, але яна павінна зьяўляцца і практыкай. „Калі я ведаю ў які бок зьмяняюцца грамадзкія адносіны дзякуючы даным пераменам у экономічным процесе вытворчасьці, то я ведаю таксама, у якім напрамку зьменіцца і соцыяльная псыхіка“ (Пляханаў). Некалі Маркс пісаў: „дасюль філёзофы толькі тлумачылі сьвет так ці іначай, але справа знаходзіцца ў тым, каб яго перамяніць“.

Марксыцкая псыхолёгія, ідучы па заветам Маркса, таксама кажа: „задача сучаснай псыхолёгіі знаходзіцца ня толькі ў тым, каб растлумачыць псыхіку людзей, але і ў тым, каб заўладаць ёю“.

І цяпер, у пэрыод пролетарскай рэволюцыі, нам неабходна заўладаць гэтай псыхікай для таго, каб з меншымі ахвярамі разьбіць цьвярдыні капіталізму і ўтварыць соцыялістычнае будучае. А для гэтага, раней за ўсё, трэба ведаць псыхіку клясаў у момант рэволюцыі, угадаць той час, калі колькасьць сабраўшаеся нянавісьці к уціскаючым узбуджае прыгнечаных да паўстаньня, угадаць пункт самага меншага супраціўленьня буржуазіі для таго, каб біць яе прама і трапна ў сэрца.

Ленін уладаў гэтым дарам угадваць абыходжаньне клясаў у тым ці іншым экономічным становішчы.

І пагэтаму, у момант Кастрычнікавай рэволюцыі ён казаў: „цяпер альбо ніколі“, бо ён разумеў, што ў сучасны момант працоўныя больш, як калі-б то ні было, абураны супроць буржуазіі, а буржуазія больш, як калі-б то ні было, зьбянтэжана. Ён разумеў, што ў даны момант з найменшымі сіламі можна захапіць уладу, і вывады яго аказаліся зусім правільнымі. Ён аказаўся гэніем ў напрамку веданьня псыхікі клясаў.

---

# ЛІТАРАТУРА.

Алесь Дарашэвіч.

## Першае Мая.

Пад сьцягам чырвоным
Людзей міліёны—
Твар іх цалуе
Вясна.
Ў дзень Першага Мая
Ад краю да краю
Песьня свабоды
Чутна.
Мінулае гора
Пазбыліся ўчора—
Сёньня мы волі
Сыны!

Ў дзень Першага Мая
Нас асьвятляе
Сонца чароўнай
Вясны!
. . . . . . . .
Гэй, паднявольныя!
Гэй вы, бяздольныя!
Слухайце горды наш
Кліч:
Ў дзень Першага Мая
Няхай вас зьяднае
Магутнае слова—
Ільліч!

Рабфакавец **Рыгор Сапун**.

## Дэлегат.

(*Сёмаму зьезду саветаў Беларусі*).

1

Хавалася сонца за лес,
Пурпурны праменьні кідала.
Зязюля ў балоце між лоз
Прыгожа, вясёла кувала.
Лажыўся на зямлю ўжо змрок,
Хвіліна лавіла хвіліну...
Мікола бадзёры здалёк
Ідзе вартаваці краіну.
Лазовыя лапці ў запас,
Пад пахаю торбачка з хлебам.
Каб марна ня траціўся час,
Ідзе ён з вялікім пасьпехам.
А думкі-ж роем, як пчолы,
Манілі, кудысь-то вялі...
Цягнік падыходзіў паволі,
А іскаркі цемру мялі.

2

Вакзал. А людзі, як мошкі
Снуюцца то ўперад, то ўзад...
Мікола загорніўся трошкі,
Што людзі на лапці глядзяць.
Заджвэгаў нехта у рэйку.
А вечара сёмы ўжо час.
Цягнік застагнаў памаленьку
Ч-ы-х—ч-у-х, ч-а-а-х—ч-а-а-х.
Мікола з вялікім пасьпехам,
За клуначак свой невялік...
На твары з нейкім усьмехам
Садзіўся на доўгі цягнік.

3

Кабыла жалезная прэцца,
Мікола ў ваконца глядзіць;
На зьезд ён саветаў нясецца...
Кабыла-ж ляціць, пыхаціць.
Пад музыку колаў і сокат
Мікола прыпомніў часы,
Калі праганялі той змрокат,
Што доўга ляжаў на зямлі.
І з гэткаю думкай ахвоча
Правёў дэлегат увесь час.
Ён марыў пра злучнасьць з рабочым...
Агонь каб яскравы ня згас.

4

Горад.
Сонца ў паветры
Плюскоча,
Сьмяецца.
Гук марша магутна
Нясецца,
Нясецца...
А ў небе штандары
Зганяюць
Усе хмары
Туды, за океаны!
Там, каб пяруны
Палілі,
Стралялі—
Працоўных з няволі
Скарэй
Вызвалялі.

5

Зьезд.
Камяніца ў грыльляндах...
На сьценах плякаты...
Сюды пазьбіралісь
На вопратках
латы—
Яны дэлегаты.
Тыя, якія ад веку
Цярпелі прымусы,
Ужо плакаць ня мусяць:
Бо яны ўладары
Беларусі.
Яны ўласнай рукою
Ёй пішуць законы,
Жыцьцё ёй прарочаць
І лепшую долю.

Янка Сапун.

## Хто ён?

*Прысьвячаецца Янку Купалу—да юбілею 20-х гадовае працы: 15 мая 1905 г.—15 мая 1925 г.*

Што за птушка ўночы
Голасна песьні сьпявала?
— Гэта сялян і рабочых
К Волі зваў Янка Купала!
Што там за гучныя крыкі
Чутны аж з самага раньня?
— Гэта пясьняр наш вялікі
Люд свой заве на змаганьне!
Што гэта там зазьзяла?
Хто па балоце там блудзіць?
— Гэта народ свой Купала
Ад сну векавечнага будзіць!
Хто там агонь раскладае
І сьвеціць яскрава ўночы?
Чаму ён на нас пазірае?
Чаго ад лапцюжных ён хоча?
— Гэта Купала поэта
Цемры ланцуг разрывае.

Гэта на нашай зямельцы
Раніца ноч праганяе!
І ўзварухнулась балота
Уздымаючы моцныя грудзі.
Пачулася песьня галоты:
— „Да волі, сярмяжныя людзі!
Да працы, хто хоча Свабоды!
Ужо час нам адмыцца ад плесьні!
Пара ўжо прачнуцца народу,
Бо мы ўжо стаім напрадвесьні!“
І гэтыя гукі ліліся
Па дзікіх балотах імшалых,
І бурнаю хваляй ішлі ўсе
На закліч поэты Купалы.
Цяпер ад балот, ад палеткаў,
Ад ніў, што красуюць вясною,
Мы шлём прывітаньне поэту,
Які нас зваў за сабою!..

Я. Туміловіч.

## Завод.

Расплыўся туман за ваконьніцай;
Устала шэрая раніца;
Засьмяялася весела сонца
Сумесна з заводам буяніцца.
Зазьвінела жалезнае горла,
Песьняй ляскочуць калёсы;
Асілак сталёвы—горнам
Пачаў распаляць новы лёс нам.

Паняслося рэха ў ваколіцу;
Прыбралася ў вопратку ніва.
Горад—заводам бурболіцца,
Грае сталёвае „жніва“...
Расплыўся туман за ваконьніцай:
Пазірае асьветная раніца;
Сумесна з заводам—сонца
Пабегла ў клюб буяніцца.

А. Александровіч.

# Мая песьня.

Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу—
вуліца ўвечары сьпіць...
. . . . . . . .
Песьня мая—шмат каму муліцца
ў сэрцы іх ветрам рыпіць.
І ня раз на мяне цкавалі,
і ня змоўклі яшчэ цяпер.
Мае песьні мяне ўзгадавалі,
а грубыя, як літара—„р“.

Выйду на вуліцу—
туліцца гоман,
сьвет ліхтароў рассыпае чад.
Вечар сутуліцца
ў сьценах нардому,
слухае ўважна даклад.

На небасхіле ценьню застылі
шапкі фабрычных труб.
Змоўклі машыны—звон бязупынны...
Толькі песьняй хвалюе клюб!

Песьня вясёлая сэрца радуе;
песьня ў сэрцы ўзьняла карагод.
— Нас прызнаюць!
засьмяецца радыё,
другой тэлеграмай:
— Даёш флёт!

Грамадой маладыя
песьню простую
на шырокі прастор, на папас!
Гудзяць правады,
гудзіць роста:
— Даёш газ
за газ!

Песьня сьціскае ціш алавяную,
песьня новага дню маяк.
Песьня—змаганьнем працоўных убраная,
песьня—мяне ўзгадавала!.. Мая!..

Мая песьня—песьня фабрык,
маё слова—звон машын.
Мая песьня—чырвань фарбаў,
маё слова—плынь душы.

Мая песьня—працы ўзоры;
гоман дня
ў рабочую пару.

Мая песьня—новы горад
Маладняк
і
Беларусь.

Песьня вясёлая, родная песьня
жыцьця маладога размах.
На заводзе за працай нас гоман песьціць.
Эх! Ныцьця непагоды няма!
Песьня мая каму яшчэ муліцца
яны, знача, нам не свае!
. . . . . . .
Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу—
вуліца ўвечары песьні пяе!

А. Руднянскі.

# Вёска.

*(Прысьвячаецца комсамолу).*

З пахілёнымі дварамі,
З вокнамі ў вяршок,
Ты марнела ўсё гадамі,
Цёмненькі куток!
На лугох тваіх квяцістых
Радасьць ня цьвіла,
І па нівах залацістых,
Як сьляза, цякла
Твая песьня, апранута
Смуткам і жальбой,
Пра нядолю, пра пакуту,
Што былі з табой.
Каб забыць на лёс свой бедны,
У цэркаў і шынок
Ты здабыты потам медны
Несла пятачок.
Там з гарэлкі будавала
Сабе шчасьця цень,
Супакоіцца жадала
У сьвяточны дзень.
І схіліўшысь на калена
Ой, прад абразом,
Цалавала ты палена,
Падлогу біла йлбом.
Але колерныя твары
Дравяных багоў
Толькі горш сьціскалі хмары
Думак у мазгоў.
Зараджалася паволі
Новая дума,—
Што здабудзеш лепшай долі
Толькі ты сама.
І ў Кастрычніку зазьзяўся
Агнявы прамень:
Над табой высока ўзьняўся
Волі сьветлы дзень.
То данёсься ад заводу
Покліч к мужыку:
„Здабываць ідзем свабоду,
Дай сваю руку!“
Ты пашла, паноў прагнала:
— Прэч з палацаў, вон!—
І садрала з гэнэрала
Залаты пагон...
Згінуў даўна пан пракляты,
Згніў напэўна цар.
Але над тваёю хатай
Многа яшчэ хмар:
Да папа яшчэ ты часта
Ходзіш на паклон
І ў ракітніку купчастым
Варыш самагон.
Яшчэ цёмны, няпісьменны
Ты, мой родны край,
І зьбіраеш надта дрэнны
З поля ураджай...
Але сьветлай бліскавіцай
Ўзьняўся, як арол,—
І жыцьцём б'е, як крыніцай,
Юны комсамол.
Ўжо засталася нямнога
Цёмных, п'яных год.
Знойдзеш ты сваю дарогу
К сьветламу „Упярод“.
Кінеш цэркаў з самагонам,
Цьмы ланцуг парвеш,
На зары Комун чырвонай
Кветкай расьцьвіцеш!

**А. Дарашэвіч.**

* *
*

*Прысьвячаецца выпуску рабфаку БДУ.*

Разганяй, бурлівы вецер,
У небе хмарак валаконцы.
Падымайся, сьцяг чырвоны,
Вышэй, вышэй, аж да сонца!
Грайце, грайце вы, музыкі,
Марш вясёлы так заўзята,
Каб пачуўся дзень вялікі,
Бо сягоньня—наша сьвята!
Гукі маршу хай нясуцца
Па ўсім сьвеце—па абшары,
Бо цяпер ужо напэўна
Нашы спраўдзіліся мары!
Песьню дружна засьпяваем,
Весяліцца каб сягоньня;
Заўтра-ж праца нас чакае
На няўзораным загоне.
Дык-жа з песьняй на палетак!
Цаліну ўзараць нам трэба!
У вянку чырвоных кветак
Хай красуе наша глеба!

**Янка Сапун.**

* * *

Усё болей, усё шырэй,
Усё шырэй, усё болей
Чырвань абшар ахапляе,
І з сенажаці, і лесу, і поля
Шэрыя хмаркі зганяе.

Сьвеціцца, коціцца,
Коціцца, сьвеціцца...
Вось ужо тут, недалёка!
Шэры туман па балоце йшчэ сьцелецца,
Шэры блакітны навокал.

Шукае прытулку,
Прытулку шукае
Між купін, лагчынак, ў балоце...
І лёс свой паганы кляне, праклінае,
І стогне, і плача чагосьці.

І ўспомніў туман
Часы расквітненьня,
Як ён панаваў ў гэтым краю,
Як засланяў ён сонца праменьні,
І поле, і кветкі, што ў гаю...

У пакуце прадсьмертнай,
У прадсьмертнай пакуце
Ён чырвані кажа ў растаньні:
„Мінулася ўсё... і больш ўжо ня будзе
Майго на зямлі панаваньня.

Цяпер-жа, цяпер...
Ня маю больш сілы,
Чырвань, з табою змагацца.
Мне месца засталася толькі ў магіле,
Табе-ж—квятнець, разрастацца!“

**Звонак.**

# За вучобай.

Ой, ды хітра падмігваюць зоры
Цемнавокаму вечару ў вочы...
Патануў ў цемнаце бурны горад
Дружна абняўшыся з ноччу...

Мо' завуць каго бляскам кіно,
Мо' надзяць каго ночы чары,
А ў мяне думкі хваляй аднэй—
Іду вучыцца я з хлопцаў аравай

Пад пахай „Стучка“, „Бухарын“,
У галаве думак сьмелых прыліў...
Вечар туліцца цемнатвары...
Вецер шмыгае ў змроку сівым...

Хай гуляе хто ў гэткі вечар,
А мне што... не, ня мне туляцца—
Траціць час на гульню мне нечага,
Бо даволі заняты я працай.

Сёньня здоляў я частку вучобы,
Дык і радасьцю сэрца клакоча.
Новы крок, значыць, уперад зроблен!
Ой, віхрыся-ж ты, песьня няўмоўчная!

Трэба, трэба навукі кузьняю
Сілы новыя стальлю выкоўваць,
Бо завуць нашы вёскі лапцюжныя
Важатых, агнём загартованых.

Бо часта яшчэ нашы вёскі
Электрыкай сьвецяць—лучынаю...
Трэба ўчыцца, каб там, дзе палоскі,
Барозьдзіў зямлю конь—машына.

Вось затым і вучыцца ахвота мне,
Вось затым я сяджу ноч над „Марксам“,
Вось затым і жыцьцю няўмоўчнаму
Я сьпяваю пабеднымі маршамі.

. . . . . . .

Вечар споўз цемнатою на вуліцу,
Зажурылася даль цемнавокая...
У мяне-ж радасьцю думкі хвалююцца,
Уперад імкнуцца размашнымі крокамі.

Мо' каго надзяць бляскам вітрыны,
Мо' заве каго бляск рэстаранаў,
А ў мяне думкі льлюцца нястрымныя—
Мой сягоньня даклад па Бухарыну.

Ой, шумуй, распрыгожы вечар,
Ветрыкам—шкетам свавольным!
Хоць туляцца з табою мне нечага,
Але ухнем, давай—разьвясёлую.

Зьм. Белы.

# Праз сьмерць да жыцьця.

Язэп Дудароў—сын парабка-селяніна, Горадзенскае губэрні.

Яго дзяцінства, хлапецтва працякала ў нізкай, цёмнай хатцы, дзе пад лаўкаю жылі свіньні, а на лаўцы мясьціліся людзі,—на прасторы палёў са стадкам кароў. Жыцьцё было нейкае нуднае. Няўдалая яда, смурод сямейнага жыцьця. Ніколі ня бачыў ён цёплага погляду, ласкі і любові сваіх бацькоў. Казалі, што там, угары, ёсьць бог, што ён робіць усіх шчасьлівымі. І ён маліўся гэтаму богу, але бог ня бачыў яго сьлёз, ня чуў яго мольбаў. Усё гэта налажыла на яго адзнаку нейкае патаемнае нянавісьці.

Вайна прайшла, крывавым мячом зьніштожыла шмат таго, што было сьвятым. Шэраг окупацый, паўстаньняў Язэп перажыў ужо хлапцом. Жыцьцё ў вёсцы рабілася ўсё цяжэй. Панскі бізун нізка вісеў над селянінам. Яго імкненьні былі зьмяты „высокай культурнасьцю“ паноў. Знаходзячыяся на усходзе „бальшавікі“ былі для сялянства іх заўсёдышнім жаданьнем. Яны хацелі быць людзьмі, а ня жывёлай, не падданымі, а вольнымі працаўнікамі на зямлі,—ім гэтага не давалі. Вельмі вольна гуляў панскі бізун...

Язэп пакінуў вёску, пашоў у горад. Неяк папаў на пошту, астаўся там сторажам. Цёмная каморка з кучаю паперы, стужак, са зграямі мышэй і пацукоў—вось дзе працякала яго жыцьцё. Уставаў ён рана-рана, браў мятлу, вымятаў у покоях, змагаўся зімою з мяцеліцаю, што насыпала вялізныя кучы сьнегу, насіў дровы, калоў лучыну, чыркаў запалкам... і хутка агонь, абхватваючы дровы, уздымаўся ўверх. А ён сядзеў ціхі і роўны.

А калі прыходзілі людзі, то часта чутно было яго імя „Язэп!“, да моцны покліч начальніка:

„Prendzej chodź tu!“

Ён зрываўся з свайго месца ў куточку, бег к тоўстаму, маленькаму, старому начальніку з пытаньнем:

„Чаго?“

Не „чаго?“, а „co pan chce?“, а потым ізноў цэлы шэраг прыказаў: „сена карове“, „пайсьці за мясам“, „секчы катлеты“...

Людзі сядзелі доўга, усё пісалі, перакладалі паперы, стукалі апаратамі, скрыпелі пёрамі, а пад канец забіралі паперы і аддавалі іх Язэпу. Ён пакідаў змагацца з дымам і бег у розныя канцы гораду, раздаваў паперы.

У яго зморанай постаці руху ня было зусім заметна. Ён увесь быццам плыў па вуліцах, заўседы поўных народу.

У яго блакітных і быццам бяздонных вачох сьвяцілася нікому невядомае жыцьцё.

Адна Пятрова была сьветлай плямай на шэрым фоне яго жыцьця. Настаўніца, кепска ведала польскую мову, за што яе і прагналі з школы. Па протэкцыі асталася на пошце. Як начальнік выходзіў, Язэп і Пятрова доўга гутарылі аб сваім жыцьці. Пятрова добра ведала сялянскіх хлопцаў, многа гадоў яна жыла сярод іх. Язэп прывык да яе. Яна прыносіла яму кніжкі, угаварыла вучыцца. Язэп скончыў у вёсцы народнае, і цяпер яму жадалася зрабіцца „чыноўнікам“. Больш ніхто ня ведаў Язэпа, ніхто ня цікавіўся яго жыцьцём. Толькі й ведалі яго прозьвішча, да зморaную постаць з глыбокаю патаемнасьцю ў блакітных вачох.

Ён жыў у каморцы, і толькі зімою, у вялікія маразы, ён садзіўся каля печы і потым доўга за сталом, а не—дык і проста на падлозе—чытаў кніжкі. Ніхто ня бачыў і ня ведаў, калі патухаў агонь у печцы, калі ён

клаўся спаць. Толькі адны пацукі чулі, як ён пералістваў кніжкі. А раніцою ён зноў калоў лучыну, падмятаў, насіў дровы, падпальваў у печцы, а калі тухла—абліваў газай і, адчыніўшы дзьверцы, доўга глядзеў, як загараліся дровы. Зноў прыходзілі людзі, грэліся каля печкі, курылі, і шэры туман зацягваў усе пакоі.

І гэтак беглі дні, месяцы...

Жыцьцё рабілася ўсё цяжэй ня толькі для Язэпа, але й старэнькі начальнік начынаў бурчэць на „bjaly orzel“, арышты, паўстаньні. А Язэпу яны давалі энэргію, будзілі надзеі. Адзін раз Пятрова сказала яму, што яна перагаварыла з „інспэктарам“ і яго, вясковага Язэпа, можна будзе дапусьціць да экзамену ў белай гімназіі. Разам яны напісалі заяву, яна аднесла яе.

Праз некалькі дзён экзамен, а пасьля—сіняе пасьведчаньне, дзе ў канцы маленькімі літаркамі прыпісана: „не дае ніякіх правоў на паступленьне ў Вышэйшую Навуковую Ўстанову“. Першыя дні радасьці прайшлі, яго стала ўзрушваць будучына. Пошта яму абрыдла. Унівэрсытэт сьв. Баторыя ня дзеля яго.

„Хіба туды? Пяхотай? Туды, дзе царства рабочых і сялян? Туды, дзе і ўбогія—людзі?“

* * *

Цемная летняя ночка. Неба смутна глядзела на зямлю. Месяца ня было. Язэп вышаў на ганак з торбачкаю, дзе ляжаў акраец хлеба, ггледзяў кішэні і рашуча вышаў за горад.

Вечар зьмяняўся раніцай, раніца—поўднем, поўдзень—вечарам. Находзіла кароткая ноч. А Язэп ішоў, ішоў праз вёскі, абыходзіў гарады, спаў у лесе, любаваўся харавством прыроды, думаючы:

„Што будзе?“.

Для лепшага жыцьця ён рашыў аддаць нават сваё жыцьцё.

Вось і граніца... кардоны, старажы...

„Не, мусіць, мне там ня быць!“—такім цяжкім здаваўся яму пераход.

Але „сьмерць, ці жыцьцё“—і ён пашоў на рашучы крок.

...І ў цёмную ноч, калі роў гром і яго гукі разносіліся далёка па лясох, калі так як з вядра ліў дождж, да сьлепячы бліскала маланка, Язэп перапаўзаў па траве між кустоў граніцу. Часта-часта білася яго сэрца, займала дух. Ён зжымаў губы, мацней прыціскаўся да травы. А дождж ліў, гром грымеў яшчэ мацней, яшчэ сьляпучай бліскала маланка.

Раптам—стрэл... за ім другі. „У мяне“—мільганула ў Язэпа. Ён прыціснуўся да зямлі, ускочыў і сагнуўшыся кінуўся ўперад.

Прайшоўшае—ззаду. Ён блізка ад мэты. Сьціх дождж, памалей чуўся гром. Прамокшы ён ледзьве заснуў, дрыжучы ад холаду.

* * *

Вялізарная заля—поўна моладзі. Толькі й відаць, што шэрыя шынелі, да сялянскія сьвіткі. Яны гарэзна ўварваліся ў храм навукі, разагналі белападкладачнікаў і разьвіваюць наступ на навуковыя вышыні—бадзёрыя, вясёлыя.

Заклічныя словы са сцэны, новыя задачы, новыя змаганьні на шляху. Але яны ня страшныя дзеля гэтае масы, якая заваявала сабе права жыць,

З вялікай радасьцю сустрэлі Язэпа... і часта-часта забілася яго сэрца, калі ён першы раз узыйшоў на трыбуну. Радасьць зьвінела ў яго словах.

За гэтымі ўсьміхаючымися шэрымі шынелямі й сьвіткамі ён бачыў жыцьцё, дзеля якога йшоў на сьмерць.

**Алесь Дарашэвіч.**

# Рэвалюцыя на Беларусі.

*Паводле поэмы М. Чарота „Босыя на вогнішчы“.*

Міхась Чарот поэта-рэволюцыянэр, узгадаваны вялікім Кастрычнікам на беларускай глебе. Да выступленьня яго на поэтычны грунт у нашай беларускай літаратуры бадай што ня было ні аднаго твору, які-б адбіваў у сабе Кастрычнікавую рэволюцыю і ў ёй упартае змаганьне вясковай беднаты за сваю лепшую будучыну, і толькі М. Чарот, як сын гэтай беднаты, у сваёй поэме „Босыя на вогнішчы“ здолеў адбіць гэтае змаганьне цалком на сваёй Беларусі.

Поэма „Босыя на вогнішчы“ зьяўляецца яскравым малюнкам нядаўніх дзён, дзён цяжкага прыгнечаньня і зьдзекаў над беларускай беднатой-басаножжу сьпярша нямецкіх окупантаў, а пасьля польскіх паноў.

Імпэрыялістычная вайна руйнуе краіну. Цэлыя міліёны абяздоленага люду без адзетку і хлеба, выгнаныя царскай уладай з сваіх куткоў, цягнуцца на чужыну, пакрываючы шляхі могілкамі. Але вось на ўсходзе пачынаецца пажар рэволюцыі; тут, у працоўных масах Беларусі, абуджаецца сьвядомасьць, што так жыць далей нельга; даволі працаваць на пузатага пана і падпанка, даволі карыстацца тымі нікчэмнымі крошкамі, якія кідаюць ім паны, нібыта з ласкі:

„А для жыцьця мала аднаго толькі хлеба,
Пагуляць-бы, душу адвесьці; эх пусьці!“

Але ўсе-ж такі беларуская басанож, яшчэ моцна прыціснутая панскім абсацам, ня мае сілы ісьці ў адчыненую барацьбу з сваімі гвалтаўнікамі. Яна адчувае новы дзень у сваіх сэрцах і з надзеяй пазірае на ўсход, дзе ўжо заіскрылася неба агнём рэволюцыі.

Беларуская басанож верыць, што гэты сьвяты агонь дакоціцца да іх вялікім пажарам.

На ўсходзе босыя паляць і нішчаць усё старое жыцьцё з яго культурным багацьцем, за што інтэлігэнцыя абзывае іх шалёнымі:

„Што вы, шалёныя, годзе,
Што вам ня шкода дабра“.

Але босыя злосна адказваюць ім:

„Маўчы, мы цябе кулакамі!
Чуеш,—ні-ні“.

Яны добра разумеюць, што гэтае дабро для босых зьяўляецца гнілым і струхлелым; яны таксама разумеюць, што ім самім трэба ўтвараць новае культурнае дабро, якім яны і будуць карыстацца.

Бура Кастрычнікавай рэволюцыі шпарка йдзе на захад, руйнуючы цэрквы, харомы і палацы—усю памяць мінулага; яна нясе з сабою чырвоны крыж. Беларуская басанож зразумела, што гэта ня той крыж пакуты, які яна цягнула цэлымі стагодзьдзямі на сваіх худых плячох,—гэта крыж вызваленьня з пад цяжкай пакуты, на ім красуецца напісанае агнявымі літарамі магутнае слова „Воля“. Гэты крыж басанож сустракае з песьнямі, вольныя гукі якіх панясьліся ўва ўсе глухія куткі Беларусі, абуджаючы ўвесь прыгнечаны люд і заклікаючы яго да змаганьня з гвалтаўнікамі.

Пажар на Беларусі шырыцца ўсё болей й болей. Пан дрыжыць за сваю ўласную шкуру, ён ня верыць, што падыходзіць канец яго ўладарству:

„Нябось, яго скончыцца песьня,
Ня будзем больш мець дармаеда,
Да працы сам пойдзе, аж трэсьне“.

Так кажа беларуская басота, палячы панскія маёнткі.

Але вось чорныя хмары павісьлі над зямлёю Беларусі.

Нямецкі імпэрыялізм займае Беларусь сваёю арміяй. Бальшавікі прымушаны адыйсьці. Бедната ня ведае, дзе шукаць ратунку, яна гатова ўцякаць разам з чырвонымі. Паны здаволена гладзяць свае таўстыя жываты, радуюцца, што песьня іх яшчэ няскончана.

Вось ужо чорны нямецкі арол уецца ў высі і выпраўляе свае хцівыя кіпці, каб задушыць Беларусь, ад якой яшчэ пахла дымам рэволюцыі.

„У ніз спусьціцца—там пажары,
Дымам павявае".

Ён баіцца, каб пах гэтага дыму не дакаціўся да трону яго імпэратара:

„І змагацца стаў угоры
З бураю мяцежнай...
Рэжа крыльлямі вузоры
У небе чорнасьнежным".

На зямлю прышоў рай, якога так шчыра жадала буржуазія разам з інтэлігэнцыяй. Афіцэры пачалі зухаваць сваімі залатымі пагонамі. Стары царскі чыноўнік з кокардай на шапцы, без папярос у кішэні гуляе па Менскім скверы, аб чым і кажа з усьмешкаю Чарот: „Мусіць шмат зарабляе". Зноў бізуны пачалі хадзіць па сьпінах працоўнага люду. Босыя загараюцца помстай да існуючых парадкаў, яны пазіраюць на ўсход з надзеяй, іх грэе думка аб тым, што хутка зноў прыдзе час вызваленьня.

„Пакуль што нам яшчэ цёпла,
Але мы вам успомнім, зладзеі!"

Мары босых спраўдзіліся. Чорны арол ня здолеў утрымаць бурлівай рэволюцыі, яна дакацілася да працоўных гушчаў Нямеччыны і пяруном жахнула па трону нямецкага імпэратара. Буржуі задрыжэлі ад страху.

Шчыльнымі шэрагамі ідуць чырвоныя палкі, босыя сустракаюць іх з радасьцю:

„Гоман, жарты, крык;
Туды бег, назад прыехаў
Бач ты, бальшавік"

Зноў пачалося жыцьцё для босых:

„Паны заграніцу,
Давай бог ногі.
Гром, навальніца.
Босым—дарогу!"

Чыноўнік ужо скінуў свой парадны сурдут; ён лае бальшавікоў, абзывае іх праклятымі. Дый ня дзіва, бо хоць пры немцах жыў без папярос у кішэні, затое-ж зухаваўся па скверы ў сваіх бліскучых гузіках.

Поп, баючыся бальшавіцкай заразы, туліцца па завулках.

Затое забурліла жыцьцё сярод босых. Яны ідуць у войска па ахвоце, бо маюць перад сабою пэўную мэту—гэта вызваліць сябе назаўсёды ад нявольнага жыцьця. Яны сьмела гуляюць па абшарах сваёй краіны, бо цяпер яны гаспадары яе.

Інтэлігэнцыя ня ведае куды кінуцца. Пайсьці з бальшавікамі ёй ня зусім бясьпечна, бо ня ведае, кім будзе звацца. Але босыя кажуць ім, што ня час вырашаць гэтае пытаньне і прапануюць.

„Давайце ўсе разам змагацца
Пакуль ня зьнішчым старое".

Бура рэволюцыі бушуе. Яна падняла на ногі глухія куткі Беларусі, аж пачуў яе стары беларускі князь, які ўжо спаў адвечным сном; вайна і агонь разбудзілі яго. Ён кліча свой паслухмяны народ для змаганьня з чырвонымі, але на свой заклік князь пачуў адказ, што гэты народ цяпер княжыць сам над сабою. Зноў на захадзе стала неспакойна. Паны апошні раз пробуюць сваю моц.

Чорнаю хмараю пачала рухацца на Беларусь польская армія, узброеная сусьветным капіталам.

Паном шкода растацца з тым багацьцем, якім яны карысталіся да рэволюцыйнага часу. Босыя таксама ня хочучь бяз бойкі аддаваць паном крывёю здабытую волю. Адыходзячы яны ўжо організаванымі атрадамі вядуць з сваімі ворагамі ўпартую бойку.

Ноч агарнула зямлю Беларусі. Ад панскага бізуна застагналі гарады і вёскі. Па вогнішчы скача белы конь польскага ўлана; злы яздок зухуецца.

„Расступіся, сьвет, дарога,
Аднаму за айчызну і за бога
Што яму?
Яго сіла, яго права—
Ёсьць бізун.
Скача ўлева, скача ўправа
Конь скакун!“

Ці-ж можа з такім становішчам згадзіцца беларуская басанож? Спробаваўшы вольнага жыцьця, хто захоча быць паднявольным і выносіць зьдзекі? Каб канчаткова вызваліць сябе з-пад панскай „апекі“ на абшарах Беларусі, басанож пачала зьбірацца ў паўстанцкія атрады. Як не мацуецца злы яздок, але-ж яго варочаюць назад моцна організаваныя паўстанцы.

Зноў з усходу ідзе басанож у руках з нажом і вінтоўкаю здабываць галодным хлеб і волю. Яны ідуць далёка на захад, яны нясуць з сабою чырвоны сьцяг волі, пад якім цесна павінен злучыцца працоўны ўсход з захадам для супольнай барацьбы з сусьветным капіталам. Шмат маладых барацьбітоў кладзецца ў магілы, але босых ня пужаюць ахвяры, яны вераць, што настане час, калі працоўныя ўсяго сьвету прыдуць схіліць галовы над іх магіламі, якія будуць зьзяць у колеры чырвоных кветак.

Захопленыя змаганьнем босыя заклікаюць у свае шэрагі тую частку працоўных, якая па сваёй несьвядомасьці не адважваецца йсьці з імі.

„Браты, за намі! кінь маленьне,
Хто праўдай жыць ня даў зарок.
Сьмялей!.. нас будуць біць каменьнем:
Мы—нашых вольных дней Прарок“.

Вось яшчэ адну і апошнюю боль цярпіць Беларусь.

Згодна перамаўленьям Рыскае згоды, буржуазія разрэзала Беларусь на дзьве часткі, зроблена мяжа паміж захадам і ўсходам. Але-ж ці можа гэтая мяжа ўтрымаць бурлівую рэволюцыю? Хутка настане час, калі гэтая рэволюцыя зьнішчыць усе межы і аднэю комуністычнай думкай зьвяжа працоўных усяго сьвету.

А пакуль што, босыя шчыра ўзяліся за будоўлю свайго новага жыцьця. Інтэлігэнцыя ня хоча памагаць ім, ня хоча нават тая частка, якая калісь будзіла ад сну прыгнечанае сялянства і несла прамень сьвету ў цёмныя сялянскія гушчы, а цяпер яна, асьлепленая агнём рэволюцыі, ня йдзе разам з босымі, з прычыны чаго поэта злосна кажа ім:

„Бяз вас раць наша узрастае,
Рады шчыльнеюць, крэпне дух!
Вы чуйце! песьня ня сьціхае:
Паўстань, хто з голаду век пух“.

Цяжка будаваць новае жыцьцё, але-ж яно будуецца без дапамогі здраднікаў. Сьцены палацу гэтага жыцьця з кожным днём растуць усе болей і болей. Хто-ж пасьмее перашкаджаць працы босых, хіба той, хто хоча быць забітым. Убогіх і разьдзетых босыя заклікаюць да сябе, каб разам стварацъ гэты, яшчэ нідзе ня бывалы, сьвет, дзе будзе ўсім цепла, сьветла і прасторна.

Яны—будаўнікі новага жыцьця. Яны-ж і гаспадары яго. Праца іх шпарка йдзе ўпярод.

„Што шаг—пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы...
Чым крыж цягнуць, лепш спаць пад крыжам.
Іграйце-ж песьню, трубачы!!!“

# БЫТ.

Д. С.

## Бытавое.

Студэнты БДУ раскіданы па трох агульных памяшканьнях: па Комсамольскай, па Беларускай і па вул. Энгельса. Жыцьцё ў іх пачынаецца вельмі рана. А 7-ай, а то й а 6-ай гадзіне ўжо пачынаюць студэнты падымацца на працу. Ну, і вядома, што калі падняўся адзін, то ўжо і пачаліся ўставаньні.

Годзі табе спаць! Царства нябеснае й зямное—усё прасьпіш!

А на вул. Энгельса так яшчэ лепей. Праз тоненькія, дашчаныя сьцены пачынаюць перагаварвацца, перастуквацца—ну, ці ж можна далей спаць?

Пачынаецца сьнеданьне, а потым і да працы. І чаго толькі ня ўбачыш і не пачуеш тут, як пачнецца вучоба? Тут і „Гісторычны матэрыялізм“ Бухарына, і Цярошын, і Багданаў, і Зёрнаў... І ў гэтым гуле ня ўсякі, а то і ўсе ня маюць магчымасьці працаваць.

А калі зьбіраюцца ўвечары, то пры сьвеце электрычнай лямпы, а то й проста маленькае газоўкі пачынае біцца студэнцкі пульс жыцьця. Ня толькі чытаць і пісаць нельга, але іншы раз проста і сядзець ня ўседзіш.

А ў бары, бары
Тры дарожанькі...

пераплятаецца са сьпевам бадзёрай маладняцкай

...мы маладняк бунтоўны
рабочых і сялян!

Галасы ўсіх адсьценяў, усіх моцаў. А калі абрыдне ўжо сьпяваць—пачынаюць спрэчкі. І аб чым толькі не гавораць! Тут і плян Даўэса, і пленум Комінтэрну, і залікі, і аб тым дзе лепей: на пэдфаку, ці на мэдфаку, і аб літаратуры; адным словам—аб усім.

Доўга гэтак цягнецца: да першае й да другое гадзіны ночы. Спрачаюцца датуль, калі ўжо сам стомлены організм цягне да ложка.

І гэтак кожны дзень...

* * *

Вось малюнак жыцьця. Вось хібы нашага быту. І калі паглядзіш, так большая частка акадэмічна адстаўшых—з агульных памяшканьняў. Грамадзкі актыў—таксама з агульных памяшканьняў. Трэба адзначыць, што студэнты сьпяць ня больш 7—6, а то й 5 гадзін у суткі.

Атмосфэра жыцьця дрэнная. Аб гэтым сьведчыць тое, што больш актыўныя бягуць адтуль на прыватную кватэру, бо там ня так жахлівае становішча жыцьця. Трэба зьвярнуць больш увагі быту студэнтаў, бо нам патрэбны здаровыя спэцы, а ня хворыя дактары ці настаўнікі. Нам патрэбна новая здаровая зьмена.

Г. Д.

# Наш быт.

Зімовая раніца. Ня гледзячы на раньні час „штудэн-зал“ анатомкі паўнюсенькі мэдыкамі 1-га курсу. Доўгі хвост за косткамі, якія яшчэ так нядаўна выклікалі агіду, а цяпер ціханька ляжаць поруч з галоўнай, а часам—адзінай ядой студэнта—хлебам.

Шум, гоман. Спэцыфічныя гутаркі 1-га курсу мэдфаку. У цябе mandibula (ніжняя сківіца) ўся зьедзена чарвякамі, твая os temporale (лобная костачка) ненормальна і г. д.

За сталамі, на сталох—зуброжка, гутаркі на розныя тэмы.

Пад шклом, вышчарыўшы зубы, сьмяюцца касьцякі.

Тыя-ж на лекцыі па неорганічнай хіміі. Добрая вярста ад анатомкі. Але нічога. Прывыклі бегаць па 5-6 а то й болей вёрст у дзень. Профэсар круціць розныя кадрылі, вальцы і полькі з вугляроду, кіслароду, вадароду і іншых элемэнтаў. Першы курс—навічкі, як зачарованыя. Усё так захоплівае, цікава, такое роднае! Неяк лёгка і хутка родняцца мэдыкі з чарвякамі, глістамі, вошамі і прусакамі.

Першае крашчэньне мэдфакаўскае—праца над мерцьвяком. Нясьмела падходзяць да яго. Сьпярша філёзофія бярэ верх: „Гэта-ж чалавек“ і г. д. Але надалей і ён робіцца родным. Над ім распаляюцца навуковыя і палітычныя спрэчкі, вырашаюцца „сусьветныя проблемы“, рыхтуюцца да палітычных, газэтных і інш. гурткоў; над мерцьвяком-жа часам пачынаюцца й „романы“. Да й хто з нас маладым ня быў?

Мярцьвяк раскладваецца, пах чорт ведае які, а мэдыку хоць бы што! Сумлена рыючыся ў кішках, лёгкіх, мазгох, разрэзваючы й абчышчаючы суставы, агледжваючы нэрвы і сасуды, уважліва разгледжваючы розныя прэпараты мэдыкі кіпяць вясёласьцю. Варта прайсьці каля анатомкі, каб пачуць брызгаючую вясёласьць мэдыкаў разам з мярцьвецкім пахам. І гэта мэдыкі—„няжывы народ“, як завуць нас пэдфакаўцы і, асабліва, фонаўцы.

На другім курсе значнае месца займае аналітычка. Тут студэнты праводзяць большую частку дня. Розныя пахі—нічога! Наадварот: моцнае захапленьне хіміяй тут вельмі частае. Пра такіх нават складаюць песьні, як

Сера, кальций алюминий,<br>
Водород, эфир,<br>
$H_2O$, $PO_4$—<br>
Вот и весь мой мир.

Сьмярдзючы пах серавадароду, зьмешаны з іншымі вострымі, ня менш „прыемнымі“ пахамі, тут нават няпрыкметны. Кіпяць і шыпяць розныя газы, а мэдык пасьпее і прачытаць што небудзь, і памяняцца з другім якою-небудзь навіною.

З 2-га курсу, здаўшы паўкурсоўку і фізыолёгію, мэдыкі робяцца больш сур'езнымі, бо хутка прыдзецца пазнаёміцца з сапраўдным жывым хворым. Працы шмат. І працуюць, працаюць мэдыкі, сьпяшаць кончыць з мерцьвякамі, каб перайсьці да „сапраўднае працы“. Падводзяцца вынікі двух курсаў, падцягваюцца хвасты, рыхтуюцца да новае працы.

Трэці курс. Праўдзівы, запраўдны жывы хворы дэмонструе прад іх вачыма. Розныя хваробы праходзяць адна за другою. Пачынаюцца навучаньні профэсароў, як рабіць у тым ці іншым выпадку, як трымаць сябе каля таго, ці іншага хворага. Сазнаючы ўсю паважнасьць, не прапускаюць ніводнае лекцыі, ніводнага слова, дзе можна што небудзь новае пачуць аб мэдыцыне. Жарт сказаць! Праз 3 гады прыдзецца самастойна працаваць! Тэрмін кароткі, а ведаць трэба вельмі многа. І бегаюць, бегаюць трэця-

курсьнікі з аднае клінікі ў другую, пасьпяваючы то на абход, то на прыём, хватаючы кожнае слова. Бегаюць з самае раніцы да позьняе ночы, з Пастэраўскае станцыі ў 1-ую саўбальніцу, адтуль у 2-ую, 3-цю і г. д. А тут яшчэ й навуковыя гурткі. Кожнаму больш падабаецца той ці іншы аддзел мэдыцыны. І вось ідзе пагыбленая прапрацоўка матар'ялаў у гуртках па хірургіі, тэрапіі, мікробіолёгіі і г. д. Не абходзіцца справа і бяз выпадкаў. Але бывае гэта толькі ў першую пору. Больш няпэўнаму мэдыку здаецца, што й ён хварэе тым, чым і хворы. І цягнецце яго хаджэньне па дактарох і професарох датуль, пакуль не пасьмяецца з яго свая-ж братва—студэнты.

4-ы і 5-ы курсы тыя ўжо зусім залезьлі ў мэдыцыну, праводзячы дні і ночы на дзяжурствах, на прыёмах у амбуляторыях, прысутнічаюць пры нараджэньні, курыруюць хворых. Гэта ўжо без 5-ціхвілінныя дактары.

Не адстаюць мэдыкі і ад грамадзкага жыцьця. Находзіць вечар, і ўся чытальня мэдфаку паўнюсенькая. Тут працуюць гурткі: па Ленінізму, палітычныя, газэтныя і г. д.; кіруюць гурткамі, праводзяць ліквідацыю няпісьменнасьці, працуюць у розных грамадзкіх організацыях і г. д.

Так праходзіць наш вучэбны час, перападваючы з рознай працай.

**Янка Чабор.**

# Два лісты.

Выпадкова маюцца пад рукамі два лісты: адзін з іх рабфакаўца С. а другі—ад яго бацькоў з вёскі, якія асьвятляюць як пытаньні рабфаку й гораду, так і вёскі.

I.

Ліст ад сына-рабфакаўца С.

— Паважаныя бацька й маці! Пастараюся напісаць вам усё, аб чым вы мяне прасілі. У нас на рабфаку вучыцца больш, як 350 чалавек, і кішыць рабфак у час заняткаў, як муравейнік вадою абліты. Столькі руху, што мудрэй як у час гарачае працы на палетку. А пасьля заняткаў у клясах, а гадзіне 2—3, ідзём у сталоўку студэнцкую абедаць.

Паабедаўшы—зноў да працы. Тут ужо гурткі розныя і падрыхтоўка заданьняў на наступны дзень. Кладземся мы спаць позна, гадзіне а 12—1-ай уночы, а то ўсё вучымся.

Жывём усе разам у абшчажыцьці—вялікім мураваным доме. У нашым пакоі—9 чалавек: 4 хлопцы-беларусы і 5 жыдоў—з фабрыкі яны. Жывём колектыўна, што ў аднаго ёсьць, тое на ўсіх ідзе. Ёсьць і дзяўчаты; яны жывуць у аддзельных пакоях.

Атрымоўваем пэнсію ў месяц 12 руб., але з іх вылічваюць за яду і іншыя патрэбы, і на рукі даюць 2—3 рублі. Нядаўна выдалі мне сяньнік, коўдру і матэрыі на бялізну. У лазьню ходзім праз кожныя два тыдні.

Наогул мне, як ня бачыўшаму лепшага жыцьця, жывецца надта добра. Са мною сябруюць комсамольцы і я таксама думаю стаць комсамольцам, каб лепш весьці барацьбу за наша сялянскае жыцьцё і паляпшаць яго.

Паважаныя бацька й маці, каб вы ведалі, як я цяпер здаволен, што вучуся, а вучымся мы шмат. Нават у сьвяточныя дні ня маем адпачынку, не праваджу я дарма часу, як калісь у вёсцы, а заўсёды прымаю ўдзел у працы. Хаджу ў тры гурткі: па вывучэньню беларускае літаратуры, міраведаньня (вучыць аб тым, адкуль сьвет зьявіўся) і вучуся сьпяваць.

Па нядзелям езьдзім у вёску, над якой наш рабфак шэфствуе. Рабфак дапамагае будаваць новую вёску. Пасылаем бяз грошай кніжкі, газэты, памагаем вырашаць скаргі і іншыя пытаньні. Ладзім вечары, але бяз ско-

каў, з якою-небудзь лекцыяй, са спэктаклем. Гэтакія-ж вечары ладзім і ў сябе на рабфаку.

Гэта рабфак... А жыцьцё гораду таксама б'е крыніцай. Цэлы дзень ад раніцы да позьняй ночы снуюць людзі, як шалёныя лётаюць аўтомобілі. Горад вялізны, з вялізнымі шматпавярховымі дамамі. Увечары на вуліцах гарыць электрычнае сьвятло.

За горадам і ў горадзе шмат фабрык і заводаў. Там працуюць рабочыя. Цяжкая праца ня страшна цяпер ім, і пасьля працы ідуць яны ў клюб—пачытаць газэту, разабрацца ў тым, дзе што робіцца па-за фабрыкай. Яны на новы лад будуюць сваё жыцьцё, стараюцца разумна скарыстаць свой час, ня так, як у нас, што праводзяць свой час у п'янстве, сварках і розных бойках.

Але ўжо позна. Заснулі ўсе мае таварышы, пачынае ўжо, здаецца, засыпаць і горад. Аб тым, што робіцца наогул на сьвеце—напішу ў другі раз.

Шлю ўсім вам свой рабфакаўскі паклон, ваш сын

*Сымон.*

II

Пісьмо ад бацькоў да сына з вёскі.

Дарагі сыночак Сымонка! Мы вельмі рады твайму лісту, з якога даведаліся, як вы там жывяце і вучыцеся. Ты-ж ведаеш, сынку, што мы ў Менску ня былі, і дзеля гэтага нам вельмі цікава было паслухаць твой ліст. Маці чуць ня плакала, слухаючы яго.

Ты вось пішаш, Сымонка, што будзеш паступаць у касамол. Што-ж, калі гэта ня кепска, то йдзі. Няхай бог табе паможа. Толькі не рабі нічога дрэннага. Старайся, вучыся, сынок. Можа ў людзі выйдзеш.

У вас там шэф памагае вёсцы кніжкамі, газэтамі і іншымі рэчамі, а нам—дык ніхто нічым не дапамагае. Наш Міхаська ходзіць вось у школку, так ні кніжак, ні паперы няма. Кніжку, кажуць, потым прышлюць, а пісаць, дык і няма на чым. Чытае ён усё больш беларускія кніжкі, кажа, што пабеларуску лягчэй вучыцца. Вось толькі мы ня ведаем ці добра гэта будзе; ды ня ведаем яшчэ, ці пускаць нам яго ў піванэры. Парадзь ты нам, Сымонка.

Дзякаваць богу, падатак здалі. Дзеля другіх, кажуць, ён занадта цяжкі і шмат яшчэ не здалі. Скажы ты нам, дарагі сынок, чаму гэта нашы тавары ўсе танныя, а як гарадзкія—дык дарагія. Крамніны набраць, ці што іншае—дык не падступішся. Чаму гэта так? За дровы таксама бяруць вялікую плату, ды нават цяпер лесу няма. Зіма, а паліць няма чым Як у каго ёсьць мужчыны, то едуць у лес ды крадуць ноччу, а нам—вельмі кепска. Ты, здаецца, пісаў, што ў вас там разумныя вечары ладзяцца. А ў нас—дык толькі п'яныя ходзяць ад самагону ды платы ломяць, а дзяўчаты цэлую ноч прадуць. Вось і ўсе навіны. Больш няма. Толькі, здаецца, капэрытаў нашы ў вёсцы думаюць адчыняць, ці што.

А пакуль што—бывай здароў. Шлём табе сваё бацькаўскае прывітаньне. Твае—бацька й маці.

---

Тут адбіваецца ўсё жыцьцё, відны ўсе болечкі. У такіх лістох адбіваецца наш быт і праменьні новага жыцьця, праводзіцца сувязь рабфакаўскай моладзі з глухой вёскай.

---

# ПЫТАНЬНІ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ.

Я. Кайданаў

## Летняя праца студэнтаў у вёсцы.

Сучасная вёска прадстаўляе ня тое, што было два, нават адзін год таму назад. Сучасная вёска расьце, мацнее, у ёй зьяўляецца імкненьне да грамадзкасьці, да савецкага будаўніцтва. Але колькасьць працаўнікоў у вёсцы не здавальняе ўсіх запатрабаваньняў яе і ў гэтым напрамку ёй часта цяжка дапамагчы.

Пролетстудэнцтва, якое едзе на летні адпачынак у вёску, павінна зьявіцца тэй сілай, у якой цяпер на вёсцы адчуваецца вялікі недахватак. Пролетстудэнцтва павінна зьявіцца правадыром у вёсцы савецкага будаўніцтва, тлумачом усіх савецкіх прадпрыніманьняў. Але трэба памятаць, што толькі тады мы дасягнём пажаданых вынікаў, калі мы будзем ісьці да свае мэты па раней намечанаму пляну, з поўным уяўленьнем таго, што нам патрэбна. Гэта трэба неабходна мець на ўвазе кожнаму студэнту і не раскідвацца ў сваёй працы на вёсцы, як гэта вельмі часта здараецца, а праводзіць усё плянава.

Вядома, што галоўны недахват сіл у вёсцы адчуваецца на політасьветным фронце, і на гэтым фронце прыдзецца больш усяго працаваць студэнтам, у зьвязку з нарастаючым імкненьнем у вёсцы да самадзейнасьці, да ўдзелу ў дзяржаўным будаўніцтве. У першую чаргу трэба павысіць політычны ўзровень насельніцтва, і даць адказы на яго сельскагаспадарчыя запытаньні.

Бязумоўна, што асяродкам усёй працы ў вёсцы зьяўляецца хата-чытальня. Становішча хаты-чытальні вельмі многа значыць і значна больш робіць уплыву на сялянства. Дзеля гэтага перш-на-перш трэба зьвярнуць увагу на становішча хаты-чытальні і на яе абслугоўваньне, растлумачваючы сялянам значэньне яе і неабходнасьць дапамогі ёй.

У працы хаты-чытальні трэба зьвярнуць увагу на масавую працу. Да гэткай належаць: моцнае чытаньне газэт, выданьне насьценнае газэты й г. д. Вёска наша ў сваёй большасьці яшчэ малапісьменная і дзеля гэтага хаця газэта ўсюды ёсьць, але ня ўсюды яе прачытаюць, зразумеюць. Практыкуючаеся моцнае чытаньне і разам з гэтым растлумачваньне чытаемага дае значныя вынікі; у гэтым студэнт павінен прысьці на дапамогу таму чытачу, які ёсьць пры хаце-чытальні і абавязкова організаваць такія чытаньні там, дзе іх няма. Таксама абстаіць справа і з насьценнай газэтай. Ёю вельмі цікавяцца ўсе, але ня ўсюды яе могуць добра зрабіць. Трэба дапамагчы ў рэгулярным выданьні яе там, дзе яна існуе, і пастарацца выдаць за лета хаця 3—4 нумары там, дзе яе зусім няма. Поруч з выданьнем насьценнай газэты трэба павясьці шырокую агітацыю сялян за падпіску на друкаваныя газэты, якія ім вельмі патрэбны, як „Беларуская Вёска“, „Крестьянская газета“ і інш. Добра вядома, што хаты-чытальні існуюць далёка ня ўсюды і многа ёсьць нават сельсаветаў бяз хатаў-чытальняў. У такім выпадку, зразумела, уся праца павінна адбывацца пры

самым сельсавеце, пры ячэйцы ЛКСМБ, пры школе. У той час, як у хацечытальні можна свабодна організаваць лекцыі, даклады і г. д., уцягваючы у гэту працу мясцовых: агранома, настаўніка, доктара, то там, дзе хатычытальні няма, гэта зрабіць ужо значна цяжэй таму, што пэўнага месца дзеля збору сялян няма, і тут трэба скарыстаць кожную сходку, кожную вечарынку. Але тут таксама неабходна організаваць моцныя чыткі газэт, выданьне насьценнае газэты, чытаньне дакладаў.

І ўва ўсёй гэтай працы трэба кожнаму студэнту ведаць і ніколі не забываць, што ён не павінен рэвізаваць працу на вёсцы, як гэта, к вялікаму жалю, вельмі часта здараецца, а павінен дапамагчы сваім досьледам, сваімі ведамі. Дзеля гэтага ён не павінен адрывацца ад кіруючых установ, а працаваць толькі пад іх кіраўніцтвам. Толькі сумесна з райполітасьветаддзелам, сумесна з сельсаветамі і ячэйкай ЛКСМ павінна праводзіцца ўся праца стдэнта, дзеля чаго ён павінен узяцца на вучот зразу, як толькі прыедзе ў вёску.

Беларусь—малапісьменная. Амаль-што самая большая колькасьць няпісьменных пападае на нашу вёску. Трэба ліквідаваць няпісьменнасьць, трэба організоўваць таварысты „Прэчь няпісьменнасьць", уцягваць сялян у гэту справу, бо дзяржава ня можа даць яшчэ здавальняючую колькасьць сродкаў на справу поўнае ліквідацыі няпісьменнасьці. Трэба пастарацца організаваць пры кожным сельсавеце хаця-б два-тры лікпункты. Асабліва лёгка гэта зрабіць там, дзе ў адным сельсавеце будуць жыць некалькі студэнтаў.

Як пры хаце-чытальні, так і там, дзе яе няма, існуе шмат розных гурткоў. У большай сваёй частцы яны працуюць бяссыстэмна, а часам нават бяруць шкодны ўхіл. На апрацоўку пляну дзеля гэтых гурткоў і на адпаведную пастанову справы ў іх трэба зьвярнуць таксама значную ўвагу. Асабліва гэта датычыцца антырэлігійных гурткоў. Часта здараецца, што наша моладзь у сваім імкненьні зрабіць усіх бязбожнікамі перахватвае меру і атрымліваюцца зусім адваротныя вынікі. У напрамку зьнішчэньня гэткіх зьяваў і пастановы ўсёй справы ў антырэлігійным гуртку на вывучэньні прыродазнаўства, утварэньня сьвету і інш. і павінна вясьціся праца студэнта.

Перад Компартыяй і Савецкай уладай стаіць першараднае заданьне—вырваць сялянства з рук прыватных гандляроў-спэкулянтаў і прыцягнуць да коопэрацыі. Слабасьць коопэрацыі ў вёсцы ёсьць самае слабае зьвяно саюзу гораду з вёскай. Узмацненьне й рост коопэрацыі ў вёсцы ёсьць раней усяго барацьба за вызваленьне бедняка й серадняка вёскі ад кулацка-спэкулянцкай няволі, якая прымае самыя розныя формы. Узмацненьне разьвіцьця коопэрацыі мае й вялізарнае культурнае значэньне для вёскі як у сэнсе павялічэньня самадзейнасьці сялянства, так і агульнага пад'ему культурнасьці самае сялянскае гаспадаркі праз прасоўваньне ў вёску сельска гаспадарчых прылад, насеньня й г. д. І тут студэнт павінен выявіць сябе, як грамадзянін, павінен прысьці на дапамогу савецкай уладзе і компартыі. Студэнт павінен растлумачыць, што толькі шляхам коопэраваньня, толькі тады, калі коопэрацыя выцісьне прыватны гандаль,—вёска зможа высьці з тых экономічныхціскоў, у якіх яна знаходзіцца цяпер. Неабходна павесьці самую шырокую кампанію па ўцягваньню сялянства ў коопэрацыю, за дапамогу ёй. З другога боку трэба зьвярнуць увагу на становішча нізавое коопэрацыі, яе працу, адносіны да сялянства, ці вялікі процант сялянства яна ахопліваё, ці здаваляе сялянства.

Крыху паасобку стаіць наступнае пытаньне. Усюды організоўваліся гурткі па вывучэньню краязнаўства, па вывучэньню жыцьця нашае вёскі. Але дасюль мы бачылі, што, ня гледзячы на ўсе жаданьні разгарнуць працу ў гэтых гуртках, нічога ня выходзіла, гурткі зачыняліся самі па сабе,

бо нельга вывучаць самы быт, самае жыцьцё вёскі седзячы ў горадзе. Адчыняемыя ў розных газэтах і журналах аддзелы па краязнаўству таксама нічога не даюць, апрача сухіх навуковых трактатаў. А вывучэньне свайго краю, яго становішча ў розных галінах жыцьця, яго фаўны, флёры нам неабходна. У Беларусі, амаль што як нідзе, ужываецца абрадавасьць, але абрадавасьць асаблівая, перамешаная з расійскай і польскай, а на поўдні нават і з украінскай. Апрача таго, на гэту абрадавасьць, і наогул на ўжываемые песьні й іх мотывы, зрабіла значны ўплыў рэволюцыя. Гэта толькі адзін бок вывучэньня, а такіх бакоў ёсьць шмат. Наогул студэнту ў летнія часы прадстаўляецца магчымасьць сабраць значныя матар'ялы па вывучэньню краязнаўства. Гэта дасьць нам багаты навуковы і літаратурны матар'ял, а з другога боку — мы толькі тады зможам дапамагчы селяніну, калі добра будзем ведаць яго становішча, будзем ведаць, што яму патрэбна.

Немагчыма тут зачапіць і высьвятліць усе тыя пытаньні, з якімі так ці іначай прыдзецца студэнту сустракацца ў вёсцы. Я толькі зазначыў галоўнае, на што трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, на што трэба аддаць большую частку свайго часу.

Наогул жа трэба сказаць, што на студэнта ў вёсцы, у часе яго летніх вакацый, ускладаюцца вялікія надзеі, ад яго чакаецца шмат працы. І студэнт павінен выканаць гэта, павінен паказаць, што ён нясе свае веды туды, адкуль прышоў вучыцца.

**Зьм. Сьнежка.**

# Яшчэ аб мэтодах выкладаньня на мэдфаках [1]).

*(Да арт. т. Сандамірскага „Чырвоны Сьцяг“ № 2).*

Калі падымаецца пытаньне аб мэтодах выкладаньня на мэдфаках, то трэба заўсёды памятаць, што нельга ўжываць адны і тыя-ж мэтоды на ўсім мэдфаку. Трэба падзяляць мэтоды выкладаньня на першых курсах (1-2) і на вышэйшых курсах (3-5). І калі падымаецца пытаньне аб рэформах выкладаньня, то яно ў большай сваёй частцы датычыцца першых курсаў, бо на вышэйшых курсах гэтыя мэтоды могуць толькі быць living rознымі ў зьвязку з розным становішчам; праца там вядзецца ў амбуляторыях і клініках. Рэформа іх датычыцца толькі ў невялікай частцы.

Старыя мэтоды выкладаньня ня годны. Трэба новыя. Але ў шуканьні іх часам прыходзяць зусім да недарэчнасьці. Нам трэба ламаць у корані старыя мэтоды. Мы ўсе добра ведаем, што лекцыйны мэтод нас не здаваляе, да й здаволіць ня можа. Тав. Сандамірскі замест таго, каб даць проэкт мэтодаў выкладаньня, які быў-бы лёгкі да выкананьня ў сучасных умовах, падсоўвае нам „старое віно ў новых мяшкох“. Нам трэба не перабудоўваць, а будаваць спачатку, бо школа развалілася на сваім лекцыйным мэтодзе.

### Чаго мы чакаем ад новых мэтодаў.

Кожны ведае і говорыць з нейкай грэблівасьцю аб „заліках“, „лекцыях“, „практычных працах“. Кожны ведае, што толькі на некаторых лекцыях ёсьць слухачы, а іншыя чытаюць свае лекцыі для 3-4 студэнтаў. Гэта факты—іх шмат у нас (у Менскім мэдфаку) на ўсіх курсах. Залікі здаюць, каб мець у кніжцы залік і подпіс, а да кастрычніка—minimum. Практычныя—гэта цяжкі абавязак, і зусім правільна пісаў аб іх т. Сан-

[1]) У парадку абгаворваньня.

дамірскі. Ці-ж гэтак павінна працаваць кузьня чырвоных дактароў? Ці-ж ёсьць карысьць з таго, што студэнт 3 альбо 4 курсу здае залік па фізыцы, альбо зоолёгіі? Практычная праца студэнта зусім адарвалася ад працы ў унівэрсытэце. Трэба іх неяк зьвязаць. Шмат перашкод прыносіць рознастайнасьць студэнцтва. Калі на рабфаку зразу перайшлі да выкладаньня па Дальтон-пляну, то ў нас патрэбны некаторыя пераходныя стопені. І ў гэты самы час мы кажам: скарэй ад старога, бліжэй да новага. Новы мэтод, мэтод пераходны, павінен зьвязаць у адно ўсю працу студэнта, даючы яму больш самастойнай працы, але кіруючы ёю заўсёды. Дагэтуль у нас працай студэнта ніхто не кіраваў, ён працаваў незалежна ад усяе працы ўнівэрсытэту, а часта і ўсяго студэнцтва. Вось чаму і жыцьцё, і працу грамадзянскую мы ніяк ня ўмелі скампактаваць, сынтэзаваць.

### Які павінен быць „пераходны мэтод“.

У першую чаргу трэба адмовіцца ад лекцый, практычных заняткаў і залікаў. Толькі ў такіх варунках будзе карысьць з рэформы. Трэба больш зьвязаць студэнта з унівэрсытэтам і зьвязаць вось як: адмовіўшыся ад лекцый, адмовіцца й ад сумеснага паднясеньня ўсіх навук, як гэта робяць у нас. „Усе зразу“—гэта нягодны мэтод. І хапаецца студэнт і за фізыолёгію, і за фармацыю, і за біолёгічную хімію. Рвецца, сьпяшаецца з аднае практычнае на другую—і нічога ня выходзіць.

Трэба ўсе прадметы падзяліць на некалькі цыкляў, аб'яднаўшы сродныя, напр.: хімічныя навукі (усе хіміі), анатама-фізыолёгічныя (анатомія патолёгічная, нормальная, топографічная і фізыолёгія), потым аб'яднаць гістолёгію з патолёгічнай анатоміяй і інш. Усе студэнты разьбіваюцца на толькі груп, колькі ёсьць прадметных груп. У гэтых групах студэнты праходзяць вядомыя прадметы ў іх скупнасьці, праходзіцца ўсё наглядна, студэнт займаецца працай толькі ў адным напрамку, не раскідваецца; практыка аб'ядваецца з тэорыяй. Усе галоўныя пытаньні, як і ўвесь цыкль, прапрацоўваецца колектыўна. Профэсар толькі кіруе самадзейнасьцю студэнтаў, дапамагае ім. У працы па цыклям ніколі ня варта, як радзіць т. Сандамірскі, ужываць мэтод дакладаў. Гэта значыць, студэнт зноў выб'ецца з каляіны колектыўнае працы і будзе займацца толькі пытаньнем дакладу. У процэсе працы профэсар знаёміцца з актыўнасьцю кожнага студэнта за яго працай, глядзіць, каб ён не адставаў ад усіх... І гэта замест старых залікаў.

Адпрацаваўшы ў адным цыклю, студэнты пераходзяць у другі. Па прадметам грамадзкім засноўваецца аддзельны цыкль.

Даўжыня цыклю па часу залежыць ад прадметаў, якія ён аб'ядвае. Анатамічны цыкль большы, як цыкль грамадзянскі. У сярэднім ён цягнецца ад 2 да 3 месяцаў, а то і больш.

### Што робяць профэсар і студэнт.

Новы мэтод дае профэсару больш вольнага часу, бо лекцый ужо ня трэба чытаць. Гэта дасьць яму магчымасьць аддаць больш часу сваёй навуковай і грамадзянскай працы і прыняць актыўны ўдзел у палепшаньні працы ў цыклях. Профэсар у цыклявай працы дае заданьне студэнтам і даручае сваім асыстэнтам дапамагаць, растлумачваць, кіраваць гэтай працай.

Студэнты ня будуць раскідаць сваю працу, ня будзе „хвастоў“. Яны будуць мець магчымасьць увязваць працу навуковую з грамадзянскай, бо праца ў цыклях так-як бы зжымае ўсю працу студэнта, асяродкуе яе.

У сучасны момант і профэсар, і студэнт вядуць жыцьцё ня вельмі завіднае, як тая „паштовая кляча“, якая ўсюды павінна пасьпець Гэтым мэтодам зьберагаюцца і час, і праца. Тут і НОП і НОРП (навук. арганіз. разумовае працы).

* * *

Я зусім ня меў мэты даць поўны, скончаны плян рэформы. Я намеціў толькі віткі, па якім, мне здаецца, павінна будзе пайсьці перабудова школы. Я ведаю, што і ў пляне ёсьць недахваты, а ў жыцьці іх будзе болей. Які-б плян мы не праводзілі—яны будуць. Ня трэба толькі думаць, што ў нас з тэхнічнага боку ўсё добра і дзеля гэтага ня трэба нічога пачынаць. Усё гэта ў самой працы выявіцца. Працавалі-ж мы ў першы год існаваньня нашага БДУ і мэдфаку яшчэ ў горшых варунках. Трэба шукаць і праводзіць у жыцьцё новыя шляхі, а не таптацца на месцы, пераліваць віно старое ў новыя мяшкі. Гэтым справе не паможаш. Трэба працаваць і праводзіць новае—а яно не такое страшнае, як яго малююць.

**Я. Бараноўскі.**

## Аб выкладаньні на мэдфаках[1]).

*(Адказ т. Сандамірскаму і т. Сьнежку).*

Цяперашняе выкладаньне наогул не здаваляе студэнтаў, ня лічачы, зразумела, тых зубрылак, якія іначай ня могуць. Стары мэтод сухога выкладаньня, зусім адарванага ад практычнага нагляданьня гэтага прадмету, з адметкамі аб „посещаемости“ (як і цяпер яшчэ робіць проф. Цітоў на мэдфаку БДУ), а потым таксама адарваныя ад тэорыі практычныя заняткі—нічога не даюць, бо часта нават практычныя адбываюцца з пачатку году, а залікі—у канцы, а не—дык і зусім праз 2-3 гады.

У ацэнцы старога мэтоду і т. Сандамірскі і т. Сьнежка зышліся на адным: нікуды ня годны, трэба шукаць новы. І цалком правільна кажа т. Сьнежка, што ў шуканьні новых шляхаў часам прыходзяць да недарэчнасьцяй.

Робячы выкладаньне па мэтоду т. Сандамірскага, мы прыходзім да тых самых залікаў з іх асаблівасьцямі. Таксама будуць зубрыць незразумелую для іх навуку, таксама будуць глядзець на практычныя працы, як на абавязак, бо на што дарма час траціць, калі ўжо залік здадзены. Гэта недарэчнасьць т. Сандамірскага. Але недарэчнасьць здарылася і з т. Сьнежкам, толькі з іншага боку.

Нельга адмаўляць таго, што студэнты з акадэмічнага боку зьвязаны з унівэрсытэтам вельмі дрэнна, патолькі-паколькі. Прыходзіцца здаваць залік—студэнт ідзе, выпытвае ў другіх, калі профэсар прымае, і толькі тады і бачыць профэсара. А на практычныя—нічога ня зробіш: трэба раз у нядзелю схадзіць. Прапанованы т. Сьнежкам мэтод аб‘яднаньня ўсіх прадметаў у групы і разьбіваньня студэнтаў у гэтулькі-ж груп для прахаджэньня прадметаў вельмі добры. З аднаго боку пры гэтым мэтодзе прадметы ня будуць разьбівацца на тэорыю і практыку, бо тэорыя будзе выкладацца толькі пры дапамозе практыкі кожны раз, а з другога боку студэнт, адбываючы ўсю працу ўва ўнівэрсытэце, будзе больш зьвязан з ім.

Але ў аб‘яднаньні прадметаў у групы т. Сьнежка перааб‘яднаўся. Трэба заўважыць, што мэдфак падзяляецца так-як бы на дзьве часткі: на агульна-тэорытычную і спэцыяльна-мэдычную. Прадметы першае часткі выкладаюцца на першых двух курсах і часткова на трэцім, а спэцыяльна-

[1]) У парадку абгаворваньня.

мэдычныя прадметы на астатніх курсах. І вось аб'яднаць прадметы амаль што трох курсаў, як піша т. Сьнежка, бо хіміі, напрыклад, выкладаюцца на ўсіх трох курсах, анатомія таксама, а цяпер нават і на чацьвертым, гэта недарэчнасьць т. Сьнежкі. Так нельга рабіць. Нельга аб'яднаць у адно прадметы трох курсаў з захаваньнем апошніх.

На мэдфаку тэрмін абучэньня 5 гадоў. Амаль што $2^1/_2$ гады йдуць на агульна-тэорытычныя прадметы і $2^1/_2$—на спэцыяльна-мэдычныя. І вось трэба зрабіць так, каб кожны студэнт два з паловай гады адпрацоўваў першую частку без падзелу на курсы і гэтулькі-ж другую. З гэткай папраўкай прапанову т. Сьнежкі можна прыняць. Трэба толькі зазначыць, што т. Сьнежка чамусьці называе свой мэтод „пераходным“, а канчатковага не дае. Мне здаецца, што гэты мэтод, распрацаваны добра, можа застацца зусім, а ня быць толькі „пераходным“.

Зусім неяк ня хочуць падымаць пытаньня адносна старэйшых курсаў, адносна выкладаньня спэцыяльна-мэдычных прадметаў. Хаця т. Сьнежка і кажа, што там усё добра, але з гэтым нельга згадзіцца. Факты, самыя звычайныя факты кажуць супроць гэтага. Возьмем насьценную газэту мэдфаку БДУ „Мэдфакавец“ і там у № 8 ёсьць артыкул, які заслугоўвае значнае ўвагі Там пішацца, што на лекцыях па хірургіі і тэрапіі практыкуецца выкліканьне профэсарам студэнта да хворага і нешта падобнае на залік. Усякі баіцца, каб не папасьціся да хворага і дзеля гэтага ня йдуць на лекцыю, пакуль які „няшчасны“ не пападзецца профэсару. І тады пачынаюць ісьці на лекцыю, якая, к слову кажучы, заўсёды пачынаецца са спазьненьнем на паўгадзіны, і гэта хаджэньне цягнецца ўсю лекцыю. Гэта паказвае, што там патрэбен новы мэтод, мэтод сумеснага праходжаньня тэорыі з практыкай, разьбіваньня на групы і абучэньня ў гэтых групах.

Толькі так, а ня йначай павінна адбывацца рэформа выкладаньня на мэдфаках як для вывучаючых агульна-тэорытычную частку, так і для вывучаючых спецыяльна-мэдычныя прадметы, толькі сумеснае праходжаньне тэорыі з практыкай бяз лекцый, без залікаў, а з выяўленьнем здольнасьцяй і пасьпяховасьцяй кожнага студэнта ў працэсе абучэньня.

У канцы неабходна закрануць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне, важнае для ўсіх ВНУ.

Політасьветная праца ў нас вядзецца калі папала, няма азначанага тэрміну для яе, бо няма як азначыць тэрмін. І часта ў перашкоду заняткам назначаюцца агульныя сходы, пасяджэньні і г. д. Гэта трэба ўзяць пад увагу і як бы ў далейшым не будавалася програма ВНУ, трэба памятаць аб гэтым і адзін дзень у тыдзень трэба адводзіць выключна для політасьветнае працы. Калі можна было яшчэ прапусьціць лекцыю і пайсьці на сход пры старом мэтодзе выкладаньня, то пры новым методзе заняткаў у групах прапускаць будзе нельга. Бяз гэтага ніякі мэтод, ніякі плян не дасягне свае мэты.

**Зьм. Белы.**

# Аб організацыі жыцьця студэнта[1]).

**„Нам патрэбен маладняк здаровы як фізычна, так і духоўна“.**
*(З газэт).*

У № 2 часопісі „Чырвоны Сьцяг“ т. Сандамірскі зачапіў вельмі цікавае пытаньне аб псыхотэхніцы. Але мне здаецца, што пакуль да псыхотэхнікі, да організацыі консультацыйнага бюро, то трэба раней усяго зьвярнуць увагу на тое, як жыве і працуе студэнт беларускіх ВНУ. А

[1]) У парадку абгаворваньня.

праца й жыцьцё яго ня вельмі цікавы. Бегае з аднаго месца ў другое, з лекцыі на практычныя, з практычных на сход, са сходу на пасяджэньне і г. д. Гэтак 6 дзён; а на 7-ы, які павінен быць днём адпачынку, пачынаецца бегатня з самага ранку. Гэты дзень горш за ўсе, бо як раз на гэты дзень і назначаюцца ўсе пасяджэньні, сходы, вечары.

На гэту ненормальнасьць у жыцьці студэнтаў ужо зьвярнулі ўвагу, аб гэтым пішуць, гавораць... але гэта пакуль што так і застаецца.

Як жа жыве наша студэнцтва? Я маю пад рукамі больш як 550 плянакартаў (карты падліку часу) студэнтаў БДУ розных катэгорый, сабраных у часы працы ў ячэйцы НОП. Гэтыя плянакарты больш-менш правільна малююць жыцьцё студэнта.

Але перш факты, а потым ужо вывады з іх.

| Катэгорыі студэнтаў | Вучоба | | Заработак | Грамадз. праца | Культурызацыя (газэты і інш.) | Профпраца | Партпраца | Фізкультура | Самаабслугоўв. | Хадзьба | Забавы | Адпачынак | Бескарысна | Сон | Колькі гадзін студэнт працуе наогул | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Практычн. і лекцыі | Дома | | | | | | | | | | | | | | |
| Стыпэндыят . | 12 | 28 | 7 | 14 | 12 | 9 | — | 2 | 13 | 10 | 2 | — | 10 | 49 | 82 | 1) Лічбы паказваюць гадзіны; |
| Служачы (беспартыйны) . | 12 | 26 | 39 | 4 | 5½ | 4 | — | — | 14 | 7 | 2 | -- | 5½ | 49 | 92½ | 2) Лічбы паказваюцца за тыдзень. |
| Служачы партыец . . . | 6 | 16 | 36 | 6 | 6 | 26 | | — | 12 | 9½ | — | — | 3½ | 47 | 96 | |
| Акадэмісты . | 31 | 44 | — | 2 | 2 | — | — | — | 14 | 7 | 5 | 3½ | 3½ | 56 | 69 | |
| Комсамолец-стыпэндыят . | 12 | 21 | — | 14 | 12 | 7 | 21 | 1 | 14 | 10 | 3 | — | 6 | 47 | 87 | |
| Студэнт з агульнага памяшкан. | | | | | | | | | 12½ | 10½ | 3 | — | 18 | 42 | 82 | |

Аб чым кажуць гэтыя лічбы? Кажуць аб тым, што студэнт працуе ад 10 да 14 гадзін у суткі і гэта яго праца разумовая. Вось тут ніяк нельга ўжываць кодэкс законаў аб працы. Няхай па 3-4 гадзіны ў дзень ідзе на пасяджэньні—усё-ж нельга сказаць, што праца ў 10 гадзін нормальная. Гэтак хутка сапсуецца тая сіла, на якую мы вельмі спадзяёмся.

Гэтыя 14-10 гадзін працы праходзяць у вельмі цяжкіх абставінах. Нашы вучэбныя програмы зусім не прыстасаваны да грамадзкай, гурткавое і інш. працы студэнта. Тут ня толькі няма навуковае організацыі разумовае працы (НОРП), але простыя правілы гігіены не заўсёды спаўняюцца.

Хто ня ведае, як кормяцца нашы лепшыя таварышы? Яны як-небудзь, хутка зьядаюць свой абед, і потым да вечара нічога не ядуць, бо ня маюць часу. Часта ў іх кішэнях можна знайсьці абаранкі, якія зьядаюцца дарогаю, альбо дзе-небудзь у чаканьні пасяджэньня. І машына ня добра працуе, калі ня добра гарыць печ. Ператамленьні, самленьні на пасяджэньнях, у часы дакладаў—добра памятны ўсім студэнтам. Яны былі і будуць, калі і мы будзем працаваць у старых варунках. Позна ноччу, калі студэнт застаецца дома, ён зноў працуе, піша даклады, чытае. Спаць кладзецца а 3-4 гадзіне. За 6-7 гадзін мазгі ня вельмы адпачнуць дзеля цяжкае працы. Сама праца ня мае хвілін адпачынку, праходзіць самым бязглузным чынам. Лепшыя часы дзеля працы ўходзяць непродукцыйна. Пры такіх варунках усе спробы ўвесьці новыя мэтоды працы застануцца толькі марамі.

Трэба зьвярнуць увагу ўжо цяпер. Усіх хібаў жыцьця й быту не пералічыш: іх вельмі шмат ёсьць.

Што за вывады трэба зрабіць, і якія практычныя чарговыя задачы стаяць вось цяпер, каб захаваць магутную чырвоную зьмену, каб утварыць магутны чырвоны маладняк? А яны самі просяцца пасьля ўсяго вышэйпаданага.

1) Трэба цяпер жа пачынаць рэформу ў школах, перагледзяць як програмы, так і мэтоды працы, дапасаваць іх да вучэбнае, грамадзкае і професыянальнае працы студэнта. Трэба, каб ня студэнты былі для плянаў, а пляны для студэнтаў, бо цяперашнія і пляны, і мэтоды—мыльныя пузыры дзеля студэнта. Яны адарваны ад яго будзённага жыцьця.

2) Трэба зьвярнуць увагу на быт моладзі. Трэба даць адзін дзень адпачынку ў тыдзень, не займаючы яго ні сходамі, ні гурткамі. Палавіну другога дня ў тыдні трэба звольніць дзеля працы ў гурткох.

3) З большай энэргіяй ўзяцца за разгрузку актыўных таварышоў, уцягваючы ў працу новых.

4) На правільнае кармленьне, часы адпачынку і сон трэба, каб зьвярнулі яшчэ большую ўвагу.

5) Трэба глядзець за правільным рытмам жыцьця студэнта, каб часы адпачынку чарадаваліся з працай і каб часы працы былі продукцыйны. Трэба, каб нашы ячэйкі НОП і НОРП сталі бліжэй да жыцьця, ня ўходзілі ў сябе, як ячэйка БДУ, не ўдараліся ў тэорытычнасьць, як ячэйка БДІС і ЛГ. Асноўная мэта ячэек, акрамя НОП-ізацыі жыцьця свае ВНУ, ёсьць праца як над надворнымі, так і ўнутранымі варункамі, у якіх праходзіць жыцьцё студэнта. Вядома, што нельга абысьціся без колектыўнай, організаванай дысцыпліны ўсіх, бяз жорсткага самакантролю кожнага актывістага-студэнта, але іх трэба знайсьці ў кожнага студэнта, трэба проблему ўтварэньня здаровага, нэрвова-моцнага маладняка паставіць у першую чаргу пытаньняў дня, бо бяз гэтага ніякія рэформы не дасягнуць мэты.

Аб гэтым трэба падумаць і студэнтам, і людзям навукі!

Лепш усё рабіць у свой час, чым тады, як будзе позна! А цяпер ужо сама час пачынаць!

# ПА В.Н.У, РАБФАКАХ, ТЭХНІКУМАХ.

В. Я. Скардзіс.

## Вынікі 3-яе Ўсебеларускае конфэрэнцыі пролетарскага студэнцтва.

**(7—10 красавіка 1925 г.).**

Беларускае студэнцтва—рабочая і сялянская моладзь, якая навучаецца ў ВНУ, рабфаках і тэхнікумах—узрасло нядаўна, яно вельмі молада, яно яшчэ прадаўжае свой рост. Яно зьяўляецца, у самым подлінным сэнсе слова, плодам Чырвонага Кастрычніка, які аформіўся на Беларусі двума—трыма гадамі пазьней, чым у другіх краінах быўшай імпэрыі. Яно, аднак, ня гледзячы на сваю моладасьць, ужо ў мінулым пакінула свае першыя, яшчэ зусім слабыя й няпэўныя крокі свае працы, і ў сучасны момант выступае, як ўзмацнеўшы, маючы выразны воблік і выразныя організацыйныя формы, адзінак беларускае савецкае грамадзкасьці. Аб гэтым, як нельга лепш, сьведчыць 3-я Ўсебеларуская конфэрэнцыя пролетстудэнцтва, якая адбылася ў красавіку месяцы і была склікана Белбюро пролетстуда пры Цэнтральным Савеце Профсаюзаў

Хоць гэта конфэрэнцыя лічыцца па парадку трэцяй, але, бязумоўна, па сутнасьці й абхвату разгледжаных на ёй пытаньняў, і па таму, што тут былі прадстаўнікі амаль што не ўсяго профорганізаванага студэнцтва пашыранай Беларусі, чаго аб конфэрэнцыях мінулых гадоў сказаць нельга, яна павінна называцца першаю конфэрэнцыяй. Яна зьяўляецца пераконваючым фактам, які характарызуе організаванасьць нашага пролетарскага студэнцтва.

Конфэрэнцыя адчынілася 7 красавіка і працавала ў працягу трох днёў.

Галоўнымі пытаньнямі ў парадку дня былі: а) справаздача Белбюро; б) справаздача Выканбюро Горацкага С.-Г. Інстытуту й Аршанскага рабфаку; в) даклад Галоўпрофасьветы БССР; г) структура студэнцкіх організацый і мэтоды далейшай працы.

У напрамку гэтых пытаньняў мы й будзем рабіць кароткі нарыс студэнцкае працы. Гэтаю працаю яно імкнулася прыняць удзел у савецкім будаўніцтве й ужо мае досыць значныя посьпехі, падцьверджаныя фактамі. Конфэрэнцыя констатыравала немалыя дасягненьня ў працы студэнцтва, але тут зусім не нагледжвалася ніякае хвальбы ці сьляпой надзеі, што ўжо ўсё зроблена. Наадварот, усімі ўдзельнікамі конфэрэнцыі згодна падкрэсьлівалася, што зробленае ёсьць толькі пачатак і што галоўная праца—наперадзе.

Асноўнымі момантамі студэнцкага жыцьця наогул да конфэрэнцыі зьяўляліся: а) шуканьне надзейных, цьвёрдых форм організацыйных, якія маглі-б быць найбольш жыцьцёвымі; б) зрабіць свае організацыі моцнымі, а працу іх каардынаваць з партыйнымі, профэсыянальнымі й грамадзянскімі організацыямі і ўстановамі працоўных усёй Рэспублікі, каб выкарыстаць свае сілы ў будаўніцтве маладое соцыялістычнае дзяржавы; в) аб‘яднаць усё студэнцтва Беларусі наўкол сваіх організацый, сконцэнтраваць у іх свае сілы для працы, як у сьценах школы, так і па-за сьценамі яе, маючы

на ўвазе, што ўсё студэнцтва павінна быць перадавым авангардам у правядзеньні пролетарскае культуры й савецкае грамдзкасьці ў горадзе й на вёсцы, каб гэтым самым як бы аб'яднаць і зраднiць навуку з кожнадзёнай буднічнай працай; г) прымаць актыўны ўдзел у рэформе вышэйшае школы, у пролетарызацыі яе, у заснаваньні ў ёй жыцьця па заветам правадыра ўсясьветнае рэволюцыі—Леніна.

Конфэрэнцыя не сказала, што ўжо ўсё зроблена, але, калі падлічваліся вынікі, калі заслухоўваліся даклады кіруючых студэнцкіх установ, зусім зразумела было, што студэнцтва йдзе па правільнаму шляху, што ўяўлены віткі далейшай працы, што яно мае ўжо пэўны вопыт і грунтуючыся на ім можа сьмялей вызначыць сабе месца ў агульным дзяржаўным і грамадзянскім будаўніцтве.

Асноўныя студэнцкія організацыі йдуць па лініі профэсыянальнага аб'яднаньня. Цэнтральная організацыя—Белбюро—к моманту конфэрэнцыі мела ў сваім аб'яднаньні студэнцтва пяцёх вышэйшых школ: Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Менскага С-Г Інстытуту, Горацкага С-Г Інстытуту, Віцебскага Вэтэрынарнага Інстытуту і Менскай вышэйшай партшколы; трох рабфакаў: Менскага, Аршанскага і Горацкага; тэхнікумаў: у Горках—Землябудаўнічага, у Віцебску—Белпэдтэхнікуму, Жыдоўскага пэдтэхнікуму, Мэдыцынскага, Электра-мэханічнага і Акруговай партшколы; у Менску—Архітактурна-будаўнічага, Беларускага пэдагогічнага, Жыдоўскага пэдагогічнага, Прамыслова-экономічнага і Жалезнадарожнага.

Вось малюнак якаснага складу студэнтаў і слухачоў памянёных вышэй вучэбных установ (у гэты лік не ўваходзяць слухачы менскіх пэдагогічных і жалезнадарожнага тэхнікумаў, бо яны ўключаны ў аб'яднаньне перад самай конфэрэнцыяй).

**1. Нацыянальны склад.**

| | | |
|---|---|---|
| Беларусаў . . | 2914—50,2 | проц. |
| Жыдоў . . . | 2155—37,2 | „ |
| Расійцаў . . . | 611—10,3 | „ |
| Палякаў . . . | 74— 1,6 | „ |
| Украінцаў . . . | 31— 0,5 | „ |
| Іншых . . . . . | 13— 0,2 | „ |

**2. Социяльны склад.**

| | | |
|---|---|---|
| Рабочых . . . | 1072—18,7 | проц. |
| Дзяцей рабочых . | 169— 3,3 | „ |
| Сялян . . . . | 1982—34,5 | „ |
| Служачых . . | 1404—24,3 | „ |
| Дзяцей служ. . . | 651—10,2 | „ |
| Іншых . . . . . | 510— 9 | „ |

**3. Партыйны склад.**

| | | |
|---|---|---|
| Сяброў і канд. КПБ . | 639—10,9 | проц. |
| Сяброў і канд. ЛКСМ. | 978—16,8 | „ |
| Беспартыйных. . . | 4186—72,3 | „ |

**4. Профэсыянальны склад**

| | | |
|---|---|---|
| Сяброў саюзу . . | 2689—46,5 | проц. |
| Не сяброў саюзу. . | 3109—53,5 | „ |

Асноўнай масай беларускага студэнцтва зьяўляюцца рабочыя й сяляне.

Рэгуляваньне социяльнага складу ВНУ ажыцьцяўлялася ў апошні акадэмічны год двума мэтодамі: якаснаю праверкай, якая прашла ў форме кампаніі і наборам новага кадру студэнтаў у пачатку 1924—25 акад. году. У першым і другім выпадках студэнцкія організацыі прымалі актыўны ўдзел у распрацоўцы неабходных плянаў і дырэктыў для іх правядзеньня. Як вынік праверкі, можна зазначыць, што процант „іншых" зьменшыўся больш, чым на палову, а за іх лік павялічыўся, хоць і не на многа, процант рабочых і сялян.

Да праверкі ВНУ было „іншых" 1049 чал.—25,8 проц усяго ліку;
Пасьля „ „ „ „ 442 „ 11,8 „ „ „

Ідэя пролетарызацыі вышэйшай школы, калі не ажыцьцеўляна ў сучасны момант у поўнасьці, дык ува ўсякім разе прасунута далёка наперад. Наша вышэйшая школа можа пэўна лічыцца клясавай школай. У гэтым патрэбна адзначыць адно з важных дасягненьняў.

Пытаньне матар'яльнай забясьпекі студэнцтва наогул азначаючай стопень яго посьпеху ў акадэмічнай справе хоць яшчэ ў гэтым годзе ня можа лічыцца здавальняюча вырашаным, але ўсё-ж такі паставіла студэнцтва ў такія ўмовы, пры якіх ёсьць невялічкі мінімум магчымасьці для больш ці менш нормальнай вучобы. Налічваецца 2596 дзяржаўных стыпэндый, што ў адносінах да агульнага ліку студэнтаў і слухачоў складае 45 проц.

Паасобна ВНУ, рабфакі й тэхнікумы атрымліваюць стыпэндый:

| | | |
|---|---|---|
| ВНУ . . . . | 37 проц. | агульнага ліку студэнтаў, |
| Рабфакі . . . . | 100 „ | „ „ „ |
| Тэхнікумы . . . | 42,7 „ | „ „ „ |

Поўнасьцю, як паказваюць лічбы, здавольнены толькі рабфакі, дрэнна— ВНУ, трохі лепш—тэхнікумы. Патрэбнасьць у стыпэндыях яшчэ вялізарная. Дасканальнае вырашэньне гэтага пытаньня, бязумоўна, залежыць ад агульнага разьвіцьця гаспадарчых магчымасьцяй краіны. Конфэрэнцыя таксама адзначыла, што цяжкія ўмовы студэнцкага жыцьця павялічваюцца дзякуючы таму, што адчуваецца вялізарны недахват інтэрнатаў, асабліва для студэнтаў БДУ. Наогул матар'яльнае становішча студэнцтва яшчэ вельмі дрэннае. Вынікам гэтага зьяўляецца вялікі лік хворых студэнтаў на грунце розных недахваткаў і зморанасьці, дзеля чаго конфэрэнцыя лічыць вельмі неабходным падняць перад адпаведнымі ўстановамі пытаньне аб тым, каб здаволіць мінімальныя патрэбы студэнтаў у дамох адпачынку і месцамі ў санаторыях і на курортах.

Бягучы акадэмічны год, вынікі якога конфэрэнцыя падлічвала, характарызуе рашучую дзейнасьць студэнцкіх організацый у галіне рэформы вышэйшае школы. Шукаліся мэтоды, каб паглыбіць працу па лепшаму ўяўленьню выкладаемых вучэбных дысцыплін. У гэтай справе ня ўсе організацыі дзейнічалі аднолькава рашуча. Больш дасягненьняў у гэтым сэнсе на рабфаках. Напрыклад, Менскі рабфак правёў Дальтон-плян. Справа рэформы навуковага выкладаньня павінна быць адказнай працай усяго студэнцкага колектыву, галоўным чынам, акадэмсэкцыі, якая кіруе дзейнасьцю студэнцкіх прадстаўнікоў у прадметных камісіях. Але аднаго шчырага жаданьня, зразумела, яшчэ зусім мала, каб абнавіць школу: грашовыя рэсурсы не даюць, пэўна й ня так скора дадуць магчымасьць укласьці ў жыцьцё ВНУ гэты добры пачынак. Аднак, рух ёсьць, і рух досыць жвавы. Адзначыўшы такое радаснае зьявішча ў жыцьці савецкае вышэйшае школы, конфэрэнцыя разам з тым падкрэсьліла неабходнасьць вялізарнай асьцярожнасьці пры падыходзе да вырашэньня пытаньня. У рэзолюцыі Горацкага Інстытуту, які мае зусім слабыя дасягненьні ў галіне рэформы мэтодаў выкладаньня, конфэрэнцыя прапануе „падыходзіць к вырашэньню яго (пытаньня) больш рашуча, але й з асаблівай асьцярожнасьцю“.

Значная ўвага была зьвернута на высоўваньне лепшай часткі пролетарскага студэнцтва ў навуковыя працаўнікі. Белбюро паставіла пытаньне перад адпаведнымі ўстановамі аб матар'яльнай забясьпецы гэтых студэнтаў, каб яны мелі поўную магчымасьць падрыхтавацца да навуковай працы. У сучасны момант налічваецца 10 навуковых стыпэндый.

Конфэрэнцыяй быў констатыраваны значны, больш значны, чым у мінулыя гады, узрост культурна-асьветнай працы студэнцтва. Гэта праца вядзецца па двум напрамкам: у сьценах школы й па-за сьценамі яе. Культурныя запатрабаваньні студэнцтва павялічваюцца. Мясцовыя культкамісіі часта ня могуць здаволіць імкненьняў студэнцкіх мас да самадзейнасьці ў розных гуртках: „бязбожнік“, „ленінскіх“, палітычных і г. д. Адсутнасьць кіраўнікоў у гэтых гуртках абмяжоўвае колькасьць іх:

большая частка студэнцтва ня можа прыняць удзел у працы. Усёй культурнай працай ведаюць культаддзелы Выканбюро й Профкомы. Яны праводзяць розныя кампаніі, рэволюцыйныя сьвяты, кіруюць дзейнасьцю гурткоў, ленінскіх куткоў і чытальняў. Аднак, яшчэ ня зусім здавальняючы зьмест працы ў чытальнях і ленінскіх куткох: няма плянавасьці. Наогул трэба адзначыць, што праца па самавыхаваньню студэнцтва нельга сказаць, каб была пастаўлена зусім здавальняюча. Ды й матар'яльныя ўмовы для гэтай працы застаўляюць жадаць яшчэ многа лепшага. Вось чаму конфэрэнцыя высунула пытаньне аб вострай неабходнасьці концэнтраваць усю студэнцкую культурна-асьветную працу ў студэнцкіх клюбах. Пытаньне аб клюбах яшчэ мінулаю конфэрэнцыяй таксама разгледжвалася. Але шмат чыста-об'ектыўных прычын не далі магчымасьці вырашыць яго. Ад таго, наколькі гэтая ідэя будзе рэалізавана ў будучыне, належыць разьвіцьцё й посьпех культурна-асьветнай працы студэнцтва.

Студэнцтва працуе яшчэ па-за сьценамі школы: у саюзах, а таксама й на вёсцы, у часы зімовых і летніх канікул. Для гэтага культкамісіі праводзяць спэцыяльныя падрыхтоўчыя кампаніі: ставяць шэраг лекцый, выдаюць, па магчымасьці, літаратуру ад'яжджаючым на вёску таварышом.

Значныя дасягненьні ёсьць і ў галіне шэфскае працы. Шэфская грамада Менскага рабфаку налічвае 243 сябры, і вядзе працу ў двух сельсаветах. Грамады на факультэтах БДУ і Менскага С-Г Інстытуту праяўляюць жывую дзейнасьць у культурным абслугоўваньні вёсак. Далёка наперад пашоў у гэтым напрамку Горацкі С-Г Інстытут. Студэнцтва яго разгарнула працу ў двух раёнах. Ад агітацыі студэнты рашуча пераходзяць да пропаганды, галоўным чынам, у галіне сельскае гаспадаркі. Шэфская грамада Інстытуту мае 220 студэнтаў. Організавана 6 „агро-шалашей“, з якімі студэнты пад кіраўніцтвам профэсара часта езьдзяць на вёску. Актыўнасьць студэнцтва вызначылася ў організацыі й правядзеньні каротка-тэрміновых сельска-гаспадарчых курсаў, а таксама й выставак, якія вельмі цікавяць сялянства. Сіламі студэнцтва організаваны хаты-чытальні, сельска-гаспадарчыя гурткі, насьценныя газэты, пераведзена 89 гаспадарак на шматпольле. Такому досыць значнаму тэмпу працы горацкіх студэнтаў адпавядае й становішча Інстытуту ў малым гарадку, у самай гушчы сялянскіх мас.

Апрача шэфства над вёскай, цэлым шэрагам студэнцкіх організацый розных ВНУ ажыцьцяўляецца шэфства над організацыямі рабочых і чырвонаармейцаў і кіраўніцтва атрадамі піонэраў.

Вялізарная праца разгорнута па ліквідацыі няпісьменнасьці. У гэтай справе адзначаны дасягненьні ячэйкі „Прэч няпісьменнасьць“ БДУ, якая налічвае 350 сяброў, працуючых у 14 профсаюзах і 6 установах. Ячэйка агарнула да 3000 няпісьменных і малапісьменных рабочых. Унівэрсытэцкі „лекторскі колектыў“, сябрамі якога зьяўляюцца падрыхтаваныя студэнты, дае кіраўнічых для розных гурткоў: профруху, політычных, газэтных.

Ва ўсіх ВНУ, рабфаках і тэхнікумах, уваходзячых у Беларускае аб'яднаньне пролетстудэнцтва, організаваны ячэйкі „МОПР“, „Дабрахім“, „ТППФ“ і інш.

Рэорганізацыя студэнцкіх кіраўнічых установ і мэтоды далейшай працы былі галоўнымі пытаньнямі конфэрэнцыі. Ранейшая пабудова студэнцкіх організацый была занадта грамознай. Конфэрэнцыя, прыняўшы пад ўвагу досьлед мінулае працы, прызнала найбольш жыцьцёвай формай—профсэкцыю. Адзіным кіраўнічым органам на факультэце будзе—профком; замест розных камісій абавязкі разьмяркоўваюцца паміж сябрамі профкому. Такім чынам, мінуе патрэбнасьць у шматлікавых пасяджэньнях усякіх камісій, як было раней.

У тэзісах па структуры студэнцкіх організацый, конфэрэнцыя адзначыла неабходнасьць „палягчэньня прыёму ў саюзы лепшай часткі студэнцтва, у першую чаргу з складу незаможных сялян, якія выказалі сябе актыўнымі ў грамадзкай працы". Гэта аздаровіць працу профсэкцый.

Згодна з пастановай VI Усесаюзнага Зьезду профсаюзаў, конфэрэнцыя зацьвердзіла няўхільную патрэбу скончэньня рэорганізацыі студэнцкіх профсэкцый па ўхілу будучай вытворчасьці студэнта.

Конфэрэнцыя застанаўлялася на пытаньні аб зьменшаньні агульнага ліку студэнцкіх організацый. Белбюро прапанавала, паміж іншым, ліквідаваць экономаддзел, каб абавязкі яго перадаць праўленьням ВНУ, але гэта прапазыцыя была прынята толькі да ведама.

У зьвязку з складанасьцю пытаньняў і неабходнасьці пры вырашэньні іх вялікае асьцярожнасьці, бо становішча неаднолькава ўва ўсіх ВНУ, конфэрэнцыя прапанавала заняцца падрабязковай апрацоўкай яго пленуму новага скліку Белбюро.

Аднагасова з гэтым пастаноўлена ўзмацніць працу касаў узаемадапамогі, накіраваўшы працу іх да адшуканьня дапаўняючых сродкаў дзеля дапамогі студэнцтву.

З большай увагай конфэрэнцыя выслухала даклад Галоўпрофасьветы БССР аб пэрспэктывах вышэйшае асьветы ў Беларусі. Дакладчыкам было зачэплена пытаньне аб матар'яльным становішчы студэнцтва, аб правільным папаўненьні ВНУ ў будучым шляхам больш вузкіх прыёмаў новых кадраў студэнцтва. На 1925-26 акадэмічны год маецца прыняць у ВНУ Беларусі, рабфакі й тэхнікумы 750 чалавек. Гэта лічба шмат меншая за прайшоўшыя гады. Вядуцца працы па перагляду статуту ВНУ, і ў гэтым напрамку ўжо чарнавая праца зроблена. Па дакладу Галоўпрофасьветы былі гарачыя спрэчкі. Даручана зноў абранаму Белбюро апрацаваць па гэтаму пытаньню практычныя прапановы.

У працы конфэрэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі ад Беларускіх зямляцтваў: Маскоўскага, Варонескага й Крымскага, спэцыяльна прыехаўшыя. Гэта зрабіла больш цесьнай і жывой сувязь студэнтаў Беларусі са сваімі землякамі, якія вучацца ў іншых рэспубліках нашага Саюзу.

На конфэрэнцыі прадстаўлены былі ўсе ВНУ, рабфакі і амаль усе, за рэдкім выключэньнем, тэхнікумы й партшколы. Пытаньне аб уводзе ў Беларускае аб'яднаньне іншых тэхнікумаў залежыць ад прысутнасьці ў іх даволі моцных профсэкцый, якія маглі-б весьці працу сярод усёй масы студэнцтва. Кампаніі па ўцягваньню актыўных студэнтаў у профэсыянальныя організацыі, бяссумненна, прыблізяць гэтае пытаньне да здавальняючага вырашэньня. Конфэрэнцыя з здаваленьнем адзначыла важнасьць працы Белбюро па выданьню студэнцкага друкаванага органу. Была прынята пастанова павесьці кампанію сярод студэнцтва за падпіску й супрацоўніцтва ў часопісі „Чырвоны Сьцяг".

У шэрагу апошніх пытаньняў былі зроблены выбары новага Белбюро пролетстуда ў ліку 13 сяброў і 4 кандыдатаў і выбары 5 прадстаўнікоў ад Беларускага студэнцтва на ўсесаюзную конфэрэнцыю пролетарскага студэнцтва.

У заключнасьць можна сказаць, што працу конфэрэнцыя зрабіла вялікую. Выявілася, што студэнты ўжо ўладаюць і звычкай, і досьледам у розных напрамках працы: падцягнуліся акадэмічна, сумелі ўліцца ў адраджаючуюся Савецкую грамадзкасьць. Студэнцкім організацыям трэба цяпер, на падставе досьледу і пасьля цэлага шэрагу абмылак, старацца пераходзіць ад пашырэньня да паглыбленьня, да палепшаньня якасьці працы. Паглыбляючы сваю працу, прыстасоўваючы да адпаведных організацый, студэнцтва пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, бяссумненна, стане моцнай часткай грамады і будзе дапамагаць рабочым і сялянскім масам будаваць царства соцыялізму.

Янка Марук.

# 6-ая конфэрэнцыя профсэкцый БДУ.

Тры дні (пачынаючы ад 4 да 7 красавіка г.г.) цягнулася 6 конф. профсэкцый БДУ, на якую сабралася беларускага профарганізаванага студэнцтва 87 дэлегатаў, каб абмеркаваць наступныя, важныя пытаньні.

Зразу-ж пасьля ўрачыстай часткі конфэрэнцыя прыняла дзелавы самадзейны характар. Першым конфэрэнцыя вынесла свой протэст і асуджэньне супроць белага тэрору ў Польшчы. Вось што з галоўнае часткі сваёй рэзолюцыі кажа конфэрэнцыя профарганізаванага пролетарскага студэнцтва:

„Конфэрэнцыя ад імя 2-х з палавінай тысяч пролетарскага студэнцтва БДУ самым катэгорычным чынам выражае протэст супроць белага тэрору буржуазіі над працоўнымі гушчамі, супроць паўторнага арышту тав. Ланцуцкага і забойства т. т. Багінскага і Вечаркевіча. Конфэрэнцыя кляйміць пазорам буржуазію і іх прыхвасьней соцыял-згоднікаў, падтрымоўваючых белы тэрор. Мы клічам усіх працоўных аб‘яднацца мацней наўкол сваіх комуністычных партый,—наўкол 3-га Комуністычнага Інтэрнацыяналу, які прызван звольніць рабочую клясу ад уціску капіталу. З свайго боку мы заяўляем, што ў цяжкі момант пакінем вучобу, дружна станем пад вінтоўку і прыдзем на дапамогу прыгнечанай клясе.

Бліжэй да комуністычнай партыі, бліжэй да яе кіраўніка—Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

Далоў белы тэрор, далоў уладу капіталу. Няхай жыве вялікая пролетарская рэволюцыя!“ Пад такім настроем увесь час праходзіла конфэрэнцыя.

Далей конфэрэнцыяй быў заслуханы інформацыйны даклад проф. Кацэнбогена аб становішчы БДУ. „Мы скончылі арганізацыйную частку ўн-ту,—кажа проф. Кацэнбоген,—жыцьцё нашага ўн-ту ўвайшло ў сваю каляіну. Быў першы выпуск студэнтаў. Два факультэты здабылі і абагаціліся профэсарскім, настаўніцкім і кіраўнічым складам. Клінікі нашы, робячы параўнаньні з другімі старымі ўжо ўнівэрсытэтамі, вельмі добрыя. Профэсура зацікаўлена ў організацыі ўн-ту.

Мэдыцынскі факультэт здабыў мэдыцынскую сілу даволі добрую і гэтай сілай выдаецца мэдыцынскі журнал. Гэты факультэт організаваны так, як можа быць організаваны ў добра організаваным унівэрсытэце. Былі адпушчаны грошы, за лік якіх здабыты выстарчаючы лік мікроскопаў, у якіх быў вялікі недахватак, як на мэдыцынскім, так і на пэдагогічным факультэтах. Што датычыцца рабфаку—быў адпушчаны максымальны лік грошай, за кошт якіх пашырылася бібліотэка і дала магчымасьць перайсьці на лябораторны мэтод выкладаньня. Увесь-жа ўнівэрсытэт пакуль што ня можа поўнасьцю перайсьці на лябораторны мэтод за адсутнічаньнем навуковых падручнікаў. Бібліотэка ўн-ту мае да 200,000 томаў кніжак, яна адпавядае высока організаванаму ўн-ту. Мешканцовыя і наогул матар‘яльныя ўмовы студэнцтва і профэсуры бязумоўна яшчэ кепскія. Каштарыс ун-ту вельмі гэты год урэзаны і грашовае пытаньне на ўн-ту адбіваецца балюча“... Вось які невялічкі малюнак аб становішчы БДУ даў у сваім інформацыйным докладзе тав. Кацэнбоген. Наступным важным пытаньнем конфэрэнцыі была справаздача т. Серафімава аб працы Выканаўчага бюро профсэкцый БДУ. І ня дзіва, што пасьля гэтай справаздачы выказвалася вельмі многа дэлегатаў, бо ёсьць многа дасягненьняў і недахваткаў у працы Выканаўчага бюро. Так напрыклад, першае гэта тое, што за гэты час прайшла рэорганізацыя профсэкцый БДУ па вытворчаму прынцыпу, якая цяпер скончана. Рэорганізацыя профсэкцый не даткнулася толькі

рабфаку. Да гэтага часу былі такія профсэкцыі, як напр. мэталістыя, якія былі адарваны ад сваіх саюзаў. У зьвязку з рэорганізацыяй лічба сяброў профсэкцый зьмянілася. Так, профсэкцыя працасьветы да рэорганізацыі мела 525 сяброў, пасьля—585 сяб. Медсанпрацы да рэорганізацыі—175, пасьля—420 сябр. і г. д.

Такім чынам рэорганізацыя аздаравіла працу профсэкцый. Ёсьць цяпер адзінства лініі, а да рэорганізацыі ня было, і ня было нават увязкі з факкомамі. Профсэкцыі вялі працу толькі ў сваім саюзе, а цяпер факкомы факультэтаў распушчаны і ўся студэнцкая праца на факультэтах перададзена профкомам.

Калі рэорганізацыя праведзена, то гэта ня кажа за тое, што профкомы павінны парваць усякую сувязь з вытворчымі саюзамі, а наадварот, яны павінны яе зьберагчы і яшчэ болей паглыбіць. І ў сваёй рэзолюцыі конфэрэнцыя яшчэ раз сказала што: 1) конфэрэнцыя даручае нова выбранаму выкбюро паглыбіць сувязь з профсэкцыямі, шляхам згуканьня нарадаў профкомаў і ўдзелу іх прадстаўнікоў на пасяджэньнях выканбюро; 2) у зьвязку з праводзімай рэорганізацыяй профсэкцый у далейшай працы выкбюро неабходна зьвярнуць увагу на профсаюзнае афармленьне сяброў саюзу рэорганізаваных профсэкцый. Другое, што датычыцца эконompрацы, то тут прышлося працаўнікам эконoмаддзелу больш за ўсё працаваць і пры самых кепскіх варунках. Спачатку дзеля студэнцтва БДУ адпускалася 650 стыпэндый, а цяпер лічба стыпэндый зьменшылася да 600 на 2772 чал. Лічба-ж студэнтаў, маючых вострую патрэбнасьць у стыпэндыях, у гэтым годзе павялічылася. Атрымана датацыя ў разьмеры 8793 руб. дзеля асноўных факультэтаў і дзеля рабфаку 1364 руб. Дабіліся павялічэньня стыпэндыі да 15—17 руб. Мешканцовае пытаньне стаіць вельмі кепска. Інтэрнаты знаходзяцца ў дрэнным становішчы, і ўмясьцімасьць у параўнаньні з патрэбнасьцю вельмі малая. Так, інтэрнат рабфаку зьмяшчае 180 чал., а інтэрнат студэнтаў асноўнікаў—177 чал. Быў зроблен мінімальны рамонт, на які патрачана 3542 руб. Студэнцкая сталовая знаходзілася ў самых дрэнных і цяжкіх умовах. Цяпер яна болей-меней абарудавана, на што патрачана грошай 3420 руб. Але ёсьць яшчэ многа дэфэктаў: гэта аднолькавасьць стравы ў сталоўцы, чарга, дзе студэнтам прыходзіцца доўга чакаць абеду, антыгігіенічнасьць і г. д. Цяпер ёсьць думка, каб палепшыць абеды па якасьці ў студэнцкай сталовай за кошт датацыі і павялічэньня платы на абеды. Пункты 4 і 5 рэзолюцыі прама кажуць, што „конфэрэнцыя адзначае, што адсутнічаньне сродкаў у выкбюро мяшала разьвіць працу па экономічнаму абслугоўваньню пролетарскага студэнцтва ў справе палепшаньня пастаноўкі працы ў прадпрыемствах эконoмаддзелу выкбюро, у сталоўцы і інтэрнатах“. Конфэрэнцыя даручыла выкбюро ўвайсьці ў хадайніцтва перад належачымі органамі аб адшуканьні сродкаў на абарудаваньне сталовай і інтэрнатаў студэнцтва. Такое становішча эконompрацы выкбюро.

Ня лепш стаіць справа з пашырэньнем і акадэмпрацы. Конфэрэнцыя падкрэсьліла, што да гэтага часу з боку выкбюро мала было ўвагі, і кіраўніцтву акадэмпрацай і новаму выкбюро належыць больш зьвярнуць увагі і падмацаваць акадэмпрацу, падабраўшы да гэтага добрых працаўнікоў.

Многа лепш, чым другія аддзелы выкбюро, цяпер разгарнуў сваю працу політпрасьвет. Да гэтага політпрасьвету 5-га скліку выкбюро ніякай працы, можна сказаць, ня відаць было, бо калі якія гурткі былі, то яны ня былі працаздольнымі і самадзейнымі. І вось гэтым політпрасьветам апрацаваны плян амаль што быў выпаўнены на 100%. Організавана шмат гуртоў: бязбожнік, харавы, шашачны, драматычны (на беларускай, жыдоўскай, расійскай мовах) і музыкальныя, і організацыі, як ячэйкі: Мопр, Дабрахім, ячэйка Эспэранто, НОП (Навуковая Організацыя Працы) і яч. „Прэч Няпісьменнасьць“. Усе гэтыя гурткі і організацыі абымалі прыблізна

каля 2278 чал. студэнцтва. Не ўваходзяць у гэтую лічбу 2278 чал. з рабфакаўскіх гурткоў і студэнтаў, прымаючых удзел у проф. і політычных гуртках пры самых профсэкцыях. Большасьць гурткоў, як: харавы, драматычны, асабліва беларускі, гурток фізкультуры і музыкальныя апраўдалі сваё існаваньне. Галоўная мэта гэтых гурткоў—абслугоўваць сваімі культурнымі сіламі як студэнцкія організацыі, так і шэфскія профэсыянальныя і партыйныя (профсэкцыі, ячэйкі і г. д.) організацыі. Лічба 66 выступленьняў гэтых гурткоў па розным організацыям паказвае іхнюю працаздольнасьць. Праўда, гэтым гуртком мала было магчымасьці з-за частых выступленьняў удзяляць больш увагі на свае тэорытычныя веды. Вялікія дасягненьні зроблены ячэйкай П. Н. (прэч няпісьменнасьць) і лекторскім колектывам пры політпрасьвеце Выкбюро. Так, ячэйкай П. Н. праводзіцца пры 350 сяброх праца сярод 2000 няпісьменных гораду, ахопліваючы 14 профсаюзаў і 6 устаноў. Праца праводзіцца на 280 лікпунктах. Лекторскі колектыў пры 280 сяб., ставіўшы сабе мэтай даць рабочаму, акрамя элемэнтарных ведаў—веды па політграмаце, профруху і беларусазнаўству, дасягнуў свайго на 95 проц. Больш, як 1300 чал. рабочых і чырвонаармейцаў гораду ахоплены працай лекторскага колектыву. Такім чынам, політпрасьвет, аб'яднаўшы культурныя сілы студэнцтва БДУ ў сваіх гуртках і організацыях, змог за кароткі час сапраўды правясьці вялікую працу ў рабочых гушчах. Сувязь беларускага профорганізаванага студэнцтва з рабоча-сялянскай гушчай ёсьць рэальная і замацована. Праз шэфскія організацыі і ў час канікул студэнцтва мае сувязь з вёскай, дапамагаючы ёй усімі сваімі культурнымі сіламі. Задачы партыі—пабудова соцыялістычнай гаспадаркі і соцыялістычнай культуры,—беларускім профорганізаваным пролетарскім студэнцтвам выпаўняюцца. Політпрасьвет Выкбюро, кіруючы ўсёй культурнай справай на факультэтах праз культтройкі і камісіі змог таксама праз сэкцыю друку наладзіць кіраўніцтва па факультэтах выдавецтвам насьценных газэт і аб'яднаньнем студкораў. Сэкцыяй друку ставіцца мэта распаўсюджваць студэнцкія журналы і газэты сярод рабочых гушчаў. Падводзячы значэньне дасягненьняў Выкбюро ў політпрасьветнай працы *конфэрэнцыя лічыць неабходным у далейшым часе замацаваць дасягнутыя вынікі ў гэтай працы, узяўшы вопыт яе і абагаціць зьмест працы політыка-прасьветных і культурных організацый політпрасьвету.*

Побач з недахваткамі праводзімай Выкбюро кампаніі па падрыхтоўцы да грамадзкай працы студэнцтва ў час зімовых канікул у вёсцы, апошняе дало многа добрых дасягненьняў, якія трэба ў бліжэйшы час падлічыць і абмяркаваць. Адзначаючы ўзрост актыўнасьці студэнцтва ў грамадзкай працы, конфэрэнцыя лічыць, што чарговай задачай політпрасьветнай працы павінна быць паглыбленьне працы па шэфству над вёскай аднаведна тэй політыцы, якую партыя праводзіць па гэтаму пытаньню. Паглыбленьне і пашырэньне гуртковай працы па факультэтах павінна быць выпаўнена *шляхам організацыі шэрагу гурткоў па рэўруху, політграмаце і асабліва краязнаўству і беларусазнаўству. Дабіцца, каб курс Ленінізму быў уведзен у вучэбныя пляны* на ўсіх факультэтах. Лічачы, што самаадукацыйная і выхоўваючая праца студэнцтва ў ВНУ, а таксама і па-за ВНУ не павінна быць паслаблена, конфэрэнцыя лічыць неабходным урэгуляваць пастанову гэтай працы ў частцы яе плянавага сыстэматычнага правядзеньня.

Так 6-ая конфэрэнцыя профсэкцый БДУ падлічыла ўсе дасягненьні і недахваткі старога Выкбюро 5-га скліку, паставіўшы перад новым выбраным Выкбюро, у склад якога увайшлі сябрамі т. т. Серафімаў, Кацнэльсон, Жылінская, Марук, Гэльфанд, Шапавалаў, Швэцаў, Аксяльрод і Шарыпа, а ў кандыдаты: Яўстафьеў, Пашкоўскі, Міхальчык і Шахлевіч, старацца выпаўніць усё тое, што намеціла 6-ая конфэрэнцыя профсэкцый БДУ.

П. Галавач.

# Наша праца і вучоба.

## Вышэйшая партыйная школа Беларусі імя Леніна.

Партыйная школа пачала сваё існаваньне з каротка-тэрміновых курсаў у 1919 годзе.

Першы склік школы так і ня кончыў свае вучобы. Пры адыходзе часьцей чырвонае арміі партшкола ўвайшла ў яе шэрагі.

Каротка-тэрміновымі былі першыя склікі дзеля таго, што гэта было адпаведна тым задачам, якія ставіла перад школай партыя.

А задачы былі простыя: падрыхтаваць азначаны лік партыйцаў і кінуць іх на ўдарны вучастак чарговага фронту.

Але задачы, якія стаяць перад партыяй, ускладняюцца і вырашэньне гэтых задач абыдзеннага жыцьця і працы партыі патрабуе ня толькі найбольшай творчасьці, адданасьці, але й падрыхтоўкі, упартай вучобы таварышоў, якіх партыя пасылае на працу.

Асабліва складаныя задачы стаяць перад партыяй у нас на Беларусі.

Рэволюцыя, вызваліўшы Беларускі народ з-пад соцыяльнага й нацыянальнага ўціску, выявіла шмат творчых сіл з шырокіх рабоча-сялянскіх мас, на плечы якіх кладзецца пабудаваньне новага жыцьця нашае рэспублікі.

Каб гэтыя кадры партыйцаў у нас, на Беларусі, змаглі вырашыць гэтую цяжкую задачу, ім патрэбна рэволюцыйная падрыхтоўка, веды Ленінізму. Задача падрыхтоўкі такіх кадраў партыйцаў адказная, цяжкая, і вырашэньне яе партыя даручыла Вышэйшай партыйнай школе.

Але для вырашэньня гэтае задачы ўжо мала некалькіх месяцаў, і дзеля гэтага ў 1923 вучэбным годзе школа была рэорганізавана ў 2-хгадовую, а ў 1924-25 вуч. годзе ў 3-хгадовую з орыентыровачнай програмай на Комуністычны Унівэрсытэт.

Задача партшколы—падрыхтоўка партпрацаўнікоў. Паглядзім-жа, як праходзіць гэта падрыхтоўка.

Цяпер школа мае два курсы: 1-ы і 2 і з агульным лікам курсантаў у 108 чалавек[1]). Укомлектаваньне школы праводзілася вельмі асьцярожна: строгі падбор месц пры камандыраваньні, вымога стажу практычнай партыйнай альбо комсамольскай працы й г. д. У выніку—склад курсантаў амаль ня ўсе партыйцы й комсамольцы з практычным стажам:

сяброў партыі . . . . . . 70 чал.
кандыдатаў . . . . . . . 20 „
комсамольцаў усяго . . . . 36 „ —(пры чым комсамольцаў, ня членаў партыі і не кандыдатаў усяго 12 ч.),
беспартыйных . . . . . . 6 чал. (уцекачы з-за кардону).

Соцыяльны склад курсантаў такі:

| | |
|---|---|
| сялян | 38 чал. |
| фабр.-зав. рабочых | 18 „ |
| рамесьнікаў і чорнарабочых | 21 „ |
| сав. служачых | 18 „ |
| іншых | 13 „ |

[1]) У лік 108 уваходзяць і 12 т. т., якія цяпер пасланы ЦК КПБ на працу ў вёску на ўвесь час.

Markdown

Рознародны і нацыянальны склад курсантаў, характарны для нашае рэспублікі. Па нацыянальнасьці мы маем:

| | |
|---|---|
| беларусаў . . . . . . . | 49 чал. |
| жыдоў . . . . . . . . | 32 „ |
| расійцаў . . . . . . . | 19 „ |
| украінцаў . . . . . . . | 3 „ |
| латышоў . . . . . . . | 2 „ |
| палякаў, эстонцаў і літоўцаў (па 1) . . | 3 „ |

З усяго ліку курсантаў толькі 9 жанчын. Гэта зноў кажа аб строгім адборы на мясцох пры камандыраваньні ў школу.

У мінулым гозде з самага пачатку заняткаў у нас па 2 прадметам сталі ўводзіць лябораторны мэтод выкладаньня, як спробу. Першы блін заўсёды комам. Недахват падручнікаў, адсутнасьць лябораторый, спробы— і ў выніку на курсанцкіх конфэрэнцыях цэлыя паходы супроць новага мэтоду, націск на вучэбную частку з боку курсантаў, каб пазбавіцца новага мэтоду. Думалі, што прападзе задарма год вучобы.

Але выйшла ня так.

Новы мэтод вымагаў больш самадзейнасьці ад курсантаў, самому трэба працаваць над заданьнем, а ад гэтага ў галаве больш застаецца, чымся пасьля лекцыі, і новы мэтод усё больш знаходзіў сабе прыхільнікаў, а к канцу году ўсе курсанты былі за яго.

Пачаўся другі год вучобы.

Мы, маючы год практыкі, перайшлі на новы мэтод цалком, акрамя выкладаньня „Гісторыі разьвіцьця грамадзянскіх форм“, бо ня было выкладчыка, які-б мог увесь час быць у лябораторыі. Цяпер мы працуем па Дальтон-пляну, прыстасоўваючы яго да сваіх умоў. Кожны выкладчык мае азначаную програму, якую павінен распрацаваць з курсантамі. Гэтую програму ён разьмяркоўвае на ўвесь вучэбны год па заданьням, прыблізна кожнае на два тыдні. У заданьні выкладчык дае тэму, якую трэба распрацаваць, матар'ял патрэбны для заданьня, а таксама тэрмін, на які разьлічана заданьне.

Як прыклад, вазьму апошняе заданьне па Ленінізму № 9, на тэрмін з 1-га па 18-е красавіка, на 20 гадз. Тэма: „Другі зьезд РС-ДРП і раскол партыі. Пасьлязьездаўская барацьба бальшавікоў і меншавікоў“.

У заданьні даюцца асноўныя пытаньні: 1) якое значэньне мелі рознагалосьсі ў формуляваньні § 1 статуту; 2) якое значэньне мела барацьба пры выбарах ЦО і ЦК; 3) рознагалосьсі па пытаньню аб адносінах да лібэральнае буржуазіі й г. д. Літаратура да заданьня: Ленін—„Шаг вперед, два шага назад“; Ленін—т. IV стар. 271—305; пратаколы II зьезду, стар. 1—17, 218—237 і г. д.

Такое заданьне ў ліку некалькіх экзэмпляраў маецца ў габінэце Ленінізму і па ім працуюць курсанты. Гэтак сама і з заданьнямі па іншым прадметам.

Распрацоўваюцца заданьні групамі курсантаў у 2—3—4 чалавекі і ў адзіночку, глядзячы на тое, ці хватае падручнікаў. Групы складаліся дабрахвотна і працуюць увесь час. Распрацаваўшы заданьне, група ідзе к выкладчыку, каб здаць заданьне. Задаючы пытаньні, выкладчык выяўляе, ці досыць распрацавана заданьне, ці трэба т. т. яшчэ працаваць, і пасьля гэткае размовы ён альбо робіць адзнаку ў інструктарскай картцы аб тым, што заданьне споўнена, альбо дае загад папрацаваць над ім яшчэ. Кожны курсант мае дысконтную картку, у якой адзначае час, патрачаны на распрацоўку ўсіх заданьняў паасобку. Калі-ж заданьне распрацавана ўсімі т. т., тады памячаецца час для групавых заняткаў.

Усе курсанты разьмеркаваны вучэбнай часткай на 5 груп: 3 на другом курсе і 2 на першым. На групавых занятках заданьне распрацоўваецца канчаткова, паўтараецца. Азначанага часу зараней для групавых заняткаў у нас няма.

Гэтак мы йдзём ад заданьня да заданьня. Праца па Дальтон-пляну вымагае ад кожнага курсанта найбольш самадзейнасьці, абдумоўваньня пытаньняў пры вырашэньні іх. Новы мэтод выкладаньня павялічвае ступень успрыйманьня курсантамі тых прадметаў, якія ім выкладаюцца, а таксама дае досьлед і напрамак у далейшай працы па самаасьвеце.

Само разьмеркаваньне выкладаемых прадметаў пастаўлена так, што наогул асьветным на першым курсе адвозіцца больш усяго часу З грамадзкіх на першым курсе выкладаецца толькі Ленінізм па курсу гісторыі РКП. На другім курсе больш часу ўжо адводзіцца грамадзкім, хаця ёсьць яшчэ і наогул асьветныя.

Беларуская мова займае ў школе належнае ёй месца. Курсанты з вялікай ахвотай распрацоўваюць заданьні па беларускай мове і, ня гледзячы на розны нацыянальны склад курсантаў, мы маем у сэнсе беларусізацыі значныя дасягненьні У будучым годзе ёсьць дапушчэньне аб пераходзе да выкладаньня ўсіх прадметаў на беларускай мове. Вядома, гэтаму будзе пярэчыць адсутнасьць падручнікаў на беларускай мове, а таксама тое, што ня ўсе выкладчыкі ведаюць яе.

Школа мае свой клюб, наўкол якога вядзецца гурткавая праца. З гурткоў маюцца: драматычны, літаратурны, радыё-аматарскі і газэтны. Практычная праца гурткоў: выданьне насьценнае газэты, пабудова прыбораў для радыё-гуртка й г. д. Шырока разгарнуць працу гурткоў нельга з-за адсутнасьці часу ў курсантаў, але трохі перашкаджала гэтаму і няўменьне організаваць час.

У школе курсанты выхоўваюць і навыкі колектывізму, бо жыцьцё, праца, кармленьне пабудаваны на прынцыпе колектывізму.

Пытаньнямі ўнутранага жыцьця курсантаў ведае старастат і яго камісіі, як: гаспадарчая, рэвізыйная і іншыя, але гэтыя курсанцкія організацыі працуюць кепска.

Пасьля вучобы першае месца ў працы курсантаў займае практычная пазашкольная праца і ёй адведзена больш усяго ўвагі.

Наша школа побач з тым, што яна ёсьць лябораторыя кніжнай вучобы, павінна быць лябораторыяй партыйнай працы, дзе-б курсанты атрымлівалі рэволюцыйную падрыхтоўку, досьлед практычнай працы, дзе-б мелі магчымасьць правяраць старыя формы працы, пробаваць новыя. Для кіраўніцтва пазашкольнай працай, для абагуленьня досьледу працы ўтворана пазашкольная частка. Яна разьмяркоўвае курсантаў па заводам і наогул для працы, правярае працу, вызывае т. т. для справадзачы ў бюро ячэйкі КПБ, куды на гэты час завуцца і т. т. з тае ячэйкі, дзе працуюць курсанты. Усе курсанты разьмеркаваны для працы па фабрыках і заводах Ляхаўскага раёну, а таксама частка ў Кастрычнікавым—12 чал. і Горраёне—13 чал.

Да заводаў прымацаваны групы па 3—4—5 чалавек, якія ў сваім складзе маюць: адказнага організатара, комсамольца-пропагандыстага, профпрацаўніка, працаўніка па шэфству, клюбістага і інш., гледзячы, якія сілы патрэбны заводу. Разьмеркаваньне на працу дапасоўваецца з ячэйкай заводу і райкомам.

Для распрацоўкі пытаньня тае ці іншае часткі працы, для абгаворваньня мэтодаў і форм працы, ужываньня іх, намечваньня пляну працы, з таварышоў, якія працуюць па азначанай галіне, утвораны групы, якія зьбіраюцца і вырашаюць свае пытаньні.

Праца з чырвонаармейцамі і рабочымі, кіраўніцтва партыйнымі і комсамольскімі ўсіх трох катэгорый гурткамі, профпраца, клюбная—вось

дзе зьвязваецца вучоба партшкольца з практычнай працай, з жыцьцём. На гэту працу кожны курсант павінен аддаць у тыдзень ня менш 13-х гадзін.

З ліку курсантаў выдзелена спэцыяльная група лепшых таварышоў-вяскоўцаў у 9 чал., якія вядуць працу ў двух падшэфных сельсаветах.

Канікулы курсантаў таксама арганізуюцца для азначанае практычнае працы. У час зімовых канікул 40 чал. працавалі на пазашкольнай працы ў горадзе, а 68 у вёсцы: 34 замяшчалі сэкратароў сельячэек, а 34 працавалі ў групах ЦККПБ па абследваньню сельскіх установ.

Такая праца дае каштоўны матар'ял як для партыі, так і для самых курсантаў.

Скора летнія канікулы. У курсантаў маецца досьлед працы, бо і ў школу прышлі з яе, дык трэба гэты досьлед максымальна скарыстаць для працы ў вёсцы. Пазашкольная частка павінна будзе дзяржаць сувязь з т. т., якія будуць на працы, абагульваць матар'ял працы, памагаць патрэбнымі матар'яламі ў працы. Пазашкольнай частцы трэба падлічыць за лета спробу практычнай працы курсантаў гэтага году, недахваты арганізацыі працы, каб пазбавіцца іх у будучым годзе.

Партшкола—частка організму КПБ. Яна адгукнулася на лёзунг партыі „тварам да вёскі", паслаўшы праз ЦККПБ для працы ў вёсцы на ўвесь час 12 лепш падрыхтаваных таварышоў.

Склад курсантаў ВПШБ, склад выкладчыкаў, пастаноўка вучобы і практычнай пазашкольнай працы кажуць аб тым, што партшкола мае ўсе даныя, каб стаць партыйнай лябораторыяй Беларусі.

Па пастанове ЦККПБ наша школа рэорганізавана ў комуністычны ўнівэрсытэт Беларусі імя Леніна.

Наша задача, у зьвязку з гэтым, працаваць так, каб поруч з іншымі комуністычнымі ўнівэрсытэтамі і наш малады комвуз, наша Ленінка заняла сваё месца ў справе выхаваньня бальшавіцкіх кадраў.

А. Манусэвіч.

# Падарунак.

За зімовы пэрыод студэнцтва БДУ навучыла пісьменству 1837 сяброў профсаюзаў.

Пачатак 1924-25 акадэмічнага году. У ўнівэрсытэт уліўся новы струмень пролетарскай моладзі. Пачынаецца акадэмічная праца, але лекцыі й сэмінары не адрываюць студэнцтва ад таго асяродзьдзя, якое паслала яго ў ВНУ.

Ён не забывае, што перад профсаюзамі стаіць заданьне: „да 1-га мая 1925 году сярод сяброў профсаюзаў не павінна быць ні аднаго няпісьменнага". Заданьне цяжкае. Няпісьменных шмат, а сродкі культфондаў малыя. На лемантары яшчэ можа хопіць; а як быць з кіраўнікамі?

І тут на дапамогу профсаюзам прыходзіць студэнцтва БДУ, арганізаванае ў грамаду „Прэч няпісьменнасьць".

Пачалі падлік няпісьменных. „Ці можаш ты чытаць, таварыш? Як разьбіраешся ў вытворчых нарадах і будаўніцтве нашае пролетарскае дзяржавы, калі ні чытаць, ні пісаць ня ўмееш? Трэба, браце, вучыцца— гэта адзін з заветаў Ільліча! Запішам цябе ў школу". Вялікі лік няпісьменных быў у „харчавікоў"—больш за трыста, ня менш іх у „гарбароў" і „нарпітаўцаў", ёсьць нават у „працасьветы" і „саўпрацаўнікоў". За месяц праца па падліку, праведзеная ў плянавым і організаваным парадку, канчаецца і пачынаецца організацыя лікпунктаў.

У кожны профсаюз накіроўваюцца па некалькі студэнтаў для разьдзяленьня тых, хто падлягае навучаньню, на групы, для куплі адпаведных падручнікаў і абсталяваньня памяшканьня лікпункту школьнай абстаноўкай.

Поруч з гэтым, унутры ячэйкі „ПН“ праводзіцца распрацоўка матар‘ялаў па пытаньням мэтодыкі ў галіне лікняпісьменнасьці. Аб комплекснай сыстэме выкладаньня загаманілі ня толькі пэдфакаўцы, але й мэдфакаўцы і фонаўцы.

У выніку—неабходныя тэорытычныя веды маюцца, і на лікпунктах пачынаецца вучоба. Праца цяжкая. Зусім ня ўсюды маюцца неабходныя падручнікі і вучэбныя прыналежнасьці, няма адпаведных для заняткаў памяшканьняў, няпісьменныя неахвоча йдуць на лікпункты. Усякі пачатак цяжкі. Няхай на першых часох студэнт з парванымі ботамі йдзе на далёкі „Пролетар“, альбо „Варшавянку“ і застане на лікпункце замест 15-цёх—2-х. Добрая пастаноўка працы і ўмелы падход справу паправяць. І сапраўды! Праца на лікпунктах усё больш і больш разварачвалася і паглыблялася, прысутнасьць павялічвалася, заняткі пашлі нормальна.

Мэтодычныя нарады працаўнікоў лікняпісьменнасьці данага саюзу пад кіраўніцтвам выдзеленага ячэйкай „ПН“ у кожны саюз організатара і мэтодысты, агульныя сходы ячэйкі, даклады прадстаўнікоў культкамісій саюзаў, організатараў, мэтодыстых і ліквідатараў дапамагалі пастаноўцы працы па лікняпісьменнасьці ў абслугоўваемых намі 14 х профсаюзах і 6 ці ўстановах на належную вышыню.

У выніку мы маем нормальна працуючых 243 групы, у якіх навучаецца 2183 чалавекі. З іх 1837 чалавек да 1-га мая выпушчаны, як ліквідаваўшыя сваю няпісьменнасьць.

1837 навучаных пісьменству працоўных—наш падарунак у дзень 1-га мая пролетарыяту Менску.

С. Баркоўскі.

# Самадзейнасьць студэнтаў.

*(Пэдагогічны Факультэт БДУ).*

З пачатку акадэмічнага году пры факкоме, а потым пры профкоме працуе камісія, якая выдае конспэкты лекцый, выкладаемых на факультэце. Вельмі абмежаваная колькасьць кніг па розным навуковым дысцыплінам у Дзяржаўнай бібліотэцы, а таксама зусім адсутнасьць падручнікаў па тым ці іншым навуковым пытаньням,—прымусілі студэнцтва да такой цяжкай, але надта неабходнай і карыснай працы.

Галоўная перашкода адчувалася ў першых кроках працы ў адсутнасьці сродкаў. Студэнцтву патрэбна было правясьці невялічкі самавыдатак, што было і вырашана на агульнам сходзе (самавыдатак па 10 кап. з асобы), каб злажыць, такім чынам, грашовы фонд. Пасьля таго справа пашла ўперад хутчэй. Пад уплывам шчырага жаданьня папрацаваць на карысьць студэнцкае грамады таварышы, якія зьяўляліся прадстаўнікамі „выдавецкае камісіі“, не атрымліваючы ніякай платы за працу, цяпер ужо маюць досыць значны посьпех. Але тут таксама трэба падкрэсьліць і тое спачуваньне да гэтай справы, якое камісія сустракала з боку профэсуры.

Профэсура і выкладчыкі ніколі не адмаўляліся ад дапамогі студэнцтву. У гэтым сэнсе яны ня толькі папраўлялі абмылкі ў конспэктах сваіх лекцый (конспэкты пісаліся студэнтамі), але нават дапаўнялі і апрацоўвалі конспэкты, пісалі агульныя ўвагі да іх.

Апрача конспэктаў, „пэдфакаўскае выдавецтва“ надрукавала (ратаtар, шапірограф) цэлы шэраг програм, розных інструкцый і нават кароткія нарысы нямецкае граматыкі.

Вынікі працы не малыя. Выдана да паўтара дзесятка конспэктаў з тыражом, даходзячым па некаторым прадметам да 300 экз. Надворны выгляд выданьня ў конспэктах за малой выключнасьцю амаль што нездавальняючы. Сярэдняя каштоўнасьць іх—50 кап.

Конспэкты друкаваліся і пісаліся на расійскай мове.

Вось кароткі пералік выданьняў: 1) „Теоретическая механика“, 2) „Высшая алгебра“, 3) „Интегральное исчисление“, 4) „Дифференциальная геометрия“, 5) „Марксистская социология“ ч. I и II (друкуецца), 6) „История социализма“, 7) „Естественно-научные основы материализма“, 8) „Всеобщая история XX века“ (друкуецца), 9) „Условные рефлексы“, 10) „История России в XX веке“ (друкуецца).

Усе выданьні разышліся сярод студэнтаў. Профком адпусьціў па 2—3 экз. кожнага выданьня ў бібліотэкі і габінэты Пэдфаку. Тут імі, як падручнікамі, студэнты таксама карыстаюцца.

Наконт будучага акадэмічнага году профком мае ў думцы пашырыць сваю выдавецкую працу, каб споўна здаволіць патрэбы студэнтаў у належных падручніках для навуковых заняткаў. Пабудаваны каштарыс будзе ўнесен на разгляд Рэктара і Кіраўніцтва ўнівэрсытэту на прадмет атрыманьня неабходных сродкаў.

Наогул трэба зазначыць, што пэдфакаўцы-студэнты вельмі адчуваюць усю карысьць выдавецкае працы сваіх організацый.

Зярэнін.

# Наша зямляцтва.

### Маскоўскі Вэтэрынарны Інстытут.

З пачатку бягучага вучэбнага году сярод сяброў зямляцтва была зроблена перарэгістрацыя, якая мела мэту трохі „пачысьціцца“, пазбавіцца лішняга баласту. Пасьля перарэгістрацыі засталося 23 сябры з агульнага ліку студэнтаў-беларусаў МВІ—50 чалавек. Па соцыяльнаму становішчу яны падзяляюцца наступным чынам: дзяцей сялян—18, дзяцей рабочых—2 і дзяцей працоўнай інтэлігэнцыі—3; з іх аканчваюць у гэтым годзе 3 студ., на III курсе—10, на II—8 і на I курсе—2 чалавекі. Пасьля перарэгістрацыі быў разгледжан новы статут зямляцтва, які значна пашыран параўнана з леташнім і ставіць сваёю мэтаю ня толькі палепшаньне матар'яльна-бытавога становішча сваіх сяброў, але, галоўным чынам, падрыхтоўку новых грамадзкіх працаўнікоў спэцыялістых, якія жадаюць прыстасаваць свае веды да ўмоў нашае Беларускае Рэспублікі.

Для зьдзейсьненьня апошняга быў організаваны і ўжо працуе гурток па вывучэньню беларускае мовы. Кіруе гуртком студэнт МВІ т. Новік. Заняткі ідуць рэгулярна. Даведваюць гурток добра (75%-80%), што сьведчыць аб тэй вялікай зацікаўленасьці, якую выказваюць сябры зямляцтва да вывучэньня беларускае мовы. У бліжэйшыя часы, пры атрыманьні адпаведных падручнікаў, распачнуцца заняткі гуртка па вывучэньню гісторыі Беларусі й яе экономікі.

Робяцца крокі да ўстанаўленьня больш цеснай сувязі з Ленінградзкім і Віцебскім Вэт. Інстытутамі, а таксама з Цэнтральным Вэт. Кіраўніцтвам Беларусі і профсэкцыяй вэтпрацаўнікоў шляхам запрашэньня прадстаўнікоў ад студэнцтва на зьезды й конфэрэнцыі. Дзеля таго, каб знаходзячыся ў ВНУ ўвайсьці ў сэнс будучае працы, патрабавалася запрашаць прадстаўнікоў ад Цэнтр. Вэт. Кіраўніцтва для дакладаў аб

становішчы вэт. дапамогі насельніцтву Беларусі, а таксама наладзіць прысылку зямляцтву літаратуры й спэцыяльных журналаў, як: „Савецкая Вэтэрынарыя Беларусі“, „Сельская Гаспадарка Беларусі“ і інш.

Нельга не зьвярнуць увагі на вельмі дрэннае матар'яльнае становішча студэнтаў-беларусаў МВІ, бо вельмі абмяжован лік стыпэндый у бягучым годзе: з 23 студэнтаў-беларусаў стыпэндыі атрымліваюць у бягучым годзе толькі 3 чалавекі, а летась атрымлівалі да апошняга часу 16 чалавек. Шматліковыя звароты стыпэнд. камісіі ў Наркамзем Беларусі аб дачы магчымага ліку стыпэндый студэнтам-беларусам МВІ, якія ў самы бліжэйшы час змогуць быць скарыстанымі дзеля працы ў Беларусі, ні да чаго не прывялі і засталіся нават безадказнымі.

Чым можна тлумачыць гэта маўчаньне Наркамзему—невядома.

**М. Варфман.**

## Да выпуску студэнтаў ФГН і Пэдфаку.

Скора адбудуцца выпускі ФГН і Пэдфаку БДУ. Неабходна гэтым пытаньнем заняцца студэнцкім організацыям цяпер. Мы ўжо мелі горкую спробу з першым выпускам ФГН. Частка студэнтаў, скончыўшых прававое і экономічнае аддзяленьні ФГН, дасюль ходзяць без працы, а хто працаваў раней не па спэцыяльнасьці, той астаўся ў такім становішчы й цяпер. Прычынай гэтаму была непрацаздольнасьць факкому ФГН, які ня прыняў своечасова крокаў праз адпаведныя органы, а працаваў самастойна. Зразумела, нават па заяве самога факкому, што з ім не хацелі лічыцца, бо „не аўторытэтная“ організацыя. Цяпер да 2-га выпуску ФГН і 1-га Пэдфаку трэба наперад падумаць над гэтым пытаньнем, паставіць яго на абмеркаваньне і вырашэньне адпаведных органаў зараз-жа, каб да выпуску скончыўшыя былі забясьпечаны працай і працай як раз па спэцыяльнасьці. Трэба таксама паставіць пытаньне аб тым, каб ні адзін з скончыўшых ня быў прыняты на працу без рэкомэндацыі студэнцкіх організацый, бо ў унівэрсытэце, як і ў іншых ВНУ Беларусі, трэба праводзіць у гэтым пытаньні цьвёрдую клясавую політыку, даючы працу ў першую чаргу тым студэнтам, якія адпавядаюць патрабаваньням нашай вытворчасьці, падрыхтаванасьці і клясавай прыналежнасьці.

Пытаньне сур'ёзнае і ўжо насьпела. Трэба хутчэй яго вырашыць.

**Я. Аленін.**

## Наша насьценная газэта.

*Рабфак БДУ.*

Баязьліва, нясьмела выпускаліся ў рабфаку першыя нумары насьценнае газэты „Голас рабфакаўца“ ў канцы 1922 году.

Ня было яшчэ ні ў кога з т.т., прымаючых удзел у працы насьцен газэты, практыкі; ды й у першых нумарох газэты прымала ўдзел тольк 3-4 таварышы пад кіраўніцтвам загадчыка—В. Тэпіна.

Рабфакаўцы недаверліва адносіліся да першых нумароў газэты, лічачы, што задарма час будуць траціць на працу ў газэце. Але з узмацненьнем рабфаку газэта пачала аформляцца ў больш буйнае цэлае. Рабфакаўская гушча ўсё больш і больш уцягваецца ў працу насьценгазэты, разьвіцьцю якое дапамагала ячэйка КПБ рабфаку.

Адбіваючы рабфакаўскае жыцьцё, вучобу, быт і розныя кампаніі, к пачатку вучэбнага 23-га году газэта пачынае адбіваць жыцьцё профсэкцый, а ў 23-24 годзе, побач з іншымі старонкамі жыцьця рабфаку, пачынаюць зьяўляцца артыкулы аб шэфстве

Спачатку наша газэта выключна пісалася на расійскай мове, а цяпер на 50—60 проц. выходзіць на беларускай мове.

Цяпер газэта як з надворнага боку выглядае багата карыкатурамі, малюнкамі, так і па зьместу багата, маючы аддзелы і стацьці партыйнага характару, па быту, вучобе, комсамольскі аддзел, па профсэкцыям і па шэфству. Наогул газэта цяпер пастаўлена добра.

Кіруе газэтай рэдколегія ў складзе 7 чал. (3 беспартыйных і 4 партыйцы). Значна павялічыўся актыўны ўдзел у газэце слухачоў-рабфакаўцаў. Стоіць толькі вывесіць сьвежы нумар газэты, як зараз-жа ў часы перамен і ў свабодны час газэта, як мухамі цукар, абліпае рабфакаўцамі. Кожны прэцца, каб скарэй паглядзець сьвежы нумар, прачытаць яго.

У залежнасьці ад паступленьня матар'ялу ў газэту ёсьць магчымасьць выпускаць газэту два разы ў месяц, а ўсяго ўжо выпушчана 26 нумароў.

Дасягненьні газэты—значныя, і галоўнае з іх гэта тое, што газэта аб'яднала рабфакаўскі актыў, даючы магчымасьць выхоўвацца і вучыцца быць корэспондэнтам і наогул выяўляць сваю творчасьць. Ёсьць многа т.т., якія праз насьценную газэту навучыліся пісаць і ў цэнтральныя газэты, як „Савецкая Беларусь“, „Звезда“ і нават у журналы, як „Маладняк“, „Чырвоны Сьцяг“.

Вядома, што ў працы насьценнае газэты „Голас рабфакаўца“, як і пры кожнай працы, ёсьць памылкі, дэфэкты, але яны выпраўляюцца самым жыцьцём.

Праца насьценнае газэты павінна весьціся пры ўсякай дапамозе і пад кіраўніцтвам партячэйкі й комсамолу.

Гэту задачу наш „Голас рабфакаўца“ не забывае

Янка Цімкаўскі.

# Фізкультура на рабфаку БДУ.

Наш гурток па фізкультуры налічвае 63 чалавекі: 50 м. і 13 ж., і дзеліцца на 3 групы: дзьве мужчынскія і адну жаночую. Заняткі першае і другое групы бываюць тры разы, а трэцяй—два разы ў тыдзень па аднэй гадзіне.

Зацікаўленасьць спортам сярод рабфакаўцаў вялікая, на што паказвае 80—90 проц. прысутнасьці на занятках. Інструктар добра кіруе гуртком, здавальняючы ўсю моладзь.

Вось толькі ёсьць шмат недахваткаў, якія балюча адбіваюцца на працы гуртка. Першае—гэта тое, што няма свайго клюбу і спортыўнай залі, і прыходзіцца вандраваць па чужым. Другое—няма спортыўных прылад. Таксама кепска, што заняткі адбываюцца ў пасьляабедзенны час.

Але ня гледзячы на такія недахваткі, гурток усё-ж такі мае значныя дасягненьні. Так, акрамя тэорытычных заняткаў, гурток ужо даў 8 масавых, як дзеля самых рабфакаўцаў, так і на рабочых вечарох, выступленьняў.

З вялікай прагнасьцю чакае гурток лета, каб на чыстым паветры разгарнуць сваю працу, як мага шырэй, па ўмацаваньню організму і аздараўленьню яго.

# Пастановы і рэзолюцыі III-яе Усебеларускае конфэрэнцыі профарганізаван. студэнцтва[1].

## III-я ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ КОНФЭРЭНЦЫЯ ПРОФАРГАНІЗАВАНАГА СТУДЭНЦТВА АБ ЧАСОПІСІ «ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ».

Выслухаўшы даклад рэдакцыі часопісі «Чырвоны Сьцяг» III-я Ўсебеларуская конфэрэнцыя профарганізаванага студэнцтва прапануе ўсім Выканбюро ВНУ і аб'яднаньням профарганізаванага студэнцтва рабфакаў, тэхнікумаў павесьці шырокую кампанію за падпіску на часопісь і супрацоўніцтва з часопісьсю «Чырвоны Сьцяг».

Конфэрэнцыя даручае рэдакцыі часопісі рэгуляваць друк (насьценныя газэты і іншыя выданьні) ва ўсіх ВНУ, рабфаках, тэхнікумах і іншых навуковых установах, якія ўваходзяць у Беларускае аб'яднаньне профарганізаванага студэнцтва.

# ТЭЗІСЫ

## аб арганізацыйных формах пабудовы студэнцкіх арганізацый.

1. Падцьверджваючы, на основе вопыту двухгадовай працы, што адзінай правільнай формай організацыі пролетстудэнцтва зьяўляюцца профсэкцыі, конфэрэнцыя лічыць неабходным далейшую працу павесьці ў напрамку іх умацаваньня, утачненьня іх организацыйнай пабудовы і паглыбленьня працы як у ВНУ, так і па-за сьценамі яе.

2. Працу профсэкцый трэба накіраваць такім чынам, каб згрупаваць наўкол іх лепшую частку студэнцтва. Прымаючы пад увагу растучае імкненьне студэнцтва ў профсаюзы, лічыць неабходным паставіць перад адпаведнымі саюзнымі органамі аб палягчэньні прыёму ў профсаюзы лепшай часткі студэнцтва, у першую чаргу з ліку бедных сялян, паказаўшых сябе актыўна на грамадзкай працы.

3. У мэтах сканчэньня аднолькавае пабудовы профсэкцый па вытворчай адзнацы, на основе пастаноў VI Ўсесаюзнага зьезду профсаюзаў, лічыць неабходным скончыць рэорганізацыю не пазьней 1-га мая 1925 г.

4. У зьвязку з рэорганізацыяй профсэкцый па вытворчай адзнацы намеціць наступную схэму будаваньня студорганізацый у ВНУ, факультэтах пры іх і тэхнікумах:

а) На асноўных факультэтах ВНУ, калі яны розьняцца па вытворчаму зьместу свайму, існуе па аднэй профсэкцыі з профкомам у ліку 5—9 сяброў і 2—4 кандыдатаў;

---

[1]) У гэтым № зьмешчаны толькі дзьве рэзолюцыі, астатнія будуць змешчаны ў наступным нумары.

б) У ВНУ з некалькімі факультэтамі (аддзяленьнямі), аднолькавымі па вытворчаму зьместу, існуе адна профсэкцыя;

в) На рабочых факультэтах, ня маючых асноўнага ўхілу па азначанай спэцыяльнасьці, захоўваюцца некалькі профсэкцый па прынцыпу прыналежнасьці к профсаюзу да паступленьня ў ВНУ, прычым неабходна імкнуцца да магчыма большага зьменшаньня колькасьці профсэкцый шляхам зьліяньня маналіковых профсэкцый (да 30 чал.) з большымі, з афармленьнем сяброўства ў профсаюзе большай профсэкцыі.

*Увага*: На Рабфаках, маючых адзін асноўны ўхіл па спэцыяльнасьці тэй ВНУ, пры якой яны знаходзяцца і пры якіх існуе толькі адна профсэкцыя, сябры профсаюзаў уваходзяць у агульную профсэкцыю ВНУ.

г) У ВНУ, дзе некалькі профсэкцый, згодна п. „а“ настаяшчага разьдзелу застаецца Выканбюро, выбранае згодна існуючых палажэньняў.

*Увага*: У ВНУ з аднэй профсэкцыяй, функцыі Выканбюро спаўняе профком маючаеся профсэкцыі.

д) На асноўных факультэтах, у зьвязку з існаваньнем аднаго профкому, факкомы зьніштажаюцца з перадачай іх функцый профкому. Студкомы, існаваўшыя пры тэхнікумах і старастаты пры партшколах зьнішчаюцца.

*Увага:* Пры самастойных рабфаках, якія знаходзяцца ня пры ВНУ, факкомаў не ўтвараць, усю працу спаўняе Выканбюро.

е) Факкомы на рабфаках застаюцца з функцыямі выключна культурна-прасьветнай і акадэмічнай працы на факультэце.

5. Працай профсэкцый як асноўных факультэтаў ВНУ, так і маючыхся на рабфаку, кіруе непасрэдна Выканбюро ВНУ.

6. Для кіраўніцтва аддзельнымі галінамі працы пры Выканбюро ўтвараюцца акадэмічная і культурна-прасьветная сэкцыі; першая складаецца з сябра Выканбюро, прадстаўніка студэнтаў у праўленьні ВНУ, прадстаўніка з студэнтаў у прэзыдыумах дэканатаў, а таксама з прадстаўнікоў асноўных факультэтаў і факкомаў рабфакаў, якія вядуць акадэмпрацу; другая сэкцыя—з сябра Выканбюро і прадстаўніка профсэкцый і факкому рабфаку, якія вядуць культ-прасьветпрацу на факультэце.

*Увага*: Для вядзеньня організацыйнай працы спэцыяльныя сэкцыі не выдзяляюцца, а праца гэта праводзіцца Выканбюро ў цэлым

7. Профкомы асноўных факультэтаў маюць функцыі акадэмічнай і культурна-прасьветнай працы на факультэце. Праца гэта праводзіцца профкомам у цэлым, шляхам даручэньня аддзельных галін працы аддзельным сябром профкому. Ніякіх сэкцый, камісій і г. д. для гэтай працы не ўтвараць.

*Увага*: У профкомах пры ВНУ і тэхнікумах, маючых функцыі Выканбюро, для правядзеньня аддзельных галін працы ўтвараюцца тыя-ж сэкцыі, што і пры Выканбюро.

8. Факком на рабфаку, які спаўняе, згодна п. „е“ разьдзелу 4, акадэмічную і культурна прасьветную працу, праводзіць яе пад непасрэдным кіраўніцтвам Выканбюро ВНУ.

9. У мэтах разгрузкі студэнцкіх організацый ад гаспадарча-комэрцыйнай, экономічнай працы, конфэрэнцыя лічыць необходным усю працу па экономічнаму й матар'яльнаму абслугоўваньню студэнтаў (сталоўкі, абшчажыцьці, стыпэндыі і г. д.) концэнтраваць у гаспадарчых частках праўленьняў адпаведных ВНУ.

*Увага*: Выканбюро ВНУ, а дзе такога няма—профком зьдзейсьнічае свой уплыў на працу па абслугоўваньню матар'яльнаму сту-

дэнтаў праз сваіх прадстаўнікоў у камісіях і органах, утвараемых па пытаньням матар'яльнае дастаўкі, не ўтвараючы для гэтага спэцыяльных экономсэкцый.

10. Касы ўзаемадапамогі, як організацыі, якія ставяць сваёй мэтай адшуканьне дапаўняючых сродкаў для дамамогі (індыв. і колект.) сваім сябром, павінны ня толькі заставацца ў далейшым, але працу іх трэба пашырыць. Неабходна ўзяць напрамак на тое, каб касы ўзаемадапамогі па зьместу свае працы сапраўды сталі-б клясавымі, грамадзкімі, жыцьцёвымі організацыямі.

11. Прадстаўляючы сабою самастойныя організацыі, касы ўзаемадапамогі працуюць пад агульным кіраўніцтвам Выканбюро (профкому). Кіраўніцтва з боку апошніх працай касы трэба паставіць так, каб аканчальна пазбавіцца момантаў апекі над касай у яе кожнадзённай практычнай працы.

12 У зьвязку з адсутнічаньнем экономорганаў пры Выканбюро, а таксама ў зьвязку з перадачай экономустаноў у веданьне праўленьня ВНУ, праца па азначанню патрэбнасьці студэнтам тых ці іншых відаў давольства і дапамогі выконваецца касай узаемадапамогі.

Белбюро ў месячны тэрмін павінна выпрацаваць на аснове тэзісаў падрабязковыя інструкцыі і разаслаць на месцы.

---

# ТРЫБУНА.

С. Малярэвіч.

## Месяц працы геолёгічнай экспэдыцыі па Дняпру і Сожы.

(*Заметкі і ўражаньні*).

I

Усё больш растучая патрэбнасьць пабудаваньня некаторых галін дабываючай прамысловасьці, як, напрыклад: адчыненьне цэмэнтных заводаў, а таксама разьвіцьцё і палепшаньне керамічнай і хімічнай прамысловасьці з другога боку, прымушвае Дзяржплян і Савет Народнай Гаспадаркі Беларусіісьці па шляху правільна-організаванай навукова-дасьледчай працы па вывучэньню натуральных багацьцяў Беларусі.

Разьвіцьцё прамысловасьці павінна ісьці разам з разьвіцьцём сельскай гаспадаркі, што дасьць самы моцны грунт дзеля падняцьця ўсёй Народнай Гаспадаркі і культуры Беларусі.

Дасягненьне гэтае мэты ставіць ясныя, конкрэтныя заданьні навукова-дасьледчай працы на Беларусі, якая і павінна ісьці ў гэтых двух напрамках.

Для кожнага, хто крыху бліжэй знае геолёгію Беларусі, ясна, што край наш мае значныя прыродныя багацьці, якія патрабуюць больш падрабязнага навуковага абсьледваньня, а таксама правільна пастаўленай іх распрацоўкі. Гэтага патрабуе экономіка нашага краю, і к ажыцьцяўленьню гэтага прыняў крокі ўрад Савецкай Беларусі.

Дзеля геолёгічнага дасьледваньня Беларусі Дзяржплянам ўлетку мінулага году было вызначана дзьве экспэдыцыі, з якіх адна пад кіраўніцтвам геолёга Н. Ф. Блюдуха і асыстэнта па катадры мінэралёгіі Пэдфаку БДУ М. А. Грамыкі. У склад яе, апрача вышэйазначаных асоб, яшчэ ўвашло 6 студэнтаў натуральна-агрономічнага аддзяленьня Пэдфаку БДУ.

Экспэдыцыя павінна была заняцца абсьледваньнем часткі Ўсходняй Беларусі ў Аршанскай, Калінінскай, Магілеўскай і Бабруйскай акругах.

Па пляну намечаны былі наступныя маршруты: па палудзеньніку— Ворша з усімі бліжэйшымі мясцовасьцямі, абодвы берагі Дняпра, Сожу і Проні (прытока Сожу), потым тры маршруты поперак, з заходу на ўсход.

Павінен заранеей агаварыцца, што нашы палявыя досьледы былі толькі разьведкай, толькі пачаткам працы, якая разьлічана на некалькі гадоў.

II

Закупіўшы ўсё самае патрэбнае і падрыхтаваўшыся, мы, 2 ліпеня, выехалі ў Воршу, дзе і мусілі пачаць працу. Мы раней даведаліся, што ваколіцы Воршы багаты вапнякамі, якія залягаюць галоўным чынам на правым беразе Дняпра, крыху вышэй гораду. Нашай мэтай і было, як мага падрабязней абгледзяць іх. Трэба зазначыць, што экспэдыцыя мела

мала патрэбных для працы прылад. У нашым распараджэньні былі рыдлёўкі, геолёгічныя малаткі і компас, пры дапамозе якога мы рабілі прымітыўныя топографічныя здымкі найбольш цікавых для нас берагоў ракі.

Ламоў альбо кайл ня было і тоўшчу вапняку прыходзілася прабіваць рыдлёўкамі. Але мы не сумавалі, мы шчыра жадалі папрацаваць, а энэргіі ў нас хапала. Праца йшла дружна. Прыкладам для нас быў кіраўнік экспэдыцыі Мікалай Хведаравіч, які моцнымі ўдарамі крышыў цьвёрды вапняк.

Надвор'е стаяла ўвесь час надта добрае. Паветра была зусім іншая, чымся ў Менску—чыстая, здаровая, так што ўсе адчувалі сябе бадзёрымі.

Увечары зварочваліся ў горад, дзе ў памяшканьні рабфаку нам далі прытулак; там-жа ў асобны пакой мы складвалі сабраны матар'ял.

Прабіўшы тоўшчу вапняку мы ў ім наткнуліся на дзьве праслойкі крэменю, таўшчынёю ў адзін і два вяршкі, які можа быць скарыстаны пры наліўцы млыновых жарнавоў.

У Воршы мы затрымаліся некалькі больш, чымся ў другіх мясцох нашага маршруту з тэй прычыны, што мы лічылі Аршанскі раён адным з самых важных. Нам трэба было высьвятліць тэхнічнае значэньне вапняку, які займае там досыць вялікую плошчу. Для Беларусі вельмі неабходна пабудова цэмэнтовых заводаў, для якіх і патрэбен якраз вапняк, альбо крэйда. Апроч таго, мы агледзелі і абсьледвалі чыгуначны кар'ер, гліну і вельмі цікавы з геолёгічнага боку яр каля вёскі Кабылякі.

Каб хутчэй выканаць заданьні, наша экспэдыцыя разьбілася на дзьве партыі, якія працавалі далей самастойна. Адна партыя пад кіраўніцтвам М. А Грамыкі пашла на Горкі, наша з М. Хв. Блюдуха ўніз па Дняпру на Шклоў.

Нанялі дзеда-лодачніка, які павінен быў везьці па рацэ нашы рэчы і абразцы розных гатункаў зямлі, якія мы зьбіралі па дарозе. Апроч таго, човень даваў магчымасьць вольна пераяжджаць з аднаго берагу на другі.

Атрымаўшы пропуск на праход чоўня пад чыгуначным мастом, мы ўвечары пусьціліся ў свой чарговы маршрут. Якраз паднялася навальніца. Бесперастанку грахатаў гром і бліскала маланка, і мы мусілі на нач шукаць прытулку ў вёсцы. Пераначаваўшы на сенавале, мы зраньня пайшлі далей. Надвор'е зьмянілася, сьвяціла ярка сонца, а пасьля дажджу ўсё выглядала шмат весялей і сьвяжэй.

Не магу ўстрымацца, каб не падкрэсьліць хараство часткі ракі ад Воршы да Шклова. Гэта такое дзіўнае дачная і для санаторый здаровае месца, што на яго трэба зьвярнуць належную ўвагу.

У гэтым маршруце нас асобна зацікавілі два месцы. Першае—гэта маргель каля места Копыся і другое—пясок каля Шклову. Апрача таго, мы ўсю дарогу вывучалі берагі ракі.

Копыскі Маргель залягае каля вёсак Аляксандраўкі і Лешчы. Раней на гэтым маргелі працавалі 18 кахельных заводаў, з якіх цяпер у хаду толькі адзін. Кахель выраблеўся высокай якасьці і йшоў далёка за межы Беларусі.

Тутэйшае сялянства, калі даведалася, што мы прыехалі з Менску агледзяць іх маргель, вельмі зацікавілася нашай дасьледчай працай і наперабой кожны стараўся паказаць нам усё, што толькі ў іх было найцікавейшага. Раней амаль што ня ўсе дарослыя зараблялі на кахельных заводах, усе былі захоплены аднэй думкай, што хутка зноў мусіць будзе для іх праца. З іх апавяданьняў аб умовах іх працы на заводах мы даведаліся, што на заводах панавала самая бязьлітасная эксплёатацыя іх заводчыкамі і падрадчыкамі. Яны мусілі працаваць за самую мізэрную плату, якую толькі і можа ўзяць селянін, зьвязаны несамавітай гаспадаркай.

Трэба зазначыць, што нам, радзіўшымся і ўзросшым у вёсках Меншчыны, адразу кінулася ў вочы розьніца ў гаспадарках селяніна Меншчыны і Магілеўшчыны.

Гаспадар Магілеўшчыны, які мае дзьве дойныя каровы і пару коняй, пападаецца ня так часта і лічыцца самым заможным. Бывалі выпадкі, што за грошы мы не маглі ў вёсцы купіць кварты малака, альбо пару яек, і гэта ўлетку, калі ўсяго гэтага павінна быць досыць. З сялян Магілеўшчыны галоўным чынам комплектаваліся кадры перасяленцаў у Сібір, Амэрыку, значная частка іх працавала шахцёрамі ў Донбасе.

Прычыны гэткай розьніцы ў матар'яльным становішчы селяніна Магілеўшчыны і Меншчыны трэба шукаць у гісторыі[1]).

Прабыўшы ў Копысі два дні, мы накіраваліся далей. Чарговым цікавым для нас месцам быў Шклоў.

Калісь Шклоў быў досыць бойкім гандлёвым мястэчкам, але цяпер ён жыве толькі ўспамінкамі.

Знадворку від Шклову самы мізэрны. Праваліўшыяся дахі. Крывая старая будоўля. Гразь усюды. Пасярэдзіне даўны рынак, якім толькі й можна было крыху зацікавіцца.

Каля Шклову ёсьць досыць добрая папяровая фабрыка.

Вярсты дзьве ніжэй Шклову, на другім баку Днапра, пракапаўшы прыблізна на адзін мэтр дно ракі, мы дасталі белы, чысты, бліскучы, як срэбра, пясок, які раней капаўся тысячамі пудоў і бярлінамі адвозіўся на кахельныя заводы ў Копысь і нават, як нам казаў стары дзед, які браў заўсёды падрады на гэты пясок, ён ішоў далёка за межы Беларусі.

Адаслаўшы з Шклову сабраную частку матар'ялаў, мы па чыгунцы прыехалі назад у Воршу, каб адтуль накіравацца ў свой галоўны маршрут—па Сожы. Мы прынялі такі плян працы. Каб шырэй ахапіць акругу, усе разьбіліся па аднаму і кожны павінен быў дасканальна абсьледваць свой раён, якіх мы намецілі тры: Крычаў, Мсьціслаўль, Клімавічы. Потым усе павінны былі зьехацца ў Крычаў, каб адтуль пайсьці ўніз па Сожы да мястэчка Кармы.

III

Мне выпала ехаць у Клімавічы. Клімавічы сам па сабе горад невялічкі, але Калінінская акруга мае досыць густое насельніцтва; у горадзе кожны дзень бывае шмат сялян, што прыдае яму бойкі выгляд. Ужо ў Крычаве мы зацікавіліся на беразе Сожу выхадамі пластоў крэйды, і мне хацелася прасачыць далей у бок ад Сожу, як далёка яна залягае.

Я праяжджаў далей за Клімавічы вёрст за трыццаць ад Сожу і ўсюды, пракапаўшы няглыбокую яму, натыкаўся на верхнія пласты крэйдавага рухляку. Каля самых Клімавіч зроблена некалькі пячур, у якіх з гэтага рухляку й крэйды паляць вапну. На чыгуначнай станцыі Клімавічы, калі капалі калодзеж, прайшлі рухляк і ўкапаліся ў крэйду, якой пішуць. Таўшчыню крэйды не прайшлі, што можна было зрабіць, прабіўшы бурам скважыну. Потым я агледзяў чыгуначны кар'ер каля маста цераз рэчку Лабжанку, зьмерыў, запісаў і зарысаваў напластаваньне зямлі, зрабіў ад рукі плян мясцовасьці і, як гэта мы ўсюды рабілі, узяў абразцы гатункаў. Прадпрыемстваў дабываючай прамысловасьці ў Клімавічах няма, апра-

[1]) У часы польскага паўстаньня 1863 г., каб прыцягнуць на свой бок беларусаў-сялян у мясцовасьцях, ахопленых паўстаньнем, царскі ўрад правёў сялянскую рэформу спачатку ў Літве і Заходняй Беларусі. Тут сялянам былі дадзены большыя надзелы зямлі і зьменшаны выкупныя плацяжы ў параўнаньні з іншымі старонкамі Расіі, што мусіла быць карай паўстаўшай шляхце. Сялянства добра ведаўшае, што для яго ўціск магнатаў будзе не лягчэй царскага —супакоілася, а без дапамогі сялянства паўстаньне мусіла скончыцца няўдачай. Такім чынам, сялянства Меншчыны, дзякуючы паўстаньню, аказалася крыху шчасьлівей Магілеўскага. Толькі з часоў Кастрычніка экономічнае становішча Магілеўскага сялянства стала пакрыху паляпшацца.

ча невялічкай цагельні, куды я таксама схадзіў паглядзець гліну, якой ўжо засталося мала. Гэта гліна ня зусім добрай якасьці. У ёй ёсьць шмат дробных каменчыкаў. Больш цікавага ў Клімавічах я нічога не нашоў. Я зьвярнуўся ў Крычаў.

Сябры мае, якія былі ў Мсьціслаўлі, агледзелі досыць цікавыя геолёгічныя абнажэньні. Там ім папалася некалькі фосфарытаў, і калі быў зроблен хімічны аналіз іх у лябораторыі Унівэрсытэту, у Менску, то яны далі 30 проц. фосфару.

Трэба зазначыць, што фосфарыты дзеля нашай сельскай гаспадаркі вельмі патрэбны і, каб удалося знайсьці іх шмат, яны мелі-б вялікую карысьць для Беларусі.

Падзяліўшыся дасягнутымі вынікамі сваёй працы, мы на другі дзень парашылі пайсьці далей.

Трэба сказаць, што ў Менску нам перад выездам некаторыя казалі, што на Сожу нічога цікавага няма; берагі яго нізкія, балоцістыя, начаваць трэба будзе ў лодцы, бо на берагох няма сухога месца і г. д., так што пусьціліся па Сожу мы з сумнымі думкамі, што прыдзецца мусіць толькі дарма марнаваць сродкі й час.

А тут яшчэ й неба ўзбунтавалася. Падняўся віхравы сустрэчны вецер, з хмар, абклаўшых усё неба, пашоў, як увосень, надаедлівы дождж. Вецер меў такую моц, што ня глядзячы на тое, што з усіх сіл граблі, лодку парусіла і гнала назад проціў вады. Цераз два дні дождж і вецер крыху спыніліся, мы абсохлі і ўжо весялей ішлі далей.

На дзеле выявілася, што нам у Менску нагаварылі шмат лішняга. Берагі Сожу дысыць крутыя, нам часта пападаліся абнажэньні, дзе мы знаходзілі шмат досыць цікавага матар'ялу.

Сож рака маладая, часта мяняе сваё рэчышча, робіць багата выкрутасаў, якія завуцца тут кручкамі, так што лодка другі раз плыве з паўгадзіны і зноў прыплывае на старое месца, толькі з другога ўжо боку.

З пачатку нашага маршруту па Сожу аж да самай Кармы, крэйда была нашым неразлучным падарожнікам. Ад верхняга пласту глебы яна пачынаецца на $1^1/_2$—2 аршыны і зьверху каля двух сажняў складаецца з рухляку, а далей ідзе надта добрая, чыстая крэйда для пісаньня. Глыбіні, на якую яна залягае, мы даведацца не маглі, бо ў нас ня было бура. Гэта можна будзе зрабіць сёлета і агледзяць усё больш дэтальна. Але цяпер можна сказаць, што залежы крэйды тут вельмі значныя. Ад Мсьціслаўля да Кармы па прамой лініі больш 100 вёрст крэйда ўсюды залягае тоўстым пластом.

У бакі падавацца нам ня было часу і мы ня ведаем, як далёка ўшыркі яна пралягае, але другая частка нашай экспэдыцыі, якая праводзіла працу на Проні, казала, што й там крэйды хапае.

Па дарозе мы аглядалі ўсе яры, вымоіны, ўсё запісвалі і бралі абразцы гатункаў зямлі.

У некаторых мясцох мы сабралі значны палеонтолёгічны матар'ял, які займе сваё месца ў утвараемым пры БДУ габінэце Беларусі.

Разглядаючы сьвіты геолёгічных пластоў, мы ўдвох месцах выразна маглі бачыць, што напластаваньне ня ўсюды ішло спакойна. У навуцы пануе думка, што на Беларусі калі й былі якія-небудзь геолёгічныя катастрофы, то прычынай іх быў леднік. Між тым, нам некалькі разоў давялося ўбачыць вялізарныя прарывы верхніх пластоў зямлі мэзозойскай і трэцічнай эпох, быццам нажом прарэзанымі па прамой лініі і ў прарыў удзьвінутымі зьнізу новымі пародамі, зусім другой формацыі і болей старых геолёгічных эпох. У другіх мясцох пласты зямлі былі на $180^0$ перавернуты так, што верх лёг уніз. Гэтага ня мог зрабіць леднік, гэта зроблена зусім другімі сіламі.

Каля вёскі Таўкачоўкі на правым беразе Сожу ёсьць значныя залежы маргеля. Калісь тут быў кахельны завод, але цяпер ад яго засталіся адны ямы. Маргель апрацаваны мала, залягае ён глыбока, так што рабочым дабрацца да дна нідзе не ўдалося.

Некалькі вёрст ад Таўкачоўкі, каля вёскі Старынкі, на лузе знаходзяцца залежы бурай жалезнай руды. Яшчэ ў прошлым стагодзьдзі тут быў чыгунна-плавільны завод, якім уладаў граф Бенкендорф. Мяне і яшчэ аднаго студэнта зацікавіла гісторыя гэтага заводу. Прышоўшы ў Старынку, мы павялі гутарку аб залежах жалезьняку. Сабралася кучка грамадзян, якія, пагаварыўшы з намі, хутка прывялі двух зусім старых сялян, якія жылі ў час пабудовы заводу. Раней, сказалі яны нам, Старынка была вялікім рабочым пасёлкам. На заводзе працавала шмат людзей. Частку руды бралі блізка каля Сожу, частку падвозілі з другіх мясцоў. Завод выробляў аружжа, і ў часы польскага паўстаньня партыі аружжа перадаваў паўстанцам Калі паўстаньне было зьнішчана, царскі ўрад конфіскаваў завод, і заместа жалеза на ім сталі вырабляць картон. Ранейшы-ж ўладар заводу Бенкендорф пакончыў самагубствам. Цяпер ад заводу засталіся толькі кучы шлаку і неяк захаваўшаяся сьцяна аднаго корпусу.

Другім месцам, дзе мы знайшлі буры жалязьняк, зьяўляецца мястэчка Карма.

Па далінцы калісь працякаўшага недалёка ад Кармы ручча на некалькі вёрст залягае пад самым расьлінным пластом досыць добрая бурая жалезная руда. Яна мае, як паказаў хімічны аналіз, 50 проц. чыстага жалеза. Процант нядобрых прымесяй, як напрыклад фосфору, у ёй невялічкі, прыблізна каля 1 проц., і яна можа мець таксама для нас значную каштоўнасьць.

Трэба зазначыць, што буры жалязняк пападаўся нам часта і раней па Дняпру і Сожу. Ёсьць досыць яго і па Беразіне, і па Прыпяці. Такія жалезнякі ў Ноўгарадзкай губэрні роспрацоўваюцца, і жалеза з іх там ідзе на выраб сялянскіх рэчаў.

Жалеза лёгка дабываецца з такой руды аднавіцельным процэсам, абы быў толькі вугуль.

Капаць тукую руду вельмі лёгка, бо яна ляжыць у верхніх напластаваньнях. Бязумоўна, ставіць завод дзе-небудзь на Сожы няма сэнсу, гэта мела-б толькі мясцовае значэньне. Завод трэба паставіць ніжэй каля Дняпра і гэтую руду падвозіць па рэках з усёй Беларусі; гэта магло-б мець вялікае экономічнае значэньне, гэта значна-б ажыцьцявіла і падняло наш край.

Скончыўшы сваю працу на Сожу, мы зноў перабраліся на Дняпро, ужо ў Бабруйскую акругу—у Рагачоў. Там мы агледзелі гліны кругом Рагачова і накіраваліся ў наш астатні пункт—Быхаў, Магілеўскае акругі. Каля Быхаву мы нашлі буры жалязьняк і агледзелі пясок на шкляным заводе ў Ветранцы. Выканаўшы пастаўленыя сабе заданьні і аглядзеўшы гару з выкапаным кругом ровам і з замкам, якім калісь уладаў магнат Сапега і які асаджалі швэды, аб чым гавораць швэдзкія гарматы, пастаўленыя каля варот замку, мы паехалі дамоў у Менск.

* * *

Экспэдыцыя працягнулася 33 дні і, каб выканаць пастаўленыя сабе мэты, нам прыходзілася працаваць зранку да вечара. Спаць лажыліся позна, пасьля таго, як прыводзілі ў парадак працу за дзень.

Перш-на-перш мы стараліся выканаць заданьні Дзяржпляну і ВСНГ Беларусі. Але мы не забывалі, што мы—студэнты БДУ, і што хаця наш Унівэрсытэт Беларускі, але ў яго габінэтах па няжывой прыродзе няма ні аднаго каменчыка з Беларусі, ні аднэй жменькі беларускага пяску.

Намі сабрана каля 800 абразцоў, і ўжо цяпер можна было-б пры Унівэрсытэце ўтварыць геолёгічны габінэт Беларусі, але наш БДУ такі бедны, што ня мае грошай нават на вітрыны і невядома, калі прыдзецца разабраць сабраны матар‘ял.

Наша экспэдыцыя была разьведкай, але вынікі яе паказалі, што Беларусь, апрача пяскоў, парослых хвойнікам, і балот, мае свае багатыя прыродныя каштоўнасьці.

Пачатая намі праца ў гэтым годзе значна паглыбіцца. Абставіны сёлета лепшыя. Прыхільнасьць савецкай грамадзкасьці прыдае бадзёрасьць і ўпэўненасьць у посьпеху.

**В. Крэйнін.**

# Аб новым рэволюцыйным фольклёры[1].

Кастрычнікавая рэволюцыя прайшла глыбокай баразною па ўсім галінам жыцьця. Нават самая консэрвацыйная частка—чалавечая псыхіка і тая была абхвачана магутным абнаўляючым струменем Кастрычніка.

Псыхіка чалавека, усе выгіны яго душэўнай дзейнасьці падлеглі глыбокаму ўплыву з боку Кастрычнікавай рэволюцыі. На колькі Кастрычнік зрабіў уплыў на псыхіку людзей—яскрава можа сьведчыць фольклёр нашых днёў. У фольклёры нашых днёў, як у фокусе, адбіваецца новая чалавечая псыхіка, новая формуючаяся сьвядомасьць, новае ўспрыйманьне сьвету. У прыказках, прыгаворках, казках, песьнях і інш. нашай рэволюцыйнай эпохі відна ўся напышлівасьць рэволюцыі, відзен рытм новага народжваючагася жыцьця, відзен новы чалавек. У фольклёры знаходзіць сваё яскравае адбіцьцё новае сьветаразуменьне людзей нашае сучаснае сапраўднасьці. Дзеля гэтага зьбіраць матар‘ял па фольклёру, запісваць усё, што чуеш, мае вялікае значэньне.

Калыскаю фольклёру зьяўляюцца завод, фабрыка, вёска, школа, базар, вуліца і г. д.

Там, дзе людзі ўваходзяць у зносіны паміж сабою, там і народжваецца фольклёр. Фольклёр усюды саправаджае чалавека.

Наш Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт не зьяўляецца выключэньнем.

На нашым рабфаку, пэдфаку, мэдфаку існуе свой факультэцкі фольклёр, існуе цэлы шэраг спэцыфічна-факультэцкіх прыгаворак, прыказак, анэкдотаў, песьняў і г. д. У іх спэцыфічна факультэцкая афарбоўка.

Неабходна іх сабраць, неабходна іх запісваць, неабходна іх сыстэматызаваць і абагуліць. У іх увесь унутраны сьвет студэнцтва з яго настроямі, адчуваньнямі, патаемнымі думкамі й г. д.

Але студэнцтва павінна быць скарыстана ня толькі для зьбіраньня свайго вузка-цэхавага фольклёру. Студэнцтва можа быць уцягнута і ў зьбіраньне агульнага фольклёру.

Пролетарскаму студэнцтву ня чужыя завод і фабрыка. Яно шматлiковымі ніткамі зьвязана з вёскай. Пролетарскае студэнцтва ведае самую соль, самую квінт-эсэнцыю жыцьця й быту рабочага і селяніна.

Організацыйны бок гэтага пытаньня я сьвядома не зачэпліваю. Я лічу, што гэтае пытаньне павінна быць прадметам асобага абгаворваньня. Мая задача меншная. Я хацеў абмежавацца пастаноўкай толькі гэтага важнага пытаньня.

---

[1]) У парадку абгаворваньня.

**А. Л.**

# Ці патрэбен лясны інжанэр Беларусі[1].

Пастанова гэтага пытаньня на першы погляд можа паказацца некалькі дзіўнай. Бо дзіўна пытацца, „ці патрэбен інжанэр для прамысловасьці якога-б то ня было роду?“ Усе галіны прамысловасьці маюць сваіх інжанэраў і адзіным выключэньнем з гэтага правіла зьяўляецца лясная прамысловасьць. Вышла так дзеля таго, што апошняя была распылена: яна мела шмат гаспадароў, была прамысловасьцю дробнага капіталу. Быўшы гаспадар меў магчымасьць самым драпежніцкім чынам эксплёатаваць тое сялянства, якое пападала да яго на завод. Усімі яго дзеямі кіраваў адзін стымул—проценты на капітал. Яны павялічваліся пры дапамозе таго, што рабочага прымушалі працаваць за 50--70 к. па 12 гадзін у суткі. Пры гэтакай жабрацкай аплаце працы, ясна, не магло ўтварыцца пытаньне аб тэхнічным палепшаньні вытворчасьці; дзешавей паставіць лішніх дзесяць чалавек, чым утвараць якія-б то ня было нова-ўводзіны. Гэтыя два фактары—дробны капітал і дзяшоўка рабочых рук утварылі ўмовы, пры якіх сам прадпрыемца быў і кіраўніком вырабу. Інжанэр каштаваў шмат—запрашаць яго было не карысна.

Аналёгічны малюнак нагледжваўся ў ляснойгаспадарцы. У дарэволюцыйныя часы толькі 54 проц. лясоў належала дзяржаве Гэтыя 54 проц. абслугоўваліся вучонымі лесаводамі. Астатнія 46 проц абыходзіліся хатнімі сродкамі—імі загадвалі панскія даручнікі. Да чаго прывяло іх гаспадараньне—усім вядома. Лясы аказаліся зьнішчанымі. Цяпер лясная прамысловасьць асяродкавана ў буйныя гаспадарчыя адзінкі—трэсты. Наступным пытаньнем для апошніх зьяўляецца падняцьце вытворчасьці і павялічэньне вывазу дрэвясіны на замежны рынак. Дзякуючы шэрагу неўраджайных гадоў, лес заняў першае месца ў балянсе нашага агульнага вывазу. Аб адносных разьмерах яго можна казаць па таму, што маленькая Фінляндыя вывозіць дрэвясіны больш, чым СССР. Ня гледзячы на вялізарныя лясныя запасы, мы кожнагодна ўвозім з-за граніцы прыблізна на 15 міліёнаў рублёў дрэвясіны для папяровых фабрык. Гэтыя факты кажуць за тое, што ў бліжэйшыя часы мы павінны паскорыць эксплёатацыю лясных багацтваў і вытворчасьць лесу—прамысловых прадпрыемстваў. Пабудова новых заводаў у бліжэйшыя часы немагчыма: няма капіталу. Трэба павялічыць вытворчасьць існуючых шляхам уліваньня ў іх кадра кваліфікаваных працаўнікоў. Наглядны прыклад у гэтым напрамку дае Поўначалес, які дасягнуў такім чынам павялічэньня вытворчасьці на 20 проц. Лясная промысловасьць Беларусі ў значнай меры абслугоўваецца быўшымі прадпрыемцамі, альбо іх даручнымі. Гэта, у сваёй большасьці, публіка тэхнічна няпісьменная і чакаць ад яе чаго-небудзь новага, а галоўнае—ужываньня новых, ужо вывучаных, мэтодаў вырабу нельга: з гэтымі задачамі яны нічога ня зробяць. Тут павінна быць дадзена месца тэхнічна пісьменнаму чалавеку—інжанэру. Акрамя таго, інжанэр вельмі неабходзен Беларусі, як грамадзкі дзеяч. Ён павінен стаць аднэй з самых моцных нітак, якія зьвязваюць горад з вёскай.

Пытаньне трэба сваечасова паставіць і ўсебакова высьвятліць. Цяпер толькі некоторыя з лесбелаўцаў даказваюць, што іх прамысловасьць першасткова і што яны змогуць адалець яе сваімі хатнімі „средствиями“. Жыцьцё-ж паказвае, што гэтакія мотывы ня грунтоўны; здаровая, пачынаючая добра працаваць, лясная прамысловасьць патрабуе працаўнікоў высокай кваліфікацыі. А гэтымі працаўнікамі могуць быць толькі лясныя інжанэры.

[1]) У парадку абгаворваньня.

# КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ.

Т. Сапуноў.

**Д. Ф. Хоррабин.** Очерки историко-экономической географии мира. Изд. „Кр. Новь". Москва.

Гэта кніжка, якая зьявілася ў Расіі ў перакладзе з ангельскага ў 1924 годзе, зьяўляецца каштоўным укладам у расійскую марксыцкую літаратуру. Па аб'ему яна распадаецца на дванаццаць разьдзелаў і заключае ў сабе 137 старонак звычайнага кніжнага формату з 44 географічнымі картамі ў тэксьце.

Характар выкладу і язык кнігі разьлічаны аўторам на шырокія народныя масы, пераважна працоўных. Матар'ял разьмеркаваны ў строгай гісторычнай паступовасьці зьяваў народна-гаспадарчага жыцьця, пачынаючы з росту экономічнай узаемазалежнасьці народаў старажытных і канчаючы сучасным сьветам. СССР адведзена даволі значнае месца.

„Мы не сумняваемся ў тым,—правільна кажа Н. Папоў у прадмове да разглядаемае кнігі,—што яна зьяўляецца незамянімым падручнікам раней усяго для нашых школ, і саўпартшкол часткова, што, у канцы, яна будзе вельмі карысна нашаму сярэдняму звычайнаму партыйцу". З гэтай ацэнкай Папова можна цалком згодзіцца. Папершае—кніга Харабіна марксыцкі вытрымана; падругое—чытач уважліва пазнаёміўшыся з ёю будзе мець значнае прадстаўленьне ня толькі аб ролі географічнага фактору ў гісторыі, але й аб цеснай залежнасьці ад яго вытворчых сіл на розных стопенях гісторычнага разьвіцьця; патрэцяе—аўтор выразна паказвае як сілу экономіі ў сучасны момант, так і далейшыя запасныя экономічныя рэсурсы капіталістычных дзяржаў і СССР. Выходзячы з экономічных прадпасылак, аўтор намячае пяць вялікіх экономічных груп, на якія распадаецца народна-гаспадарчае жыцьцё земнае кулі. Вось гэтыя групы: 1) Амэрыка, 2) Брытанская імпэрыя, 3) Дальні Ўсход (Кітай і Японія), 4) Расія і 5) Францыя, „Сярэдняя Эўропа і Паўночная Афрыка". „Мы разьмеркавалі іх,—кажа Харабін на 77 стар.,—прыблізна па іх экономічным значэньні. Пры гэтым мы ўзялі пад увагу як іх экономічныя рэсурсы, так і сучасную меру іх фактычнага прамысловага значэньня".

У канцы, чацьвертая вартасьць кнігі Харабіна ў тым, што аўтор выдатна прадставіў сутнасьць імпэрыялістычнай політыкі, асабліва ў XX стагодзьдзі, калі яна выявіла сябе ў яскравай і рэльефнай форме вайны 1914-17 г.г. Харабін высьвятляе няўстойнасьць таго становішча, якое ўтварылася ў Эўропе пасьля вялікай Эўропэйскай вайны. Каменем прэткнавеньня зьяўляецца супраціўніцтва капіталістычных дзяржаў на міжнародным рынку. Конкурэнтамі на гэты раз зьяўляюцца Францыя і Англія. Інтарэсы Францыі і Англіі—кажа аўтор—зыходзяцца ў двух першарадна-важных пунктах: 1) Яны конкурыруюць у цяжкай індустрыі і 2) яны змагаюцца за ўладу над Міжземным морам. (Стар 131).

Нарысы гісторыка-экономічнай географіі. сьвету можна, як сказана, рэкомэндаваць у якасьці падручніка для старэйшых груп сямёхгодак, саўпартшкол і школ другое стопені. Расійскі рабочы вынясе з яе таксама

многа каштоўнага. Кніга цалком падходзіць для ляўбораторнага мэтоду выкладаньня. Асабліва многа яна дасьць чытачу тады, калі ён будзе ўладаць некаторымі ведамі з політэкономіі і гістмату. Неабходныя веды з фізычнай географіі пры чытаньні кнігі могуць быць заменены харошым географічным атлясам, на што і зварачае ўвагу ў прадмове аўтор.

Недахватаў у кнізе вельмі мала. Як на недахват, я пакажу на наступнае. На працягу ўсёй кнігі фігуруе тэрмін „цывілізацыя“, а між тым, аўтор ня даў поўнага азначаньня гэтага слова, што, на мой погляд, трэба было-б абавязкова зрабіць, паколькі яна прызначалася для шырокага кола чытачоў. На старонцы 26 аўтор паказвае, у якіх месцах старога сьвету нарадзілася цывілізацыя, але ня даў адказу, у чым выявілася яе сутнасьць і пры якіх умовах вытворчасьці і спажываньня найперш яна магчыма. Хаця на гэта апошняе пытаньне адказ павінна даць політэкономія, але зусім умесным было-б даць пачатковыя веды па гэтаму пытаньню і на старонках гэтае кнігі.

**Б. Сянько.**

**М. Н. Ковалевский, Ст. С. Кривцов, Е. А. Мороховец, Н. Г. Тарасов.** Хрестоматия по истории классовой борьбы в России. 2-ое изд. „Кр. Новь“ М. 1923 г. стр. 372.

Цяпер, калі прынцып конкрэтызацыі канчаткова перамог у нашай пэдагогіцы, калі ўсе яе і мэтоды, і сыстэмы накіраваны на тое, каб не забіваць галавы вучня няжывымі, непатрэбнымі схэмамі, а даць яму сапраўды неабходныя веды, калі шлях новага выкладаньня ідзе выключна ад конкрэтнага, знаёмага да адцягненага, незнаёмага і выкладаньне гісторыі павінна будавацца на конкрэтным матар'яле. Але справа ў тым, што дастаць для школы конкрэтны матар'ял па гісторыі і пры тым не анекдотычны, а навуковы, часам амаль што нельга нашаму і асабліва провінцыяльнаму пэдагогу; многае ў гэтым напрамку прыходзіцца шукаць у спэцыяльных, і часта вышаўшых з друку выданьнях, але выданьнях вельмі каштоўных. Вось тут і павінна прыйсьці на дапамогу пэдагогу гісторычныя хрэстаматыя, якая дае гатовы, навуковы, сыстэматычна-падабраны й праверваны матар'ял.

Гэткую-ж мэту, г. зн. дапамагчы ў выкладаньні гісторыі клясавае барацьбы, ставіць сабе і наша хрэстаматыя.

Адчыняецца яна матар'ялам для ўступнай гутаркі, якая павінна закласьці аснову разуменьня вывучваемага процэсу, і за якой ужо ідзе матар'ял па рэўруху 17 і 18 стагодзьдзяў Матар'ял абодвух гэтых аддзелаў мы лічым зусім няўдалым. Тут дадзены ў якасьці „ілюстрацый“ адрыўкі з „Рускае гісторыі ў сьціслым нарысе“ М. Н. Пакроўскага, для якое чужая неабходная для хрэстаматыі конкрэтнасьць, ды ўсім, мы думаем, вядомая. Мімаволі напрашваецца таксама заўважаньне і адносна тэй абмяжованасьці месца, якое складальнікі хрэстаматыі адвялі клясавай барацьбе да 19 стаг. Рух Балотнікава, паўстаньне С. Разіна і Е. Пугачова зьяўляюцца сапраўднымі зьявішчамі клясавай барацьбы і ў хрэстаматыі па гісторыі гэтае барацьбы яны павінны знайсьці сабе належнае месца.

19 стагодзьдзе разьбіта ў хрэстаматыі на дзьве часткі: першая палова стагодзьдзя складае аддзел „Зараджэньне буржуазнае будовы ў Расіі“, а другая—„Буржуазная Расія“. Апошні аддзел у сваю чаргу распадаецца на пад'аддзелы: „Аграрнае пытаньне пасьля сялянскай рэформы“, „Прамыславае разьвіцьцё Расіі ў другой палове 19 і пачатку 20-га стагодзьдзя“, „Социялістычны Рух у Расіі“ і „Рэволюцыя 1905 году“. Кожны пад'аддзел папярэджвае ўводны артыкул. Матар'ял гэтых аддзе-

лаў ужо больш цікавы і рознастайны, але ўсё-ж і тут складальнікі злокарыстаюць лішку адрыўкаў з сухіх, тэорытычных, ня конкрэтнага, ілюстрацыйнага характару кніжак. Напрыклад, у хрэстаматыі нямала адрыўкаў з кніжкі Ларына „Сялянскае пытаньне і соцыял-дэмократыя“, кніжкі цяжкае, пасільнае толькі цалком падрыхтаванаму чытачу.

Толькі ў апошнім аддзеле „Сусьветная вайна і рэволюцыя 1917 г.“ матар'ял цалком добры. Тут мы знаходзім адрыўкі з кніжкі Д. Рыда „10 днёў, якія патрасьлі сьвет“ з запісак Падвойскага, Мсьціслаўскага, Л. Троцкага, Суханава, Я. Окунева і інш.

Наогул жа трэба прызнаць, што жывога матар'ялу, таго, які хочаш знайсьці ў хрэстаматыі—адрыўкаў з пяршакрыніц, з успамінаў, з літаратурных твораў, вынятак з маніфэстаў, рапартаў, проклямацый—у ёй нямнога і ў гэтым яна значна ўступае аналёгічнай хрэстаматыі В. Фэйдэра, нядаўна выданай Ленінградзкім політпрасьветам.

З. Б.

**„Красная Молодежь“** ежемесячник Центрального и Московского бюро пролетарского студенчества № 3—4. Март—Апрель 1925 г. 213 стр.

Часопісь з кожным нумарам расьце. Калі паглядзіш № 1 „Красной Молодежи“ і апошні—між імі вялікая дыстанцыя. Застаючыся кіраўнічым органам для студэнцтва, яна ў тыя самыя часы ўсё больш і больш ўцягвае й студэнцтва ў працу. Студкорыя „К. М.“ расьце, а ў гэтым—рост і часопісі.

Гэты нумар амаль што ў большай сваёй частцы прысьвечан пытаньням „нарады вузаўскіх ячэек пры ЦК РКП“ і ўсесаюзнай конфэрэнцыі пролетстудэнцтва. Падлічваюцца вынікі, намечваюцца шляхі новай працы.

Артыкул Молатава „Лінія партыі ў сялянскім пытаньні“ коратка, але вельмі добра асьвятляе політыку партыі ў гэтым пытаньні на працягу ўсёй рэволюцыі. Гэты артыкул трэба прачытаць усім студэнтам беларусам, бо яны амаль што на ўсе 100 проц гатуюцца быць працаўнікамі вёскі і ім неабходна ведаць, якую лінію праводзіць партыя ў сялянскім пытаньні.

Літаратурны аддзел—гэта скалкі. Іх так зусім правільна й назваў сам аўтор Ляшко „Скалкі аповесьці“. „Гуляй стэп“ гэтакі самы скалак.

Лепш вершы.

„Ночь просидев с Бухариным и Марксом,
Жуя и на ходу заглядывая в книгу,
Спешил рабфаковец к вокзалу на разгрузку“...—

гэта сапраўднае студэнцкае жыцьцё.

„И теперь когда рабфачить
Нарулил меня уком
Не хочу переиначить
Песни петые станком“—

гэта твар усіх вершаў—і вершаў рабфакаўцаў—якія зьмешчаны ў гэтым аддзеле.

Вельмі цікавіць 11-х старонкавы аддзел „Рэформа вышэйшай школы“. Тав. Сьмірноў высоўвае пытаньне аб пераапрацоўцы нашых вучэбных плянаў такім чынам, каб уся тэорытычная й практычная праца студэнта ў ВНУ (лябораторыі, майстэрні, залікі і інш.) займала два трымэстры. Трэці-ж трымэстр павінен быць заняты ўсе 3 месяцы на вытворчасьці. Вымаганьне зусім правільнае. Трэба нашы ВНУ прыстасаваць да вытворчасьці, да практычнай працы.

Проф. Грыбаў (аб вытворчай практыцы студэнтаў) кажа: „студэнты-практыканты павінны прымаць удзел уласнай працай у вытворчасьці, а ня быць толькі наглядальнікамі“. Дзеля гэтага патрэбна рэформа выкладаньня на ўсіх факультэтах і да гэтага трэба падыйсьці ўжо цяпер, бо „толькі тады будуць вывучаны процэсы творчасьці, калі студэнт-практыкант сам прымае ў гэтых процэсах актыўны ўдзел.“

„Быт“—вельмі слабы аддзел. Часопісь „КМ“ зьяўляецца органам студэнцтва СССР і аддзел „быт“ павінен усебакова асьвятляць жыцьцё, працу і вучобу гэтай моладзі. У падвойным нумары ўсяго 7 кароценькіх заметак. Трэба, каб студэнцтва само памятавала аб неабходнасьці асьвятляць сваё жыцьцё ў „Красной Молодежи“. Ня відно провінцыяльных ВНУ, ёсьць скалкі быту Маскоўскага студэнцтва. Тое самое можна сказаць і пра аддзел „па Вузам і Рабфакам“.

„Студпечать и студкоры“ вельмі патрэбны аддзел і яго зьяўленьне трэба толькі вітаць. Артыкул Фролава дае добрую „інструкцыю (як кажуць Вяцічы)“ у працы студкораў. Добра (хаця й ня зусім) асьветлена праца студгурткоў.

Ёсьць невялічкія недахваты ў „Красной Молодежи“, але гэта толькі лішні раз кажа аб тым, што трэба студэнцтву больш увагі аддаць свайму друку. Часопісь „Красная Молодежь“ расьце—аб гэтым сьведчаць апошнія нумары.

**З. С.**

**„Красный Студент“** ежемесячный литературный, общественно-политический и научно-популярный журнал. Из-во „Прибой“, Ленинград. № 3(26) Март 1925.

Вельмі яшчэ невялічкая колькасьць нашых студэнцкіх часопісяй. Налічыш да 10 і спынішся. Сярод гэтых 10 сваё месца займае і „Красный Студент“. Ужо 26 нумароў! Не абмылюся, калі скажу, што „Красн. Студент“ адзін з старэйшых нашых журналаў. Прашоў ён цяжкі і доўгі шлях працы, на сваіх абмылках навучыўся. Што кідаецца ў вочы, так гэта нейкі офіцыйны падход да палітычнага сучаснага жыцьця. Яго й ня відаць у журнале. Хіба-ж 30-х радковую заметку рабфакаўца Мурава „Міжнародны дзень работніцы й студэнткі-пролетаркі“ можна лічыць за артыкул, які высьвятляе бягучы момант перад студэнцтвам?

Але трэба адзначыць, што ў журнале зьмяшчаюцца артыкулы, якія ўсебакова малююць быт Ленінградзкіх студэнтаў ад іх грамадзкай працы, да „мытни“ з яе традыцыямі, клюбам, „цеце“ і г. д.

Артыкульчыкі (артыкуламі іх нават нельга назваць) кароткія, яскравыя, „занозистыя“, як само студэнцкае жыцьцё.

Есьць і „Куток студкора“. Праўда, малы (мабыць і першы), але надзеі на павялічэньне ёсьць; аб гэтым кажа тое, што ў журнале працуе шмат карэспондэнтаў, ёсьць і навучаньне дзеля насьценных газэт.

Я не кажу ўжо аб сэзонных артыкулах, „аб летняй практыцы“, аб „рэформах вышэйшай школы“. (Да месца сказаць, яна прадстаўлена адным артыкулам. В. Пакроўскага, вельмі агульным. Галасоў студэнтаў па гэтаму пытаньню няма).

Быт асьвечан добра, усюды жыцьцёвыя малюнкі „мытни“, „кухонны імпэрыялізм“, бытавыя вершы Салаўёва і Падклетнева. Тут і барацьба за дапасаваньне „тэорыі да практыкі“—НОПізацыя студэнцкага жыцьця, тут і барацьба за новы быт, шуканьне яго новых формаў.

„Па ВНУ і Рабфакам“—той самы быт, але ў іншай вопратцы. Тут больш фактычнага матар'ялу, „комсамольскіх баняў“, „нашых бед“, „невырашымых пытаньняў“ і інш.

Трэба адзначыць, што часопісь добра організавала і навучыла сваю студкорыю, бо ў артыкульчыках так яскрава й жыцьцёва б'юць факты, уложаныя ў некалькі радкоў.

Слабы літаратурны аддзел. Будзе правільна, калі я скажу, што яго зусім няма ў гэтым нумары. Ёсьць адны вершы, дык і тыя губяцца сярод бытавога матар'ялу.

Ленінград заняў першае месца сярод гарадоў СССР, як бацькаўшчына Кастрычнікавае рэволюцыі.

Ленінградзкі студэнцкі журнал—адзін з лепшых у шэрагу студэнцкіх журналаў СССР.

Трэба адзначыць добрае выданьне, журнальны формат і фотомонтажы сярод тэксту.

Зьм. Сьнежка.

**„Прафэсыанальны Рух“** орган Цэнтральнага Савету Прафэсыанальных Саюзаў Беларусі. №№ 1, 2, 3, 4, 5. 1925 г.

Першы раз на абшары пашыранай Беларусі зьявілася часопісь профсаюзаў. Што яна патрэбна і вельмі патрэбна—аб гэтым сьведчыць сама часопісь, яе зьмест. Яна паставіла сабе мэты: распрацоўваць і высьвятляць усе бакі штодзённае працы, зьвярнуўшы ўвагу на працу нізавых організацый, нізавога профактыву, высьвятляць матар'яльна-бытавое становішча шырокіх мас рабочых, работніц і служачых, знаёміць масы з працай дзяржаўных і гаспадарчых органаў.

Паглядзім, як жа выконвае свае мэты часопісь? У часопісі высьвятляюца бягучыя пытаньні жыцьця ад „чарговых мэтаў профсаюзаў Беларусі“ да „профсаюзаў і піонэраў“, усе бягучыя штодзённыя пытаньні. Трэба толькі адзначыць, што ня ўсе бакі многасьценьнага жыцьця і працы профсаюзаў зачэплены ў часопісі, ня відно зусім орыентыроўкі на нізы. Яб сказаў, што „профрух“ орыентыруецца на профактыў толькі гораду, а ня вёскі і нізоў. Трэба, вядома, іх прыцягнуць да супольнае працы ў часопісі—вось тады і часопісь будзе жыцьцёвай.

„Профрух“ толькі пачаў працу і калі параўнаеш першы нумар часопісі з апошнім, пятым, то відно, што ён заметна расьце; расьце і колькасьць рабкораў.

Аддзелы Наркампрацы, Галоўсоцстраху і інш неяк не да месца. Калі ўжо іх пакідаць, то трэба было-б і іншы матар'ял разьмяркоўваць па аддзелам—галінам профпрацы.

„Па акругам і раёнам“, „Па саўхозам“, „Старонка моладзі“—яшчэ вельмі малыя, мала захоплены нізавыя профорганізацыі дальніх раёнаў і акругаў.

„Літаратурная старонка“—гэта „горластый зазубренный марш“ студыйнага маладняка клюбу „Профінтэрн“. „С разбега кулаками в звенящую медь“—заразіліся юрлівасьцю „Лефа“ і „гарланяць“ аб „міме“, аб „кожаной куртке“, „метранпаже“ і інш. Іх, гэтых вершаў, нямнога, яны і слабыя, на іх відзен уплыў Ясеніна, Маякоўскага і інш, але ў іх свае настрої, свой асабісты жыцьцёвы пульс.

Зусім няўдалы аддзел быту. Напрыклад, напісаная ў вершах поэма аб „бюро машыністак“. Там і „ералаш і радзікюлі, і каўпачкі, і пудра“!.. і г. д. Што ў гэтым знойдзе нізавы профпрацаўнік, альбо зусім проста сябра профсаюзу? Ня ведаю! Але гэта поэма ідзе яшчэ з эпіграфам Томскага!?? Гэта матар'ял у насьценную газэту „Дому Працы“, а не ў часопісь профсаюзаў Беларусі!

Трэба яшчэ, каб быў куток корэспондэнта, альбо добрая паштовая скрынка.

„Профрух"—па зьместу шукае яшчэ свайго месца, якім яму стаць: ці для мас ці для профактыву нізавога? Трэба пажадаць, каб гэта месца ён скарэй знайшоў. А яго месца—у гушчы профмас.

Выгляд мае добры, добры шрыфт, фотомонтажы. Вось адна бяда— —загаловак ня правільна надрукаваны: трэба не „прафэсыанальны", а „профэсыянальны", альбо „прафэсыянальны".

**Д. С.**

**„Малады Араты"** часопісь сялянскае моладзі, орган ЦК ЛКСМБ № 1 и № 2. 1925. (Ні месяц, ні дзень не паказаны).

„Малады Араты" зьяўляецца органам таго сялянскага маладняка, які „стаіць на парозе ўступленьня ў Комсомол", які зьяўляецца амаль што правадыром маладняцкае вёскі. Ну, і мэты ў „Маладога Аратага"— усім вялізарным колектывам працоўных да соцыялізму.

Шлях маладааратаўцаў—пад кіраўніцтвам компартыі да выкананьня заветаў Ільліча.

У зьместу добра апрацаваны матар'ял для моладзі ў аддзелах: „Ленінская комсамолія", „Гутаркі аб політыцы", „Заходняя Беларусь".

Зусім не здавальняе аддзел: „Барацьба за новую вёску", ад яго трэба чакаць новае вёскі, ён павінен выяўляць яе. У „Маладым Аратым" яе няма. Ёсьць толькі програмныя артыкулы. Праўда, у 2 нумары трохі лепш—ёсьць лісты з вёскі.

Комсамольска-маладнякоўскі задор б'е ў вочы ад літаратурнага аддзелу, але чаму „М. А." заняўся папамі (3 вершы і апавяданьне „Заработак") і вершавою самарэклямаю („Падпішыся на Араты") незразумела.

Малы яшчэ аддзел „Па комсамольскай Беларусі і горад".

Вельмі каштоўны артыкул аб насьценнай газэце ў вёсцы.

З тэхнічнага боку выданьне добрае. Трэба пажадаць, каб павялічылася колькасьць маладааратаўскіх корэспондэнтаў, гэта ўмацуе часопісь, узьвядзе на моцны грунт.

Трэба „Маладому Аратаму" зьвярнуцца яшчэ больш тварам да вёскі.

# Заўважаныя памылкі:

| Стар. | Рад. | | НАДРУКАВАНА: | ТРЭБА ЧЫТАЦЬ: |
|---|---|---|---|---|
| 17 | 4 | зьверху | Праўдзівасьць бясспрэчнага... | Пра ўдзівасьць гэтага бясспрэчнага... |
| „ | 14 | „ | ...пролетарыят, была... | пролетарыят, і якая была... |
| „ | 24 | „ | ...імпэрыялізму—капіталізм | ...капіталізму—імпэрыялізм. |
| 18 | 31 | „ | ...ў канцы 1876 г. | ў канцы 1878 г. |
| 22 | 11 | „ | ...„як чуць не патухла... | ...„Як чуць не патухла... |
| „ | 12 | „ | Справа, бязумоўна... | „Справа, бязумоўна... |
| 27 | 13 | „ | ...яна ўкладваецца. | ...ён укладваецца... |
| 64 | | — | Што за птушка... | Што там за птушка... |

# ЗЬМЕСТ.

Ста .

*Увагі*: 1) Аўторы адзначаных значком (*) артыкулаў не зьяўляюцца студэнтамі.

2) Артыкулы: „Пляханаў і Ленін“, „Дыялектыка ў марксызме“, Сучасныя соцыолёгі аб клясах“ напісаны ўдзельнікамі сэмінараў проф. С. Я. Вальфсона і „Псыхолёгія і марксызм“—удзельнікам сэмінара проф. С. З. Кацэнбогена.

---

**Ад редакцыі:** Ня зьмешчаныя ў гэтым нумары стацьці пойдуць у наступных нумарох.

| | |
|---|---|
| Рэдакцыя: *А. Крыніцкі*, *Каханович*, *С. Кацэнбоген*, *М. Ляўкоў*, *Мік. Шапавалаў* | Адказны сэкратар **Мік. Шапавалаў.** |

*К журналу „Чырвоны Сьцяг" № 3—4.*

# Приложение.

Утверждено ВЦСПС 25/IV-25 г.

## ПОСТАНОВЛЕНИЕ.

## 1-ой Всесоюзной Конференции Пролетарского Студенчества.

## (Организационный вопрос).

### I. Общая часть.

1. Работа профсекций за истекший период, как в стенах учебн. завед., так и вне его, активное их участие в общесоюзной работе, союзных с'ездах и конференциях полностью подтверждают правильность организационной линии ВЦСПС в вопросе о том, что основн. организацией в ВУЗ'е является профсекция.

Основной задачей деятельности профсекций на ближайшее время должно стать—развитие, расширение и углубление своих организаций в сторону наиболее полного охвата масс пролет. студенчества, путем всестороннего обслуживания и защиты их экономич. и академич. интересов и духовных запросов, также максимальное закрепление связи студентов с профсоюзами и через них с рабочими массами фабрик и заводов.

### II. Построение профсекций.

2. В целях сокращения количества профсекций в ВУЗ'ах и облегчения осуществления связи ВУЗ'а с производством, конференция целиком присоединяется к решению VI Всесоюзн. с'езда профсоюзов о целесообразности перестройки профсекций на производственных началах в тех учебн. завед., где самый характер их заранее предопределяет будущую специальность студентов. Вместе с тем конференция подтверждает, что в тех случаях, когда Рабфаки находятся при ВУЗ'е, в них создаются общие профсекции по каждому союзу.

3. В учебн. заведен., где после реорганизации останется только одна профсекция, функции исполбюро и других общестуд. органов должны перейти к профкомитету.

4. На самостоятельных рабфаках, находящихся не при ВУЗ'ах, для руководства работой профсекций следует создавать самостоятельные Исполбюро, на основе общих положений, что в ВУЗ'ах.

### III. Методы работы студорганизаций.

Практика работы студорганизаций показала, что значительная часть времени тратится ими на выполнение несвойственных данным организациям функций: выдача разного рода удостоверений, заполнение бесчисленного количества анкет, выполнение обязанностей администр.-хозяйствен. порядка и т. д.

Студенческие организации на местах должны всячески добиваться освобождения от подобных мешающих нормальной работе явлений.

В равной мере необходимо взять твердый курс на разгрузку студ. организаций от различного рода представительств, прямо не связанных с деятельностью этих организаций.

6. Конференция считает очередной задачей студ. организаций переход на плановую работу. План деятельности того или другого органа должен быть конкретен и полностью вытекает из нужд и запросов членов профсекций.

Высшие союзные и студенч. органы должны установить тщательный контроль за проведением плана работы в жизнь.

7. Практикующееся в настоящий момент, в большинстве профкомов, Исполбюро и Губбюро, выделение президиумов, на деле приводит к снижению роли пленумов, редкому их созыву и к механическому отстранению в них остальных членов от практической деятельности.

Конференция считает вполне целесообразным упразднение президиумов профкомов, исполбюро и Губбюро, кроме Губбюро Москвы и Ленинграда, перенеся центр тяжести работы на пленумы.

Там же, где Президиумы сохраняются, конференция высказывается против организации отдельно малого Президиума или секретариата.

8. В целях привлечения к практической деятельности организации всех членов профкома, исполбюро и губбюро, необходимо отказаться от практикующейся в настоящий момент постановки работы, по секциям и отделам, а перейти по всей линии к комиссионной работе, путем создания постоянных и временных комиссий, как по отдельным отраслям работы, так и по отдельным вопросам деятельности студорганизаций.

9. Конференция подтверждает к неуклонному руководству всех местных организаций необходимость полнейшего разграничения и соблюдения установленных функций для каждой организации в учебн. завед. в отдельности (стипкомиссии, жилкомиссии и т. д.), не вмешиваясь в их текущую работу и не стремясь к замене их собою. Свое влияние на работу указанных организаций, Губбюро и Исполбюро должны осуществлять через делегируемых туда представителей, периодически заслушивая их доклады на своих заседаниях, общих и делегатских собраниях пролет. студ-ва.

10. В области работы внутри профсекций следует решительно отказаться от решения важнейших вопросов жизни профсекции только в Профкоме или Исполбюро, а переносить их на общие и делегатские собрания и тем самым вовлечь основную массу пролетстуда в активную работу.

Необходимо поставить работу Профсекций так, чтобы общие и делегатские собрания стали органами работающими, активно участвующими во всей жизни ВУЗ'а, а не только заслушивающими информационные доклады.

11. Студорганизации должны ввести в свои планы работ регулярную отчетность о своей деятельности перед общими и делегатскими собраниями профсекций.

Необходимо также обратить внимание на постановку финансовой отчетности организаций перед широкими массами пролетстуда.

12. Учитывая практику исключения членов Профсекций, конференция обращает внимание на необходимость более осторожного отношения к этому вопросу со стороны студорганизаций. Для исключаемых должны быть строго соблюдены все условия, предусмотренные уставом союза и решениями высших союзных органов и с'ездов.

*Постановление об исключении должно быть обязательно проведено через общее собрание профсекции и правление союза.*

## IV. О членстве и отчислениях со студентов.

13. Профсекция, являясь классовой организацией студ-ва в уч. завед., должна охватить собой все пролетарские, трудовые категории студ-ва.

Особенно конференция подчеркивает необходимость широкого вовлечения в профсекции детей рабочих, служащих и крестьянской молодежи, командированных в уч. завед. партией, профсоюзами, РЛКСМ. Последние должны приниматься индивидуально с обязательным утверждением Губотдела союза.

14. Конференция подтверждает ранее установленный членский взнос в профсоюз для студентов в размере 1 проц. с получаемой им стипендии или другого вида содержания.

Вместе с тем конференция обращает внимание местных организаций на необходимость строгого соблюдения установленного ВЦСПС максимума отчислений с членов союзов в союзные и общественные организации.

15. Студенты, работающие в предприятиях или учреждениях, остаются членами союзов по месту своей работы и вносят членские взносы на общих со всеми работниками основаниях, через фабзавместкомы, за исключением студентов, находящихся на выборных должностях в студорганизациях.

Профсекции в ВУЗ'ах устанавливают особый учет для студентов, находящихся на платной работе в предприятии или учреждении.

## V. Структура организаций.

16. В целях рационализации работы и упрощения существующей структуры студенч. организаций, конференция признает необходимым проведение следующих мероприятий:

а) все студенческие организации (Исполбюро, Губбюро и др.) должны избираться на годичный срок, в начале учебного года, за исключением профкомитетов, которые должны избираться на 6 мес. Досрочные перевыборы могут иметь место по требованию 1/2 членов организации, Правления союза или ГСПС и Ревизионной комиссии, с санкции соответствующего союзного органа;

б) профкомитет избирается в составе 3—5 человек и работает на основе общего положения о профсекциях;

в) факульткомы на основных ф-тах упразднить. Академическую работу на фак-те осуществляет секретарь деканата (студент), при участии заинтересованных профкомов, под общим руководством Исполбюро. Секретарь деканата также руководит работой студенч. части предметных комиссий фак-та;

г) фак. к-ты на Р. Ф. при ВУЗ'ах сохраняются на прежних основаниях;

д) Исполбюро ВУЗ избирается в составе 5—9 человек и имеет при себе три постоянные комиссии;

1) экономическую; 2) культ-просветительную и 3) академическую.

Оргработу осуществляет председ. и секретарь Исполбюро;

е) Губбюро избирается в составе 5—11 человек (исключая Москвы и Ленинграда), имея при себе те же комиссии, что Исполбюро ВУЗ. Крупные Губбюро могут еще выделять и оргкомиссии в зависимости от колич об'един. членов и организ.

В губерниях, насчитывающих менее 500 студ.—членов союзов, признать возможным, вместо Губбюро Пролетстуда, иметь в аппарате Губпрофсовета одного инструктора по работе среди студентов.

17. Имеющиеся на местах тенденции дробления экономической и культпросветительной работы и перенесения их на фак-ты, следует категорически отвергнуть и подтвердить, что экономич. и клубная работа в учебн. завед. должна концентрироваться в Исполбюро.

## VI. Центральное Бюро при ВЦСПС.

18. В целях большей увязки работы ЦБ с местами, конференция признаёт необходимым расширить состав его до 25 членов и 9 кандидатов.

Для руководства повседневной работой Пленум ЦБ выделяет Президиум в составе 7-ми человек и 2—3 кандидатов.

19. ЦБ избирается на Всесоюзных конференциях Пролетстуда сроком на 1 год и работает под непосредственным руководством Президиума ВЦСПС.

Пленумы ЦБ собираются 2 раза в год.

## VII. Работа в национ. респуб. и районирование.

20. Исходя из факта оформления Союза Совет. республик и существования в национ. респуб. самостоятельных Наркомпросов и профобров, конференция считает необходимым установить:

1. На Украине, Белоруссии и Закавказских Республиках при республиканских Советах профсоюзов, на соответств. конферен. пролетстуда, создаются республиканские ЦБ, действующие на основе положений, утверждаемых ВЦСПС.

2) Конференция поручает ЦБ, по мере советского и профессионального районирования проводить и районирование организаций пролетстуда на основе создания при областных профсоветах соответствующих областных студ. органов, работающих на основе положений, утверждаемых ВЦСПС.

В первую очередь, конференция предлагает окончательно оформить Обл. студенческие центры на Урале, в Казани, Ташкенте, Ростове н|Д.

3) Национальные ЦБ, также Областные Бюро Пролестуда избираются на тот же срок и по своей внутренней структуре строятся так же, как ЦБ при ВЦСПС.

21. Указанный выше порядок организации студенческих органов в нац. республиках и областях ни в какой мере не должен вести к ослаблению общего руководства работой студорганизаций со стороны ЦБ при ВЦСПС и установленных принципов организации пролет. студенчества.

## VIII. Техникумы.

22. Конференция, учитывая возрастающую роль техникумов в общей системе народного образования и все улучшающийся социальный состав учащихся в них, целиком присоединяется к решению VI с'езда профсоюзов о необходимости организации Профсекций в техникумах.

23. В техникумах, ввиду малочисленности членов союзов в них, признать вполне целесообразным организацию профсекций при наличии 10-ти членов союзов, на основе производств. характера. техникума, т. е. по будущей специальности учащихся.

24. Сохранить в техникумах, в которых члены союзов составляют меньшинство Исполбюро учащихся, избираемое общим собранием учащихся и работающие на основе положений, утверждаемых ВЦСПС.

В техникумах, в которых члены союзов составляют большинство, функции Исполбюро учищихся должны перейти в студенч. профорганизации (профкома и т. д.).

## IX. Комвузы и Совпартшколы.

25. Конференция обращает внимание на необходимость широкого вовлечения студ-ва комвузов в профсекции, каковые организуются в них на общих основаниях.

Ввиду некоторых специфических особенностей комвузов, считать нецелесообразным создание в них отдельных исполбюро профсекций, возложив функции их на существующие в комвузах исполбюро коллектива или коммуны.

26. Учитывая тягу в профсекции слушателей Губсовпартшколы и вполне отвечающий принципам строительства профсекций социальный состав их, поручить ЦБ разработать вопрос об организации в Совпартшколах.

## X. Добровольные общественные организации в ВУЗ'ах.

27. В целях устранения параллелизма в работе разных добровольных организ. в учебн. завед. (ОДВФ, Доброхим и др.) необходимо, чтобы все эти обществ. ячейки строились в масштабе всего учебн. заведения и работали при клубах, под наблюдением Исполбюро, а там, где клубов нет, непосредственно при Исполбюро.

28. Фактическое положение вещей на местах таково, что в большинстве своем студенты механически числятся членами всех существующих обществ. ячеек в учебн. зав., ограничивая свое членство только установлен. ежемесячными взносами, падающими помимо всего тяжелым бременем на бюджет студенчества.

Признавая чревычайно важным оживление и поднятие активности обществ. организаций с одной стороны и разгрузку бюджета студента с другой, конференция считает, что каждый студент—член союза должен принимать участие не более чем в одной (максимум в двух) добровольной организации, исключительно на началах добровольного и индивидуального членства.

## XI. Работа пролетстуда вне ВУЗ'а.

29. Конференция считает необходимым углубить в дальнейшем работу пролетстуда вне учебных заведений на фабриках и заводах и придать ей более планомерный характер.

30. Наиболее целесообразной организационной формой работы студентов на предприятиях следует признать прикрепление студентов через Губотделы и райкомы профсоюзов к отдельным предприятиям, исходя из будущей специальности студента, на предмет их участия в организ.-культ. работе предприятия, произв. кружках и совещаниях, собраниях рабочих и т. д. Конференция поручает ЦБ разработать и уточнить методы и формы работы студ. на предприятиях.

## XII Студорганизации и органы НКП в ВУЗ'ах.

31. Практика работы студенч. организ. на местах показала, что подчас они присваивают себе несвойственные им функции, особенно в области административно-хоз. работы учебн. зав. и тем самым нагружая себя ненужными делами. Конференция решительно предлагает от этого отказаться и всю работу по административно-хоз. линии возложить на органы НКП в учебн. завед., оставляя за студенч. организ. общее участие и содействие им в работе, ограждение интересов студенч., посылая своих представителей в соответствующие органы учебн. завед., обслуживающ. нужды ст.-ва (Правление ВУЗ'а стипком, жилком и т. д.).

## XIII. Информация и связь с местами.

32. Информация и отчетность, являясь одним из методотов связи с местами, способом работы и опыта мест, должны быть поставлены на должную высоту.

Необходимо строгое наблюдение за тем, чтобы все студорганизации, в сроки установленные союзными органами, раз в три месяца представляли по установленной форме свои отчеты в вышестоящие органы.

33. Конференция поручает ЦБ пересмотреть существующие формы отчетности с целью упрощения и устранения многообразия форм.

34. Учитывая неналаженность учета членов профсекций, необходимо это явление устранить, а также ввести большую систематичность в деле учета работников студорганизаций (профкомов, исполбюро, Губбюро и т. д.).

35. Признавая полезность издания ЦБ периодических информационных писем, освещающих как деятельность самого ЦБ, так и очередные задачи работы студорганизаций, конференция предлагает работу эту в дальнейшем продолжать, установив, что такие информац. письма должны издаваться не реже одного раза в 3 месяца.

## XIV. Работа среди несоюзного студенчества.

36. Учитывая возросшую и продолжающую расти общественную активность несоюзного студ.-ва и его стремление в той или иной форме принять участие в общественной работе, конференция обращает внимание союзных студ. организац. на необходимость чуткого и вдумчивого отношения к этой части студенчества и умелого использования их активности.

37. Наилучшей формой вовлечения несоюзного студ-ва в общественную работу следует признать широкое его вовлечение в эту работу студ. клуба, кружки, добровольные обществ. организации (МОПР, Доброхим и т. п.), кассу взаимопомощи, землячества и т. д.

Поручить ЦБ разработать и уточнить формы и методы работы среди несоюзного студ-ва.

## XV. Землячества.

38. В целях большей увязки работы землячеств с общей работой профсекций, конференция подтверждает необходимость усиления со стороны Исполбюро и Губбюро руководства работой последних.

39. Вместе с тем конференция высказывается против организации при Губбюро отдельных бюро или секций землячеств, а считает, что эта работа является частью общей работы Губбюро.

## XVI. Кассы взаимопомощи.

40. Конференция признает допустимым организацию в учебн. заведениях студенч. касс взаимопомощи.

Порядок и формы их организации устанавливаются каждый раз в отдельности местными Губбюро пролетстуда при ГСПС, на основе нормального устава кассы взаимопомощи ВЦСПС.

## XVII. Общественная нагрузка студентов.

41. Отмечая чрезмерную нагрузку пролет. студенч. общественной работой и отрыв его на этой почве от академич. работы, конференция обращает внимание всех студ. профорганов на необходимость обществ.

работу студентов построить так, чтобы она не мешала выполнению основной задачи студента, посланного в ВУЗ, т. е. достижения полной академической успеваемости и своевременного окончания ВУЗ'а.

42. Установить, как правило, не более одной общественной обязанности для каждого студента—члена союза. Причем общественной обязанностью считать:

а) выборную работу по ВУЗ'у и вне его;

б) руководящую работу в профессион., партийных и других организациях ВУЗ'а и кружках;

в) представительство по заданиям профессион. и парт. органов;

г) работа вне стен учебн. завед. по зданиям профес. и парт. органов.

Общественная нагрузка студента не должна превышать 6-ти часов в неделю, считая в том числе подготовку к ней.

## XVIII. Ревизионные комиссии.

43. Конференция обращает внимание на необходимость оживления деятельности ревизион. комиссий, чтобы работа их носила регулярный и систематический характер.

Доклады ревизион. комиссий должны регулярно заслушиваться на общих и делегатских собраниях профсекций.

---

Утверждено ВЦСПС 27/IV-25 г.

# ПОСТАНОВЛЕНИЕ

## I-й Всероссийской Конференции Пролетарского Студенчества.

## (По экономической работе).

Материальное обеспечение пролетарского студенчества за счет Советского Государства является существеннейшим и главнейшим условием успешной пролетаризации высших учебных заведений, рабочих факультетов и техникумов и необходимой предпосылкой для академической работы студентов их. Особо тщательно проведенный прием новых студентов в прошлом году и намечающаяся строгая классовая фильтровка при следующих приемах требуют упорядочения, систематизации и увеличения размера материальной помощи студентам. Начатая проведением и успешно прививающаяся система семинарских и лабораторных занятий со студентами, а также изменение учебных планов в сторону фактической связи учебы ВУЗ'а с производством настолько заполняют весь рабочий день студента, что у последнего совершенно не остается времени для работы где либо с целью добывания средств к существованию и поэтому вопрос об обеспечении пролетарского студенчества становится наиболее актуальным.

### I. Стипендия.

1. Основной формой обеспечения студенчества за счет государства является госстипендия и потому стипендиальное дело должно к будущему году быть окончательно урегулировано (прекращение незаконных отчислений со стипендии, недопустимость дробления стипендии, зачисление на стипендию не менее чем на год, своевременная выдача и т. д.).

2. Количество стипендий в текущем учебном году едва удовлетворяет самую острую нужду студентов пролетариев. К будущему учебному году, главным образом, ввиду предстоящего нового приема студентов, количество стипендий должно быть увеличено (тем более, что число студентов стипендиатов, оканчивающих в этом году ВУЗ'ы, крайне невелико и значительно меньше предполагаемого приема пролетариев).

3. Размер госстипендий, хотя и повышенный в сравнении с прошлым годом, все еще значительно отстает от общего прожиточного минимума и, таким образом, стипендия, только частично удовлетворяя нужды студента, не дает возможности ему целиком посвятить себя учебе, а потому размер должен к будущему учебному году быть увеличен до 30 рублей в пром. центрах или 25 руб. в остальных.

Конференция поручает ЦБ и ЦСК принять необходимые меры к проведению означенных постановлений в жизнь.

4. Считая целесообразным предпринятые меры по унификации стипендий для студентов как из сумм по смете Наркомпроса, так и их доходов и отчислений от промышленности, транспорта, торговли, кооперации и т. д., конференция, однако, отмечает крайнюю медленность в прохождении законов, касающихся отчислений для стипендий от отдельных отраслей хозяйства. Конференция считает необходимым взять твердый курс на создание единого стипендиального фонда и поручает ЦБ добиться категорического запрещения хозорганам самостоятельно и непосредственно учреждать и выплачивать стипендии. К будущему учебному году означенные законы должны быть окончательно проведены, ибо только при заранее (за летние месяцы) учтенных рессурсах можно будет правильно наладить снабжение студентов стипендиями. Конференция считает необходимым концентрацию отчислений на стипендию в Центральных Стипендиальных Комиссиях отдельных Республик, оставив за Хозорганами возможность наблюдения за расходованием стипендиальных кредитов. Конференция поручает ЦБ и соответствующим республиканским ЦСК провести эти постановления.

5. Отдельное снабжение стипендиями студентов ВУЗ'ов и студентов Рабфаков создавало такое положение, при котором на Рабфаках были излишние госстипендии, а хозстипендии (увеличенного размера) для рабфаковцев совсем не учреждались. В настоящее время, с переходом в распоряжение ЦСК фондов от промышленности на степендию, Конференция считает безусловно необходимым проводить снабжение стипендиями студентов как ВУЗ'ов, так и Рабфаков и Техникумов через ЦСК Наркомпроса отдельных Республик, тем самым улучшая частично положение рабфаковцев.

6. Полное отсутствие стипендий, или крайне незначительные средства для стипендий, отпускавшиеся местами для студентов Техникумов, ставили пролетарское студенчество этих последних в необычайно тяжелое положение. Конференция признает необходимым установить определенное количество стипендий достаточного размера для студентов Техникумов с будущего учебного года и поручает ЦБ добиться ассигнования потребных для этого средств.

## II. Общежития.

7. В настоящий момент жилищный вопрос для студентов остается еще неразрешенным. Необходимо расширить жил. площадь студенческих общежитий, доведя студенческую жилнорму до обще-гражданской. Кроме того, необходимо в текущем строительном сезоне усилить ремонт общежитий и снабдить их предметами оборудования (мебель, достаточное освещение, кипятильники и т. д.).

8. До сих пор на студенческое хозяйство и, в частности, общежития, администрация учебного заведения не обращала должного внимания. Конференция считает настоятельно необходимым включения студен. общежитий в круг общевузовского хозяйства и возложения, тем самым, на административные органы учебных заведений забот об общежитиях наравне с учебными заведениями.

9. Отмечая довольно высокую плату, взимаемую со студентов за пользование общежитиями, тяжело ложащуюся на бюджет студента, Конференция признает необходимым принять меры к удешевлению для студентов возможности пользоваться общежитиями, путем сокращения расходов и переложения части расходов на общевузовские средства.

## III Экономическая работа студен. организаций.

10. Студенческой организацией, ведущей экономическую работу в учебном заведении, является Экономкомиссия Исполбюро; Экономическая Комиссия ведет всю работу под руководством Исполбюро Профсекции и в тесном контакте с хозяйственно-административными органами учебного заведения.

11. Эконом. Комиссия Исполбюро принимает участие в работах Стипендиальной и жилищной Комиссии учебного заведения и в организации и наблюдении за работой отдельных предприятий по обслуживанию студентов, как-то: буфетов, ларьков для продажи учебников и т. д.

12. Существующие при целом ряде учебных заведений КУБС'ы (Комиссии по улучшению быта пролетарского студенчества), в виду неправильной линии, взятой в своей работе и в виду нецелесообразности существования таковых организаций при студенческих профорганах, необходимо безусловно ликвидировать. Исполбюро Профсекций через свой Эконом. Отдел должно оказывать всяческое содействие Правлению учебного заведения в создании Производственного Бюро и принять непосредственное участие в работе его.

13. Общие директивы экономработы даются Экономкомиссиями Губбюро Пролетстуда на основе указаний и положений ЦБ и на основе учета работы и опыта Экономотдела Исполбюро учебных заведений.

## IV. Кубуч.

14. Даже усилившееся за последнее время государственное снабжение студентов не дает, однако, возможности в достаточной мере удовлетворить все нужды студенчества. На ряду с дальнейшим улучшением и увеличением государственного обеспечения, Конференция считает необходимым существование организаций, обеспечивающих студенчество и из других источников.

15. Наиболее жизненной и удавшейся формой такой организации является „Комиссия по улучшению быта учащихся (КУБУЧ) при Губисполкомах и Центральных Комиссиях при Совнаркомах отдельных Союзных Республик. Конференция признает необходимым реорганизацию в „КУБУЧ" различных ныне существующих организаций (ВОППС и т. д.) и учредить „КУБУЧ" в тех местах, где таковых еще нет. „КУБУЧ" ведет всю работу в тесном контакте с Губбюро Пролетстуда (или национальными ЦБ). Задачей „КУБУЧ" должна быть организация предприятий, обслуживающих на льготных условиях пролетарское студенчество (книжные магазины, издательство учебников и т. д.), а также доходных предприятий с обращением прибыли в пользу студентов. Центральному Бюро поручается выработать типовое положение о „КУБУЧ'ах".

